# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 1 ( 37 )** **СТУДЗЕНЬ - САКАВІК** **2007 г.**



**Напалеон ОРДА (11.2.1807-26.4.1883), беларускі мастак, кампазітар, піяніст**

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 1 ( 37 )** **СТУДЗЕНЬ - САКАВІК** **2007 г.**


## *У НУМАРЫ:*



*На першай старонцы вокладкі здымак Ігара Пешахонава.*





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**


**ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ № 1342**

**ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ**
**Валеры Сліўкін,**
**старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук**

**РЭДАКТАР**
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 350 асобнікаў**
**12 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 9**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 03. 2007 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 1740 руб.**
**індывід. 6 мес.- 3480 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# Помнік на магіле вялікага лідзяніна

16 снежня 2006 года адбылося ўрачыстае адкрыццё надмагільнага помніка славутаму сыну беларускага народу – Вацлаву Іваноўскаму. Некалькі дзясяткаў чалавек сабраліся каля касцёла Узвышэння Святога Крыжа каля 11 гадзін, каб разам ушанаваць памяць аднаго з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху, што прыняў пакутніцкую смерць у імя сваёй Бацькаўшчыны.

Цягам урачыстага адкрыцьця сам помнік быў асвечаны святаром з Кальварыйскага касцёла, а людзі, што прыйшлі ў суботу на Кальварыю, ушанавалі памяць Вацлава Іваноўскага ўрачыстай прамовай, сумеснай малітваю ды гімнам “Магутны Божа”.

Вацлаў Іваноўскі нарадзіўся ў 1880 годзе на Лідчыне. Выпускнік Пецярбурскага тэхналагічнага інстытута. У 1909 годзе ў Мюнхене абараніў доктарскую дысертацыю і да 1913 года быў дацэнтам Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Вацлаў Іваноўскі стварыў першы падручнік неарганічнай хіміі для ВНУ на беларускай мове, шмат зрабіў у распрацоўцы нацыянальнай навуковай тэрміналогіі. У 1918 годзе - міністр асветы Беларускай Народнай Рэспублікі, рэктар Менскага педагагічнага інстытута. У 1921 годзе сышоў з палітычнай арэны, займаўся амаль выключна навукай



***Вацлаў Іваноўскі***



***Адкрыццё помніка Вацлаву Іваноўскаму 16 снежня 2006 года***




***Помнік на магіле Вацлава Іваноўскага***



***Адзінокая бабулька моліцца за Вацлава Іваноўскага***

(быў прафесарам Варшаўскага палітэхнічнага інстытута, а ў 1939 годзе - Віленскага ўніверсітэта).

Але побач з усім гэтым Вацлаў Іваноўскі быў адным з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага руху, і ў самыя цяжкія часы ён не пакідаў беларускую справу.

Менавіта Вацлаў Іваноўскі ў снежні 1902 года разам з Алаізай Пашкевіч (Цёткай) выдаў у Лябёдцы Лідскага павету першую беларускую газету “Свабода”. Менавіта Вацлаў Іваноўскі ўзначаліў зарганізаваную ў 1906 годзе ў Пецярбургу выдавецкую суполку “Загляне сонца і ў наша аконца”, што не толькі выдала лацініцай ды кірыліцай каля паўмільёна асобнікаў беларускіх кніг, але і сталася прыбытковым камерцыйным прадпрыемствам. В. Іваноўскі быў ініцыятарам увядзення ў беларускую лацінку літараў чэшскага алфавіту, якія б спрыялі яе адрозненню ад польскай, актыўна супрацоўнічаў з газетай “Наша доля”, быў адным з заснавальнікаў газеты “Наша Ніва” (пісаў пад псеўданімам Вацюк Тройка), стаў старшынём Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў верасні 1915 года, займаў пасаду міністра асветы Ўраду БНР.

Вымушаны пэўны час жыць у Польшчы ды Літве, зноў вярнуўся на Беларусь толькі ў канцы 1941 года. Вонкава супрацоўнічаючы з фашысцкімі акупацыйнымі ўладамі, займаючы пасаду бурмістра Менска, Вацлаў Іваноўскі не пакідае захадаў на карысць незалежнай беларускай дзяржавы, стварае падпольную нацыянальна-дэмакратычную сетку, скіраваную на супрацоўніцтва з заходнімі хаўруснікамі СССР ды Арміяй Краёвай, дбае пра ратаванне суайчыннікаў (у тым ліку і габрэяў) ад вынішчэння падчас фашысцкіх рэпрэсій і адкрыццё беларускіх школ. 6 (паводле некаторых крыніцаў – 7) снежня 1943 года Вацлаў Іваноўскі вяртаўся дамоў на брычцы, але быў смяротна паранены невядомымі тэрарыстамі і праз некалькі гадзінаў памёр у шпіталі. Пэўны час лічылася, што забойства ўчынілі прасавецкія партызаны, але сёння ёсць падставы для меркаванняў, што злачынства гэтае не абышлося без рэйхскамісара Беларусі Готберга.

Падчас пахавання Іваноўскага на вуліцы Менска выйшла шмат людзей, што найбольш красамоўна сведчыць пра людскую павагу. Пахавалі Вацлава Іваноўскага на менскіх Кальварыйскіх могілках злева ад уваходу ў касцёл.

Пасля 3 ліпеня 1944 года, з магілы Вацлава Іваноўскага неўзабаве знікла мемарыяльная шыльдачка, а пазней – і сам крыж, што быў адноўлены толькі ў 1990 годзе.

І вось, дбаннямі спадарыні Ліцвінавай, на месцы пахавання палымянага патрыёта быў усталяваны невялікі надмагільны помнік з чырвонага граніту, як сведчанне таго, што ягоны клопат на беларускай ніве не быў марным.

Яшчэ адзін лідзянін гранітным каменем будзе ў вяках сцвярджаць велічнасць Лідскага краю і яго заслугі перад Беларуссю і Беларушчынай.

# КРОНІКА ЛІДЫ



**14 студзеня 2007 года** адбыліся выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў.

У выніку выбараў стршынём Лідскага райсавета зноў стаў **Уладзімір Цімчанка**;
старшынём Бярозаўскага гарсавета стаў **В.А. Яводзік**;
старшынямі сельсаветаў сталі:
Беліцкага - **М.С. Наваградскі**;
Бердаўскага - **А.П. Пазняк**;
Ваверскага - **А.С. Ёдка**;
Голдаўскага - **Л.І. Рудзевіч**;
Ганчарскага - **Н.І. Урбановіч**;
Дварышчанскага - **І.Ф. Ганевіч**;
Дакудаўскага - **А.Ю. Дземяновіч;**
Дубровенскага - **А.Я. Цыдзік**;
Крупаўскага - **А.А. Бярнацкі**;
Мажэйкаўскага - **А.І. Ракса**;
Пескаўскага - **В.Т. Карась**;
Тарноўскага - **У.К. Пракопік**;
Трацякоўскага - **А.А. Валюк**.

18 студзеня 2007 года ўведзена ў эксплуатацыю газазаправачная станцыя па вуліцы Энгельса






У студзені 2007 года ў выдавецтве “Кнігазбор” выйшла ў свет сёмая кніга лідскага паэта **Алеся Стадуба** “Водгук ісціны”.

У лютым 2007 г.
В. Сліўкін выдаў кнігу для дзяцей “Краткая история города Лиды, рассказаная и нарисованная”.
Мастак У. Мурахвер.






7 сакавіка 2007 года “Ордэнам маці” узнагароджаны:
Краўцова Ірына Пятроўна,
Шылабрыт Галіна Уладзіміраўна.

26 сакавіка 2007 года ў Мажэйкаве запушчана першая ў Лідскім раёне міні-электрастанцыя.



Крыштаф Кофлер - інжынер-наладчык аўстрыйскай фірмы “GE Jenbacher” у машыннай зале міні-электрастанцыі

# Кроніка айкумены

*Лідскі гістарычны каляндар*

## студзень - сакавік

**1387 год, 17 лютага.** Кароль польскі і Вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Ягайла падарыў Дуброўню з прылеглымі вёскамі Віленскаму біскупству.

**1507 год, сакавік.** Уладальнік Дакудава Пётр Аляхновіч уваходзіў у склад пасольства караля і Вялікага князя Жыгімонта ў Маскву.

**1807 год, 17 сакавіка.** У Радзівонішках памёр Казімір Даніэль Нарбут. Пахаваны ў Радзівонішскай уніяцкай царкве.



*Казімір Даніэль Нарбут*

**1827 год, студзень.** Ксёндз Воранаўскай плябаніі Вінцэнт Скібінскі данёс начальству аб "дзёрзкіх водгуках супроць хрысціянскай веры і найвысокага пасаду" жывапісца Яна Траяноўскага. Траяноўскага арыштавалі. Следства правялі ў Лідзе. Абвінавачаны ў блюзнерстве, у адмове ад споведзі, у выказваннях супраць пасаду. Пакаранне адбываў у Вільні ў дамініканскім кляштары.

**1897 год, 12 студзеня.** Прынята рашэнне Лідскага Павятовага камітэта апякунства і народнай цвярозасці адчыніць пры гарбатні (чайной) гарадскую бібліятэку- чытальню.

**1897 год, 28 студзеня.** У Расійскай імперыі праведзеная першы ўсеагульны перапіс насельніцтва. Па дадзеных перапісу ў Лідзе жылі 9323 жыхары (5312 мужчын і 4011 жанчын), у тым ліку 5294 іудзеі, 2150 каталікаў, 1694 праваслаўных, 47 магаметан, 39 пратэстантаў, 81 старавер і 5 чалавек іншых веравызнанняў. Пісьменнасць насельніцтва складала 50,8%, толькі ў Вільні была вышэйшая - 50,9%. У Лідскім павеце 62,5 % насельніцтва каталікі.

**1917 год, 25-27 сакавіка.** У Менску адбыўся з'езд прадстаўнікоў беларускіх грамадскіх арганізацый. З'езд абраў Беларускі нацыянальны камітэт з 16 чалавек, сярод іх К. Кастравіцкі.

**1927 год, 15 студзеня.** Па ўсёй Польшчы праведзены арышты чальцоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

**1927 год, 27 сакавіка.** Польскі ўрад забараніў дзейнасць Грамады.

**1937 год, 1 студзеня.** Пачаўся закрыты судовы працэс над арганізатарамі штрайку на фабрыцы "Ардаль". Усё абвінавачваныя атрымалі ад 4 да 8 гадоў.



*Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец)*

**1937 год, люты.** Распушчаны прафсаюзы будаўнікоў, швейнікаў, шэраг прафсаюзных дзеячоў адпраўлены ў Картуз- Бярозу.

**1947 год, да 1 сакавіка.** Разгромлена 767 фармаванняў Арміі Краёвай, арыштавана 13329 чалавек.

**1977 год, 1 студзеня.** У Лідзе жылі 55,9 тысяч чалавек. У Лідскім раёне 293 населеныя пункты, 15 сельсаветаў: Беліцкі, Бердаўскі, Ваверскі, Гасцілаўскі, Ганчарскі, Голдаўскі, Дакудаўскі, Дварышчанскі, Дзітвянскі, Дубровенскі, Крупаўскі, Пескаўскі, Тарноўскі, Траццякоўскі, Ходараўскі.

**1982 год, люты.** Заснаваны Феліксаўскі ансамбль бытавых інструментаў "Каханачка" Дома нацыянальнай культуры Лідскага раён. З 1995 - народны. Кіраўнік Аліна Грынкевіч. (У даведніках і энцыклапедыях падаецца дата заснавання - 1980 г.) Інструментар складаюць акардэон, бубен, барабан, граблі, каса, лыжкі, кавадла (накавальня), піла, валак, трашчоткі і інш. бытавыя рэчы. У рэпертуары традыцыйныя мясцовыя песні каляндарна-абрадавага цыклу (калядныя, валачобныя і інш.), танцы ("Аляксандра", "Каханачка", "Падыспань" і інш.), інструментальныя найгрышы ("Амбэрак", "Ва саду лі", "Лысы", "Каробачка", вальс "Польскі" і інш.) Адноўлены мясцовыя абрады Вялікдзень, Вяселле, Дажынкі, Зажынкі, Купалле. Калектыў - дыпламант Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур (Гародня, 1996), Рэспубліканскага тэлефестывалю "Залатыя ключы" (Клецк, 1997), лаўрэат Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці (Масква, 1988), удзельнік Рэспубліканскага фестывалю народнага мастацтва "Беларусь - мая песня" (1997-98). Выступаў на Беларускім тэлебачанні, прадстаўляў абрад "Дажынкі" ў праграме "Спявай душа", гастраляваў у Польшчы ў 2002 годзе.




***"Каханачка"***

**1997 год, 1 студзеня.** У Лідскім раёне 276 населеных пунктаў, у тым ліку г. Бярозаўка і г. п. Першамайскі, 274 вёскі, 15 сельсаветаў, 14 калгасаў, 4 саўгасы, птушкафабрыка, 43 фермерскія гаспадаркі, ільнозавод і завод мяса-касцяной мукі, торфабрыкетны завод, лясгас, 8 будаўнічых арганізацый, 8 пачатковых, 12 базавых, 22 сярэднія, 3 музычныя з 7 філіяламі школы, дзіцяча-юнацкі цэнтр, ДЮСШ,10 прышкольных інтэрнатаў, 28 дашкольных устаноў, 33 ДК, 48 бібліятэк, 5 лякарань, паліклініка, 28 ФАП, 3 амбулаторыі, 16 апатэк.

**1997 год, 14 лютага.** Заснаваны Народны тэатр песні "Ліда-мюзікл" Лідскага гарадскога дома культуры. Стваральнік і кіраўнік - кампазітар Вячаслаў Пыпець. У 1997 г. тэатр прымаў удзел у здымках тэлефільма пра Ліду "Сустрэча на восеньскай мяжы".

Аснову рэпертуару калектыву складаюць творы яго ўдзельнікаў, тэатр песні супрацоўнічае з мясцовымі паэтамі і кампазітарамі.

У 1998 г. калектыў паспяхова выступіў на фестывалі "Беларусь - мая песня". На працягу трох гадоў быў удзельнікам фестывалю "Славянскі базар" у Віцебску, неаднаразова выступаў у абласным фестывалі эстраднай творчсці "Фантазіі вясны".



***"Ліда-мюзікл"***

# Лідскія юбіляры 2007 года

**Далеўскі Аляксандр** (24.1.1827 - 26.4.1862). Бацька валодаў фальваркам Кункулка ў Лідскім павеце. Аляксандр і Франц Далеўскія, М. Клячкоўскі і А. Янкоўскі арганізавалі ў 1846 г. “Саюз вольных братоў”. У Лідзе было створана аддзяленне гэтага саюза.

**Сяржант Рафаіл Іванавіч** (16(28).01.1897- 4.04.1974) Нарадзіўся ў м. Гавязна Слуцкага павету (цяпер в. Вішнявец Стаўбцоўскага р-на) у шматдзетнай сям’і з 9 братоў і 1 сястры.



***Р.І. Сяржант***

У 1916 г. быў датэрмінова прызваны ў армію і апынуўся ў асяроддзі рэвалюцыйна настроеных салдат. Тут ён пранікаецца марксісцкімі ідэямі, свядома вырашае змагацца за інтарэсы людзей працы. Падчас устанаўлення савецкай улады ў 1918 г. быў дружыннікам народнай міліцыі ў Віцебску, а калі тэрыторыя была вызвалена ад нямецкай акупацыі, вярнуўся ў родныя мясціны, працаваў пісарам, старшынём Сверžанськага валвыканкаму. У 1920 г. у час наступлення польскіх войск пераходзіць на нелегальнае становішча, арганізоўвае падпольны рух у Нясвіжска-Прынёманскім краі. З 1920 г член КСМЗБ, з 1925 - член КПЗБ. У Гавязне арганізаваў камуністычную ячэйку, 30.10.1925 г. быў арыштаваны. 16 лістапада 1925 г. палявы суд у Нясвіжы прыгаварыў Р.І.Сяржанта да расстрэлу. Пад напорам грамадскасці прэзідэнт Рэчы Паспалітай замяніў гэтую меру пакарання на 15-гадовае турэмнае зняволенне. Больш за 10 гадоў правёў Р.І. Сяржант у адзіночных камерах і каля 4 гадоў у падвалах Навагрудскай турмы, на «Лукішках» у Вільні, у катаржных Равіцкай, Вронкаўскай і Грудзенцкай турмах. І тут ён заставаўся актыўным барацьбітом за правы палітзняволеных. Выйшаў на волю 1 верасня 1939 г., адсядзеўшы 14 гадоў.

Узімку 1939 г. у Нясвіжы арганізаваў талаку “Новае Жыццё”, прывёў у парадак маёнтак Малева. У 1939—40 гг. — дырэктар прадзільна-ткацкай фабрыкі ў Нясвіжы. Выбіраўся дэлегатам Народнага Сходу ў Беластоку. 24 сакавіка 1940 г. абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР па Лідскай выбарчай акрузе № 607. З траўня 1940 г. па 1941 г. быў намеснікам старшыні Баранавіцкага аблвыканкаму. Вайну пачаў у ліпені 1941 г. палітруком 60 сп 44 сд. Прайшоў шлях ад Курска да Берліна. У верасні 1945 г. дэмабілізаваны ў званні маёра. У пасляваенны час у 1945-47 гг. намеснік старшыні Баранавіцкага аблвыканкаму па дзяржаўным забеспячэнні, у 1947- 50 гг. старшыня Нясвіжскага райвыканкаму, у 1950-54 гг. намеснік начальніка Баранавіцкага аблупраўлення па справах сельскага і калгаснага будаўніцтва, у 1954-61 гг. адказны сакратар Баранавіцкага выканкаму Савета дэпутатаў працоўных.

Апошнія гады жыцця быў навуковым супрацоўнікам Баранавіцкага краязнаўчага музея. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступеняў, Знак Пашаны, медалямі. Аўтар успамінаў ( у кн. « У суровыя гады падполля». Мн., 1958).

**Стралкоўскі Андрэй Емяльянавіч** (18.02.1917- 26.08.1953). Нарадзіўся ў в. Стралковы Барысаўскага павета Менскай губерні ў сям’і селяніна- бедняка. У 1936 г. скончыў вячэрні рабфак. Працаваў на электрастанцыі (1934-35), піянерважатым Бродаўскай няпоўнай сярэдняй школы, загклуба (1936-37), служыў у Чырвонай Арміі (1938-40). Член КПСС з 1939 г. У органах дзяржбяспекі з 1940 г. Падчас вайны выконваў заданні ў тыле ворага. У Лідскім гараддзеле КДБ служыў з 1950 г. Капітан дзяржбяспекі. Узнагароджаны медалямі: “За адвагу”, “За баявыя заслугі”, “За абарону Каўказа”, “Партызану Айчыннай вайны 1 ступені”, “За перамогу над Германіяй”. Вуліца Гарыстая названая яго імем (1971). За 11 дзён да смерці ў яго нарадзіўся сын Уладзімір.



**Стралкоўскі А.Е.**

У жніўні 1953 г. амерыканскай выведкай у Налібоцкую пушчу былі скінутыя на парашутах тры дыверсанты беларускага паходжання. Усе дарогі з пушчы былі перакрытыя. Капітан Стралкоўскі і трое салдатаў сядзелі на ўзбочыне дарогі паміж Бердаўкай і Кір’янаўцамі. Раніцай з боку Ліды з’явіўся невядомы, ён ішоў спакойна па дарозе, босым, з перакінутымі цераз плячо ботамі, у накінутай на плечы фуфайцы (пінжаку). Гэта быў тэрарыст адзіночка І.А. Грынцэвіч з Ёдкаў. Ён у 17 гадоў быў арыштаваны, збег з лагера і хаваўся. На яго ліку былі забойствы ўпаўнаважанага Мін. нарыхтовак Майсея Цітавіча Дзягілева (жнівень 1950), участковага міліцыянера малодшага лейтэнанта

Аляксея Кірсанцевіча Кірылава (8 жніўня 1951), старшыні калгаса Пятра Аляксандравіча Шота (жнівень 1953). Стралкоўскі падклікаў яго да сабе і папрасіў паказаць дакументы. Грынцэвіч спакойна падышоў, выхапіў пісталет, стрэліў ва ўпор у Стралкоўскага, а затым расстраляў па чарзе трох салдат. З аднаго з іх сарваў аўтамат і па бульбяным полі ўцёк у лес. Стралкоўскі і адзін салдат былі забітыя на месцы, другі салдат памёр у Бердаўскай лякарні, у трэцяга Трыфанава быў перабіты пазваночнік.

"На трох аўтамабілях па Лідзе правезлі тры дамавіны, накрытыя чорна-чырвонымі палотнамі, аркестр граў пахавальныя мелодыі. Было жудасна."



**Папова Н.І.**

**Папова Надзея Іванаўна.** Нарадзілася 9.01.1927 г. у сяле Блешня Сямёнаўскага р-на, Чарнігаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Украінка. У 1949 г. скончыла Чаркаскі педінстытут і была накіраваная працаваць на ст. Ясінаватая Данецкай чыг. У 1950 г. выйшла замуж і пераехала па месцы службы мужа ў г. Слонім, дзе працавала настаўніцай у СШ № 2. З 1952 г. працавала ў СШ № 10 г. Ліды настаўніцай геаграфіі, біялогіі, хіміі і завучам, з 4 лістапада 1962 г. па 30 снежня 1964 г. - дырэктарам СШ № 11. У КПСС уступіла ў 1954 г. У СШ № 10 абіралася на працягу 7 гадоў сакратаром першаснай партарганізацыі школы. З 30.12.1964 г. па 1.02.1978 г. працавала трэцім сакратаром, а з 1.02.1978 г. па 06.1985 г. першым сакратаром Лідскага ГК КПБ. З ліпеня 1985 г па 1.04.1996 г. -загадчыца аддзела ЗАГС. З 1.04.1996 г. на пенсіі. Дэпутат гарадскога і абласнога саветаў дэпутатаў, член абкаму КПБ, член ЦК КПБ. Двойчы ўзнагароджана ордэнам "Знак пашаны" (1971 і 1974), двойчы Ганаровай граматай ВС БССР (1977 і 1980).



**Карасёва З.М.**

**Карасёва Зінаіда Міхайлаўна.** Нарадзілася 23 студзеня 1927 г. у в. Плоскае Руднянскага раёна, Смаленскай вобласці. Скончыла Віцебскі педінстытут па спецыяльнасці прыродазнаўства і хімія (1951). Выкладчыца хіміі і біялогіі СШ № 3 (1951-55), СШ № 8 (1955-61), завуч СШ № 8 (1961- 66), дырэктар СШ № 8 (1966 - 69), настаўніца хіміі СШ № 8 (1969 - 84), СШ № 1 (1987 - 89), СШ № 3 (1990). "Заслужаны настаўнік БССР" (1973).



**Бурак С.С.**

**Бурак** (Ворань - *дзявоч.*) **Станіслава Станіславаўна**. Нарадзілася 26.03.1927 у в. Агароднікі Дубровенскай гміны Лідскага павету. Першая яе настаўніца - Вольга Славінская, 3-4 класы вучылася ў прыватнай школе Шпельгера ў Дуброўні, 5-6 класы - у польскай школе, 6-7 класы - у савецкай Дубровенскай сямігадовай школе (1939-41). Падчас нямецкай акупацыі жыла пры бацьках. У другой палове 1944 г. працавала сакратаром Дубровенскага сельсавета. Скончыла Лідскую педнавучальню (1945-48). Настаўніца пачатковых класаў Дубровенскай школы (1948-60). Дырэктар і адзіная настаўніца Качаноўскай пачатковай школы (1960-91). Настаўніца Кенцеўскай базавай школы, выкладала спевы і маляванне, стварыла гурток вывучэння польскай мовы. Два апошнія гады выкладала ў Ёдкаўскай сярэдняй школе. Выдатнік народнай асветы (21.09.1960), Заслужаны настаўнік БССР (22.03.1968). Неаднаразова ўзнагароджвалася граматамі РайАНА, райкама і абкама партыі. Дэпутат раённага савета двух скліканняў, дэпутат мясцовага савета.



**Бобер М.А.**

**Бобер Мірон Антонавіч.** Нарадзіўся 3.03.1937 у в. Далекія Лідскага павету. Скончыў БДУ (1964), дзе і працаваў на кафедры гісторыі КПСС. З 1974 г. выкладае ў Менскім медыцынскім інстытуце. Кандыдат гістарычных навук (1976). Вывучае рэвалюцыйныя і дэмакратычныя рухі моладзі ў Заходняй Беларусі, методыку выкладання гісторыі ў негуманітарных ВНУ. Адзін з складальнікаў і аўтараў каментароў да зборніка дакументаў і матэрыялаў "Рэвалюцыйны авангард працоўнай моладзі Заходняй Беларусі" (1978), вучэбных дапаможнікаў "Гісторыя Беларусі" (ч.1-2, 1998), "Кароткі нарыс гісторыі культуры Беларусі" (2003, з М.П. Саўко, В.І. Карнацкай і інш.)

# Лідчына ў 2006 годзе

## Выступ старшыні Лідскага райвыканкаму А.П. Худыка на ўрачыстым сходзе 23.02.2007 г. па падвядзенні вынікаў працы Лідскага раёна за 2006 г.



**Паважаныя ўдзельнікі сходу!**

Сёння, традыцыйна, мы падвядзем вынікі працы за год, адзначым і заахвоцім працу лепшых калектываў і працаўнікоў раёна.

Тры гады раён і горад працуюць адной адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай. З'явіліся свае традыцыі, якія прыняло і падтрымала насельніцтва. Намеціліся адпаведныя пазітыўныя зрухі ва ўсіх галінах эканомікі. Грамадска-палітычная сітуацыя ў раёне, нягледзячы на правядзенне цэлага шэрагу палітычных кампаній, заставалася спакойнай, кіраванай.

Лідскі рэгіён стаў прывабным для замежных фундатараў. Прадукцыя, выробленая ў нас, запатрабавана, як у рэспубліцы, так і на рынках блізкага і далёкага замежжа.

Усе поспехі нашага рэгіёна - гэта, першым чынам, вынік працы людзей, якія жывуць тут. Таму выканкам, працоўныя калектывы шмат увагі надаюць падбору, падрыхтоўцы і фармаванню эфектыўнага кадравага патэнцыялу. І сёння я магу сказаць, што нашы кадры досыць кваліфікаваныя, здольныя дасягаць пастаўленых мэтаў.

У якасці прыкладу хачу прывесці кіраўніка СПК "Пескаўцы" Дашкевіча Віктара Генрыхавіча. Нягледзячы на тое, што ў мінулым годзе да гэтай гаспадаркі была далучана эканамічна слабая "Лайкоўшчына", аб'ядналая гаспадарка адзіная ў раёне, якая выканала ўсе прагнозныя паказчыкі.

Невялікі перыяд часу ўзначальвае Лідскі мясакамбінат Шулейка Юры Вітольдавіч. Але відавочнымі сталі істотныя змены тэхналагічных працэсаў, паляпшэнне якасці прадукцыі, пашырэнне рынку збыту, а самае галоўнае -змяніўся падыход кожнага работніка да выканання сваіх абавязкаў. Асноўная заслуга ў гэтым дырэктара, які здолеў убачыць перспектыву развіцця прадпрыемства і правільна арганізаваць працу калектыва.

Стыль працы кіраўніка Дома гандлю Аліпатавай Святланы Кузьмінічны могуць належным чынам ацаніць не толькі лідзяне, але і жыхары горада Бярозаўкі. На іх вачах змянілася крама, якая была перададзены ў яе падначаленне.

Высілкамі педагагічнага калектыва і дырэктара гімназіі №1 г. Ліды Зайцавай Наталлі Андрэеўны гэтая ўстанова адукацыі стала вядомай на ўсю рэспубліку сваімі поспехамі ў падрыхтоўцы навучэнцаў.

Праца загадчыка хірургічным аддзяленнем Гушчы Валерыя Іванавіча прызнаная лепшай у вобласці.

Такіх прыкладаў можна прыводзіць шмат. Радуе, што людзі адказна, з разуменнем забяспечваюць даручаны ўчастак працы, тым самым, умацоўваючы свой матэрыяльны дабрабыт і сацыяльна-палітычную стабільнасць у раёне.

Варта адзначыць, што мінулы год быў, як для рэспублікі, так і для Лідчыны досыць складаным, што, тым не менш, не перашкодзіла дабіцца адпаведных поспехаў па многіх кірунках.

Аналіз вынікаў сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна за 2006 г. сведчыць аб устойлівым дынамічным развіцці ўсіх галін эканомікі. Пры гэтым не толькі

выкананы планавыя заданні, але і перавышана большасць найважных прагнозных паказчыкаў.

Прамысловымі прадпрыемствамі раёна ў мінулым годзе выраблена прадукцыі ў дзейных цэнах на суму 784 млрд. руб. Тэмп росту ў супастаўных цэнах 124% пры прагнозным заданні 110,1%.

Прадпрыемствамі ўсіх узроўняў падпарадкаванасці выканана прагнознае заданне па тэмпе росту вытворчасці. З 40 прадпрыемстваў 35 павялічылі выпуск прадукцыі ў адносінах да 2005 года.

Дзякуючы інтэнсіўнай і суладнай працы калектыва "Лідаграпраммаш", выканана дзяржаўны заказ. Сабрана 255 камбайнаў. Што гэта значыць, вам могуць распавесці рабочыя прадпрыемства Казакевіч Станіслаў Часлававіч, Кароль Аляксандр Іванавіч, Тылінін Андрэй Мікалаевіч, якія прысутнічаюць у гэтай зале. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі ў 2002 годзе вярнуўся ў родны горад Марозаў Андрэй Міхайлавіч. Сёння гэтага маладога адмыслоўца калектыў "Лідаграпраммаш" прадставіў для заахвочвання за прафесіяналізм, кампетэнтнасць, карэктнасць, здольнасць спраўляцца з вялікім аб'ёмам работ.

Радуе, што на падвядзенні вынікаў працы за год усё больш з'яўляецца такіх маладых адмыслоўцаў, якія паказалі сваю высокую працаздольнасць, лепшыя прафесійныя якасці. Маючы такую змену, мы можам упэўнена глядзець у будучыню.

Варта адзначыць, што 2006 год быў для прамысловасці Лідчыны паспяховым.

Павялічыўся выпуск аўтобусаў, плугоў, бульбасаджалак, касілак трактарных, чыгуннага ліцця, лакафарбавых матэрыялаў, лекавых сродкаў, аконных і дзвярных блокаў, сінтэтычных смолаў і пластычных мас, канструкцый зборных жалезабетонных матэрыялаў, гатункавага посуду, а таксама ялавічыны, сухога малака, сыра, каўбасных, лікёра-гарэлачных вырабаў, піва, безалкагольных напояў і харчовых канцэнтратаў.

У 2006 г. у раёне выраблена спажывецкіх тавараў на суму 356 млрд. руб., у тым ліку харчовых - на 178 млрд. руб., нехарчовых - на 132 млрд. руб. Тэмп росту вытворчасці спажывецкіх тавараў - 112,8% пры прагнозе 107,6%. Вытворчасць харчовых тавараў павялічылася на 13,2 адсоткавых пунктаў, нехарчовых - на 12,7.

Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці павялічылася на 24,1%. Самая высокая прадукцыйнасць у "Лідсельмаша" - 266,8% " за кошт асваення і серыйнага выпуску новага віду прадукцыі - зернесушыльных комплексаў.

Удзельная вага новай прадукцыі ў аб'ёме вытворчасці ў 2006 г. склала 19,7% супраць 9,7% у 2005 г. Лідарам у гэтым кірунку з'яўляецца Мінойтаўскі рамонтны завод - ўдзельная вага новай прадукцыі ў аб'ёме вытворчасці склала 93,3%, а прадукцыйнасць - 231,3%.

Знешнегандлёвы абарот прадпрыемстваў раёна дасягнуў 217 млн. долараў ЗША або 141% да 2005 году, знешнегандлёвае сальда дадатнае - 18,5 млн. долараў ЗША.

Экспартавана прадукцыі на суму 118 млн. долараў ЗША. Павелічэнне экспартных аб'ёмаў адбылося за лік росту паставак тавараў у краіны СНД, у тым ліку ў Расію - на 25,5%, у далёкае замежжа - на 32%. Нарасцілі аб'ёмы экспарту 13 прадпрыемстваў з 30 экспарцёраў раёна. Сярод іх: акцыянерныя таварыствы "Лакафарба", "Лідсельмаш", "Лідаграпраммаш", завод электравырабаў, ліцейна-механічны завод, "Лідскае піва", унітарныя прадпрыемствы "Оптык", "Белтэкс-Оптык", мясакамбінат, шклозавод "Нёман", "Дзітва", "Тэхмаш", лягсгас.

У 2006 г. імпартавана сыравіны і абсталявання на суму больш за 99 млн. долараў ЗША.

У няпростых эканамічных умовах працы апынуліся нашы прадпрыемствы ў сувязі з ростам цэнаў на энергарэсурсы. Рост тарыфаў выклікаў павелічэнне выдаткаў на выпуск прадукцыі, выкананне работ і аказанне паслуг. Каб прадукцыя была канкурэнтаздольная, неабходна прадугледзець шляхі скарачэння затратнага механізму (тэхнічнае пераабсталяванне, выпуск навукаёмкай прадукцыі). У гэтым мы павінны разлічваць толькі на сябе, на ўласныя сілы, розум і зацятасць. Час сёння дыктуе іншыя ўмовы: трэба працаваць у новых эканамічных рэаліях, жыць і гаспадарыць больш рупліва і ашчадна. Наша заўтра - гэта, яшчэ раз падкрэслю, новыя тэхналогіі, высокая эфектыўнасць вытворчасці. Толькі такім чынам мы зможам умацаваць свой суверэнітэт і захаваць утульную, чыстую і прыгожую краіну для будучых пакаленняў.

Міжнародныя патрабаванні да якасці выпусканай прадукцыі прымушаюць мяняць наша стаўленне да сваіх тавараў, а без гэтага заваяваць рынак нельга. Таму вядзецца праца па абнаўленні асартыменту, паніжэнні сабекошту. 12 нашых прадпрыемстваў працуюць у адпаведнасці з міжнароднай сістэмай якасці ІСА-9001.

Рашэнне пытанняў тэхпераўзбраення - гэта заклад выхаду на рэнтабельную працу. Значныя штогадовыя інвестыцыі "Лідскага піва", "Белтэкс-Оптык" дазваляюць вытрымліваць жорсткую канкурэнцыю на рынку. Таму гэтаму кірунку варта надаваць больш увагі ўсім галінам эканомікі раёна.

Вытворчая дзейнасць працоўных калектываў прамысловых арганізацый наўпрост звязана з працай транспартнікаў.

Грузавымі транспартнымі арганізацыямі перавезена 584,5 тыс. тон грузаў. 40% грузаў перавезена калектывам "Лідаспецаўтатранс" - аб'ём перавозак павялічаны на 13,4%.

Асноўная нагрузка па пасажырскіх перавозках кладзецца на "Аўтобусны парк №2", які абслугоўваецца 42 аўтобусныя маршруты, у тым ліку 14 гарадскіх, 21 прыгарадны, 6 міжгародных і 1 гарадскі маршрут у г. Бярозаўка. Нараўне з ім пасажырскія перавозкі ажыццяўляюць 20 перавозчыкаў недзяр-

жаўнай формы ўласнасці, якія абслугоўваюць 33 маршруты, у тым ліку 12 гарадскіх, 17 прыгарадных і 4 міжгародныя. За 2006 год пасажырскім транспартам раёна перавезена 30,6 млн. пасажыраў або 102% да ўзроўню 2005 года. Пасажыразварот павялічыўся на 1,5 адсоткавыя пункты.

Паспяхова працуе на міжнародных перавозках унітарнае прадпрыемства "Саюз-Транс". Летась кіроўца гэтага аўтатранспартнага прадпрыемства Казімір Марцінкевіч узнагароджаны дыпломам Міжнароднага саюза аўтамабільнага транспарту і залатым нагрудным знакам "Лепшы кіроўца Еўропы".

Прыбыткова працуюць калектывы ўсіх прадпрыемстваў Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі, размешчаныя на тэрыторыі нашага раёна.

**Будаваць - значыць жыць.**

У 2006 годзе ў Лідзе і Бярозаўцы ўведзена 7 ЖСК на 478 кватэр, у індывідуальным парадку пабудавана 103 кватэры. На сяле - 77 кватэр. Планавае заданне па жыллі прадпрыемствамі будаўнічага комплексу выканана на 105%. Пераабсталяванне будаўнічай галіны неабходным абсталяваннем і транспартам дазваляе працаваць больш эфектыўна. Узровень рэнтабельнасці вырас да 7,5% . Усе прадпрыемствы будаўнічай галіны выйшлі на бясстратную працу. Цякучасць кадраў у такіх прадпрыемствах , як БМУ-2, ПМБ, ДБУ-24 склала ўсяго ад 8 да 14%.

Сёння асабліва запатрабаваныя дасведчаныя, кваліфікаваныя будаўнікі. Заслужаным аўтарытэтам карыстаюцца ў калектыве будтрэста №19 Гарасімовіч Антон Вітольдавіч, Цярэшчанка Мікалай Віктаравіч, Кухарчык Міхаіл Андрэевіч, Дубіна Таісія Міхайлаўна.

За добрасумленнае стаўленне да працы, высокія паказчыкі якасці ўганараваны званнем "Лепшы па прафесіі" цясляр ПМК-169 Капковіч Віктар Аляксандравіч.

Высокі прафесіяналізм адрознівае Тышкевіча Мікалая Уладзіміравіча і Рамейку Валерыя Леанідавіча - тынкоўшчыкаў БМУ-2.

Можна назваць дзесяткі людзей, якія любяць сваю працу, працуюць на сумленне.

Павінен сказаць, што і кіраўнікі стараюцца годна ацэньваць гэтыя якасці. Тым больш, што складанасць прафесіі будаўніка залежыць ад умоў надвор'я.

Важна, што прафесія будаўніка па-ранейшаму лічыцца прэстыжнай. У леташнім годзе ПТВ №136 падрыхтавала выпуск 62 чалавек кваліфікацыі тынкоўшчык, маляр-плітачнік, 32 чалавекі - муляр-тынкоўшчык.

Паводле заключаных дамоваў з траўня 2006 года ў будтрэсце №19 залічаны на практыку і працаўладкаваны 52 падрыхтаваныя адмыслоўцы.

У пытанні замацавання маладых адмыслоўцаў на будоўлі важную ролю мае асабісты прыклад кіраўніка. Умела арганізоўвае працу працоўных Дуброўнік Юзаф Антонавіч - прараб акцыянернага таварыства "Будвектар", Савашынскі Мікалай Пятровіч - прараб Лідскага мантажнага кіравання "Белсантэхмантаж-2", Капацэвіч Леанід Мікалаевіч - прараб БУ-104 Будтрэста №19.

У 2006 годзе вялося будаўніцтва сацыяльна значных аб'ектаў: магістральнага вадавода да мікрараёна "Гастэла", водазабору "Бароўка", станцыі абезжалезвання і ачышчальных збудаванняў у Бярозаўцы, блокава-модульнай кацельні ў вёсцы Тарнова, артсвідравіны ў вёсцы Бердаўка. Працягвалася будаўніцтва акушэрскага корпуса, рэканструкцыя гістарычнага музея і стадыёна.

Многае зроблена па добраўпарадкаванні. У Лідзе змяніліся вуліцы Камуністычная, Ленінская, цэнтральная плошча, капітальна адрамантаваны праезд ад вуліцы Машэрава да кальцавой аўтадарогі ў раёне завода "Оптык", у Бярозаўцы - вуліцы Дзяржынскага і Гагарына.

Паважаныя таварышы!

У сваім выступе на трэцім Усебеларускім народным сходзе Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка адзначыў, што адзін з найважных кірункаў развіцця краіны ў бліжэйшыя пяць гадоў - гэта далейшае развіццё эфектыўнай, прававой дзяржавы, якая працуе на карысць народа. Новы этап дзяржаўнага будаўніцтва на бліжэйшую перспектыву будзе праходзіць пад лозунгам: "Дзяржава для народа, для чалавека". І гэта павінна няўхільна выконвацца ва ўсіх сферах жыццядзейнасці.

Цалкам відавочна. што адпаведных вынікаў можна дасягнуць, толькі стварыўшы нармалёвыя ўмовы для жыцця і працы, прыцягваючы новыя, кваліфікаваныя кадры, моладзь. З гэтай мэтай распрацавана і рэалізуецца дзяржаўная праграма развіцця вёскі, у рамках якой прадугледжваецца будаўніцтва аграгарадкоў. Яны павінны стаць цэнтрамі ўсяго сельскага жыцця, актыўнымі правадырамі новых тэхналогій і высокіх сацыяльных стандартаў.

У мінулым годзе ў раёне вяліся работы па ўладкаванні аграгарадкоў у вёсках Ваверка, Бердаўка і Дзітва. На гэтыя мэты было выдаткавана 13,5 млрд. руб.

Сельская гаспадарка з'яўляецца важным складнікам эканомікі. Яна дае каля 10% валавога ўнутранага прадукта і з'яўляецца пастаўшчыком сыравіны для 30% прамысловасці краіны.

Лёгкага хлеба не бывае. Мінулы год, нажаль, не стаў у гэтых адносінах выключэннем. Адкрыта гаворачы, ён быў вельмі напружаным і складаным.

Сельскагаспадарчымі арганізацыямі раёна выраблена валавой прадукцыі на суму 62,1 млрд. руб., тэмп росту да 2005 году склаў 98,5% пры прагнозе 104%.

Паніжэнне валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі дапушчана за кошт памяншэння аб'ёмаў вытворчасці прадукцыі раслінаводства на суму 3,3 млрд. руб.

Забяспечылі выкананне прагнознага паказчыку па вытворчасці валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі ў супастаўных цэнах сельскагаспадарчыя арганізацыі: "Ніва" , "Пескаўцы", "Голдава-Агра", "Світанак-Мыто",

“Ходараўцы-Агра” , “Далекія-Агра”, “Крупаўскае” .

Валавы збор збожжавых і зернебабовых культур у вазе пасля дапрацоўкі склаў каля 50 тыс. тон. Прагноз выкананы на 75%.

Сабрана цукровых буракоў больш за 32 тыс. тон (прагноз выкананы на 101%), бульбы - 3,8 тыс. тон або 74% да прагнозу. Прагнозны паказчык па вытворчасці алеясем’я рапсу выкананы на 82%, валавы збор склаў 1,7 тыс. тон.

За 2006 год выраблена ільноваланка 681 тона, прагноз выкананы на 60,8%.

Планаваныя аб’ёмы гародніны выкананыя на 140,6%, або 189,9% да ўзроўню мінулага года, фактычна сабрана 1265 тон.

Вытворчасць прадукцыі жывёлагадоўлі ў супастаўных цэнах забяспечыла павелічэнне аб’ёмаў да папярэдняга года на 6,5%.

Валавая вытворчасць малака павялічылася на 12% да ўзроўню мінулага года і склала 44627 тон.

Лепшых вынікаў дабіліся працаўнікі ферм “Філіпкі” СВК “Бердаўка-Агра” (загадчыца фермы Мітронь Валянціна Іванаўна), “Крыніцы” рэспубліканскага ўнітарнага сельскагаспадарчага прадпрыемства па племянной справе “Ніва” (загадчык фермы Мікутайціс Станіслаў Мар’янавіч), “Яўсеевічы” сельскагаспадарчага вытворчага прадпрыемства “Лідская птушкафабрыка” (загадчыца Гілевіч Алена Антонаўна ). Лідарамі сярод даярак з’яўляюцца Ушко Ірына Мікалаеўна (“Мажэйкава”), Бучынская Алена Рамуальдаўна (“Ніва), Галавач Галіна Сцяпанаўна (“Бердаўка-Агра”), Савашынская Рэгіна Міхайлаўна (“Лідская птушкафабрыка”).

Рэалізавана быдла і птушкі на убой у жывой вазе 8,2 тыс. тон, прагноз выкананы на 123%, рост да ўзроўню 2005 года склаў 118%. Усе сельскагаспадарчыя арганізацыі раёна забяспечылі выкананне прагнознага паказчыка па рэалізацыі быдла і птушкі ў жывой вазе.

Прадукцыя гадоўлі быдла і птушкі ў жывой вазе ўзрасла да ўзроўню мінулага года на 8% і склала 8,9 тыс. тон. Прагнозны паказчык выкананы.

Сярод аператараў па адкорме буйнага рагатага быдла неабходна адзначыць: Драбняка Віктара Станіслававіча (сельскагаспадарчае ўнітарнае прадпрыемства “Мажэйкава”). Сярэднесутачная прывага буйной рагатай жывёлы па абслугоўванай ім групе склала 838 грамаў; Рачко Івана Іванавіча (сельскагаспадарчы кааператыў “Світанак-Мыто”). Сярэднесутачная прывага буйнай рагатай жывёлы па абслугоўванай ім групе склала 816 грамаў;

У зале прысутнічаюць лепшыя аператары на дагадоўванні буйнога рагатага быдла: Каела Таццяна Іванаўна (раённае сельскагаспадарчае прадпрыемства “Саўгас “Лідскі”) - сярэднесутачная прывага буйной рагатай жывёлы склала 947 грамаў; Шышкіна Марыя Міхайлаўна (сельскагаспадарчае прадпрыемства “Мажэйкава”) - сярэднесутачная прывага буйной рагатай жывёлы склала 856 грамаў.

Найбольшы прырост у жывёлагадоўлі атрыманы сельгасарганізацыямі: “Пескаўцы” (123%), “Ніва” (116,5%), “Мажэйкава” (118%), “Голдава-Агра” (111%), “Бердаўка-Агра” (110%), “Крупаўскае” (109%), “Світанак-Мыто” (105%), “Далекія-Агра” (110%), “Ходараўцы-Агра” (106%).

Забяспечаны рост прадуктыўнасці грамадскай жывёлагадоўлі. Сярэдні ўдой малака ад каровы склаў 3942 кілаграмы, што на 421 кілаграм больш у параўнанні з 2005 годам. Больш за 4000 кілаграмаў малака на адну карову надаілі: “Ніва” (4635 кг), “Лідская птушкафабрыка” (4477 кг), “Бердаўка-Агра” (4210 кг), “Далекія-Агра” (4193 кг), “Крупаўскае” (4181 кг), “Саўгас “Лідскі” (4001 кг).

Сярэднесутачная прывага на гадоўлі і адкорме буйнога рагатага быдла павялічылася з 500 да 507 грамаў, свіней з 469 да 498 грамаў.

Сельскагаспадарчымі арганізацыямі раёна выканана заданне па тэмпе росту заработнай платы.

План па выкарыстанні інвестыцыйных праектаў сельгаспрадпрыемствамі выкананы на 117%. Фактычна выкарыстана інвестыцый у асноўны капітал на суму 28,8 млрд. руб., у тым ліку па аб’ектах вытворчага прызначэння - 21,8 млрд. руб. Вялася праца па тэхналагічным пераўзбраенні і рэканструкцыі жывёлагадоўчых ферм.

У 2006 годзе пачала працаваць малочна-таварная ферма новых сучасных тэхналогій “Новае стагоддзе” сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства “Мажэйкава”. І ўжо сёння мы бачым, што гэта эфектыўны кірунак працы. Сярэдні ўдой малака на карову за 2006 год склаў 9721 кілаграмаў - гэта самы высокі паказчык прадуктыўнасці дойнага статка ў рэспубліцы. У бягучым годзе плануецца ўкараніць аналагічныя сучасныя тэхналогіі на фермах “Серафіны” сельскагаспадарчага кааператыва “Світанак-Мыто”, “Ёдкі” сельскагаспадарчага кааператыва “Ёдкаўскі”, “Крыніцы” сельскагаспадарчага прадпрыемства “Ніва”.

Дзяржава ўкладвае ў сельскую гаспадарку значныя сродкі, у тым ліку і ў матэрыяльна-тэхнічнае абсталяванне. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “Аб аказанні дзяржаўнай падтрымкі арганізацыям, якія ажыццяўляюць будаўніцтва, рэканструкцыю і тэхнічнае пераабсталяванне аб’ектаў аграпрамысловага комплексу” на фінансаванне сельскагаспадарчых аб’ектаў летась былі вылучаныя доўгатэрміновыя крэдыты на суму 4 млрд. руб. сельгаспрадпрыемствам: “Бердаўка-Агра”, “Світанак-Мыто”, “Ёдкаўскі”, “Мажэйкава”, “Ніва”. Таму неабходна, каб аддача была вялікая.

У 2006 г. сельгаспрадпрыемствы раёна значна абнавілі машынна-трактарны парк. Практычна гаспадаркі забяспечаныя тэхнікай на 100%.

Забяспечанасць тэхнікай, мабілізацыя людзей дазволіла ў гэтым складаным сельскагаспадарчым годзе правесці ўборку збожжавых у аптымальныя агратэхнічныя тэрміны, першымі ў вобласці завяршыць уборку збожжа ўраджаю 2006 года і аказаць дапамогу іншым раёнам вобласці.

На працягу ўсёй уборачнай кампаніі гатоўнасць тэхнікі падтрымлівалася на ўзроўні 96-98%.

Па выніках абласнога агляду па добраўпарадкаванні машынных двароў для працы ў зімовых умовах па падрыхтоўцы машынна-трактарнага парку да вяснова-палявых работаў 2007 г. Лідскі раён прызнаны пераможцам.

Тым не менш, актуальным застаецца пытанне выкарыстання паліўна-змазачных матэрыялаў і іх эканоміі.

Паважаныя таварышы!

Адным з галоўных паказчыкаў узроўню жыцця насельніцтва з'яўляецца пакупальніцкая здольнасць.

За 2006 год насельніцтву раёна прададзена тавараў на суму 380,4 млрд. рублёў. Тэмп росту рознічнага тавараабароту ў супастаўных цэнах дасягнуў 118% пры даведзеным прагнозе - 109,8%. Тавараабарот на аднаго жыхара раёна склаў 2 756,5 тыс. рублёў пры сярэднеабласным паказчыку - 2 733,5 тыс. рублёў.

Найболей высокіх тэмпаў росту тавараабароту ў мінулым годзе дасягнулі: Лідскае раённае спажывецкае таварыства - 133,4 %, унітарнае камунальнае прадпрыемства Крама № 1 "Дом гандлю" - 126,5 %, адкрытае акцыянернае таварыства "Раслякі" - 125,4%, Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства гандлёвы дом "Лідскае піва" - 124,3%, унітарнае камунальнае прадпрыемства гандлёвы цэнтр "Патсдам" - 122,2 %.

Попыт насельніцтва на 85,5% забяспечаны за лік рэалізацыі тавараў айчыннай вытворчасці. Пры гэтым палепшылася якасная структура тавараабаароту з арыентацыяй на тавары доўгага карыстання, вопратку, абутак. У выніку доля нехарчовых тавараў у агульным аб'ёме рознічнага тавараабароту склала 42,5% і ўзрасла ў параўнанні з 2005 годам на 1,8%.

У 2006 годзе ў параўнанні з 2005 годам прададзена больш халадзільнікаў на 13 %, тэлевізараў па 12%, пральных машын на 32%, вопраткі і бялізны на 7%, трыкатажных вырабаў на 20%, абутку на19%.

Змянілася і структура харчавання насельніцтва ў бок павелічэння спажывання найболей біялагічна каштоўных прадуктаў. Рэалізавана больш на 28% мяса і мясапрадуктаў, на 22% - каўбасных вырабаў, на 36% - сыроў, на 31% - рыбы і морапрадуктаў, на 27% - алею расліннага, на 21% - сокаў.

Прадпрыемствамі грамадскага харчавання выпрацавана і рэалізавана 51 тона кулінарных вырабаў, 1200 тон мучных і кандытарскіх вырабаў, 31 тона мясных і 19,2 тоны агародніннных паўфабрыкатаў.

Аб'ём рэалізацыі бытавых паслуг, аказаных насельніцтву за мінулы год, склаў 14,1 млрд. рублёў і павялічыўся ў параўнанні з 2005 годам на 35,1%. Апераджальнымі тэмпамі аказваліся паслугі насельніцтву па рамонце бытавой тэхнікі, тэле- і радыёапаратуры, па рамонце аўтамабіляў.

Пачалі працаваць комплексныя прыёмныя пункты ў аграгарадках Дзітва і Ваверка, што дазваляе жыхарам вёскі атрымліваць шырокі спектр бытавых паслуг.

Немалаважнае значэнне ва ўдасканаленні гандлёвага і бытавога абслугоўвання мае і стан матэрыяльна-тэхнічнай базы прадпрыемстваў. Толькі ў 2006 годзе на 60 аб'ектах ажыццёўлены бягучы рамонт на 9 - рамонт фасаду, 11 прадпрыемстваў правялі добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі (выкладзена 2,6 тыс. кв. метраў тратуарнай пліткі).

Усяго на развіццё і ўдасканаленне матэрыяльна-тэхнічнай базы накіраванае 4,4 млрд. рублёў. Заменена гандлёвае і халадзільнае абсталяванне на новае сучаснае ў крамах № 51, 74, 82 АСП "АРЗ станцыі Ліда", у крамах "Космас" ПК "Эколаг", "Прыазёрны" ААТ ТВФ "Ліда", "Заходні" УКП ГЦ "Патсдам", у краме "Цэнтральны" УКП Крама № 1 "Дом гандлю" у г. Бярозаўцы.

Дысцыпліна, працавітасць, розум, кемлівасць нашых людзей дазволілі прыўмножыць патэнцыял усіх галін народнай гаспадаркі, у выніку чаго ў бюджэт раёна паступіла 96 млрд. 645 млн. руб., што дазволіла выканаць значныя аб'ёмы работ па бягучых рамонтах аб'ектаў сацыяльнай сферы, умацаваць яе матэрыяльна-тэхнічную базу.

Амаль 75% бюджэту раёна расходуецца на сацыяльную сферу. Так, на развіццё фізкультуры і спорту ў 2006 г. выдаткавана больш за 2 млрд. руб. Усе школы раёна абсталяваны сучаснай кампутарнай тэхнікай, функцыянуюць 52 кабінеты інфарматыкі.

Аб выніковасці працы педагогаў сведчаць паказчыкі паступлення выпускнікоў устаноў адукацыі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы: 2004 г. - 42,6%, 2005 г. - 43,7%, 2006 г. - 46,8%.

Сёння мне хочацца назваць Ладыку Альфрэда Антонавіча - настаўніка матэматыкі гімназіі №1 г. Ліда, Кучкурову Валянціну Ўладзіміраўну - намесніка дырэктара па вучэбна-выхаваўчай працы СШ №9, Перагонцаву Ніну Іванаўну - намесніка загадчыцы па асноўнай дзейнасці ясляў/саду №33, Даўляшэвіча Віктара Казіміравіча -дырэктара СШ №16.

Навучэнцы школ раёна неаднаразова станавіліся пераможцамі абласных і рэспубліканскіх прадметных алімпіяд. У 2006 г. 23 навучэнцы Лідскага раёна атрымалі дыпломы на рэспубліканскіх, 59 - на абласных алімпіядах, гэта лепшы вынік у вобласці. Гэта вынік працы многіх педагогаў, пільнай увагі кіравання адукацыі да развіцця дыферэнцыяванага навучання школьнікаў, якім абхоплена 67% ад усіх навучэнцаў школ.

Расце адсотак ахопу дзяцей дашкольнай адукацыяй. Усім дзецям з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця аказваюцца адмысловыя адукацыйныя паслугі.

Не спынялася праца па ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў адукацыі, на што выдаткавана 5 млрд. 405 млн. руб. Выкананы работы па капітальным рамонце спартовай залы сярэдняй школы №15. У рамках праграмы развіцця аграгарадкоў праведзены капітальныя рамонты Бердаўскай школы-сада, Ваверскай і Дзітвянскай сярэдніх школ. Адрамантавана амаль 10 тыс. м2 даху, 520 м пагонных вонкавых сетак. Набыта тэхналагічнае абсталяванне, энергазахавальныя свяцільнікі. Закуплены 1 аўтобус.

Важны аспект працы са студэнцкай моладдзю - гэта арганізацыя карыснай занятасці і вольнага часу. У гэтым плане нашым каледжам і прафесійна-тэхнічнымі ўстановамі робіцца нямала.

Летась адбылося аб'яднанне двух філіялаў Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта - Лідскіх педагагічнага і тэхнічнага каледжаў - у адно структурнае падраздзяленне.

Змяніўся статус ПТВ №196, якая стала установай адукацыі "Нёманскі дзяржаўны прафесійны ліцэй".

Навучаннем і выхаваннем займаюцца прафесійныя калектывы інжынерна-тэхнічных работнікаў. Многія з іх - прызёры рэспубліканскіх і абласных аглядаў і конкурсаў тэхнічнай творчасці, з'яўляюцца вынаходнікамі і рацыяналізатарамі.

Нядаўна распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь для пяці адораных навукоўцаў нашай краіны ўсталявана адмысловая стыпендыя ў памеры сарака базавых велічынь у месяц. Прыемна, што сярод адзначаных ёсць прадстаўнік Лідчыны. Гэта намеснік дырэктара па вучэбна-метадычнай і навуковай працы Лідскага каледжа, доктар тэхнічных навук Аляксандр Вальдэмаравіч Багдановіч.

Сяргей Іванавіч Бугасаў - выкладчык музычнай вучэльні стаў першым на Лідчыне чальцом прафесійнага Саюза беларускіх кампазітараў. Восем яго твораў у рэпертуары дзяржаўнага акадэмічнага хору Тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.

Вялікую ролю ў захаванні і прымнажэнні традыцый беларускага народа адыгрывае сфера культуры. Праведзена больш за тысячу масавых мерапрыемстваў, каля 400 канцэртаў, 95 спектакляў.

У 2006 г. у Лідзе прайшоў 8-мы рэспубліканскі конкурс выканаўцаў на народных інструментах імя Жыновіча. Дыплом трэцяй ступені ў намінацыі "Цымбалы" атрымала лідзянка Таццяна Казловіч.

Прадстаўніца Лідскага раёна Алена Седяк заняла другое прызавое месца і прыз глядцкіх сімпатый на V нацыянальным конкурсе прыгажосці "Міс Беларусь".

Дварышчанскі цэнтральны Дом культуры - дырэктар Рубава Таццяна Аляксандраўна - заняў трэцяе месца ў рэспубліканскім аглядзе-конкурсе на лепшую пастаноўку працы сельскіх клубных устаноў "Клуб года".

Лаўрэатамі нацыянальнага тэлевізійнага конкурсу маладых талентаў "Сузор'е надзей" сталі прадстаўніцы нашага раёна Вольга Трафілава, Анастасія Каралёва і Вераніка Славута. У 2006 годзе прайшоў першы літаратурны конкурс памяці Валянціна Таўлая, які заснавала "Лідская газета". Перамагла Іна Міхалюк з вершам "Беларуская мова".

Калектыў рэдакцыі "Лідскай газеты" стаў лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу "Залатое пяро-2006".

Праграма Лідскага тэлебачання "Life style" ("Лайф стайл") стала дыпламантам другога рэспубліканскага конкурсу "Телевяршына" і заняла другое месца.

Радуюць і поспехі нашых спартоўцаў. Міхаловіч Алег - другое месца на Чэмпіянаце Еўропы па грэка-рымскай барацьбе. Махала Алена - другое месца на Чэмпіянаце Свету сярод моладзі па акадэмічным веславанні, Лукашэвіч Павел, Карней Зміцер, Гладкоў Артур, Касацікаў Аляксей, Ядлоўскі Аляксандр - другое месца на першынстве Еўропы сярод юнакоў па гарадошным спорце.

У спісавым складзе зборнай Рэспублікі Беларусь - 55 выхаванцаў лідскіх трэнераў.

У раёне культывуецца 32 віды спорту, з якіх 16 развіваюцца ў 8-мі дзіцяча-юнацкіх спартовых школах, дзе займаецца 3450 чалавек.

Найболей значных вынікаў дасягнулі спартовыя школы "Лакафарбы" - па акадэмічным веславанні, школы прафсаюзаў па футболе, плаванні.

Прыкладам арганізацыі фізкультурна-масавай работы сярод, працаўнікоў з'яўляюцца: Лідскае піва (дырэктар Юфа Ўладзімір Якаўлевіч), Лідскія цеплавыя сеткі (дырэктар Лявонаў Юрый Мікалаевіч), Лідскія электрычныя сеткі (дырэктар Лабан Пётр Пятровіч), "Лідсельмаш" (дырэктар Вашкевіч Юры Эдвардавіч), шклозавод "Нёман" (дырэктар Бацян Ігар Міхайлавіч), "Лідабудматэрыялы" (дырэктар Бірыч Сяргей Уладзіміравіч).

У 2006 годзе ўведзены стаўкі інструктараў-метадыстаў на доследным заводзе "Нёман" (дырэктар Руткоўскі Станіслаў Станіслававіч), на хлебазаводзе (дырэктар Черняк Іосіф Станіслававіч), "Лідаспецаўтатранс" (дырэктар Валадось Леанід Васільевіч).

У абласным аглядзе-конкурсе на лепшую арганізацыю спартова-масавай і фізкультурна-аздараўленчай працы па выніках 2006 года Лідскі раён заняў 3-е месца.

Упершыню летась у Лідзе адбыліся абласная зімовая і рэспубліканская летняя спартакіяды сельскіх жыхароў. Вялікі ўклад у фармаванне зборнай каманды раёна ўнеслі торфапрадпрыемствы "Дзітва", "Лідскае", Трацякоўскі і Крупаўскі сельскія Саветы, Мінойтаўскі рамонтны завод.

Ізноў набывае значнасць турыстычная дзейнасць. У 2006 годзе прынята праграма развіцця турызму ў раёне. Таму сёлета неабходна прыкласці максімум высілкаў, каб Лідскі раён са сваёй багатай культурнай і гістарычнай спадчынай стаў прывабным не толькі для гараджан, але для турыстаў, гасцей з блізкага і далёкага замежжа.

Галоўным багаццем людзей з'яўляецца здароўе. Адмысловая ўвага ў 2006 годзе надавалася ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы лячэбна - прафілактычных устаноў. Толькі медыцынскага абсталявання і інструментара набыта на суму больш за 6 млрд. рублёў.

У 2006 годзе ў амбулаторна-паліклінічных установах прынята амаль 1,5 млн. чалавек, абслужана на даму - больш за 113 тыс. чалавек. Стацыянарнае лячэнне атрымалі амаль 2 тыс. хворых.

Але поспех лячэння шмат у чым залежыць ад тых, хто працуе ў медыцынскіх установах. Абачліва, уважліва і добрасумленна ставяцца да сваёй справы

шматлікія медработнікі. Жыхары раёна ўдзячныя Гапон Маргарыце Мікалаеўне - лекару вузлавой паліклінікі, Усу Чаславу Нікадзімавічу -галоўнаму лекару лякарні сястрынскага догляду, Лазарэвічу Сяргею Іванавічу - загадчыку Тарноўскай участковай бальніцы, Эйсманту Генрыху Эдмундавічу - лекару-атарыноларынголагу цэнтральнай бальніцы.

Праблемы пенсіянераў, інвалідаў, самотных састарэлых і малазабяспечаных сем'яў стараліся па магчымасці вырашыць работнікі службы сацыяльнай абароны. Адрасную сацыяльную дапамогу на суму 74,5 млн. руб. атрымалі 824 чалавекі.

Сістэмай дзяржаўных дапамогаў у раёне ахоплена амаль 6,5 тыс. дзяцей. Па рашэнні выканкаму ў жніўні 2006 г. з мэтай аказання матэрыяльнай дапамогі на выхаванне дзяцей школьнага веку з мясцовага бюджэту выдзелена 29 млн. руб. Дапамогу атрымалі 484 дзіцяці, з іх 2/3 з шматдзетных сем'яў.

Летась пачата рэалізацыя Прэзідэнцкай праграмы "Дзеці Беларусі" на 2006-2010 г.г.", а 2007 год у рэспубліцы абвешчаны Годам дзіцяці. Асаблівую патрэбу ў дзяржаўнай абароне маюць дзеці з няўладжаных сем'яў. Нягледзячы на тое, што ў 2006 годзе не назіраўся рост злачынстваў сярод непаўналетніх, колькасць іх застаецца досыць высокай. Гэтаму пытанню надаецца вялікая ўвага.

Аператыўна-службовая дзейнасць супрацоўнікаў Лідскага РАУС забяспечвала мірнае, спакойнае жыццё грамадзян. Адмысловая ўвага надавалася барацьбе з самагонаварэннем і распаўсюджваннем сурагатаў алкаголю.

У 2006 г. аддзяленне ДАІ - начальнік маёр міліцыі Карэйва Віктар Юзафавіч і экспертна-крыміналістычнае аддзяленне - начальнік маёр міліцыі Мажэйка Аляксандр Чеслававіч прызнаныя лепшымі ў вобласці.

Па выніках службова- аператыўнай дзейнасці сярод пагранвойскаў у 2006 годзе Лідскі памежны атрад вызначаны як лепшы.

Па выніках баявой падрыхтоўкі за 2006 годзе штурмавая авіябаза прызнана лепшай у рэспубліцы і ўзнагароджана пераходным вымпелам Вайсковага савета Вайскова-Паветраных Сілаў і Войскаў Супрацьпаветранай Абароны. Авіябазай упершыню за гісторыю суверэннай Беларусі падрыхтаваны і атрымалі пуцёўку ў самастойнае жыццё 8 курсантаў авіяцыйнага факультэта Вайсковай Акадэміі Рэспублікі Беларусь. Іх падрыхтоўка праходзіла на найстарэйшым аэрадроме Беларусі - Лідскім. Высокае майстэрства асабістага складу авіябазы дазволіла на высокім узроўні навучыць курсантаў лётнаму майстэрству і прысвоіць вайсковую кваліфікацыю "Лётчык 3 класа".

Гэтыя поспехі заканамерныя, бо ў 206 штурмавой авіябазе служаць людзі, адданыя сваёй справе. Так, 26 чэрвеня 2006 года падпалкоўнік Ябараў Канстанцін Гансавіч, выконваючы палёт на самалёце Л-39, апынуўся ў экстрэмальных умовах - падчас узлёту адбылося аддзяленне асноўнага кола правай стойкі шасі. Лётчык прыняў пісьменнае рашэнне: з пагрозай для ўласнага жыцця, але зрабіў змушаную пасадку без шасі, тым самым здолеў захаваць дарагую авіяцыйную тэхніку. За выключную адвагу і асабістую храбрасць, выяўленыя пры выкананні вайсковага абавязку Ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь К.Г. Ябараў узнагароджаны ордэнам "За асабістую мужнасць".

Здарэнне, якое адбылося ўжо сёлета на Лакафарбе, яшчэ раз паказала высокі прафесіяналізм, аператыўнасць і майстэрства супрацоўнікаў Лідскага аддзела МНС.

Сёння мы шмат гаворым аб дасягненнях, аб поспехах, якіх дабіліся ў выніку суладнай працы ўсіх галін, кожнага з вас, паважаныя таварышы, а таксама дзякуючы таму, што заўсёды адчувалі падтрымку абласнога выканаўчага камітэта, асабліва яго старшыні Саўчанкі Ўладзіміра Ягоравіча. І прычым ва ўсіх кірунках. За што Вам, паважаны Ўладзімір Ягоравіч, вялікі дзякуй ад усіх працаўнікоў Лідскага раёна.

Разам з тым, нягледзячы на ўрачыстасць сходу, сёння нельга не сказаць і пра тое, што ў кожнай сферы належыць зрабіць яшчэ больш, чым зроблена.

Нас не задавальняюць вынікі працы ў 2006 годзе аграпрамысловага комплексу.

Усімі сельскагаспадарчымі арганізацыямі раёна дапушчана паніжэнне аб'ёмаў вытворчасці прадукцыі раслінаводства ў супаставім цэнах да 2005 году. Найбольшы недабор прадукцыі раслінаводства атрыманы сельскагаспадарчымі арганізацыямі: "Беліца-Агра", "Ёдкаўскі", "Мажэйкава", "Ганчары-Агра", "Бердаўка-Агра" .

Усе сельскагаспадарчыя арганізацыі не забяспечылі выканання прагнознага паказчыку па вытворчасці збожжавых і зернебабовых культур на 2006 год і дапусцілі паніжэнне аб'ёмаў вытворчасці збожжа да 2005 году на 21%. І хоць мы можам спасылацца на складаныя ўмовы надвор'я для сельскагаспадарчай вытворчасці ў 2006 годзе, яны былі такімі для ўсіх раёнаў. Прычыны варта шукаць у іншым.

Першым чынам варта змяніць стаўленне да арганізацыі працы, падвысіць дысцыпліну, навучыцца супастаўляць прыбыткі ад рэалізацыі прадукцыі з выдаткамі на яе вытворчасць.

Працаўнікам сельскагаспадарчых прадпрыемстваў неабходна прыкласці ўсе высілкі, каб рацыянальна выкарыстоўваючы кожны кілаграм кармоў, выконваючы тэхналогію догляду ўтрымаць і перавысіць дасягнутыя паказчыкі па прывагах і надоях.

Удасканальваць спецыялізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці, працягнуць тэхнічнае пераабсталяванне аб'ектаў аграпрамысловага комплексу.

У раслінаводстве трэба і далей працаваць над падвышэннем урадлівасці палёў і культуры земляробства, своечасова падрыхтавацца да правядзення вяснова-палявых работаў. Гаворка ідзе аб рамонце

тэхнікі, нарыхтоўцы і вывазцы арганікі, набыцці элітнага насення, падрыхтоўцы кадраў.

Варта больш надаваць увагі занятасці і падвышэнню ўзроўню прыбыткаў сельскага насельніцтва.

Нават супастаўляючы свае дасягненні з вынікамі працы іншых раёнаў, варта адзначыць, што, як ні крыўдна, Лідскі раён не з'яўляецца сёння лідэрам ні ў адной сферы дзейнасці. Так, адпаведныя поспехі ёсць, але, у цэлым, мы саступілі ў абласным спаборніцтве па ўсіх намінацыях. Іншыя раёны таксама працуюць. І як, аказалася, працуюць нядрэнна. Таму спраўджваць свае дзеянні варта не толькі з тым, што было ўчора, але і з тым, што ёсць у тваіх суседзяў. І зыходзячы з гэтага, вызначаць свае мэты і задачы.

У 2007 годзе перад прамысловасцю раёна ставіцца задача -забяспечыць рост аб'ёмаў таварнай прадукцыі не менш чым на 110,5%. Гэтыя паказчыкі павінны стаць чарговай прыступкай для выхаду прамысловасці на аб'ёмы 1990 года. Па-ранейшаму актуальнымі для прамысловасці застаюцца пытанні падвышэння якасці прадукцыі, павелічэння экспарту, эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў.

Што датычыцца энергарэсурсаў, то гэтая тэма павінна знаходзіцца ў цэнтры ўвагі ўсіх. З мэтай кампенсавання павелічэння выдаткаў з-за скачка тарыфаў усе арганізацыі павінны прадумаць і распрацаваць пэўныя мерапрыемствы па павелічэнні выкарыстання долі мясцовых відаў паліва і вызначэнні альтэрнатыўных крыніц энергіі пры забеспячэнні эканамічнай мэтазгоднасці іх спажывання.

Энергазахаванне, паўсюдная эканомія - гэта справа кожнага кіраўніка, кожнага выканаўца на месцах, грамадзяніна. Марна запаленае святло, не зачыненыя краны, не ўцепленыя вокны, адчыненыя дзверы ў пад'ездах і г.д. вядуць да нерацыянальнага выкарыстання цеплавых энергарэсурсаў. Таму кожны павінен унесці свой уклад у рашэнне праблемы энергазахавання і тым самым спрыяць эканоміі сродкаў сваіх, прадпрыемствы, дзе ён працуе, у цэлым, развіццю і росквіту нашага рэгіёна і ўсёй краіны.

Для атрымання станоўчых вынікаў у развіцці аўтатранспартных прадпрыемстваў неабходна пакрываць выдаткі за лік уласных прыбыткаў, усебакова вывучаць пасажырапльіні і грузаперавозкі, абнаўляць парк машын, як малой, так і вялікай ёмістасці.

Задачай вузлоў электрычнай сувязі на 2007 год з'яўляецца не толькі выкананне даведзеных прагнозных і планавых паказчыкаў, але і павелічэнне аказваных насельніцтву паслуг.

У раёне актуальнай застаецца праблема жылля, таму неабходна штогод будаваць не меней 70 тыс. м2.

У 2007 годзе неабходна працягнуць добраўпарадкаванне горада Ліда. Гэта транзітныя ўчасткі з боку Менска, Гародні, Вільні, вуліцы Навапрудская, Энгельса. Ленінская, Савецкая. Трэба рамантаваць вуліцы з жвіровым пакрыццём, весці работы па іх асвятленні ў мікрараёнах індывідуальнай забудовы - "Індустрыяльны", "Лайкаўшчызна", "Свярдлова", "Хасанаўская".

У адпаведнасці з пратаколам даручэнняў губернатара вобласці Ўладзіміра Ягоравіча Саўчанкі працягнецца добраўпарадкаванне Бярозаўкі.

На вёсцы будуць пабудаваныя яшчэ 4 аграгарадкі - Дворышча, Ёдкі, Ганчары і Лайкоўшчына.

Як бачыце, планы па будаўніцтве ў нас вялікія. Але для таго, каб справіцца з ўсімі пастаўленымі задачамі, кіраўнікам прадпрыемстваў неабходна больш надаваць увагі падрыхтоўцы адмыслоўцаў, стварэнню спрыяльных умоў працы, забеспячэнню годнай зарплаты.

Працаўнікам гандлю і грамадскага харчавання трэба працаваць над пашырэннем асартыменту тавараў, падвышэннем культуры абслугоўвання, умацаваннем матэрыяльнай базы прадпрыемстваў, не забываць аб патрэбах сельскіх пакупнікоў.

Маюць месца выпадкі наракання жыхароў раёна на медыцынскае абслугоўванне. Упэўнены, сёлета будзе зжыта праблема набыцця талона на прыём да лекара. Медыцынскія работнікі будуць больш абачлівя і ўважліва ставіцца да пацыентаў.

Генеральнай лініяй нашай аховы здароўя была і застанецца прафілактыка захворванняў.

У гэтым кірунку больш актыўна будзе праводзіцца праца па прыцягненні жыхароў, асабліва моладзі, да заняткаў фізічнай культурай і спортам, чаму будуць спрыяць нядаўна ўведзеныя на прадпрыемствах інструктары-метадысты па спорце.

У 2007 годзе наша футбольная каманда пад кіраўніцтвам новага трэнера павінна паказаць добрую гульню і пацешыць сваіх заўзятараў.

Трэба больш актыўна вырашаць пытанні набыцця спортінвентару, абсталявання самых простых спартовых будынкаў па месцы жыхарства.

Паважаныя таварышы!

Праведзеная ўсімі арганізацыямі раёна абарона бізнэс-планаў, выніковыя зборы па выніках працы за 2006 г. паказваюць, што працоўныя калектывы, кіраўніцтва нашых суб'ектаў гаспадарання бачаць перспектывы далейшага развіцця сваёй сферы.

Таму, упэўнены, пастаўленыя задачы на 2007 г. будуць выкананыя.

Яшчэ раз выказваю сардэчную падзяку ўсім, хто ўнёс уклад у агульную справу развіцця і росквіту Лідчыны. Працаўнікам прамысловых прадпрыемстваў, сельскім працаўнікам, прадпрымальнікам, будаўнікам, сувязістам, транспартнікам, работнікам гандлю, культуры, педагогам, лекарам, супрацоўнікам праваахоўных органаў.

Наша сіла - у адзінстве і згодзе, у імкненні кожнага быць датычным да агульнай справы.

Жадаю ўсім вам моцнага здароўя, шчасця, поспехаў, міру і дабрабыту.

Дзякуй за ўвагу.

# *Напалеон Орда*

## (11.2.1807-26.4.1883)

11 лютага 1807 г. у сям'і маршалка шляхты Кобрынскага павету Міхала Орды і яго жонкі Юзафіны нарадзіўся хлопчык, які пры хрышчэнні атрымаў імя Напалеон. Ліцьвінская шляхта абагаўляла Напалеона Банапарта, і пасля Аўстарліцкага разгрому ў 1805 г. руска-аўстрыйскага войска спадзявалася, што ён адновіць Рэч Паспалітую.



***Герб "Астоя"***

Атрымалася незвычайнае спалучэнне імені і прозвішча - Напалеон Орда, у якім закладзена ўнутраная дысгармонія: Напалеон - гэта Еўропа, вінаградная выдатная Францыя, бязмежнае духоўнае падначаленне волі аднаго. Арда - гэтае шматлікае неарганізаванае людское зборышча, гэта азіяцкі бязмежны Стэп, і нястрымная жорсткасць уладароў. І жыццё гэтага хлопчыка раскладзецца на дзве часткі: еўрапейскую, у якой будзе Францыя, Парыж, Опера, паланезы, вальсы, сяброўства з выбітнымі музыкамі, паэтамі, мастакамі, прыемныя вандраванні; і азіяцкую - з паўстаннямі, баямі, турэмнымі зняволеннямі, пазбаўленнямі і канфіскацыяй родавага маёнтка.

Бацькаўскі род татарскага паходжання з'явіўся ў ВКЛ у часы Вітаўта (9), карыстаўся гербам "Астоя", і больш за 300 гадоў валодаў маёнткам Варацэвічы. Першапачаткова праваслаўныя, пазней уніяты, у 17 стагоддзі перайшлі ў каталіцкую веру. Першым вядомым прадстаўніком роду быў баярын Васька Ардыніч (Васко Ординич), якому Вялікі князь Казімір падарыў Маціеўшчыну і Патароўшчыну. Адзін з продкаў - пінскі харунжы Васіль Орда (?-1667) вызначыўся ў баях з украінскімі казакамі. У 18-м стагоддзі Ордам у Пінскам павеце належала 15 маёнткаў. Бацька Напалеона Міхал меў каля 400 прыгонных сялян і атрымаў адукацыю інжынера-фартыфікатара.

Продкі па матчынай лініі Бутрымовічы герба "Сякера" - з Лідчыны, у 15 ст. валодалі Жырмунамі. Заснавальнік роду Бутрым Савіч (?-1382) - пакараны па загадзе Вялікага князя Ягайлы па падазрэнні ў забойстве знакамітага Вайдылы - мужа князёўны Марыі Альгердаўны. Яго сын Бутрым Савічавіч у каталіцтве Ян (?-1428) ездзіў амбасадарам у Прагу, быў маршалкам двара Вялікага князя Вітаўта, намеснікам смаленскім. Дзядуля Напалеона - суддзя пінскі Матэвуш Бутрымовіч у 1794 г. у цэнтры Пінска пабудаваў палац, які захаваўся да сённяшняга дня. Юзафіна добра грала на піяніна.

Нарадзіўся Напалеон у маёнтку Варацэвічы, недалёка ад Янава (цяпер Іванава), мястэчка знакамітага



***Сядзіба Ордаў у Варацэвічах***

яркімі пропаведзямі езуіта Андрэя Баболі (?-1657), які схіліў праваслаўную пінскую шляхту да пераходу ў каталіцтва.

Гэтак жа, як у Адама Міцкевіча, у Напалеона Орды рана памёр бацька. Маці ў адзіночку выхоўвала пецярых дзяцей. Напалеон скончыў Свіслацкую гімназію (1823) і тры курсы Віленскага ўніверсітэта (1823-26). Гэтак жа, як шматлікія філаматы і філарэты быў арыштаваны за ўдзел у супрацьдзяржаўным таварыстве "Заране", правёў год і тры месяцы (1827-28) у турэмным зняволенні. Гэтак жа як Ігнат Дамейка, заняўся сельскай гаспадаркай, хапіла, зрэшты, ненадоўга - падаўся на вайсковую службу ў Літоўскі корпус коннай гвардыі. І таксама ў 1830 г. стаў удзельнікам лістападаўскага паўстання. Даслужыўся да чыну капітана, за адвагу ў бітве пад Коцкамі атрымаў вышэйшую ўзнагароду - залаты крыж Віртуці Мілітары. І пакараны быў таксама - пазбаўленнем Радзімы, як і шматлікія іншыя паўстанцы, стаў эмігрантам.

Францыя заўсёды з задавальненнем прымала эмігрантаў з Расійскай імперыі. У Парыжы Н. Орда знайшоў сябе як піяніст і кампазітар, вучыўся кампазіцыі ў Ф. Шапэна, складаў танцавальную музыку, некаторы час (некалькі месяцаў 1843 г. або два гады) быў дырэктарам парыжскага тэатра "Італьянская опера". Захапіўся архітэктурным пейзажам, вучыўся малюнку ў французскага пейзажыста П'ера Жэрара (1806-72). Ажаніўся на француженцы Ірэн Багле. Здзейсніў 13 вандровак з планшэтам, алоўкам і акварэльнымі фарбамі па Англіі, Шатландыі, Галандыі, Партугаліі, Іспаніі, Скандынавіі. А ў 1856 г., пасля смерці імператара Мікалая І і аб'яўлення амністыі паўстанцам 1830 г. вярнуўся на Радзіму, у дарагія сэрцу Варацэвічы. Пасля смерці маці (1859) Н. Орда страціў права на Варацэвічы, маёнтак быў забраны ў скарб. Напалеону выдалі 5790 рублёў і 50 капеек срэбрам і дазволілі арандаваць тры фермы з родавага маёнтка і маленькую хатку. Спрабаваў гаспадарыць, закупіў малатарні і земляробчыя прылады, выкапаў асушальную канаву, пачаў разводзіць быдла і авечак. І тут праспела паўстанне 1863 года. Прамога ўдзелу Н. Орда ў паўстанні не прымаў, тым не менш, у 1866 г. быў арыштаваны, і каля года адседзеў пад следствам у Кобрынскім шпіталі. Ваенна-палявы суд прысудзіў Н. Орду да высылкі ў аддаленыя губерні Расіі. Ад высылкі яго выратавалі ўплывовыя сваякі. У траўні 1867 г. Н. Орда атрымаў волю без усякіх сродкаў да існавання. Яго пазбавілі права на арэнду і забаранілі жыць у Варацэвічах (7).

Некаторы час жыў у сям'і сястры Гартэнзіі Скірмунт у маёнтку Моладава, затым у Гародні (1867-69). Прыняў запрашэнне стаць настаўнікам музыкі і жывапісу ў старэйшага сына генерала Адама Ржавускага, вядомага тым, што яго сястра Эвяліна Ганская была доўгія гады ў перапісцы з Бальзакам і ў апошнія 6 месяцаў яго жыцця жонкай. Жыў у маёнтках Ржавускіх. Пачаў падарожнічаць па Кіеўшчыне і Падоллі (1870-74), а потым усё далей і далей. Выбіраў галоўным чынам месцы, якія нагадвалі даўнія часы і абуджалі раман-



***Напалеон Орда***

тычныя ўспаміны. Спачатку малюнкі выконваў з чыстай любові да прыгажосці. Аднак збор украінскіх малюнкаў падштурхнуў яго да ідэі азнаёміць грамадскасць са сваімі работамі. Яго малюнкі друкаваліся ў папулярных польскіх выданнях пад рубрыкай "З папкі Напалеона Орды". У 1873 г. у Варшаве выйшаў першы "Album Widokow Historycznych Polski" накладам у тысячу асобнікаў і ў многіх шляхетных хатах сцены ўпрыгожыліся гэтымі літаграфіямі.

Замалёўваць гістарычныя аб'екты Напалеон Орда сістэматычна пачаў, калі яму споўнілася 63 гады. Інтэнсіўная праца прыйшлася на гады, калі звычайныя людзі абасноўваюцца ў адным месцы і займаюцца перажываннямі за сваё здароўе. У 1875-77 гг. Н. Орда падарожнічаў па Літве і Беларусі. З 1878 г пачаў асвойваць Польшчу. 13 гадоў не выпускаў алоўка з рук, за гэтыя гады здзейсніў нешта неверагоднае - пакінуў пасля сябе больш за тысячу малюнкаў і акварэляў, каля 200 з іх зробленых на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Ніхто, ні да яго, ні пасля нават не наблізіўся да гэтых лічбаў. Напалеон Орда стварыў мастацка-гістарычную выяву ідэальнага мінулага Беларусі, адзіны свайго роду даведнік гістарычных мясцін і архітэктурных помнікаў, адухоўлены любоўю да гэтых месцаў і да людзей, якія там жылі.

Яго архітэктурныя пейзажы ахапляюць практыч-

на ўсе найважныя тыпы архітэктуры - віды гарадоў і мястэчкаў, замкі, сакральныя будынкі, шляхецкія маёнткі і фальваркі, помнікі. Маляваў алоўкам і акварэльнымі фарбамі на белай паперы, часцей за ўсё ў фармаце 20х29 см, часам і менш 18х24 см. Блізкія планы пазначаў звычайна ў жаўтлява- бронзавых цёплых танах. Больш аддаленыя абшары - зімнымі адценнямі жоўтых таноў з блакітам. Кожны з малюнкаў наляпляў на больш ліст кардону і суправаджаў кароткімі тлумачальнымі тэкстамі: даваў назву, паведамляў краязнаўчыя і гістарычныя дадзеныя. На многіх малюнках паказваў дзень і месяц замалёўкі, на іншых толькі год. Часам памыляўся: малюнак “Гародня. Уезд у горад” датаваў 4 жніўня 1866 г. а сам у гэты час знаходзіўся пад арыштам у Кобрынскім шпіталі. У тых выпадках, калі яго прымалі, ён запісваў імя і прозвішча ўладальніка і чальцоў яго сям’і. Напрыклад, 26-29 ліпеня 1876 г. Н. Орда спыняўся ў Нясвіжскім замку, яго прымалі Антоні Радзівіл (1833-1904), яго жонка Марыя дэ Кастэляні (?-1915), іх дзеці: Георг 1860 г.н., Лізавета 1861 г.н., Алена 1874 г.н.

Большасць з архітэктурных пейзажаў Н. Орды дайшла да шырокай публікі дзякуючы альбомам літаграфій, выдадзеных у 1873-83 гг. у Варшаве. Пры жыцці ім было выдадзена 7 альбомаў, рыхтаваўся да выдання восьмы, і падрыхтаваныя былі дзевяты і дзесяты, якія так і не ўбачылі свету (8). Усяго было надрукавана 260 літаграфій, малюнкі ж яго доўгія гады заставаліся невядомымі.

Падрыхтоўку малюнкаў Н. Орды да выдання ажыццяўляў варшаўскі літограф Алойзы Місяровіч. Ён рыхтаваў літаграфічныя матрыцы ў такім жа фармаце, у такіх ж танах і з такім ж тэкстам. Разам з тым, А. Місяровіч, выкарыстаў дадатковыя тэхнічныя і мастацкія сродкі. Першым чынам, вельмі прафесійна скарыстоўваў святлацень. Малюнкі Орды ў літаграфіях прасторава расчыніліся і ажылі. З’явілася ўражанне мігацення і руху. З ценю Місяровіч выводзіў тыя элементы малюнка, якія жадаў падкрэсліць. Абшар каля гэтых элементаў Місяровіч таямніча завешваў паміж святлом і ценем, як бы паміж часовасцю і вечнасцю. У малюнкі ўстаўляў постаці людзей і жывёл, на дарогах у яго ва ўвесь апор нясуцца карэты, на водных абсягах праплываюць парусніккі. Літаграфічныя версіі А. Місяровіча больш выразныя, чым малюнкі Н. Орды: больш эмацыйныя, больш рамантычныя, поўныя ўнутранай напругі. Але яны меней дакументальныя і не заўсёды праўдзіва адлюстроўваюць сапраўдныя віды.

Памёр Н. Орда ў Варшаве ў 1883 г. Пахаваны ў Янаве (Іванаве) побач з маці. Магіла згубленая, захаваўся аскепак надмагільнай пліты. Хата згарэла ў 1943 г. У Парыжы маецца музей Н. Орды, у Іванаве ў 1997 г. устаноўлены помнік. У лютым 2007 г. адзначана 200- годдзе з дня нараджэння гэтага выбітнага Мастака, Кампазітара, Музыкі, Пісьменніка, Інтэлектуала і Патрыёта, “Вялікага песняра нашага мінулага бляску і славы нашай адышоўшай культуры”. Плануецца аднаўленне сядзібы Варацэвічы і адкрыццё музея.

***Літаратура:***


*1. Якімовіч Ю. Беларуская архітэктура ў малюнках Напалеона Орды. // Мастацтва Беларусі. № 7, 1983.*

*2. Пракопчык Л. Беларусь у творах Напалеона Орды.// Маладосць.1990 № 9, с.142-150.*

*3. Шэдэўры беларускай архітэктуры ў малюнках Напалеона Орды. Мінск, 1997.*

*4. Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX стагоддзя. Мінск, 2001.*

*5. Храмянкова Л. Тут нарадзіўся Напалеон Орда. // Роднае слова. 2002. № 3, с. 96-98.*

*6. Карпук І. З Варацэвічаў у Парыж. Дзяцінства і юнацтва Н. Орды.// Роднае слова. 2003. № 4, с.95-97.*

*7. Карпук І. Зноў на радзіме. Апошні перыяд жыцця Напалеона Орды. // Роднае слова. 2003. № 12, с. 66-68.*

*8. Lewandauskas V., Vajcekonyte-Kepezinskene R. Napoleonas Orda. Vilniaus. 2006. (260 малюнкаў і літаграфій)*

*9. Напалеон Орда. З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Мінск. 2006. (159 літаграфій).*


# Напалеон Орда і Лідскі павет

Вядомы 8 малюнкаў архітэктурных пейзажаў Лідскага павету, выкананых Н. Ордам: Больценікі, Вялікае Мажэйкава, Гайцюнішкі, Гародна, Жалудок, Ліда, Ражанка і Шаўры.

Больценікі, Вялікае Мажэйкава, Гайцюнішкі, Гародна, Жалудок, Ражанка вядомыя ў алоўкавых малюнках, падфарбаваных акварэльнымі фарбамі, Ліда і Шаўры - у выглядзе літаграфій.

## Больценікі

Подпіс: *“27 чэрвеня. Тут Марыя памерла, 1863, снежня 27. Маёмасць Станіслава Путкамера, сына Марыі Верашчакі, вядомай з паэзіі Міцкевіча пад імем Марылі”*. Н. Орда памыляўся: Марыля памерла ў Бражэльцах - суседнім маёнтку, які належаў Путкамерам, але быў вызвалены ад даўгоў пасагам Марылі.

Мураваны будынак, які замаляваў Н. Орда, быў пабудавана генерал-ад’ютантам Ваўжынцом Путкамерам (? -1809) у апошняй чвэрці 18 ст. у формах пераходных ад барока да класіцызму. На малюнку відаць, што дом быў аднапавярховым, меў высокі 4 - схільны ламаны дах, пакрыты гонтавай дошчачкай, мансарду з тэрасай, порцік з дзвюмя парамі калон, якія падтрымлівалі тэрасу. Перад домам размяшчаўся газон з пад’язным кругам, на краі газона стаяў невялікі драўляны флігель.

У гэтым доме бывалі Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка, Антоні Адынец, Томаш Зан, Міхал Балінскі. Гаспадаром дома ў чэрвені 1877 года быў 49-гадовы граф Станіслаў Путкамер (1828-1904), сын Ваўжынца Путкамера і Марылі Верашчакі. Ён быў жанаты на Феліцыі Кеневіч (? - 1899) з палескага маёнтка Іпалітава.

У 1890 г. будынак разабралі, і на яго месцы ўнук Марылі Ваўжынец Путкамер (1859 -?) пабудаваў з чырвонай цэглы новы дом ў стылі ангельскай псеўдаготыкі, які захаваўся да нашых дзён.



***Больценікі***

## Вялікае Мажэйкава

Без подпісу.

Сядзіба будавалася ў канцы 18-га стагоддзя сынам Яна Мікалаевіча Хадкевіча. Сядзібны комплекс уключаў сядзібны дом, парк, акружаны садам, флігель і гаспадарчыя пабудовы.

Н. Орда сядзібу маляваў з дарогі ранняй раніцай. Асноўны аб’ект малюнка - мураваная агароджа вакол сядзібы. Перад агароджай парадная пляцоўка. За высокімі іглічнымі насаджэннямі праглядаецца палац з порцікам. Злева невялікі флігель з ламаным гонтавым дахам.

У Хадкевічаў Вялікамажэйкаўскую сядзібу купіў у 1826 г. падкаморы Пружанскага павету Кароль Рафал Грабоўскі. Атрымаў у спадчыну граф Станіслаў Грабоўскі. Палац згарэў у 1914 г.

У дадзеным выпадку пад малюнкам няма ніякага запісу. Гэта досыць рэдкае для мастака з’ява. Дзіўна таксама, што ён не палічыў патрэбным замаляваць размешчаныя паблізу Ішчолнскі касцёл і пярліну беларускай архітэктуры Маламажэйкаўскую царкву.

## Гайцюнішкі

Подпіс: *“Маёмасць калісьці Сакенаў. Рамуальд Рымша; Гайцюнішкі, р. Жыжма. 28 чэрвеня 1877”.*

Прыпіска: *“Гайцюнішкі. Г. Віленская. Дамавіна ў касцеле кальвінскім - Пётр Нонхарт, жонка Мрзыглудаўна Шэметава, 1614 г. Маёмасць калісьці Сакенаў, зараз Рамуальда Рымшы”.*

Замалёваны двухпавярховы дом-цвердзь (мініяцюрны замак) памерам 15х34 м са сценамі таўшчынёй у 1,5 м. Збудаваны ў 1611-13 гг. начальнікам каралеўскіх будынкаў у Вільні, выхадцам з Галандыі архітэктарам і будаўнікам Пятром Нонхартам разам з інжынерамфартыфікатарам Ван Дадэнам па ўласным праекце.

На вуглах будынка, пабудаванага ў стылі рэнесансу бачны невялікія вежы цыліндрычнай формы з



***Вялікае Мажэйкава***



***Гайцюнішкі***

вокнамі-байніцамі. У цэнтральнай частцы, якая выступае наперад трохпавярховая прастакутная вежа (рызаліт) з аркай галоўнага ўваходу. Да ўязной аркі вядзе пад'язная дарога. Злева на малюнку драўляны будынак з мансардай і ламаным дахам.

Гайцюнішкамі валодалі наваградскі ваявода Ян Храптовіч, атрымаў у выглядзе пасагу Сюзанны Нонхарт, затым Літавор Храптовіч; у пачатку 18 стагоддзя - Шрэтары. У 1723 г. дзякуючы шлюбу з Даротай Шрэтар Гайцюнішкі аказаліся ў інфлянцкага стольніка Ваўжынца Путкамера. Затым уладальнікамі былі Остэн - Сакены, а з 1830 г па 1939 - Рымшы. У цяперашні час у доме размешчана лякарня для псіхічна хворых.

## **Гародна** (цяпер Пагародна)

Подпіс: *"Граф Маўрыці Патоцкі па гетмане Тышкевічы".*

Маёнтак Гародна ў сярэдзіне 18-га стагоддзя княгіня Саламея Сапега -Радзівіл падарыла далёкаму сваяку князю Людвіку Сумін-Тышкевічу, гетману польнаму, маршалку ВКЛ. У 1775 г. Людвік Тышкевіч ажаніўся на княгіні Канстанцыі Панятоўскай - дачцы роднага брата караля Станіслава -Аўгуста. На вясельным балі кароль паабяцаў маладому, што абавязкова наведае маёнтак Гародна. На працягу года Людвік Тышкевіч па праекту архітэктара Шымона Багуміла Зуго (1733-1807) пабудаваў драўляны вельмі прывабны палац у класічным стылі.

Палац складаўся з двух паверхаў: ніжняга прысадзістага з квадратнымі, вялікімі вокнамі, і верхняга высокага з падоўжанымі вокнамі. У цэнтры фасада трохвосевы рызаліт, да якога прылягаў прыкметна высунуты наперад порцік з 4-мя драўлянымі калонамі дарыйскага ордэна. Паміж трохкутным франтонам і антаблементам знаходзілася надбудова. У тымпане гербавы картуш. Да порціка вёў авальна закруглены пад'езд, абмежаваны бардзюрамі. Да галоўнага ўваходу вяла лесвіца з некалькіх дзесяткаў прыступак. Дах 4-схільны, накрыты дахоўкай (чарапіцай). Будынак абтынкаваны, што стварае ўражанне, быццам ён мураваны. На бакавіцы на другім паверсе дзвярны праём, да якога вядзе двухбаковая лесвіца, агароджаная металічнымі кратамі.

Каля самой высокай часткі двара відна цагляная капліца, прыкметна больш старажытная ў параўнанні з палацам, з рысамі позняга віленскага ракако. Галоўны фасад увагнутай формы, раздзелены пілястрамі з упрыгожваннямі і ракайльнымі капітэлямі. Завершаны фасад фігурным шчытом з гербавым картушам. Над шчытом маленькая званічка з крыжом. Уваход аформлены ў выглядзе партала, над ім акно. Бакавыя фасады раздзеленыя высокімі аконнымі праёмамі і магутнымі контрфорсамі.



***Гародна***

Насупраць палаца 15-восевы аднапавярховы драўляны флігель даволі сціплага выгляду. Будынак без падмурка, пакрыты 4-схільным гонтавым дахам з 2 слухавымі вокнамі на доўгім баку і адным на кароткім. Сцены флігеля абтынкаваны ў светлы колер. На кожным з бакоў флігеля свой уваход з прыступкамі, прыкрытыя зверху падстрэшкамі, якія абапіраюцца на два слупы.

Пасля смерці Людвіка Скумін-Тышкевіча Гародна дасталася яго адзінай дачцы Ганне (1779-1867). Яна была замужам за Аляксандрам Патоцкім, а потым за Станіславам Дунінам-Вансоўскім. Тастамантам ад 1867 года Ганна перапісала Гародна сыну ад першага шлюбу М. Патоцкаму (1812-1879). Пасля яго смерці ўсё перайшло графу Аўгусту Патоцкаму. Напрыканцы XIX ст. А. Патоцкі прадаў Гародна рускаму генералу Асатураву, ад якога маёнтак перайшоў да графа Ігнаццева, а ад яго да генерала Кіпрыяна Кандратовіча, а пасля яго смерці ў 1932 годзе да яго жонкі Ады Кандратовіч, якая пакінула маёнтак 17 верасня 1939 года і праз Літву з’ехала да дачкі ў Англію.

Палац быў спалены ў 1944 годзе 2-ім батальёнам 77-га палка Арміі Краёвай падчас нападу на раскватараваную там нямецкую залогу.

## Жалудок

Подпіс: *“Жалудок. Магіла Ант. Тызенгаўза”.*

Замалёваны касцёл Ушэсця Найсвяцейшай панны Марыі, двухярусная чатырохгранная званіца з двума званамі і частка аднапавярховай плябані.

Касцёл пабудаваны ў 1854 г. на сродкі графіні Германцыі Тызенгаўз у замужжы Урускай па праекце выхадца Лідскага павету архітэктара Караля Падчашынскага з цэглы і валуноў у стылі позняга класіцызму. Гэта прастакутны будынак з дзвюма капліцамі, якія прымыкаюць да яго. Перад уваходам масіўны 4-калонны дарыйскі порцік з трохкутным франтонам. Тымпан франтона запоўнены гарэльефнай кампазіцыяй. Над галоўным фасадам 8-гранная шатровая званіца і такая ж званічка над алтарнай часткай. Бакавыя сцены завершаныя шырокім антаблементам, упрыгожаны абтынкаванымі шырокімі пілястрамі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Дах двухсхільны.

Лічыцца, што ў падзямеллях касцёла знаходзяцца пахаванні знакамітага рэфарматара, Літоўскага падскарбія, старасты гарадзенскага і шаўляйскага Антонія Тызенгаўза (1735-1785), а таксама Ігната Тызенгаўза (каля 1780-1822) і Рудольфа Тызенгаўза (каля1772-1830). Парэшткі Тызенгаўзаў былі перанесеныя сюды з касцёла кармелітаў, які стаяў у Фарным канцы Жалудка.

Будынак касцёла захаваўся, зніклі шатровая званіца і званічка.



***Жалудок***

## **Ліда** над ракой Лідзейкай

Подпіс: *“Вельмі старажытнае мястэчка. Руіны замка, збудаванага вялікім князем літоўскім Гедзімінам у 1323 годзе. У замак прыязджалі вялікія князі Вітаўт, Ягайла, Аляксандр Ягелончык. Тут жыў татарскі хан Тахтамыш. Лідскім старастам быў Хаджы-Гірэй, які пазней стаў крымскім ханам. Замак разбураны шведамі каля 1710 года”.*

Замалёваны Лідскі замак, даліна р. Лідзейкі, Крыжаўзвіжанскі касцёл, дарога па дамбе. Малюнак Лідскага замка выкананы пасля 1872 г. - гэта можна сцвярджаць цалкам упэўнена, паколькі на літаграфіі прысутнічаюць слупы тэлеграфнай лініі, якая была пракладзеная ў 1872 г.

Нажаль, малюнак Лідскага замка Н. Орды не вядомы, а літаграфія мае шэраг сур’ёзных недакладнасцяў. Вежы замка высунутыя за знешнюю мяжу сценаў, малы ўваход вынесены на сярэдзіну ўсходняй сцяны, сцены аднолькавыя да ўзроўню байніц. Раней выкананыя работы Юзафа Пешкі (1767-1831) - акварэль канца 18-га стагоддзя, малюнкі Вінцэнта Дмахоўскага (1807-1862) і Васіля Гразнова ( ? -1909) больш дакладна адлюстроўваюць сітуацыю. І калі дамалёваная верхняя частка ўсходняй сцяны надае замку вялікую суровасць і магутнасць - дапушчальнае для мастака перабольшванне, то высунутыя за межы сценаў вежы - гэты значнае адступленне ад фартыфікацыйных асаблівасцяў замка, якое наводзіць на разважанне - не ці ўведзеныя гэтыя дэталі літографам А. Місяровічам.

Замак і касцёл захаваліся.



***Ліда***

## Ражанка

Подпіс: *“Ражанка фаміліі Пацаў. Губ. Гарадзенская”.*

На малюнку адлюстраваныя Петрапаўлаўскі мураваны касцёл, драўляная ажурная 4-гранная званіца з востраканцовым дахам і драўляная аднапавярховая плябанія.

Храм быў пабудаваны з цэглы і валуноў у 1674 г. і перабудаваны ў 1827 г. у неагатычным стылі па праекце архітэктара Хенрыка Марцоні на сродкі Людвіка Паца. Гэта быў першы неагатычны будынак на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Званіца была пабудаваная ў першай палове 19-га стагоддзя.

Храм аднанефавы з ніжэйшай 5-граннай абсідай. Да бакавой сцяны асноўнага аб’ёму прыбудована капліца. Фасад упрыгожаны спічастым парталам, разеткай (круглае акно-ружа) і шырокім арнаменталь-

ным поясам дэкаратыўнага фрыза. Увенчвае яго абмежаваны па баках пінаклямі (вежкамі) зубчасты шчыт, дэкараваны арнаментам у выглядзе вузкіх выцягнутых спічастых ніш з арачнымі завяршэннямі, і гербавы картуш. Падобны, меншага памеру франтон з пінаклямі, але без арнаменту ўвенчвае шчыт капліцы. Узбоч фасада размешчаная трохярусная вежа (васьмярык на двух паўасьмінах), накрытая 8-гранным востраканцовым дахам. Вуглы фасада і капліцы ўзмоцненыя контрфорсамі. Вокны высокія спічастыя, з узорнымі вітражамі.

Арыгінальны выгляд і каляровае афармленне будынку ствараюць сцены, выкананыя з цёмнага каменю, і светлыя абтынкаваныя архітэктурныя дэталі і карнізы, а таксама апраўленне вокнаў і дзвярэй.

У 1924-25 гадах касцёл перабудоўваўся.

## Шаўры

Подпіс: *"Уласнасць Тэадора Нарбута, аўтара "Гісторыі літоўскага народа". Нарадзіўся ў 1784 годзе, памёр у 1864 годзе".*

Літаграфія маёнтка Шаўры выклікае сумневы, нягледзячы на тое, што мае наддрукоўку: "Малюнак Н. Орды з натуры". Справа ў тым, што родавае гняздо сямейства Нарбутаў Шаўры па распараджэнні губернатара Мураўёва было знішчана ў 1864 г. за ўдзел Т. Нарбута і яго дзяцей у паўстанні 1863 г. У 1875-77 гадах, калі Н. Орда быў паблізу, жылога дома і гаспадарчых пабудоў не існавала.

---

Толькі тры малюнкі з васьмі датаваныя: Жалудок 16 траўня, Больценікі - 27 чэрвеня, Гайцюнішкі - 28 чэрвеня 1877 года. Відавочна, што Больценікі Н. Орда замаляваў 27 чэрвеня 1877 г: Больтенікі і Гайцюнішкі размешчаныя побач. У Жалудку ён мог быць 16 траўня 1876 або 1877 г. Але 16 траўня 1876 года мастак быў у Геранёнах. Паколькі ў адзін і той жа дзень маляваць у Геранёнах і Жалудку было немагчыма, то гэта значыць, што ў Жалудку ён мог быць толькі ў 1877 г. За дзень можна было праехаць з Жалудка ў Геранёны - гэта 80 км, але пры гэтым яшчэ намаляваць 3 малюнкі, адзін у Жалудку і два ў Геранёнах, немагчыма.

Малюнак Гародна не датаваны, аднак запіс на малюнку "граф Маўрыцi Патоцкі" абмяжоўвае магчымы час малюнка адрэзкам паміж 1867- 1879 гадамі, а паколькі палац на малюнку ўжо абтынкаваны, а дах накрыты дахоўкай, то гэта магло быць толькі ў 1875-77 гадах.

Звычайна зіму Н. Орда праводзіў у Пінску ў палацы Бутрымовічаў. Адгэтуль, з поўдня пачынаў маршруты, паступова перамяшчаючыся на поўнач. Першыя малюнкі звычайна датуюцца другой паловай траўня (у 1875 г. пачаў вандраванне ў канцы красавіка), апошнія - пачаткам верасня.

З агульнай схемы меркаваных маршрутаў 1875-77 гг. *(гл. Дадатак 2)* выцякае, што Н. Орда двойчы перасякаў Лідскі павет з поўдня на поўнач, у траўні 1876 і ў чэрвені 1877 г. У траўні 1876 г. Н. Орда праехаў па маршруце: Ражанка - Вялікае Мажэйкава - Ліда - Геранёны (16 траўня) - Жэмыслаў - Гальшаны (18 траўня) - Гейстуны (19 траўня) - Баруны - Крэва (20 траўня).

У чэрвені 1877 г. ён праехаў па маршруце: Гнезна (6 чэрвеня) - Рось (7 чэрвеня) ... Масаляны (24 чэрвеня)… Шаўры - Гародна - Больценікі (27 чэрвеня) - Гайцюнішкі (28 чэрвеня) - Яшуны - Вільня (3 ліпеня).

***Дадатак1***

# Малюнкі Напалеона Орды датаваныя ім самім

**1860:** Варацэвічы, 14-15 жніўня.

**1861:** Янаў *(Іванава),* 26 траўня; Пянюга *Зэльвенскага,* 1 - 4 чэрвеня (2 малюнкі); Язвіны *Драгічынскага*, 8 чэрвеня - першы кароткі маршрут па вяртанні з Парыжа ў Варацэвічы.

**1862:** ні аднаго малюнка.

**1863:** Закозель *Драгічынскага, у Ажэшка,* 24 лютага; Брэнна, 13 сакавіка; Ружаны, 27 сакавіка (2 малюнкі), Івашковічы *Зэльвенскага*, 4 красавіка; Магільна *Уздзенскага*, 21 ліпеня; Наваградак, 29 ліпеня; Здзецел *(Дзятлава)* (у 1864 г вайсковыя інжынеры перабудавалі палац, і ён ужо меў плоскія, пакрытыя бляхай схілы); Юзафполь *Свіслацкага*, 25 жніўня; Навашына *Карэліцкага*, 19 верасня. Незвычайная актыўнасць, рух пачаў у лютым, мог наведаць Завоссе, Нясвіж.

**1864:** Моладаў (Моладава), 11 чэрвеня (2 малюнкі) - раз'язджаць небяспечна, паўстанне.

**1865:** Пяскі, 8 сакавіка; Альберцінаў ,11 сакавіка; Жыровічы, 14 сакавіка.

**1866 -67:** сядзеў у Кобрынскай турме з лютага 1866 па травень 1867. Маляваў Кобрын 1 сакавіка -6 траўня.

**1867- 69:** жыў у Гародні. Гародня 23 траўня 1867, 15 чэрвеня 1867, 10 ліпеня 1867, 20 верасня 1867 і інш.

**1868:** Абрэнбшчына *(Абрубшчына)*, Вайцахоўшчына, Геранімава, Муравана, 4 красавіка; Лішкаў *(Лішкява)*, 30 красавіка; Друскенікі *(Друскінінкай)*, 2 траўня- 5 чэрвеня (11 малюнкаў), Ротніца *(Ратнічое)* (2 малюнкі), Мерач *(Мяркіне)*, 21 чэрвеня, Краснікі, 24 чэрвеня; Свіслач, 7 ліпеня (3 малюнкі), Тураў, Пінск ,18

кастрычніка і 15 лістапада (3 малюнкі).

**1869:** Гародня: Каложа, 4 красавіка; Янаў *(Іванава)*, 10 верасня.

**1870:** Пятровічы, 11 лютага (2 малюнкі), апошнія малюнкі перад ад'ездам у Кіеў.

**1870-74:** у Кіеўскай губерні (106 малюнкаў).

**1875 год з адзнакай дня, месяца і года.**

Вільня, 10 траўня - Коўна *(Каўнас),* 24-25 ліпеня (4 малюнкі) - Крэтынга, 14-15 жніўня (4 малюнкі) - Beржаны, 23 жніўня -Кейданы *(Кедайняй),* 30 жніўня (3 малюнкі) - Солы *(Салос),* 8 верасня - Біржы *(Біржай),* 16-17 верасня (5 малюнкаў).

**1875 год - дададзеныя малюнкі з адзнакай дня.**

Вільня, 10 траўня -3 чэрвеня (9 малюнкаў). Варняны (РБ), 13 ліпеня (2 малюнкі) - *Дукштас,* 16 ліпеня - Кернаў (*Кярнаве*), 16 ліпеня - Пабойск (*Пабайске*), 18 ліпеня - Вількамір *(Укмерге),* 20 ліпеня - Коўня *(Каўнас),* 24-25 ліпеня (4 малюнкі) - Чырвоны Двор (*Раўдандварыс*), 26 ліпеня - Срэднік (*Сяряджюс*), 28 ліпеня (2 малюнкі)- Бельвядэр, 29 ліпеня (2 малюнкі) - Вялона (*Вялюона*), 1 жніўня (2 малюнкі) - *Панемуне,* 2 жніўня (2 малюнкі)- Юрбург (*Юрбаркас*), 2 жніўня- Кражэ (*Кражяй*), 5 жніўня (2 малюнкі) - Варні (*Варняй*), 5 жніўня - Рэтаў (*Рыетава*), 7 жніўня (3 малюнкі) - Цельшы (*Цяльшай*), 9 жніўня - Паланга, 12 жніўня (2 малюнкі) - Крэтынга, 14-15 жніўня (4 малюнкі) - Шатэйкі (*Сатэйкяй*), 19 жніўня - Платэле (*Плателяй*), 20 жніўня - Кальварыя, 20 жніўня - Рэнаў (*Рэнава*), 22 жніўня (2 малюнкі) - Бержаны, 23 жніўня - Шаўлі (*Шаўляй*), 24 жніўня (2 малюнкі) - Шадува (*Раўдандварыс*), 26 жніўня- Бейсагала (*Байсогала*), 25 жніўня -Грынкішкі (*Грынкішкіс*), 28 жніўня - Шыдлоў (*Шыдува*), 28 жніўня - Кейданы (*Кедайняй*), 30 жніўня (3 малюнкі) - Тавяны (*Тайенай*), 2 верасня (2 малюнкі) - Рагувек (*Рагулеве*), 3 верасня - Солы (*Салос*) 8 верасня - Антонаш (*Антанаше*), 10 верасня - Ханушышкі (*Онушкіс*), 12 верасня - Біржы (*Біржай*), 16-17 верасня (5 малюнкаў)- Трокі (Тракай), 27 верасня (2 малюнкі) - Ландвараў (*Лентварыс*), 28 верасня (2 малюнкі) - Кайраны (*Кайрэнай*), 28 верасня.

**1876 год з адзнакай дня, месяца і года.**

Камянец, 20 красавіка (2 малюнкі) - Гальшаны 18 траўня (2 малюнкі) - Балтуп, 20-21 траўня (2 малюнкі). Немянчыне, 6 чэрвеня- Дубінкі (*Дубінгай*), 6 чэрвеня - Бяльмонты (Ахрэмаўцы, РБ), 12 чэрвеня (3 малюнкі)- Дукора, 4 ліпеня - Койданава, 13 ліпеня - Обрын, 17 ліпеня - Туганавічы (*Корчава*), 23- 24 ліпеня (3 малюнкі) - Нясвіж, 26-29 ліпеня (6 малюнкаў) - Наваградак, 29 ліпеня - Савічы, 31 ліпеня - Жукаў Барок, 15 жніўня - Наваградак, 20 жніўня- Ішкалдзь, 28 жніўня- Жыровічы, 8 верасня.

**1876 г. - дададзеныя малюнкі з адзнакай дня.**

Камянец, 20 красавіка (2 малюнкі) - Высока-Літоўск *(Высокае),* 23 красавіка (2 малюнкі) - Геранёны, 16 траўня (2 малюнкі) - Гальшаны, 18 траўня (2 малюнкі)- Гейстуны, 19 траўня - Крэва, 20 траўня - Балтуп, 20-21 траўня (2 малюнкі) - Меднікі, 21 траўня. Немянчыне, 6 чэрвеня - Дубінкі *(Дубінгай),* 6 чэрвеня - Бяльмонты (Ахрэмаўцы, РБ), 12 чэрвеня (3 малюнкі) - Друя, 15 чэрвеня - Юстыянава, 24 чэрвеня - Валынцы, 25 чэрвеня - Віцебск, 27 чэрвеня - Гайна, 29 чэрвеня - Дукора, 4 ліпеня. Койданава, 13 ліпеня - Гарадзея,15 ліпеня - Обрын, 17 ліпеня - Паланечка, 18 ліпеня - Прылукі, 19 ліпеня - Туганавічы *(Корчава),* 23- 24 ліпеня (3 малюнкі)- Нясвіж, 26-29 ліпеня (6 малюнкаў) - Наваградак, 29 ліпеня - Савічы, 31 ліпеня - Слуцк, 4 жніўня (2 малюнкі) - Жукаў Барок, 15 жніўня - Наваградак, 20 жніўня - Ішкалдзь, 28 жніўня, Жыровічы, 8 верасня.

**1877 год з адзнакай дня, месяца і года.**

Дзярэчын, 21 траўня (2 малюнкі)- Альберцінаў, 24 траўня - Лыскава, 31 траўня - Гнезна, 6 чэрвеня - Рось, 7 чэрвеня - Гайцюнішкі, 28 чэрвеня - Вільня, 3 ліпеня - Веркі (4 малюнкі), 2-3 ліпеня - Магілёў, 10 жніўня - Масальшчына, 11 жніўня - Дашкаўка, 15 жніўня - Турск, 24 жніўня - Хальч, 31 жніўня.

**1877 год - дададзеныя малюнкі з адзнакай дня.**

Жалудок, 16 траўня - Страла, 19 траўня - Дзярэчын, 21 траўня (2 малюнкі) - Альберцінаў, 24 траўня, Лыскава, 31 траўня, Гнезна, 6 чэрвеня - Рось, 7 чэрвеня. Масаляны, 24 чэрвеня (2 малюнкі) - Больценікі, 27 чэрвеня - Гайцюнішкі, 28 чэрвеня - Судэрве, 2-3 ліпеня - Вільня, 3 ліпеня - Веркі, 2- 3 ліпеня (4 малюнкі) - Беніца *(Маладзеч.),* 20 ліпеня - Магілёў, 10 жніўня, Масальшчына, 11 жніўня, Дашкаўка, 15 жніўня- Турск, 24 жніўня - Хальч, 31 жніўня.

***Дадатак 2***

# Меркаваныя маршруты Н. Орды па Літве і Беларусі у 1875-1877 гадах

**Маршрут 1875 года (па Левандаўскасу Ў., 2006, з дапаўненнямі):**

Вільня, 10 траўня -3 чэрвеня (9 малюнкаў). Варняны (РБ), 13 ліпеня (2 малюнкі) - Мейкштай - Дуды - Дукштас, 16 ліпеня - Кернаў *(Кярнаве),* 16 ліпеня - Хрэснічкі *(Крыкштэнай)* - Пабойск (Пабайске), 18 ліпеня- Вайткішкі *(Вайткушкіё)* (4 малюнкі) - Вількамір *(Укмерге),* 20 ліпеня - Дзевялтаў *(Делтува)* - Іёнава - Коўня *(Каўнас),* 24-25 ліпеня (4 малюнкі) - Чырвоны Двор *(Раўдандварыс),* 26 ліпеня - Срэднік *(Сяраджус),* 28 ліпеня (2 малюнкі) - Бельвядэр, 29 ліпеня (2 малюнкі)- Вялона *(Вялюона),* 1 жніўня (2 малюнкі) - Панямуне, 2 жніўня (2 малюнкі)- Юрбург *(Юрбаркас),* 2 жніўня- Кражэ *(Кражай),* 5 жніўня (2 малюнкі) - Варні *(Вар-*

*няй),* 5 жніўня - Рэтаў *(Рыетава),* 7 жніўня (3 малюнкі) - Цельшы *(Цяльшай),* 9 жніўня - Паланга, 12 жніўня (2 малюнкі) - Крэтынга, 14-15 жніўня (4 малюнкі) - Шатэйкі *(Сатэйкяй),* 19 жніўня- Платэле *(Платэляй),* 20 жніўня - Кальварыя, 20 жніўня- Рэнаў *(Рэнава),* 22 жніўня (2 малюнкі) - Бержаны, 23 жніўня- Шаўлі *(Шаўляй),* 24 жніўня (2 малюнкі)- Шадува *(Раўдандварыс),* 26 жніўня-Бейсагала *(Байсагала),* 25 жніўня-Грынкішкі *(Грынкішкіс),* 28 жніўня - Шыдлоў *(Шылува),* 28 жніўня -Кейданы *(Кедайняй),* 30 жніўня (3 малюнкі)- Сесіке *(Сесікяй)* - Тавяны *(Тайенай),* 2 верасня (2 малюнкі) - Рагувек *(Рагулеве),* 3 верасня - Паёсце *(Паюсціс)*- Палавен *(Палевене)*- Солы *(Салас),* 8 верасня - Антонаш *(Антанаше),* 10 верасня - Ракішкі *(Ракішкіс)* - Ханушышкі *(Анушкіс),* 12 верасня - Панямунь *(Панемуніс)* - Біржы *(Біржай),* 16-17 верасня (5 малюнкаў), Езна (Езнас)- Трокі *(Тракай),* 27 верасня (2 малюнкі) - Ландвараў *(Лентварыс),* 28 верасня (2 малюнкі)- Кайраны *(Кайранай)* 28 верасня.

Бельвядэр Арда датаваў 29 жніўня, а быў там 29 ліпеня.

**Маршрут 1876 года.**

Камянец, 20 красавіка (2 малюнкі) - Высока-Літоўск *(Высокае),* 23 красавіка (2 малюнкі), Ражанка,- Вялікае Мажэйкава - Ліда - Геранёны 16 траўня (2 малюнкі)- Жэмласлаў *(Жамыслаў)* - Гальшаны, 18 траўня (2 малюнкі)- Гейстуны, 19 траўня - Баруны - Крэва, 20 траўня - Болтуп, 20-21 траўня (2 малюнкі) - Меднікі, 21 траўня. Ваку *(Траку Воке),* 5 чэрвеня- Немянчыне, 6 чэрвеня - Дубінкі *(Дубінгай),* 6 чэрвеня- Бяльмонты *(Ахрэмаўцы, РБ),* 12 чэрвеня (3 малюнкі) - Друя, 15 чэрвеня - Сар'я - Асвея - Юстыянава, 24 чэрвеня - Валынцы, 25 чэрвеня - Полацк (2 малюнкі) - Обаль - Віцебск, 27 чэрвеня - Бешанковічы - Гайна, 29 чэрвеня - Лагойск - Астрашыцкі гарадок - Менск - Смілавічы - Убель (2 малюнкі) - Дукора, 4 ліпеня - Койданава, 13 ліпеня - Гарадзея, 15 ліпеня - Обрын, 17 ліпеня - Паланечка, 18 ліпеня - Прылукі 19 ліпеня - Варонча - Тугановічы *(Корчава),* 23- 24 ліпеня (3 малюнкі)- Сноў - Нясвіж, 26-29 ліпеня (6 малюнкаў) - Савічы *(Капыльскі р-н),* 31 ліпеня - Слуцк, 4 жніўня (2 малюнкі), Смольгава *(Любанскі р-н)* - Жукаў Барок *(Стаўбцоўскі р-н),* 15 жніўня - Мір - Наваградак, 20 жніўня, Бурдукоўшчына *(Буйновічы)*, Ішкалдзь *(Баранавіцкі р-н),* 28 жніўня - Своратва, Жыровічы, 8 верасня - Дзявятковічы.

**Маршрут 1877 года.**

Жалудок, 16 траўня - Страла, 19 траўня -Дзярэчын, 21 траўня (2 малюнкі)- Альберцінаў, 24 траўня - Лыскава, 31 траўня - Гнезна, 6 чэрвеня - Рось, 7 чэрвеня - Масаляны, 24 чэрвеня (2 малюнкі)… Шаўры - Гародна - Больценікі, 27 чэрвеня - Гайцюнішкі, 28 чэрвеня - Яшуны (2 малюнкі)- Сударве, 2-3 ліпеня - Вільня, 3 ліпеня - Веркі, 2- 3 ліпеня (4 малюнкі). … - Беніца *(Маладзечанскі р-н),* 20 ліпеня - Ручыца *(Вілейскі р-н)* …. - Гародня *(Аршанскі р-н)* - Нізоўцы *(Шклоўскі р-н)* - Магілёў, 10 жніўня - Масальшчына, 11 жніўня - Дашкаўка, 15 жніўня - Турск, 24 жніўня - Хальч, 31 жніўня - Гомель.

Пасля Магілёва Н. Орда "патрапіў у рукі" сямейства Цеханавецкіх-Сенажацкіх і маляваў палацы.

Масальшчына: уладальнік палаца Ўладзімір Цеханавецкі - жонка Людвіка Сенажацкая.

Дашкаўка: уладальнік палаца Жукоўскі Эдвард - жонка Эмілія Цеханавецкая.

Турск: уладальнік палаца Ўладзіслаў Сенажацкі.

Хальч: уладальнік палаца Аляксандр Сенажацкі - жонка Тарэза Цеханавецкая.

З Гомеля на цягніку з'ехаў у Менск і далей альбо ў Варшаву альбо ў Моладава.

***Дататак 3***

# Н. Орда на Гарадзеншчыне

**Бераставіцкі раён:** Мураваная (4 красавіка 1868), Вайцяхоўшчына (1868), Краснікі (24 чэрвеня 1868), Масаляны (24 чэрвеня 1877).

**Ваўкавыскі раён:** Даўніны (1861-63), Гнезна (6 чэрвеня 1877), Рось (7 чэрвеня 1877).

**Воранаўскі р-н:** Шаўры (чэрвень 1877), Гародна (Пагародна) (чэрвень 1877), Больценікі (27 чэрвеня 1877), Гайцюнішкі (28 чэрвеня 1877).

**Гарадзенскі раён:** Абрэнбшчына (1868), Алешавічы (1867-69), Тленна (13 сакавіка 1863), Геранімава (1868), Чырвоная Рэчка (20 ліпеня, 1867-69), Станіслававa (28 ліпеня, 1867-69), Гародня (1867-69), Скідаль (1867-69).

**Дзятлаўскі р-н:** Страла (19 траўня 1877), Дзятлава (1861-63).

**Зэльвенскі р-н:** Івашкавічы (4 красавіка 1863), Пянюга (2 мал., 1-4 чэрвеня 1861), Дзярэчын (21 траўня 1877).

**Іўеўскі р-н:** Геранёны (16 траўня 1876), Жамыслаў (17 траўня 1876).

**Карэліцкі р-н:** Навашына (19 верасня 1863), Воронча (ліпень 1876), Мір (жнівень 1876).

**Лідскі р-н:** Ліда (травень 1876).

**Наваградскі р-н:** Обрын (17 ліпеня 1876), Наваградак (29 ліпеня і 20 жніўня 1876).

**Астравецкі р-н:** Варняны (13 ліпеня 1875).

**Ашмянскі р-н:** Гальшаны (18 траўня 1876), Гейстуны (19 траўня 1876), Баруны (19 траўня 1876), Болтуп (20 -21 траўня 1876).

**Свіслацкі р-н:** Юзафполь (25 жніўня 1863), Свіслач (2) (1868).

**Слонімскі р-н:** Дзявятковічы (верасень 1876), Альберцінаў (2 мал., 1865, 24 траўня 1877).

**Смаргонські р-н:** Крэва (20 траўня 1876).

**Шчучынскі р-н:** Вялікае Мажэйкава (травень 1876), Ражанка (красавік -травень 1876).

***Валеры Сліўкін.***

# Валеры Антоні Ўрублеўскі - генерал Парыжскай камуны 1871 г.

## *170 гадоў з дня нараджэння, 15.12.1836 - 5.8.1908*

### *Як і калі Ўрублеўскі стаў Валерыем*

***У мінулым нумары "Лідскага летапісца" адносна імені Валерыя Антонія Ўрублеўскага была зроблена заўвага (у хрышчэнні Валяр'ян, Waleryan), якая выклікала пэўныя пытанні.***

***У распараджэнні рэдакцыі маецца фотакопія запісу ў метрычнай кнізе Жалудокскага парафіяльнага касцёла, які быў зроблены 22 снежня 1836 года, праз тыдзень пасля нараджэння.***

***Польскі тэкст запісу на фотакопіі чытаецца даволі цяжка (падобна,*** **Walerya,*)*, *а вось рускі пераклад дастаткова выразны. Імя ахрышчанага Урублеўскага падаецца як*** **"Валеріянъ: Антоній".**

***Невялікае мястэчка Жалудок, у тыя гады налічвала ўсяго 130 хат і 674 жыхары. Два млыны шумелі на Жалудзянцы, касцёл быў адзін, запіс тычыцца дакладна будучага паўстанцкага камандзіра.***

***У расейскіх дакументах часоў вучобы ў Лясным інстытуце Урублеўскі праходзіць пад імем*** **Валеріанъ.** ***Пад гэтым жа імем Урублеўскі праходзіць у данясеннях расійскіх афіцэраў падчас паўстання 1863 года.***

***А вось ліст да Энгельса за 1878 год, напісаны на французскай мове, Урублеўскі падпісвае*** **Walery Wrvblevsci.**



**Запіс у метрычнай кнізе пра хрышчэнне Ўрублеўскага**

***Такім чынам трэба думаць, што, менавіта зыходзячы з гэтага французскага напісання, пазнейшыя рускія, літоўскія і беларускія даследчыкі пачалі выкарыстоўваць імя*** **Валерий (Валеры).** ***Польская*** **"Wielka encyklopedia powszechna PWN"** ***1969 года падае таксама французкі варыянт напісання імені Ўрублеўскага*** **Walery Antoni.**

***Сёння можна толькі здагадвацца, як называлі Ўрублеўскага сябры і землякі. Магчыма, што прыродная форма*** **Валяр'ян** ***у Францыі зусім сышла з ужытку і ўжывалася толькі французская форма, асабліва калі размаўлялі па-французску. А вось калі мы гаворым пра Ўрублеўскага часоў паўстання 1863 года, то больш правамерна ўсё-такі ўжываць імя*** **Валяр'ян,** ***хаця ўсе прывыклі да*** **Валерыя.**

# Урублеўскі ў Парыжы

Праз кароткі прамежак часу пасля выезду з Польшчы Урублеўскі дабраўся да Парыжа і тварам да твару сустрэўся з тымі цяжкасцямі, што цярпелі шматлікія яго суайчыннікі і паплечнікі па паўстанцкай барацьбе, якія апынуліся ў эміграцыі. Рука, якая амаль не рухалася пасля ранення, вельмі абмяжоўвала магчымасці Урублеўскага пры пошуку заробку: ён змог уладкавацца толькі ліхтаршчыкам. Яго абавязкі не складаныя: сачыць за спраўнасцю газавых ліхтароў у некалькіх кварталах, увечар запальваць іх, а рана раніцай тушыць. Дрэнна тое, што ён павінен быў рабіць усё гэта ў любое надвор'е - у спякоту і мароз, у дождж і ў снег; цяжка было насіць на зраненых плячах цяжкую лесвіцу, няёмка караскацца на яе і важдацца з ліхтаром, калі дзейнічае толькі адна рука.

Але самае горшае ў тым, што заработная плата не можа забяспечыць яго вельмі сціплых патрэбнасцяў: яму няма чым плаціць за пакойчык, у якім ён пасяліўся, даводзілася нярэдка сядзець без кавалка хлеба. Аднак ён ніколі не жаліўся і ні ад каго не прымаў дапамогі.

Першы час усе зацікаўленні Урублеўскага былі звязаныя з тым, што адбывалася ў Царстве Польскім і ва ўсёй Расійскай імперыі. Як і многія іншыя, ён яшчэ верыў у магчымасць новага ўзброенага выступу ў бліжэйшы час, стараўся ўсталяваць кантакты з тымі, хто застаўся на радзіме, шукаў спосабаў самому вярнуцца туды. Пастунова ён зразумеў, што царызму ўдалося задушыць рэвалюцыйны рух у Польшчы і Беларусі, а без гэтага было чаго думаць аб новых баях. Улетку 1865 года да Ўрублеўскага дайшлі звесткі аб рускіх і польскіх падпольных арганізацыях, прывезеныя З. Минейкам і Я. Дамброўскім. Аднак гаворка ішла аб рускіх гарадах, аб месцах, дзе засяроджваліся рэпрэсаваныя ўдзельнікі польскага і беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, але не аб землях Рэчы Паспалітай. У 1866 годзе да Парыжа дайшлі чуткі аб жорсткім задушэнні паўстання ссыльных у Забайкаллі. Задуманае як шырокая сумесная акцыя польскіх, беларускіх і рускіх рэвалюцыянераў, яно ў выніку правалаў і няўдач вылілася ў акт адчаю, які ў лепшым выпадку мог скончыцца толькі ўцёкамі некалькіх соцень палітычных зняволеных.

Сваімі надзеямі і расчараваннямі Ўрублеўскі заўсёды дзяліўся з Дамброўскім. Да моманту іх сустрэчы ў Парыжы прайшло нямногім больш шасці гадоў з тых часоў, як яны пазнаёміліся ў Пецярбурзе. Час і цяжкія раны, атрыманыя падчас паўстання, моцна змянілі аблічча Ўрублеўскага. У худым, трохі сутулым, немаладым на выгляд мужчыне з высокім ілбом і доўгімі павойнымі валасамі Дамброўскі ні зашто не пазнаў бы Ўрублеўскага, калі б сустрэў яго на вуліцы. Дамброўскі змяніўся значна менш, і Ўрублеўскі пазнаў яго адразу. Пасля сходу, на якім адбылася сустрэча, Дамброўскі запрасіў Урублеўскага да сабе, пазнаёміў яго з жонкай, паказаў дзіця, якое нарадзілася нядаўна. Некалькі гадзін яны прысвяцілі ўспамінам.

Што тычыцца эмігранцкіх спраў, то галоўным



***Я. Дамброўскі***

тут Урублеўскі лічыў згуртаванне сіл вакол паслядоўна дэмакратычных мэтаў барацьбы. Тыя спробы аб'яднання эмігрантаў, з якімі Урублеўскі і Дамброўскі сутыкнуліся адразу ж па прыездзе ў Францыю, не задаволілі іх першым чынам з-за хібнасці меркаванай палітычнай платформы. Дамброўскі выказаў сваё адмоўнае стаўленне да праграмы, якая прапаноўвалася ў адкрытым лісце, які датуецца лістападам 1865 года.

Ліст пачынаецца з заявы аб тым, што адразу ж пасля ўцёкаў з турмы Дамброўскі ўсталяваў сувязі з тымі рэвалюцыянерамі, якія, застаючыся ў Польшчы і на тэрыторыі Расійскай імперыі, мелі мужнасць працягваць барацьбу. "Кантакт з імі, - піша Дамброўскі, - дазволіў мне вызначыць для сябе сталы кірунак дзейнасці ў эміграцыі". Спасылаючыся на грамадскую думку краіны, ён выказвае перакананне, што менавіта так і павінен паступаць кожны палітычны эмігрант, паколькі эміграцыя з'яўляецца толькі прадстаўніцай нацыі, але ніколі не можа і не павінна дыктаваць ёй свае рашэнні. "Таму, - заяўляе Дамброўскі, - я рашуча асуджаю спробы стварыць у эміграцыі палітычны орган, які прэтэндаваў бы на тое, каб кіраваць краінай у яе рэвалюцыйных дзеяннях". Пратэст Дамброўскага выклікалі не толькі гэтыя неабгрунтаваныя прэтэнзіі эміграцыі на вырашальнае слова, але асноўныя праграмныя палажэнні для меркаванага аб'яднання: першым чынам ён паказваў на неразуменне значэння сацыяльных задач і, у прыватнасці, сялянскага пытання, на нежаданне адмовіцца ад нацыяналізму, які названы

ў лісце “эгаістычным”. Ліст Дамброўскага заканчаецца адмовай ад удзелу ў любой арганізацыі, якая падобным чынам разумее ролю эміграцыі і стаіць на такога роду палітычнай праграме.

Аднак усё гэта зусім не значыла, што Дамброўскі быў праціўнікам стварэння арганізацыі з рэвалюцыянераў, якія апынуліся за мяжой. “Эміграцыі, - гаварыў ён, - патрэбна арганічнае адзінства і дзейнасць”. Але, заяўляючы так, Дамброўскі рабіў вельмі істотную агаворку: “Пад адзінствам я разумею не аб’яднанне ўсёй эміграцыі, а арганізацыю ўсіх яе дэмакратычных элементаў”. Над стварэннем такога роду арганізацыі Ўрублеўскі і Дамброўскі нястомна працавалі разам з групай найболей радыкальных па сваіх палітычных пазіцыях эмігранцкіх дзеячаў.

У 1866 годзе паўстала “Аб’яднанне польскай эміграцыі”, у якое ўвайшлі дэмакратычныя сілы той “маладой эміграцыі”, якая ўтварылася пасля разгрому паўстання 1863-1864 гадоў. Кіраўнічы орган “Аб’яднання” - камітэт - абіраўся ўсеагульным галасаваннем (сваю волю чальцы арганізацыі выяўлялі ў лістах, дасыланых з розных гарадоў і розных краін). Дамброўскі і Ўрублеўскі былі ў ліку тых, хто прайшоў у камітэт, маючы значны лік пададзеных за іх галасоў. Чальцамі камітэта сталі таксама Станіслаў Ярмунд, Юзаф Такужэвіч, Аляксандр Вярніцкі. Пачаўся перыяд актыўнай працы Ўрублеўскага і Дамброўскага ў “Аб’яднанні” і газеце “Непадлегласць” (“Незалежнасць”), якая з’яўлялася друкаваным органам арганізацыі.

Гэта быў час, калі рэакцыйным сілам удалося амаль поўнасцю падушыць вызвольны рух у Польшчы і Беларусі. Шматлікія яго ўдзельнікі, адмовіўшыся ад надзеі на заваёву дэмакратычных свабодаў і незалежнасці, уключыліся ў так званую “арганічную працу”: абвясцілі “патрыятычнай” справай пагоню за багаццем і чынамі, выступалі за супрацоўніцтва з царызмам у эканамічнай і культурнай сферах. У “маладой эміграцыі”, а тым больш у “Аб’яднанні” прыхільнікі “арганічнай працы” не маглі разлічваць на разуменне і падтрымку. Але ідэйных рознагалоссяў тут было звышдастаткова. Таму Ўрублеўскі і Дамброўскі засяродзілі высілкі першым чынам на тым, каб накіраваць думкі і дзеянні сваіх таварышаў на той шлях, які яны лічылі правільным.

Зыходным пунктам ледзь ці не ўсіх узнікалых спрэчак з’яўлялася ацэнка нядаўняга паўстання - ці было яно непазбежным і неабходным, у чым прычыны яго паразы, ці варта паўтараць спробу ўзброенай барацьбы. Гэтыя і шматлікія іншыя больш прыватныя пытанні стала дыскутаваліся ў эмігранцкім асяроддзі. Урублеўскі і Дамброўскі не менш за іншых адчувалі гаркату паразы, але яны ніколі не згаджаліся з тымі, хто гаварыў, што не трэба было выступаць, што панесеныя ахвяры былі марнымі. Дамброўскі ў 1865 годзе пісаў: “Апошняе паўстанне адчыніла нам шлях, па якім мы павінны надалей ісці”, яно “усклала на нас усіх абавязак выкарыстаць час нашага выгнання на самавыхаванне, каб мы больш паспяхова маглі выканаць сваю місію, калі краіна ізноў закліча нас да дзеяння”. У звароце да ўсёй аб’яднанай польскай дэмакратыі Ўрублеўскі ў 1869 годзе выказваў упэўненасць, што “абломкі пакалення, якое самаахвярнасцю адной ночы 22 студзеня паднялося да ўзроўню гераічнасці, не рассеяліся па зямлі толькі для таго, каб стаць сярод чужых народаў як бы помнікамі польскіх няшчасцяў”, што “пакуты, перанесеныя эміграцыяй, не высмакталі з нашых душ пачуццяў, не заглушылі энергіі ў нашых грудзях”.

Выступаючы за аб’яднанне сілаў эміграцыі, Урублеўскі заўсёды падкрэсліваў, што яно немагчыма без адзінства поглядаў на мэты, якія стаяць перад ёй і шляхі да іх ажыццяўлення. “Што тычыцца перакананняў, - заяўляў ён у толькі што цытаваным звароце, - я дэмакрат у лагічным сэнсе гэтага слова. У іншую Польшчу, чым тая, якую ўваскрэсіць з дамавіны наш народ сваімі працоўнымі рукамі, я не веру; іншай Польшчы, чым тая, якая, захоўваючы ў цэласці свае гістарычныя межы, надзеліць грамадзянскімі правамі ўсіх сваіх сыноў, не жадаю; для іншай Польшчы, чым тая, дзе панаванне чалавека над чалавекам саступіць месца царству волі, розуму і права, дзе невуцтва знікне ў прамянях усеагульнай асветы, а галеча -- у добрасумленным размеркаванні агульных выгод, для іншай Польшчы, я не магу ні жыць, ні паміраць”.

Будучая барацьба, па меркаванні Ўрублеўскага, Дамброўскага і іх аднадумцаў, павінна была весціся не вузкім колам змоўшчыкаў, а шырокімі масамі. “Усё для народа і праз народ”, - заяўляў Урублеўскі і дадаваў: “У гэтым лозунгу я знаходжу не толькі палітычны ідэал нашай айчыны, але і сродкі для яго ажыццяўлення”. “Усё праз народ,- развіваў сваю думку Ўрублеўскі, - гэта значыць: паўстанне ўласнымі сіламі, накіраванае супраць усякага чужацкага і ўнутранага прыгнёту, супраць чужацкага і айчыннага рабства, гэта значыць не больш і не менш як рэвалюцыя мас, якая ставіць сабе мэтай і маральны, і матэрыяльны дабрабыт, што пераадольвае ўсе перашкоды, якія ставяцца дыпламатычнымі, урадавымі, шляхецкімі, езуіцкімі і ўсякімі іншымі камбінацыямі на шляху яе развіцця”.

З такой ж пэўнасцю выказваўся Дамброўскі. “Я лічу, - пісаў ён у “Крэда”, - што ніякія палітычныя камбінацыі не ў сілах стварыць тое, што не мае ўласных сілаў для існавання... Адзіным сродкам вызвалення, адпаведным нацыянальнай годнасці, што дае гарантыю волі і незалежнасці, прызнаю ўзброенае народнае паўстанне”. Адгэтуль і выцякала ў яго азначэнне будучых задач: “Адзінай нашай мэтай павінна быць паўстанне, адзінай дзейнасцю - падрыхтоўка паўстання”.

Прыхільнікі мірнай асветніцкай дзейнасці, якія ўздымалі галаву і ў краіне, і ў эміграцыі; сустракалі рэзкі адпор дзеячаў левага крыла польскай эміграцыі. Прыкладам тут могуць служыць выступы Урублеўскага. “Я, - заяўляў ён, - дэмакрат па паняццях, па прынцыпах, па духу, рэвалюцыйны радыкал па крыві, па сваім мінулым, па дзейнасці яшчэ да паўстання. У краіне, якая гібее пад цяжарам ганебнага ярма чужацкага гвалту, я не прызнаю так званай арганічнай працы, гэта значыць легальнай, гэта значыць кампраміснай, гэта значыць

таргавіцкай. Я бачу адзін толькі шлях збавення Польшчы, шлях цяжкі, пакутніцкі, ад падножжа да вяршыні заліты крывёй, шлях апостальскай пропаведзі словам, пісьмом, справай сярод простага народа пры дапамозе адданай справе моладзі...”

Магчымасць поспеху і прычыны паразы паўстання Ўрублеўскі і Дамброўскі вызначалі, зыходзячы з свайго разумення гістарычнага прагрэсу. З тых жа палажэнняў зыходзілі Дамброўскі і Ўрублеўскі ў ацэнцы агульных і прыватныў урокаў, скончанай нядаўна ўзброенай барацьбы.

Далёка не ўсе кіраўнічыя дзеячы чырвоных прызнавалі і адстойвалі ідэю поўнага самавызначэння ўкраінскага, беларускага, літоўскага народаў падчас паўстання. Пасля яго разгрому некаторыя з застаўшыхся ў жывых прасунуліся ў гэтых адносінах значна наперад, сталі значна больш прынцыповымі і паслядоўнымі. Найболей характэрныя ў гэтых адносінах погляды Дамброўскага. Шматлікія яго выступы па дадзеным коле пытанняў вылучаюцца непрымірымасцю да нацыяналістычных хітрыкаў у любой іх форме, выразнасцю фармулёвак і вялікай уражлівай сілай. Гэтыя выступы паслужылі ўмацаванню ідэйных пазіцый дэмакратычнай эміграцыі і выклікалі злаславае выццё са боку заражаных нацыяналізмам умераных элементаў, не гаворачы ўжо аб асабліва рэакцыйнай частцы эміграцыі.

“Польская нацыя, якая змагаецца за незалежнасць,- пісаў Дамброўскі дэпутату галіцыйскага сойму ў 1866 годзе, - выдатна зразумела, што не можа адмовіць у незалежнасці ні адной народнасці, не ўзбройваючы супраць сябе ўсіх тых, каму б яна адмаўляла ў гэтым праве, не зракаючыся ад ідэі, напісанай на паднятым ёю сцягу, не здзяйсняючы самагубствы”. Яшчэ больш рэзка і выразна сфармуляваў Дамброўскі сваю пазіцыю ў нашумелым “Адкрытым лісце грамадзяніну Беднарчыку і яго палітычным сябрам” (1867). “Па маім меркаванні, - гаварылася ў лісце,- права вырашаць аб сабе мае толькі сама нацыя, і пры гэтым кожная нацыя”. Адносіны паміж Польшчай і Ўкраінай Дамброўскі меркаваў вызначаць “дамовай паміж абедзвюма нацыямі”; ён быў упэўнены, што “будучы саюз, узніклы на аснове волі”, звязаў б іх “не толькі палітычнай сувяззю, але і пачуццём падзякі і братэрства”.

У вывучэнні і ацэнцы досведу паўстання была яшчэ адна вобласць, якая вельмі цікавіла былых кіраўнікоў паўстанцаў 1863 года. Узбраенне, арганізацыя і тактыка паўстанцкіх сілаў, аналіз усяго ходу ваенных дзеянняў, вывучэнне асобных кампаній і баёў, асаблівасці партызанскай вайны і суадносіны яе з дзеяннямі рэгулярных войскаў - вось пералік далёка не ўсіх пытанняў, якія вельмі цікавілі іх як рэвалюцыянераў, а ў шэрагу выпадкаў і як вайсковых адмыслоўцаў. Урублеўскі не толькі сам быў у ліку вольных слухачоў вышэйшай вайсковай школы ў Парыжы, але і шмат сіл затрачваў на арганізацыю матэрыяльнай дапамогі эмігрантам, жадаючым атрымаць вайсковую адукацыю або папоўніць свае веды ў вайсковай справе. Буйным вайсковым адмыслоўцам стаў у эміграцыі Ю. Гаўке-Босак. Аднак самым вялікім знаўцам і прызнаным аўтарытэтам у гэтай вобласці быў Дамброўскі.

Сваім баявым мінулым, радыкальнасцю палітычных перакананняў, актыўным удзелам у грамадскім жыцці Ўрублеўскі набыў вялікую вядомасць сярод суайчыннікаў, якія знаходзіліся ўдалечыні ад радзімы. Падчас выбараў камітэта “Аб’яднання польскай эміграцыі”, ён нязменна быў у ліку тых, хто атрымліваў найбольшы лік галасоў. Польскія эмігранцкія арганізацыі ў розных мясцовасцях Заходняй Еўропы (іх таксама звалі гмінамі, гэта значыць грамадамі) давалі вельмі высокую ацэнку Ўрублеўскаму. Цурыхская гміна, напрыклад, пісала: “Любімы правадыр літоўцаў (беларусаў) заваяваў сярод эмігрантаў заслужаную папулярнасць і давер”.

У водгуку адной з іншых гмін гаварылася, што ў Урублеўскага “сярод паўстанцаў многа сяброў, якія ведаюць яго патрыятызм і здольнасці”.

Быўшы інтэрнацыяналістам, Урублеўскі, як і большасць іншых дзеячоў дэмакратычнай эміграцыі, актыўна ўдзельнічаў у палітычным жыцці Францыі, падтрымліваў сувязі з арганізацыямі парыжскіх працоўных, якія прымыкалі да І Інтэрнацыяналу. Асабліва трывалымі сталі гэтыя сувязі пасля таго, як, вывучыўшы працу друкара, ён з 1869 года пачаў працаваць у друкарні “Руж”. Калі па наступны год Урублеўскі захварэў воспай, то яго таварышы па працы, як французы, так і эмігранты, не пакідалі хворага ні на адну хвіліну, даглядалі яго, рыхтавалі яму ежу. Адзін з іх пры гэтым заразіўся і праз некаторы час памёр.

# Франка - пруская вайна і Парыжская камуна

Калі пачалася франка-пруская вайна, “Аб’яднанне польскай эміграцыі” вырашыла прыняць удзел у абароне Францыі. Урублеўскі быў актыўным удзельнікам камісіі, якая ад імя “Аб’яднання” вяла перамовы з урадам нацыянальнай абароны. Баючыся дэмаршаў са боку царскай Расіі, не жадаючы збіраць разам вядомых сваёй рэвалюцыйнасцю польскіх эмігрантаў, генерал Трашу не пагадзіўся на стварэнне польскіх вайсковых фармаванняў, а толькі дазволіў ахвочым уступаць у створаныя па тэрытарыяльнай прыкмеце батальёны Нацыянальнай гвардыі. Урублеўскі быў у ліку першых беларусаў і палякаў, якія ўступілі ў Нацыянальную гвардыю, ён добрасумленна нёс службу на працягу чатырохмесячнай аблогі Парыжа. Не быўшы нават французскімі падданымі, ён і яго таварышы рабілі для абароны рэспублікі значна больш, чым шматлікія французскія буржуа, гучна крычаўшыя аб сваім патрыятызме.

Стала нарастаўшая барацьба працоўных Францыі супраць своекарыслівай, здрадлівай палітыкі ўраду Ц’ера да вясны 1871 года дасягнула велізарнай напругі. 18 сакавіка пралетарыят Парыжа паўстаў, скінуў уладу буржуазіі і стварыў рэвалюцыйны працоўны ўрад -

Парыжскую камуну. Яна з’явілася хоць і няпоўным, нетрывалым, але першым у гісторыі чалавецтва рэальным увасабленнем у жыццё дыктатуры пралетарыяту, непазбежнасць якой была тэарэтычна абгрунтаваная ў працах Маркса і Энгельса. Кіраўніцтва Парыжскай камунай, урачыста абвешчанай 28 сакавіка, і якая праіснавала да 28 траўня 1871 года, дзялілася на “большасць”, што складалася галоўным чынам з бланкістаў і “меншасць”, якая складалася пераважна з паслядоўнікаў Прудона. Сярод кіраўнічых дзеячоў Камуны і сярод радавых камунараў было нямала ўдзельнікаў Міжнароднага таварыства працоўных - І Інтэрнацыяналу. Гэта аказала адпаведны станоўчы ўплыў на ход падзей.

Урублеўскі, Дамброўскі і многія з іх суайчыннікаў горача спагадалі вызваленчым імкненням французскіх працоўных, мелі сяброў і палітычных аднадумцаў сярод актыўных рэвалюцыйных дзеячоў Парыжа. Акрамя гэтага, яны выдатна разумелі, што перамога дэмакратычнай і сацыяльнай рэвалюцыі ў Францыі палепшыць умовы для вызвалення Польшчы і Беларусі, тады як параза паўсталых парыжан абавязкова іх пагоршыць. Вось чаму не прыходзіцца дзівіцца таму, што многія з іх без ваганняў апынуліся ў шэрагах камунараў. Акрамя Ўрублеўскага і Дамброўскага, на боку Камуны ваявала каля шасцісот былых удзельнікаў паўстання 1863 года. Сярод іх былі: былы член Літоўскага правінцыйнага камітэта, паплечнік Каліноўскага Ахіл Банольдзі, віленскі падпольшчык, паплечнік З. Серакоўскага і брат яго жонкі Кастусь Далеўскі, літоўскі селянін Адамас Біціс, які камандаваў некалі паўстанцкім аддзелам, паўстанцкія афіцэры Ю. Развадоўскі, К. Свідзінскі, У. Ражалоўскі і многія, многія іншыя. Па саслоўнай прыналежнасці каля адной трэці ўдзельнікаў Камуны - палякаў і беларусаў (ліцьвінаў) былі выхадцы са шляхты, але толькі 10 чалавек з іх паходзілі з абшарніцкіх сямей. Каля 45% польскіх і беларускіх удзельнікаў Камуны зараблялі на эміграцыі на жыццё фізічнай працай (шаўцы, краўцы, сталяры, слесары, дукарскія рабочыя, цырульнікі, ліхтаршчыкі).

Дзеячы правага крыла польскай эміграцыі, якія рабілі стаўку на саюз з Версальскім урадам, усяляк стараліся абгаварыць тых палякаў, якія падтрымалі Камуну. Князь Чартарыскі накіраваў у Вярсаль адмысловы ліст, у якім насуперак ісціне заяўляў, што “за выключэннем, можа быць, аднаго Дамброўскага, які быў больш рускім, чым палякам, і з даўніх пор звязаны з рускімі сацыялістамі, іншыя палякі, якія служылі Камуне, былі чужыя ідэям Камуны [...], гэта былі проста кандацьеры - вайскоўцы-найміты, якія прадалі свае паслугі Камуне за тытулы і плату”. У рэчаіснасці колькасць палякаў і беларусаў, якія змагаліся на боку Камуны з ідэйных меркаванняў, дасягала некалькіх сот чалавек. Ад іх імя некалькі пазней Теафіль Дамброўскі пісаў: “Нашай мэтай было не толькі стварэнне кіравання Камуны для Парыжа, але і перамога сацыяльнай рэвалюцыі, што, як я лічу, для нас неабыякава”. “Першай нашай думкай і пытаннем, - заяўляў ён у той жа час, - заўсёды было - якую карысць гэта можа прынесці Польшчы? І вось, далучаючыся да парыжскай рэвалюцыі, мы бачылі ў ёй сацыяльную рэвалюцыю, якая ў выпадку поспеху можа перавярнуць парадак рэчаў, існы ў Еўропе. Ці магла пры гэтым Польшча штосьці страціць? Не! А выйграць? Усё! Гэтая думка была стымулам для ўсіх палякаў, якія змагаліся пад рэвалюцыйным штандарам”.

Дамброўскі быў вядомы ў Парыжы. Не прайшло і некалькі дзён, як Дамроўскага запрасілі на вайсковую раду ў Цэнтральны Камітэт Нацыянальнай гвардыі для абмеркавання пытання аб задачах Узброеных сілаў Камуны. Дамброўскі выказаўся за неадкладны наступ на Вярсаль. Яго прапанова не была прынятая. Праз некаторы час камунары ўсё ж пайшлі на Вярсаль, аднак час быў упушчаны, наступ быў няўдачным.

Перад няўдачным наступам Дамброўскі ўступіў у Нацыянальную гвардыю. Ён адразу ж быў прызначаны камандуючым легіёна, які фармаваў свае батальёны ў XI акрузе Парыжа.

У адрозненне ад Дамброўскага Ўрублеўскі ў адносінах да Камуны займаў некаторы час пазіцыю чакання і вагаўся. Толькі праз два-тры тыдні ён прыняў канчатковае рашэнне.

Пачатак дзейнасці Ўрублеўскага ва Ўзброеных сілах Камуны звязана з цікавым кур’ёзам, аб якім распавядаецца ва ўспамінах удзельніка падзей Э. Лісагарэ. Адзін з чальцоў Камуны, знаёмы з ім да гэтага, адшукаў Урублеўскага, прывёў у вайсковую камісію і прадставіў як чалавека адданага, і які валодае вялікімі статэгічнымі, здольнасцямі. Калі падчас гутаркі Ўрублеўскі выказаў свой план дзеянняў, слухачы з здзіўленнем выявілі, што ён слова ў слова супадае з тым, што нядаўна прапанаваў у камісіі Ф. Піа. У адказ на просьбу растлумачыць, у чым справа, Урублеўскі сказаў: “Я некалькі дзён таму назад паслаў Феліксу Піа свой даклад”. Спачатку Ўрублеўскаму не паверылі. Але пасля таго, як у кабінеце Піа быў сапраўды выяўлены ліст Урублеўскага, яго аўтарытэт сярод тых, хто не ведаў яго раней, падняўся вельмі высока.

Яшчэ падчас паўстання 1863 года Урублеўскі выявіў сябе выдатным военачальнікам. Але толькі падчас Парыжскай камуны ва ўсю шырыню разгарнуліся яго вайсковыя здольнасці.

Урублеўскі дзейнічаў увесь час у паўднёвым сектары абароны Парыжа, лявей Дамброўскага, які змагаўся ў заходнім сектары (з поўначы і ўсходу знаходзіліся прускія войскі, якія заявілі аб сваім нейтралітэце, але фактычна дапамагалі вярсальцам). У канцы красавіка, калі Ўзброеныя сілы Камуны былі падзеленыя на дзве арміі, камандуючым першай з іх, якая займала заходні фронт абароны, аказаўся Дамброўскі, а камандуючым другой, якая дзейнічала на поўдні, - Урублеўскі. Адзін з актыўных дзеячоў радыкальнай польскай эміграцыі Ю. Такажэвіч пісаў у гэты час з Парыжа свайму знаёмаму: “Урублеўскі вельмі энергічны. Дамброўскі - галоўнакамандуючы. Кіраў-

ніцтва ў руках палякаў. Дамброўскі вельмі папулярны ў камунараў: дзе б ён ні аказаўся, раздаюцца крыкі: “Жыве Польшча!”

Стараючыся намаляваць для чытача жывую выяву генералаў Камуны і дзеля гэтага сям-там яўна згушчаючы фарбы, Такажэвіч пісаў: “...Дамброўскі худы, нізкі, бледны, меў мянушку Лакотка; Урублеўскі на цэлую галаву вышэй за яго, пра яго не раз чуліся замілаваныя галасы жанчын: “Вельмі прыгожы і складзены, як Апалон” [...]. Першы - светлы бландзін з шэрымі жывымі, з вачыма, якія нястомна рухаюцца, а другі - цёмны брунет з пранізліва вострым і ганарлівым паглядам...” Далей Такажэвіч спрабаваў даць параўнальную характарыстыку асаблівасцяў вайсковых талентаў Дамброўскага і Ўрублеўскага. “У вайсковым мастацтве,- пісаў ён,- прызначэннем і стыхіяй з’яўляецца для першага абарона, для другога - наступ. Адзін сумее спакойна памерці на апошняй барыкадзе, другі павінен перамагчы ў першай жа шальной сутычцы або памерці. Адзін - увасабленне добра адпрацаваных абарончых прыёмаў, машына найскладаных стратэгічных задум; другі - (скарыстаемся тут са слоў! Мераслаўскага) -”полымя найрэдкага розуму, што ахінае меч прыроджанай мужнасці”

Актыўны ўдзельнік падзей і гісторык Камуны Л. Дзюбрэйль адзываўся пра Урублеўскага, як пра дасведчанага і адважнага афіцэра, аднаго з тых, якія змянілі стан спраў у Нацыянальнай гвардыі. Ён пісаў: “Урублеўскі атрымаў камандаванне паўднёвымі фартамі... Урублеўскі, які належыў да той жа нацыянальнасці, як і Дамброўскія [браты Яраслаў і Тэафіль], так жа, як і яны, прымаў удзел у польскім паўстанні і быў дасведчаным і адважным афіцэрам [...]. З гэтымі новымі афіцэрамі Нацыянальная гвардыя, прынамсі, не трапляла ў нечаканасці і авантуры, за якія дагэтуль ёй даводзілася расплачвацца тысячамі забітых і трапіўшых у палон. Новыя камандзіры ўмеюць прадбачыць небяспеку, камбінуюць, манеўруюць, самі вядуць наступленне, і салдаты могуць ваяваць, не ставячы без карысці сваё жыццё пад пагрозу”. Дзюбрэйль падкрэсліваў, што Дамброўскі і Ўрублеўскі дзейнічалі, маючы вельмі абмежаваныя сілы: “Дамброўскі, Урублеўскі і іх памочнікі ў найважнейшыя дні мелі ў сваім веданні не больш за 30-35 тысяч байцоў: 12-15 тысяч на поўдні і 15-20 тысяч на паўночным захадзе. Пад непасрэдным камандаваннем Дамброўскага бывала часам да 6 тысяч байцоў, і, нягледзячы на няспынныя звароты да Камуны, больш значных сілаў ён ніякім чынам не сабраў”. Дзейнічаючы на розных баявых участках, Я. Дамброўскі і В. Урублеўскі захаваліся ў памяці камунараў побач, бо былі аднолькава адданымі справе рэвалюцыі, таленавітымі военачальнікамі, камандзірамі новага тыпу, таго тыпу, які нараджаецца толькі ў народных войсках.

Ваенныя дзеянні разгортваліся ў цэлым няўдала для камунараў. Першы момант, калі можна было, прытрымліваючыся актыўнай наступальнай тактыкі, нанесці рашучы выт па Вярсалю, быў прапушчаны. Дамброўскі, які (насуперак характарыстыцы Такажэвіча) настойваў на наступе, не атрымаў дастатковых сілаў і атрымаў толькі гераічную, але прыватную перамогу пад Аньярэ, дзе ён асабіста ўзначаліў начную атаку двух батальёнаў Нацыянальнай гвардыі. Маючы пераважную перавагу ва ўзбраенні і колькасці, вярсальцы перахапілі ініцыятыву і ўсё больш узмацнялі націск на пазіцыі камунараў.




***Квсінер Урублеўскі ў Парыжы. Карыкатура часоў Парыжскай камуны.***

12 красавіка на ўчастку Дамброўскага, дзе абараняліся прыкладна 1300 камунараў, рушыў ў атаку цэлы вайсковы корпус, які налічваў да 10 тыс. чалавек. Батальёны нацыянальных гвардзейцаў утрымлівалі свае пазіцыі, наносілі адчувальныя контрвыты на асобных участках. 16 красавіка, напрыклад, Дамброўскі данёс, што ў Неі камунары авалодалі некалькімі барыкадамі, захапіўшы ў якасці трафеяў баявыя сцягі. Аднак пры амаль дзесяціразовай перавазе супраціўніка гэта не магло працягвацца доўга, тым больш што адрасаваныя вайсковаму дэлегату Клюзярэ просьбы аб падмацаванні заставаліся безвыніковымі. 19 красавіка вярсальцы нечаканым нападам пацяснілі батальёны Дамброўскага, і толькі адважная контратака дазволіла аднавіць становішча. “Пасля крывавай барацьбы,- даносіў у гэты дзень Дамброўскі,- мы вярнуліся на свае пазіцыі. Левы фланг, які прасунуўся наперад, захапіў непрыяцельскі прадук-

товы склад, у якім аказалася 69 бочак вяндліны, сыру і саланіны. Баі працягваюцца. Непрыяцельская артылерыя з вышынь Курбевуа закідвае нас снарадамі і карцеччу, але, нягледзячы на гэта, наш правы фланг праводзіць у дадзены момант манёўр з мэтай пазбегнуць акружэння высунутых наперад падраздзяленняў. Мне трэба 5 батальёнаў свежых салдат, не меней за 200 чалавек таму, што сілы непрыяцеля вельмі значныя.”

Клюзярэ і на гэты раз не прыслаў падмацаванняў. Камунарам прыйшлося пакінуць Аньер, Бэкон і 20 красавіка амаль цалкам ачысціць заходні бераг Сены. На наступны дзень Дамброўскі арганізаваў контрвыт, у выніку якога змог умацаваць раён Неі, Левалуа, Клішы. Камунары трымаліся ў ім яшчэ тры тыдні, нягледзячы на смяротны артылерыйскі агонь з занятых версальцамі фартоў і неаднакратныя атакі. Пабудовы і ўмацаванні снарады тут зраўнялі з зямлёю; хавацца ад куль і асколкаў было вельмі цяжка, але камунары трымаліся. “Дамброўскі, - распавядаў сведка,- які спакойна трымаўся пад ружэйным агнём, стрымана адважны і як бы не заўважаўшы небяспекі, паспяваў асабіста ўсюды, назіраючы за ўсім і ўхіляў усе небяспекі”.

Адсутнасць падмацаванняў, блытаніна ў распараджэннях Клюзярэ, сталыя перабоі ў забеспячэнні прымушалі Дамброўскага звяртацца да кіраўнічых дзеячоў Камуны міма яе вайсковага дэлегата. Аб непаладках у вайсковай гаспадарцы Камуны, аб няздольнасці, а магчыма, і нежаданні Клюзярэ ажыццяўляць кіраўніцтва, Дамброўскі гаварыў Дэляклюзу, Дзюбрэйлю, Аўрыялю і іншым відным дзеячам Камуны. 23 красавіка на паседжанні Камуны Аўрыяль запатрабаваў ад Клюзярэ дакладнай справаздачы аб тым, колькі байцоў і колькі гарматаў на ўчастку Дамброўскага. Дэляклюз, абураны ўніклівым адказам Клюзярэ і ўсімі яго дзеяннямі, абвясціў складзеную вайсковым дэлегатам афішу з заклікам даць яму, Клюзярэ, надзвычайныя паўнамоцтвы. “Дамброўскі,- сказаў Дэляклюз,- з’явіўся ўчора ў стане поўнай знямогі і сказаў мне: у мяне няма больш сіл, замясціце мяне. Для забароныы абшару ад Неі да Аньера ў мяне пзасталося 1200 чалавек, і больш за гэтую колькасць у мяне ніколі не было”. “Калі гэта дакладна,- дадаў Дэляклюз,- то гэта акт здрады” .

Да канца красавіка асноўныя высілкі вярсальцаў пачалі паступова перамяшчацца з заходняга фасу абароны Камуны на паўднёвы, г. зн. з участка Дамброўскага на ўчастак Урублеўскага. Гэты ўчастак, які пачынаўся каля Пуэн-Дзю-Жур і ішоў уздоўж лініі фартоў амаль строга з захаду на ўсход, быў падзелены на тры сектары. Самы заходні, правафлангові, сектар (ад Сены да фартоў Ісі і Ванв) абараняў 1-шы корпус. Цэнтральны сектар, які абараняў 2-гі корпус, уключаў фарты Манруж і Бісетр. Нарэшце, левафлангові сектар быў замацаваны за 3-м корпусам, які абараняў траншэі на ўсход ад форта Бісетр, раён Вільжуіф-Вітры і форт Іўры. На ўчастку, падпарадкаваным Урублеўскаму, змагаліся ў гэты перыяд такія баявыя і дасведчаныя ў вайсковай справе камандзіры, як Ла Сесілія, Брунэль, Лісбоні, Вятцэль.

Красавік адзначыўся паступовым узмацненнем націску вярсальцаў на правы фланг паўднёвага фасу абароны. З 4 па 11 красавіка супраць фартоў Ісі і Ванв дзейнічала толькі артылерыя вярсальцаў; затым да 25 красавіка яны вялі інжынерныя работы, паволі набліжаючыся да абаронных рубяжоў камунараў і час ад часу спрабуючы іх атакаваць (у раёне Ванв камунары адбілі атакі 13, 15 і 22 красавіка, у раёне Ісі - 15 і 22 красавіка). У апошнія дні красавіка вярсальцы, заняўшы вёску Муліно, апынуліся ў непасрэднай блізасці да форта Ісі і атрымалі магчымасць яшчэ больш выніковa весткі артылерыйскі абстрэл яго ўмацаванняў. Напалоханы камендант форта вырашыў насуперак загаду спыніць супраціў; быў момант, калі ва ўмацаваннях застаўся толькі адзін 17-гадовы камунар Дзюфур, які рашыў падарваць парахавыя склепы, як толькі ўвойдуць вярсальцы. Аднак, пасланы Ўрублеўскім свежы батальён, які надышоў пад полагам начной цемры, змяніў становішча, і форт Ісі застаўся ў руках камунараў.

Як і ў іншых месцах, на ўчастку Ўрублеўскага памехай з’яўляліся часам не толькі страціўшыя мужнасць афіцэры накшталт згаданага каменданта Ісі, але і некаторыя кіраўнічыя дзеячы Камуны, што спрабавалі непасрэдна ўмешвацца ў ваенныя дзеянні праз галаву ваенаначальнікаў, што немінуча прыводзіла да неразбярыхі, блытаніны, трагічным непаразуменням. Так, 4 траўня Камітэт грамадскага выратавання, занепакоены моцнымі атакамі на Ісі, адмысловай дэпешай за подпісам Фелікса Піа і іншых яго чальцоў распарадзіўся, каб у форт неадкладна адправіліся Дамброўскі і Ўрублеўскі. У гэтым бачылі адзіную выратавальную меру, і сапраўды становішча ў Ісі было адноўлена. Аднак у адсутнасць Урублеўскага на яго камандным пасту вярсальцы, скарыстаўшыся здрадай аднаго з камандзіраў батальёнаў Камуны занялі рэдут Мулэн-Сакэ і выразалі ўсю яго залогу. Віна за гэта ў першы момант упала на Ўрублеўскага, бо Ф. Піа спрабаваў адмаўляць, што той быў накіраваны ў Ісі па загадзе Камітэта грамадскага выратавання. У канцы канцоў невінаватасць Урублеўскага поўнасцю пацвердзілася, а Ф. Піа, пазбавіўшыся даверу камунараў, змушаны быў падаць у адстаўку.

5 траўня вайсковы дэлегат Камуны Л. Росель устанавіў наступнае размеркаванне сілаў па сектарах абароны. Камандуючым аперацыямі на заходнім беразе Сены (правы фланг) прызначаўся Дамброўскі са штаб-кватэрай у Неі. Камандаванне сіламі, якія знаходзіліся ў цэнтры, давяралася італьянцу Ла Сесілія. Урублеўскі па-ранейшаму заставаўся на левым флангзе, камандаваў сіламі на паўднёвым фасе абароны; яго штаб - кватэра павінна была знаходзіцца ў Жанціі. Праз два дні ўслед рушыла дадатковае распараджэнне, якое ўскладала на Ўрублеўскага “з прычыны хваробы генерала Сесілія” камандаванне войскамі цэнтра; ім прадпісвалася “выконваць усе загады генерала Ўрублеўскага, камандуючага левым флангам”.

Паўднёвы фас абароны ў траўні быў цэнтрам увагі парыжан. Найбольш жорсткія баі тут разгарнуліся ў раёне фартоў Ісі і Ванв. Першы з 25 красавіка

падвяргаўся амаль бесперапыннаму артылерыйскаму абстрэлу. Замест умацаванняў там заставаліся на пачатак траўня кучы камянёў і пяску. На агонь 60 гарматаў вярсальцаў у камунараў адказвала толькі 10 гарматаў, якія мелі недахоп у боепрыпасах і якія паступова выходзілі з ладу. Форт трымаўся толькі гераізмам яго абаронцаў. Адзін з іх 7 траўня запісаў у сваім дзённіку: "Кожную хвіліну на нас падае па дзесяць снарадаў. Умацаванні цалкам адкрытыя. Усе пушкі за выключэннем дзвюх або трох, збітыя. Рэдуты вярсальцаў амаль дакранаюцца да нашых. Дадалося яшчэ трыццаць трупаў..."

10 траўня вярсальцы атакавалі і занялі форт Ванв, размешчаны побач з фортам Ісі. Урублеўскі падняў два батальёны і павёў іх у штыкавую атаку; супраціўнік быў адбіты і адкінуты на зыходныя пазіцыі. Урублеўскі цудам выйшаў жывым з гэтай сутычкі. Затое камунары не толькі ізноў авалодалі фортам Ванв, але захапілі трафеі і палонных.

Да 15 траўня становішча на паўднёвым фасе абароны стала настолькі крытычным, што новы вайсковы дэлегат Камуны, Дэляклюз (Росель, спалохаўшыся цяжкасцяў падаў у адстаўку), сабраў вайсковую раду, па якой прысутнічалі Дамброўскі і Ўрублеўскі. Было вырашана зрабіць некаторую перагрупоўку сілаў, попоўніць часткі, прызначыць да камандуючых участкамі абароны адмысловых камісараў Камуны: да Дамброўскага - Дэрэра, да Ўрублеўскага - Лявона Мялье.

Сіл бракавала, і павелічэнні іх не прадбачылася. Нягледзячы на гэта, Урублеўскі дзейнічаў актыўна і часам нават арганізоўваў наступальныя аперацыі. 18 траўня яго войскам удалося прасунуцца на самім левым фланзе і заняць паселішча Шаўзі ле-Руа, размешчанае на поўдзень ад форта Іўры. Але становішча было ўжо безнадзейным. Выдатна разумеючы гэта, Дамброўскі і Ўрублеўскі тым не менш заставаліся на сваіх пастах.

У 1-й арміі Камуны, якую ўзначальваў Дамброўскі, да 11 траўня заставалася каля 8 тыс. байцоў. А ў вярсальцаў на гэтым участку знаходзілася звыш 30 тыс. салдат і некалькі сот магутных артылерыйскіх гарматаў. Нягледзячы на гэта, камунары ўтрымлівалі свае пазіцыі і не раз наносілі адчувальныя контрвыты наступаючым вярсальцам. Дамброўскі стаў душой абароны і ініцыятарам контрвытаў; не раз ён асабіста вёў камунараў у рукапашныя сутычкі. Становішча сапраўды было цяжкім, але камунары яшчэ маглі б супраціўіцца, калі б у іх шэрагах не апынуўся здраднік. Дробны службовец Камуны Дзюкатэль, які адважыўся на гнюсную здраду, днём 21 траўня ўвёў вярсальцаў у Парыж. Праз паўтары гадзіны пасля гэтага Дамброўскі паслаў у Камітэт грамадскага выратавання і ў Вайсковую камісію наступную дэпешу: "Вярсальцы ўступілі праз вароты Сен-Клу. Прымаю меры, каб іх прагнаць. Калі можаце даслаць падмацаванні, адказваю за ўсё". Дэпешу даставілі па прызначэнні з вялікім спазненнем, прытым чальцы Камуны не паверылі вестцы аб уступе супраціўніка ў горад. Не абцяжарыўшыся як след праверыць яго, яны ў восем гадзін вечара расклеілі



***Я. Дамброўскі. Здымак, зроблены па загаду Камуны адразу пасля смерці генерала***

афішу, у якой паведамленне Дамброўскага звалася пустой панікай. Тым часам за гарадскія сцены пранікала ўсё больш і больш вярсальцаў, усё новыя і новыя раёны аказваліся пад іх кантролем. Вечарам 21 траўня ў адной з контратак у раёне Ла Мюэт Дамброўскі быў кантужаны. Ледзь рухаючыся, ён у дзве гадзіны ночы з'явіўся ў Камітэт грамадскага выратавання з просьбай вызваліць яго ад камандавання ў сувязі з кантузіяй. Часовага пераемніка Дамброўскага прызначылі, але стузаныя і дэмаралізаваныя чальцы камітэта накінуліся на яго з папрокамі. Абураны да глыбіні душы, Дамброўскі выклікнуў: "Як, Камітэт грамадскага выратавання прымае мяне за здрадніка?! Маё жыццё належыць Камуне!" 23 траўня стала вядома, што Дамброўскі атрымаў смяртэльную рану на адной з барыкад Манмартра і памёр, сказаўшы: "Жыццё мае не іграе ролі, думайце толькі аб выратаванні рэспублікі".

Паўднёвая частка Парыжа, абаронай якой кіраваў Урублеўскі, была адной з апошніх апораў Камуны. Калі вярсальцы занялі Манмартр, ён арганізаваў барацьбу ў раёне Італьянскага бульвара, плошчы Жанны д'Арк і на Бют-о-Кайю. Тут дзейнічаў 101-шы батальён, які вяваў раней пад камандаваннем Дамброўскага ў раёне Аньера і Нейн; з 3 красавіка гэты батальён не выходзіў з бою і не адпачываў. "Суровыя і дзікія,- пісаў пра байцоў гэтага батальёна сведка,- у разарваных строях, са сцягамі ў руках; ніякіх загадаў, акрамя загаду "Наперад", яны не слухаюць, спакой ім не па душы, і, не паспеўша астыць ад аднаго бою, яны

рвуцца ўжо ў другі".

Даведаўшыся аб прарыве вярсальцаў ля варот Сен-Клу, Урублеўскі прапанаваў засяродзіць усе застаўшыяся сілы на паўднёвым беразе Сены, каб лепш арганізаваць абарону. Па яго меркаванні, раён Пантэона, рэк Сены і Ўеўр, а таксама фарты, якія яшчэ ўтрымліваліся, утваралі моцную закрытую пазіцыю, зручную для абароны, адкуль у выпадку неабходнасці можна было б адступіць за межы Парыжа. Удзельнік падзей і гісторык Камуны Лісагарэ так ацэньвае план Урублеўскага: "Гэтае меркаванне было самым прыдатным для рэгулярнага войска; але нельга па сваёй добрай волі перанесці на вызначанае месца паўстанне, а федэраты ўсё больш і больш настойвалі на тым, каб абараняць свае кварталы" . Прыкладна такая ж агульная ацэнка плану Ўрублеўскага дадзена савецкімі вайсковымі адмыслоўцамі, у прыватнасці гісторыкам баявых дзеянняў Камуны С. М. Красільнікавым, які піша, што прапанова Ўрублеўскага "у асноўным правільная, з вузкага аператыўна-тактычнага пункта гледжання не прымала да ўвагі таго, што галоўныя агмені абароны ляжалі па-за гэтай зонай - на поўнач ад Сены".

Вайсковы дэлегат Камуны Дэляклюз не зацвердзіў план Урублеўскага і прапанаваў перакінуць падпарадкаваныя яму сілы на паўночны бераг. Нягледзячы на гэта, Урублеўскі застаўся ў занятым раёне. 21 траўня ў форце Бісетр ён сабраў вайсковую раду. На ёй прысутнічалі чалец Камуны Лявон Мялье і шэраг камандзіраў, у тым ліку палякі А. Вярніцкі і А. Камянецкі. Удзельнікі рады па прапанове Ўрублеўскага прынялі рашэнне абараняцца паўднёвей Сены. Выконваючы рашэнне, Урублеўскі праявіў вялікае вайсковае майстэрства і цуды адвагі: раёнАўстэрліцкага маста і Вінных складоў стаў адным з апошніх агменяў арганізаванага супраціву вярсальцам. Праз паўстагоддзя ў гэтым раёне два гады пражыў Эрнест Хемінгуэй. Ён ахарактарызаваў яго насельніцтва наступным чынам: "Яны былі нашчадкамі камунараў, і палітыка давалася ім лёгка. Яны ведалі, хто расстраляў іх бацькоў, іх блізкіх, іх сяброў, калі вярсальскія войскі занялі горад пасля Камуны і расправіліся з усімі, у каго былі мазольныя рукі, або кепка на галаве, або якое-небудзь іншае адрозненне, па якім можна пазнаць працоўнага чалавека".

24 траўня ўпаў Пантэон, які гераічна абараняўся камунарамі. Вярсальцы падышлі да раёна Бют-о-Кай і атакавалі яго. Камунары пад камандаваннем Урублеўскага адбілі чатыры лютыя атакі вярсальцаў, самі наносілі контрвыты па супраціўніку. Частка камунараў вырашыла перанесці абарону ў свае родныя кварталы і, заклінаваўшы гарматы, пакінула ўмацаванні. Град снарадаў абрынуўся на пазасталых. Але калі нараніцу прыйшоў загад ачысціць умацаванні і адысці за Сену Ўрублеўскі выклікнуў: "Гэта здрада або недаразуменне! Я ніколі не ачышчу іх!" І толькі ў апошнія хвіліны пад пагрозай поўнага акружэння ён у поўным парадку пераправіў цераз раку ацалелыя гарматы і застаўшыхся ў жывых байцоў. "Калі б паўсюль былі такія камандзіры,- заявіў Лісагарэ,- то баі на вуліцах Парыжа працягваліся б не тыдзень, а месяц".

Пераправіўшыся цераз Сену, камунары арганізавалі супраціў каля Аўстэрліцкага маста і плошчы Жанны д'Арк. Некалькі тысяч камунараў на чале з Урублеўскім адбівалі тут на працягу 36 гадзін атакі цэлага вайсковага корпуса.Толькі пад пагрозай акружэння Ўрублеўскі згаджаўся на адступленне і ў поўным парадку выводзіў свае часткі з-пад вытаў супраціўніка. Дэляклюз прапанаваў Урублеўскаму прыняць камандаванне пазасталымі ўзброенымі сіламі камунараў, але Ўрублеўскі, ведаючы іх малалікасць, не мог узяць на сябе адказнасць за працяг гэтакай няроўнай барацьбы. Адмовіўшыся ад камандавання, ён да апошняй хвіліны заставаўся на сваім ранейшым пасту.

Цудам пазбегшы палону пры разгроме вярсальцамі апошніх барыкадаў, Урублеўскі, скарыстаўшы вопратку, прынесеную адной з парыжскіх работніц,зняў з сябе форму, схаваў зброю, але доўга яшчэ не хацеў пакідаць Парыж. Азвярэлыя карнікі добра зналі праслаўленага генерала Камуны і паўсюль яго шукалі. А ён у гарнітуры парыжскага пралетара спакойна расхаджваў па горадзе і з'яўляўся ў кафэ "Рэжанс", дзе можна было сустрэцца з сябрамі і знаёмымі. Сын Адама Міцкевіча Ўладзіслаў, сустрэўшы аднойчы Ўрублеўскага, пачаў угаворваць яго неадкладна з'ехаць у Лондан. "Здаецца, там кепскі клімат,- аджартоўваўся Ўрублеўскі.- А тут, у Парыжы, мне вельмі добра. Мяне атачаюць сумленныя працоўныя, засцерагаюць мяне, запрашаюць мяне на абеды, дзе так сардэчна п'юць за маё здароўе".

Аднак крывавы тэрор вярсальцаў усё ўзмацняўся. Пасля доўгіх угавораў Урублеўскі пагадзіўся пакінуць Францыю, скарыстаўшыся чужым пашпартам. Толькі шчаслівы збег акалічнасцяў і незвычайная стрыманасць Урублеўскага дапамаглі яму пазбегнуць смяротнай небяспекі. Пасля, калі яго спыталі аб апошніх днях у Парыжы і аб акалічнасцях уцёкаў, ён у сваёй звычайнай паўжартоўнай манеры адказаў: "Спытайце ў тых дурняў, якія наваднілі Парыж. Я там цалкам не хаваўся, нават не мяняў вопраткі, разгульваў па вуліцы і ўсё. Аднак, калі я атрымаў ад сваіх прускі пашпарт, то пайшоў на вакзал, каб з'ехаць з Парыжа. На вакзале, гляджу, усіх пасажыраў зганяюць у адну залу, у якім паліцэйскі камісар правярае кожнага з іх, параўноўваючы з альбомам камунараў, дзе мой здымак на першым месцы. Паказваю жандару свой пашпарт і сярдую, што раздражняе мяне пустымі фармальнасцямі. Той казырнуў і далажыў камісару - маўляў, немец. Адвялі мяне проста ў вагон перачакаць, пакуль скончыцца праверка пасажыраў, вялікую павагу тады аказвалі прусакам!"

Гісторыя атрыманага "ад сваіх" прускага пашпарта на"імя В. Вальдэмара), пра які згадаў Урублеўскі, заслугоўвае таго, каб распавесці аб ёй больш падрабязна. Справа ў тым, што пашпарт быў пасланы з Лондана па даручэнні Карла Маркса. Уручыў ж яго Ўрублеўскаму рускі рэвалюцыянер П. Л. Лаўроў, які ў 1868 г. пасля ўцёкаў з высылкі жыў у Парыжы, быў звязаны з дзеячамі І Інтэрнацыяналу і ўдзельнікамі

французскага працоўнага руху, а таксама меў нямала сяброў і сярод палякаў. Гэтыя акалічнасці як нельга лепш гавораць пра тое, каго менавіта разумеў Урублеўскі пад словам “свае”, калі згадваў аб прускім пашпарце.

Так скончыўся яшчэ адзін этап жыцця Ўрублеўскага. Якое месца заняў ён у яго ідэйнай эвалюцыі, чым звязаны з папярэднім часам, як суадносіцца з наступным? Сам Урублеўскі адказаў на гэтыя пытанні не пакінуў, няма прамых адказаў на іх і ў захаваўшыхся дакументах. Аднак наяўныя крыніцы ўтрымоўваюць нямала ўскосных дадзеных, якія дазваляюць болей або меней дакладна адказаць на пастаўленыя пытанні.

Пачнём з шляху, па якім прыйшоў Урублеўскі ў шэрагі абаронцаў Камуны. Вядома, гэты шлях не быў выпадковым для яго, як і для іншых актыўных дзеячоў польска-беларускай дэмакратычнай эміграцыі. Папершае; таму, што ён быў традыцыйным для нацыянальна-вызвольнага руху. Адзначаючы гэта У. І. Ленін пісаў: “Традыцыі барацьбы за нацыянальнае вызваленне былі такія моцныя і глыбокія, што пасля паразы на радзіме лепшыя сыны Польшчы ішлі падтрымліваць усюды і паўсюль рэвалюцыйныя класы; памяць Дамброўскага і Ўрублеўскага непарыўна звязаная з найвялікшым рухам пралетарыяту ў XIX стагоддзі, з апошнім - і, будзем спадзявацца, апошнім няўдалым - паўстаннем парыжскіх рабочых”. Па-другое, таму што ў гады, якія папярэднічалі Камуне, Урублеўскі і яго аднадумцы, засвойваючы ідэі ўтапічнага сацыялізму і знаёмячыся з навуковым сацыялізмам, былі ў дастатковай меры падрыхтаваныя да разумення вядучай ролі рабочага ікласа, да пераходу на яго бок у палітычнай барацьбе.

Прыняўшы на сябе адказны пост ва Ўзброеных сілах Камуны і атрымаўшы чын генерала, Урублеўскі аддаваў справе ўсе свае сілы і здольнасці. “Перыяд Камуны,- піша Вычанская,- з’явіўся новай праверкай вялікіх асабістых вартасцяў Урублеўскага [...]. Падчас баёў Камуны займаўся ён справамі чыста вайсковымі і, як уяўляецца, менш за Дамброўскага ўмешваўся ў палітыку” .

Згаджаючыся ў цэлым з такой характарыстыкай ролі Ўрублеўскага, заўважым, што вялікая актыўнасць Дамброўскага ў чыста палітычнай сферы (яе, зрэшты, вельмі цяжка, нават, мабыць, немагчыма аддзяліць ад узброенай барацьбы за Камуну) тлумачыцца яшчэ і тым, што ён сумяшчаў камандаванне правым флангам абароны з пасадай каменданта Парыжа. Гэтая пасада патрабавала ад Дамброўскага сталых зносін не толькі з вайскоўцамі, але і з іншымі дэлегатамі Камуны, рабіла яго датычным да рашэння шэрагу такіх палітычных пытанняў, да якіх Урублеўскі па сваім становішчы не мог мець адносінаў. На занятым жа пасту ён быў актыўны і ў палітычным сэнсе. Гэта знаходзіла свой выраз, напрыклад, у тым, што ён актыўна прапагандаваў ідэі Камуны сярод польскіх эмігрантаў. Услед за ім далучыліся да камунараў і разам з ім ваявалі дзесяткі палякаў, а таксама і выхадцы з Літвы і Беларусі, для якіх прыклад і слова Ўрублеўскага мелі вырашальнае значэнне. Для ілюстрацыі гэтага можна акрамя ўжо прыведзеных раней назваць імёны Ў. Еста, У. Кукшы, Р. Слезера, А. Кабаскі, У. Лянкевіча, М. Г. Рагоўскага, Ю. Лявіцкага, А. Гушы, Ю. Пачобута, Ф. Падбярэскага і шэраг іншых выхадцаў Літвы і Беларусі, звесткі пра якіх ёсць у працы К. Вычанскай. Вырашальная роля Ўрублеўскага бачная і на прыкладзе лекара Ў. Барзабагатага, які, па дадзеных Вычанской, лячыў камунараў, параненых пры абароне форта Ісі, быў арыштаваны вярсальцамі, але здолеў пазбегнуць адказнасці. У 1874 г. пры вяртанні ў Расію ён даў паказанні: пры гэтым ён поўнасцю адпрэчваў свой удзел у Камуне.

У цяперашні час мы не ведаем яшчэ ўсіх дэталяў аб дзейнасці Ўрублевского ў перыяд Камуны, у шэрагу выпадкаў не можам высвятліць матываў яго дзеянняў. Але нашы сённяшнія спазнанні цалкам дастатковыя для пацверджання правільнасці тых ацэнак, якія давалі Дамброўскаму і Ўрублеўскаму іх сучаснікі.

У сваёй выдатнай працы “Грамадзянская вайна ў Францыі”, пісаўшайся ў той час, калі на барыкадах Камуны яшчэ ішла барацьба, К. Маркс пісаў: “Другая імперыя была святам касмапалітычнага махлярства [...]. Камуна дала ўсім замежнікам гонар памерці за несмяротную справу [...]. І Ц’ер, і буржуазія, і Другая імперыя пастаянна падманвалі палякаў голаснымі выказваннямі сваёй спагады, у рэчаіснасці аддаючы іх Расіі і выконваючы яе брудную справу. Камуна ўшанавала гераічных сыноў Польшчы, паставіўшы іх на чале абаронцаў Парыжа” . Пазней, ацэньваючы ролю палякаў, і першым чынам, вядома, Дамброўскага і Ўрублеўскага, Энгельс пісаў: “...у Парыжскай Камуне яны былі адзінымі надзейнымі і здольнымі палкаводцамі”.

Цытаваны адрывак з “Грамадзянскай вайны ў Францыі” Маркс заканчвае словамі пра тое, што Камуна, каб больш рэзка адцяніць новую гістарычную эру, скінула сімвал ваеннай славы банапартысцкай Францыі - Вандомскую калону. Адзін з карыфеяў польскай дэмакратычнай эміграцыі, Віктар Хельтман, у лісце да Я. Н. Яноўскага 20 траўня 1871 г., горача абараняючы палякаў, якія змагаліся на барыкадах Камуны, пісаў: “Калі-небудзь Францыя пабач з імёнамі герояў, якія заваююць для яе дэмакратычную сацыяльную рэспубліку, напіша на новай Вандомскай калоне імёны Дамброўскага і Ўрублеўскага...”

З’яўленне Ўрублеўскага сярод найболей самааддaных, упартых і адданых справе абаронцаў Камуны не выпадковасць, а заканамерная з’ява, якая цалкам лагічна яўпісваецца ў яго біяграфію.

*Артыкул скампанаваны*

***Станіславам Суднікам***

*паводле: 1.“За нашу и вашу свабоду! Герои 1863 года. Сб.-М., 1964.2. В.Е. Абрамавичюс, В.А. Дьяков. Валерий Врублевский. Издательство “Мысль”, Москва-1968.*

*З гісторыі Лідскага аэрадрома*

**Анастасія Каладзяжная**

# Трагедыя 11-й змешанай авіяцыйнай дывізіі

***Аб Вялікай Айчыннай вайне напісана шмат манаграфій, артыкулаў, мемуараў. Але разам з тым і па сённяшні дзень застаюцца старонкі вайны, якія слаба або наогул не даследаваны. Да такіх старонак адносіцца гісторыя 11-й змешанай авіяцыйнай дывізіі Заходняй асобай вайсковай акругі ў пачатковы перыяд вайны. Для СССР пачатковы перыяд вайны быў неспрыяльным, і па ідэалагічных меркаваннях гэтая праблема доўгі час была закрытая для ўсебаковых навуковых распрацовак. І толькі з другой паловы 80-х гадоў мінулага стагоддзя з'явіліся магчымасці аб'ектыўнага даследавання гэтай трагічнай падзеі.***

## Будаўніцтва новых і рамонт старых аэрадромаў Заходняй асобай вайсковай акругі

Войскі Беларускай вайсковай акругі 17 верасня 1939 года перасеклі дзяржаўную мяжу Польшчы і СССР, усталяваную пасля савецка-польскай вайны 1920 года і занялі тэрыторыю, названую вайскоўцамі "Беластоцкі выступ", які ўдаваўся на 120 км на захад. З гэтага часу акруга пачала звацца Заходняй асобай вайсковай акругай. Статус "асобая" акруга атрымала за непасрэдны судотык з часткамі вермахту.

Заходняя асобая вайсковая акруга закрывала дзяржаўную мяжу СССР працягласцю ў 470 км, ад Гародні да Берасця ўключна. Ёй, як і іншым прымежным акругам, ставілася задача: "...абараняць дзяржаўную мяжу ад раптоўнага ўварвання ўзброеных сіл супраціўніка на тэрыторыю СССР. Часткі супраціўніка, якія прарвуцца праз дзяржмяжу, акружаць і знішчаць". *(ЦАМА СССР, ф.153, воп.5908, спр.1 арк.1-10)*.

Тэрыторыя Заходняй Беларусі, якая раней ўваходзіла ў склад Польшчы, не мела адпаведнай часу і савецкім стандартам вайсковай інфраструктуры і абаронных збудаванняў. Старая дзяржаўная мяжа, абсталяваная ў вайсковых адносінах, аказалася тылавым раёнам. Першачарговай мерай стала размяшчэнне і матэрыяльнае забеспячэнне савецкіх войскаў, якія былі перадыслакаваны на тэрыторыю заходніх абласцей Беларускай ССР. Патрэбны казармы, аэрадромы, палігоны і інш. для забеспячэння жыццядзейнасці і баявой падрыхтоўкі амаль 300-тысячнай групоўкі савецкіх войскаў.

Так 22 чэрвеня 1940 года СНК БССР і ЦК КП(б)Б прынялі рашэнне аб арганізацыі ў Лідскім раёне саўгаса "Тарнова". Але жылыя і гаспадарчыя пабудовы спатрэбіліся для размяшчэння савецкіх войскаў. І 18 снежня гэтага ж года ЦК КП(б)Б прыняў пастанову: "Перадаць жылыя і гаспадарчыя пабудовы саўгаса "Тарнова" ЗахАВА для размяшчэння вайсковых частак, ... у дэкадны тэрмін перасяліць рабочых саўгаса "Тарнова" ў іншыя саўгасы, а таксама ў іншыя вольныя жылыя дамы ў межах вобласці". *(НАРБ, ф. 4п, воп. 3, спр. 1099, арк. 6-7.)*

Для гэтых жа мэтаў перададзены і маёнтак "Дуды" Лідскага раёна, які займаў саўгас. *(НАРБ, ф. 4п, воп. 37, спр. 18, арк. 8-35.)*

Праблемы размяшчэння і забеспячэння савецкіх войскаў на гэтай тэрыторыі вырашаліся са значнымі цяжкасцямі. У афіцыйных савецкіх дакументах таго часу ўсе гэтыя мерапрыемствы называліся "Работы на аб'ектах спецбудаўніцтва", "Работы на абаронным будаўніцтве", "Закрытае будаўніцтва". Спецбудаўніцтва праводзілася па двух ведамствах - НКУС і Народнага Камісарыяту Абароны (НКА). НКУС займаўся будаўніцтвам аэрадромаў і шырока выкарыстоўваў на работах працу зняволеных.

Абсталяванне тэрыторыі Беларусі як тэатра ваенных дзеянняў патрабавала ў сціслыя тэрміны ўтварыць аэрадромную сетку. Аэрадромная сетка Заходняй Беларусі была развітая слаба, аэрадромы не мелі бетонных узлётна-пасадачных палосаў. Грунт і гразь, якія выляталі з-пад колаў, забівалі закрылкі і рулі самалётаў, забівалі сістэму пад'ёму шасі. Такія аэрадромы не маглі выкарыстоўвацца для новых тыпаў вайсковых самалётаў. 24 сакавіка 1941 года Палітбюро ЦК УКП(б) прыняло пастанову "Аб забеспячэнні

будаўніцтва і рэканструкцыі аэрадромаў". Планавалася будаўніцтва аэрадромаў з бетоннымі палосамі 1200х80м. Так, на Беластоцкім кірунку планавалася пабудаваць 11 аэрадромаў.

Перадваенная Ліда ўваходзіла ў Баранавіцкую вобласць. Дакументаў па будаўніцтве аэрадромаў каля Ліды (Чэхаўцы, Табала, Наваградак) пакуль не выяўлена, але цяжкасці былі прыкладна аднолькавыя пры будаўніцтве ўсіх аэрадромаў. Так, на будаўніцтва кожнага аэрадрома на Беластоцкім кірунку прадугледжвалася выдаткаваць 16 млн. рублёў, гэтыя сумы запланавана асвоіць у сціслыя тэрміны - да 1 верасня 1941 г. *(Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гарадзенскай вобласці, ф. 6195, спр. 191, арк. 43, 53).*

Будаўніцтва новых і рамонт старых аэрадромаў патрабавала значных матэрыяльных выдаткаў, рабочай сілы, матэрыялаў, механізмаў і праводзілася ў выключна цяжкіх умовах. Так, Беластоцкі абкам партыі 21 траўня 1941 года інфармаваў сакратара ЦК КП(б)Б П.К. Панамарэнку, што аб'екты ўсіх 11 аэрадромаў "механізмамі не забяспечаны, усе працы вядуцца ўручную *(Там жа, ф. 6195, спр. 181, арк. 311)*. Будаўнікі не маюць бетонамяшалак, бракуе аўтамабіляў, трактароў пад'ёмных кранаў, інвентару, прылад і іншых механізмаў. З-за адсутнасці каменедрабілак камень б'юць уручную, у выніку чаго жвіру падрыхтавана толькі 1,8 працэнта ад неабходнага *(Там жа, ф. 6195, спр. 181, арк. 312, 314)*. На многія вайсковыя аб'екты не паступіла нават тэхнічная дакументацыя *(Там жа, ф. 6195, спр. 191, арк. 44).*

Каб у запланаваныя тэрміны выканаць такія маштабныя работы, па падліках адмыслоўцаў, патрабавалася каля 40 тыс. рабочых і 42 тыс. фурманак з возчыкамі. Фактычна на будаўніцтве аэрадромаў было задзейнічана меней за палову ад запланаваных сілаў і сродкаў *(Там жа, ф. 6195, воп.1, спр. 191, арк. 43,47, 54).*

Палепшыць забеспячэнне вайсковых аб'ектаў рабочай сілай партыйныя і савецкія ўлады Беларусі паспрабавалі шляхам прыцягнення да абаронных работ зняволеных ГУЛагу. Па прыкладзе Беламорканала на вайсковым будаўніцтве на тэрыторыі Беларусі пачалі адкрывацца лагерныя пункты. Праца вязняў пачала выкарыстоўвацца на абаронных аб'ектах. На 20 траўня на 11-ці аб'ектах было больш за 5 тыс. зняволеных *(Там жа, ф. 6195, воп. 1, спр. 181, арк. 70).*

Па ўспамінах Красільнікавай Людмілы Іванаўны *(ЛГММ, ф. 27, спр. 1)*, каля в. Чэхаўцы аэрадром будавалі зняволеныя з Сярэдняй Азіі. Аэрадром у Жалудку будавалі таксама зняволеныя. *"У канцы красавіка 1941 года на аэрадром Жалудок прыгналі каля 200 "зэкаў" з Калугі"*, - успамінае А.Б. Фёдарава *(http://edu.grsu.by/rubon/forum/viewtopic.php?t=14)*.

Аэрадромнае поле памерам 1200х1200 м з 28 красавіка 1941 года будавалася каля в. Бакцішкі Юрацішскага раёна. Прыблізны аб'ём работаў: знос сямі хутароў, збор 600 м куб. каменю, земляныя работы - 20000 м куб., карчаванне 100 асобна стаячых дрэваў, зараўнованне 0,5 км існай грунтовай дарогі. *(НАРБ, ф. 4п, іоп. 37, спр. 18, арк. 8-35.)*

Адказным за рамонт Лідскага аэрадрома, паводле ўспамінаў І. Канашэвіча, кіроўцы на рамонце Лідскага аэрадрома, *"быў Бімбалін, на пятліцах якога былі два кубары" (ЛГММ, "Канашэвіч І.")*.

Вялікі аб'ём будаўнічых работ у сціслыя тэрміны патрабаваў павелічэння колькасці зняволеных. 22 траўня 1941 г. сакратар Беластоцкага абкаму партыі Папоў дакладваў сакратару ЦК КП(б)Б Панамарэнку, што недаўкамплектаванасць вайсковых аб'ектаў вязнямі складае 7 тыс. чалавек *(Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гарадзенскай вобласці, ф. 6195, воп. 1, спр. 191, арк. 40)*.

Па ўспамінах 10-гадовага дапытлівага хлапчука, які жыў у в. Стокі, у будучым настаўніка матэматыкі Мікалая Ўладзіміравіча Бельскага, *"...аэрадром ля в. Табала пачалі будаваць вайсковыя будаўнікі ў 1941 годзе. З Табалы прыехаў мужчына-вярбоўшчык і запрашаў на будаўніцтва аэрадрома. Я з бацькам вазіў камяні на фурманцы з в. Стокі на аэрадром у Ліду. Адмыслоўцы на аэрадроме ў Лідзе абмяралі кучу камянёў і добра плацілі за гэтую працу. Тут будучы настаўнік матэматыкі ў 1941 годзе ўпершыню ўбачыў лагарыфмічную лінейку. За дзень паспявалі зрабіць толькі адзін рэйс. У раёне цяперашняга льнозавода ў в. Даржы знаходзіўся кар'ер, дзе працавалі зняволеныя, якіх прывозілі з Ліды" ( ЛГММ, "Бельскі М.У.").*

Пра рамонт Лідскага аэрадрома ўспамінае М.М. Дзікевіч, 1924 г.н., які жыве ў в. Сялец: *"Гаспадароў, у якіх быў конь, абавязалі вывезці на Лідскі аэрадром вызначаную колькасць камянёў у залежнасці ад памераў зямлі ў гаспадарцы... Нагрузіўшы камянёў на калёсы, пасля заходу сонца ехалі ў Ліду. Уначы машын не сустракалі. Досвіткам былі на аэрадроме. З'яўляўся прыёмшчык. Камяні складалі ў кучу так, каб больш было пустэчы, затым прыёмшчык замяраў кучу камянёў. Такая разгрузка камянёў займала вялікую тэрыторыю. Тады пачалі замяраць на вазах. Але пры яздзе камяні ўтрэсваліся, іх станавілася менш па аб'ёме. Каб стварыць бачнасць вялікай кучы камянёў, мужчыны рабілі ў вазах падвойнае дно" ("Лідскі летапісец", № 22, стар. 37).*

*"У Скідалі на будаўніцтва абаронных аб'ектаў па працоўнай павіннасці былі мабілізаваны працоўныя з Вілейскай вобласці, з якіх былі сфармаваны два будаўнічыя батальёны" (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 37, спр. 38, арк. 5).*

Прыцягваліся на вайсковае будаўніцтва зняволеныя і з-за межаў Беларусі - з Варонежа, Тамбова і інш. *(Там жа, ф. 6195, воп. 1, спр. 191, арк. 17)*. Будавалі новыя і рамантавалі старыя аэрадромы камсамольцы, прыбылыя ў Заходнюю Беларусь па камсамольскіх пуцёўках.

*"Я, Фёдарава Аляксандра Іванаўна, нарадзілася 6 студзеня 1919 г. у вёсцы Новае Андзіберава Яльчыкскага раёна Чувашыі ў беднай шматдзетнай сялянскай сям'і. Вайна мяне заспела ў Беларусі. У г. Лідзе я*

*працавала на цэментавым заводзе, будавала аэрадром. Аднойчы падчас працы патрапіла пад абстрэл нямецкіх самалётаў, была параненая ў нагу і руку. Перавязаўшы раны хусткамі, разам з іншымі землякамі села ў цягнік і адправілася дадому. Па дарозе нас бамбілі нямецкія самалёты. Да Кіева мы дайшлі пешшу. Затым на перакладных - да Тулы і Масквы. У Канаш я прыехала на платформе, а да роднай вёскі - ужо пешшу". (http://www.ravnenie-na-pobedu.ru/regions/21/veteran.htm).*

Шура Вінаградава, у будучым адважная выведніца партызанскай брыгады спецыяльнага прызначэння "Няўлоўныя", прыбыла ў Шчучын па камсамольскай пуцёўцы з Карэліі. *(ЛГММ, "Вінаградава А.").*

Да заходняй мяжы СССР для будаўніцтва новых аэрадромаў накіроўваліся і студэнты. Кавалёва (Кустоўская) Ніна Ціханаўна - студэнтка 4-га курса Маскоўскага інстытута інжынераў геадэзіі, аэрафотаздымак і картаграфіі ўспамінае: *"Я накіравана з групай (5 чалавек) да мяжы з Нямеччынай для вышукальніцкіх работ. Неабходна было адшукаць вадасцёк для спуску вады з масіву балотаў, размешчаных паблізу ад праектаванай пляцоўкі аэрадрома... Працавалі мы шмат, так што страцілі ўяўленне пра дзень і ноч. Усё змяшалася. Часам абедалі ў 12 гадзін ночы і снедалі ў 6 гадзін вечара. Спаць не было калі. Здавалася, што вось-вось мы заснём проста за рабочымі сталамі" (ЛГММ, "Кавалёва Н.Ц.").*

Спецбудаўніцтва праходзіць выключна цяжка. Бытавыя ўмовы жудасныя. Так, з 9650 чырвонаармейцаў будбатаў 2800 прыбылі без абмундзіравання і абутку. Сярод шарагововага складу маецца шмат байцоў па стане здароўя непрыдатных для адбывання збораў (кіла, кароста, нервова хворыя). Камплектаванне будбатаў адбывалася без уліку спецыфічнасці работ, якія маюць быць: бракуе муляроў, бетоншчыкаў, затое лішак цяслярoў і столяраў *(Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гарадзенскай вобласці, ф. 6195, воп. 1, спр. 191, арк. 69).*

У сувязі з правядзеннем сельскагаспадарчых работ зніжаюцца выхады мясцовага насельніцтва па працоўным удзеле. Калі за другую палову красавіка ў сярэднім выходзіла каля 8000 возчыкаў, а ў асобныя дні да 14000, то за першыя 20 дзён траўня, калі поўным ходам ішла пасяўная кампанія, сярэдні выхад склаў толькі 4070 чалавек, зваліўшыся на 20 траўня да 2700 чалавек. А па падліках адмыслоўцаў, для выканання ўрадавага задання ў тэрмін штодзённы выхад павінен быць па ўсіх аб'ектах разам да 42000 чалавек *(Там жа, ф. 6195, воп.1, спр. 191, арк. 70).*

Калі ўлічыць, што коні прыцягваліся да абаронных работ і падчас палявых работ, то няцяжка ўявіць стаўленне мясцовага насельніцтва да абароннага будаўніцтва. Начальнік аддзела палітпрапаганды Беластоцкага аблваенкамата Гуляшчаў інфармаваў абкам партыі, што сярод мясцовага насельніцтва ходзяць чуткі, быццам *"усіх здаровых забяруць на абаронныя работы, не будзе каму сеяць, наступіць страшны голад" (Там жа, ф. 6195, воп. 1, спр. 215, арк. 1).*

На будаўніцтве абаронных аб'ектаў нізкая арганізацыя працы, неўладкаваныя бытавыя ўмовы, нізкія заробкі. Абеды падвозілі са спазненнем на 5-6 гадзін, аднастайная і нясмачная ежа (ячменная або прасяная каша), адсутнасць лазні, пасцельнай бялізны; спецыяльнай вопраткі і абутку не выдавалі, многія працавалі ў абарванай вопратцы і рваным абутку і, наогул, без абутку. Нормы былі завышанымі. Так, на Шчучынскім вайскова-будаўнічым участку № 26 існавала расцэнка: выкопванне рыдлёўкай 1 кубічнага метра зямлі з адкідваннем грунту на 3 метры каштавала 1 руб. 16 кап. З-за нізкіх расцэнак, змушаных прастояў большасць працоўных гэтага ўчастка зараблялі ў дзень ад 3 да 7 рублёў, тады як сілкаванне ў сталовай каштавала працоўнаму ў сярэднім каля 6 рублёў за дзень *(Там жа, ф. 6195. воп. 12, воп. 1, спр. 92, арк. 15,16).*

Тэмпы будаўніцтва не задавальнялі наркамат абароны. З загаду наркама абароны № 0039 ад 18 чэрвеня 1941 года аб разгортванні будаўніцтва аператыўных аэрадромаў: *"Становішча з ходам будаўніцтва аператыўных аэрадромаў недапушчальна дрэннае. На 01.06.1941 ахоплена будаўніцтвам толькі 50 адсоткаў ад зацверджанага мною плану будаўніцтва аэрадромаў на 1941 год. Асабліва дрэнна вядзецца будаўніцтва аэрадромаў у КАВА і ЗахАВА. Загадваю: Вайсковым саветам акруг неадкладна разгарнуць будаўніцтва... з разлікам заканчэння будаўніцтва лётных палёў не пазней 01 жніўня і поўнага заканчэння аэрадромаў не пазней 01 кастрычніка 1941 г. Графік выканання работ падаць мне 25.6.41 г. Паставіць пытанні перад ЦК і СНК саюзных рэспублік па аказанні максімальнай дапамогі... Дадатковых лімітаў на паліва дадзена не будзе, таму шырэй прыцягваць конны транспарт і грабароў" (http://forum.pravda.ru/index.php?showtopic=507&st=120).*

Паводле справаздачы ў ЦК КП(б)Б на 20 чэрвеня 1941 г. завоз і забяспечанасць каменем непасрэдна на пляцоўках выкананы на 95,3 адсотка да плану, але з-за нізкага выхаду фурманак і пешых рабочых па працгужпавіннасці пяску завезена толькі на 29,5 адсотка, жвіру - на 11,5. Цалкам нездавальняльна выкарыстоўваецца аўтатранспарт з-за адсутнасці запасных частак, гумы. Бетонавыя работы не забяспечаны з-за адсутнасці цэменту. Адчуваецца вялікі недахоп у каменедрабілках, з-за адсутнасці якіх некалькі тысяч працоўных занятыя на работах па біцці друзу ўручную. Выключна востра стаіць пытанне аб забеспячэнні працоўных ППК пасцельнымі прыналежнасцямі, бялізнай, танным абуткам і касцюмамі. Пры сталовых для рабочых ППК няма кіпяцільнікаў. Інжынерна-тэхнічныя работнікі з усходніх абласцей, мабілізаваныя на будаўніцтва, не адчуваюць ніякай адказнасці. Чакаюць заканчэння паўтара месяцаў, каб сыйсці з гэтай працы *(Там жа, ф. 6195, воп. 1, спр. 451, арк. 16).*

У перадваеннай Лідзе ішла падрыхтоўка да разгортвання шпіталяў на выпадак вайны. Будынкі рускіх сярэдніх школ № 2 і № 5 (вул. Кірава, 51 і 62), а таксама і

беларускай сярэдняй школы № 1 (вул. Кірава, 65) і раённай паліклінікі (вул.Кірава, 51) былі прыстасаваныя пад шпіталі на ваенны час *(Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гарадзенскай вобласці, ф. 3, воп. 1, спр. 3, арк. 16)*. Ці былі гэтыя будынкі падрыхтаваныя пад шпіталі да пачатку вайны, або вайсковае кіраўніцтва палічыла, што іх нядосыць, але *"у ноч з 22 на 23 чэрвеня, калі ўсю ноч бамбілі горад, навучэнцаў Лідскай педагагічнай вучэльні сабралі для падрыхтоўкі шпіталя" (З успамінаў Гікт Басі Майсееўны, ЛГММ "Лідчына ў 1940-1941 гг.")*.

З усяго вышэйсказанага выцякае, што падрыхтоўка будучага тэатра ваенных дзеянняў легла цяжкім матэрыяльным і маральным грузам на плечы мясцовага насельніцтва. Тым больш, што гэтыя работы вяліся ва ўмовах дэпартацыі насельніцтва і правядзення новай кадравай палітыкі.

Вайсковым кіраўніцтвам і цывільнымі ўладамі прымаюцца ўсе меры для забеспячэння фарсіравання будаўніцтва аб'ектаў. Але на фарсіраванне будаўніцтва застаюцца лічаныя гадзіны.

У гісторыі няма ўмоўнага ладу, але ўсё ж узнікае пытанне: ці паспелі б, не пачніся вайна, здаць усе аб'екты ў вызначаны тэрмін? Мусіць, паспелі б. Там, дзе не вытрымліваюць і ломяцца машыны і механізмы, вытрымлівае чалавек.

# Дыслакацыя авіяцыйных частак і іх ваенная падрыхтоўка

У Заходнюю асобую вайсковую акругу ўваходзілі тры арміі з прыдадзенымі ім змешанымі авіяцыйнымі дывізіямі. Кожнае армія акругі абаранялася ў паласе прыкладна 150 км.

На левым крыле акругі дзяржаўную мяжу прыкрывала 4-я армія, куды ўваходзіла 10-я змешаная авіяцыйная дывізія. Часткі гэтай дывізіі базаваліся ў Берасці, Кобрыне, Пінску.

Цэнтральны ўчастак прыкрывала 10-я армія. Аснову ВПС гэтай арміі складала 9-я змешаная авіяцыйная дывізія. Штаб дывізіі, як і войскі, знаходзіўся ў Беластоку.

У раёне Магілёва з траўня 1941 года фармавалася кіраванне 13-й арміі. Па плане прыкрыцця мяжы войскі 13-й арміі павінны былі заняць абарону паміж 4-й і 10-й арміямі. Да пачатку вайны штаб арміі быў укамплектаваны асабовым складам на 40, аўтатранспартам усяго на 20 адсоткаў. Ні сродкаў сувязі, ні нават асабістай зброі ў каманднага складу арміі не было.

На правым крыле акругі дзяржаўную мяжу прыкрывала 3-я армія, у склад якой уваходзіла 11-я змешаная авіяцыйная дывізія пад камандаваннем палкоўніка Ганічава П.І. Штаб дывізіі з 6 траўня 1941 года дыслакаваўся ў Лідзе.

*Ганічаў Пётр Іванавіч, 1904 г.н., г. Ленінград, вул.Серпухаўская,17, кв. 10, палкоўнік, камандзір 11 змешанай авіяцыйнай дывізіі. Прызначаны на пасаду загадам НКО № 03675 (дата не паказаная). Адукацыя сярэдняе - тэхнічная школа ў 1927 годзе, школа лётчыкаў у 1929 годзе, у РККА з 1924 г., у ВПС з 1927 года, член УКП(б) з 1931 г. (ЦАМА, ф. 20054-а, воп. 2, спр. 1-а, арк. 2).*



***Ганічаў Пётр Іванавіч***

У склад 11-й авіяцыйнай дывізіі ўваходзілі:

- 127-мы знішчальны авіяцыйны полк пад камандаваннем Гардзіенкі А.У. Полк сфармаваны ў чэрвені 1940 года ў Бабруйску *(РДВА, ф. 4, воп. 29, спр. 502, арк. 331-334.)* і ў верасні 1940 года перадыслакаваны ў Скідаль. На яго ўзбраенні былі знішчальнікі І-153;
- 16-ты хуткасны бамбардзіровачны авіяцыйны полк пад камандаваннем Скварцова А.А. базаваўся ў Жалудку. Гэты полк праходзіў перавучванне з самалётаў-бамбардзіроўшчыкаў на пікіруючыя бамбардзіроўшчыкі "Пе-2".
- 122-гі знішчальны авіяцыйны полк. Гэты полк сфармаваны ў красавіку 1940 года ў Бабруйску, у верасні 1940 года перадыслакаваны ў Ліду. Камандаваў палком з чэрвеня 1941 года Мікалаеў Аляксандр Паўлавіч - заслужаны лётчык-знішчальнік, які ваяваў у Кітаі і Манголіі.

Лідскі аэрадром займаў плошчу 390 000 квадратных метраў, абсталяваны для пасадкі ў дзённых і начных умовах усіх сістэм самалётаў. *(Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гарадзенскай вобласці, ф.3, оп.61, Д.3, л.3)*.

З успамінаў лётчыка 122 зап М.Я. Карабкова *"…аэрадром знаходзіўся за 4 кіламетры ад горада, але кожны вечар едзем на рамізніку па 3-4 чалавекі ў горад - гуляць. Іншы раз у сябе ў гарадку згуляеш у більярд з Сяргеем Даўгушыным або Віктарам Ганчаровым" (Штотыднёвая газета "Надежда", № 12(207) ад 27.03.2007)*.

Перадваенная Ліда і яе наваколле былі ў прамым сэнсе слова нашпігаваныя вайсковымі часткамі і ўстановамі. З частак і падраздзяленняў авіяцыі па стане на 31 траўня 1941 г. у Лідзе, Жалудку, Скідалі і Шчучыне знаходзіліся *(http://www.soldat.ru/doc/dis/zap)*:

- кіраванне 11 зад;
- 122 зап;
- авіясклад № 899;
- гарнізонны вузел сувязі № 63;
- вайсковая пракуратура;
- 3 аддзяленне;
- 11 азад РГК;
- 15-ты звяз буйнакаліберных кулямётаў;
- 4-я стацыянарная вайсковая галубіная станцыя;
- 833-ці акруговы хімічны склад 3 разраду;
- ЗКУ ст. Ліда ( орган вайсковых паведамленняў);
- 2387-мы вайсковы шпіталь (100 ложкаў);
- кіраванне 17-га дарожна-эксплуатацыйнага палка;

- 928-мы акруговы склад паліва;
- 238 атд. мясцовы стралковы звяз;
- 213-ыя стацыянарныя авіямайстэрні;
- 22-ая кіслародна-здабывальная станцыя;
- 14 АРС кіравання;
- 44-ая зенітная батарэя СПА;
- кіраванне 38-ай авіябазы;
- 165 баз;
- падраздзяленне абслугоўвання пры 165 баз;
- 152-ая аэрадромна-тэхнічная рота.

У Жалудку:
- 16-ты лёгкабамбардзіровачны авіяполк (самалёты СБ);
- 16-ты хімзвяз ВПС;
- 165 азад РГК;
- 44-я зенітная батарэя СПА;
- кіраванне 40-ой авіябазы;
- 140 арс - Жалудок;
- 177 баз;
- падраздзяленне абслугоўвання авіягарнізона пры 177 баз;
- 155-ая аэрадромна-тэхнічная рота - Жалудок.

У Скідалі:
- 127 зап;
- 46-ая зенітная батарэя СПА;
- кіраванне 39-ай авіябазы;
- 139 арс кіравання;
- 169 баз;
- падраздзяленне абслугоўвання пры 169 ба;
- 179 баз - Скрыбаўцы;
- 153-ая аэрадромна-тэхнічная рота - Скідаль;

У Шчучыне:
- 4-я асобная карпусная авіяэскадрылля;
- 190 шап;
- 190-ты хімзвяз ВПС;
- 178 баз;
- падраздзяленне абслугоўвання авіягарнізона пры 178 баз.

Па стану на 31.05.1941 у Шчучыне лічыўся 190-ты штурмавы авіяцыйны полк. Але гэты полк, практычна, нідзе не прасочваецца. Няма матэрыялаў аб удзеле гэтага палка ў баях у пачатковы перыяд вайны.

Верагодна гэты полк быў у стадыі фармавання. Згодна з дырэктывай Генеральнага штаба Чырвонай Арміі № арг/3/520477 ад 25.01.1941 фармаваліся знішчальныя палкі, у т. л. і 190-ты знішчальны, а не штурмавы авіяцыйны полк. Верагодна ён павінен быў базавацца ў Шчучыне. *(Зборнік дакументаў і матэрыялаў пад рэдакцыяй М.А. Дзянісава, М.Я. Тумаш "Накануне. Западный особый военный округ (конец 1939 г. - 1941 г.)". Мн., 2007, стар. 557).*

На ўзбраенні 122-га знішчальнага авіяцыйнага палка былі знішчальнікі "І-16" з рухавікамі апошніх мадыфікацый М-62 і М-63. Самалёты "І-16" з такімі рухавікамі пачалі паступаць на ўзбраенне Чырвонай Арміі з 1940 года. У палку былі 4 эскадрыллі. Запасным аэрадромам была пляцоўка на паўночны ўсход ад горада ў Жырмунах.

Знішчальнік "І-16"

| | |
|---|---|
| Мадыфікацыя - | І-16, тып 28 |
| Размах крыла, м - | 9,00 |
| Даўжыня, м - | 6,13 |
| Вышыня, м - | 3,25 |
| Плошча крыла, м2 - | 14,54 |
| Маса, кг | |
| пустога - | 1403 |
| узлётная - | 1988 |
| Тып рухавіка - | 1 ПД М-63 |
| Магутнасць, к.с. - | 1 х 900 |
| Максімальная хуткасць , км/г | |
| каля зямлі - | 427 |
| на вышыні - | 463 |
| Практычная далёкасць, км - | 450 |
| Хуткапад'ёмнасць, м/мін - | 938 |
| Практычная столь, м - | 9950 |
| Экіпаж - | 1 |
| | два 7.62-мм кулямёты ШКАС і дзве 20-мм гарматы ШВАК |

**Тактыка-тэхнічныя характарыстыкі Bf-109F і І-16:**

| | Bf 109F-3 | І-16 (тып 27) |
|---|---|---|
| Хуткасць: | 391 мілі ў гадзіну (628 км у гадзіну) | 326 мілі ў гадзіну (523 км у гадзіну) |



***Знішчальнік "І-16"***

| | | |
|---|---|---|
| Столь: | 39370 футаў | 29530 футаў |
| Хуткапад'ёмнасць: | 4291 фут у мін | 3200 футаў у мін |
| Далёкасць палёту: | 440 міль | 248 міль |

Як выцякае з табліцы, яўнай перавагі ў "Bf 109F-3" перад "I-16" не было. "I-16" на 20 адсоткаў саступаў "Месершміту" у хуткасці і на 47 адсоткаў у гарызантальнай манеўранасці.

Але гэта быў нядрэнны знішчальнік. Меркаванне брытанскага лётчыка А. Прайса, які ў сваім жыцці лётаў на 40 тыпах самалётаў: *"Найболей магутнае ўзбраенне сярод серыйных знішчальнікаў свету ў верасні 1939 года меў рускі "I-16" канструктара Палікарпава" ((http://www.soldat.ru/forum/forum.html?page=1&id=3600 &referer_query=page%3D1).*

Характарыстыка самалёта "I-16" пілотам Архіпенкам Ф.І: *"З кабіны "I-16" выдатны агляд. Хто лётаў на "I-16", той на любым тыпе самалёта паляціць. Гэта - мара пілота, найвышэйшапілатажная машына" (http://www.iremember.ru/pilots/arkhipenko/arkhipenko.ru. htm).*

У ВПС напярэдадні вайны пачалі паступаць новыя тыпы знішчальнікаў і бамбардзіроўшчыкаў - "МіГ-3", "Як-1", "Іл-2" і інш., якія па сваіх баявых магчымасцях не саступалі нямецкім самалётам. Але ні ў 122-м, ні ў 127-м палках новых самалётаў не было. Часткова на новы тып самалётаў пераўзброены 16 хуткасны бамбардзіровачны авіяцыйны полк. Генштабам планавалася пераўзбраенне ВПС Заходняй асобай вайсковай акругі новымі тыпамі самалётаў, але не больш за 50 адсоткаў і не раней за 1 верасня 1941 года.

З траўня 1941 года ў 11-й змешанай авіяцыйнай дывізіі пачалася перадыслакацыя з пастаянных аэрадромаў на палявыя:

-127-ты знішчальны авіяцыйны полк (далей 127 зап) у чэрвені 1941 года - на ўсход ад Скідаля - у раён в. Лесішча.

-16-ты хуткасны бамбардзіровачны авіяцыйны полк (далей 16 хбап) 2-3 траўня 1941 г. пераляцеў на аэрадром в. Чарлёна (недалёка ад Мастоў).

-122-гі знішчальны авіяцыйны полк (далей 122-гі зап), які знаходзіўся ў Лідзе, 10 траўня 1941 года перадыслакаваны ў Новы Двор, размешчаны за 7-10 км на захад ад Гародні, за 15 км ад дзяржаўнай мяжы. Запаснога аэрадрома не было. Штаб палка знаходзіўся ў палацы сядзібы Бобра-Велька, а аэрадром - на паляне, насупраць сядзібы за 1,5 км ад станцыі Новы Двор. *"Новы Двор зараз - першы бліжэйшы населены пункт на тэрыторыі Польшчы на паўднёвы захад ад Гародні. У цяперашні час станцыі і самой чыгункі няма. З нашага боку гэтую чыгуначную каляю разабралі гадоў 30 назад. Зараз на яе месцы знаходзіцца аўтадарога",*- піша гарадзенскі краязнавец Васіль Бардаў *(http://sdo.grsu. by/forum/index.php?PHPSESSID=4fabc8cdde078e 36b3587f7ae55ee45e&action=profile;u=1507; sa= show Posts).*

Такім чынам, усе палкі 11 зад да пачатку вайны былі не на месцах сталага базавання, а на палявых аэрадромах, у тым ліку і "зніклы" 190 шап.

Заўважым, 122 зап пераляцеў з Ліды на захад, а чаму б не на ўсход, у бок, дапусцім, Маладзечна? А таму, што радыюс дзеяння знішчальнай авіяцыі невялікі - каля 220 км. Паводле савецкай ваеннай дактрыны, супраціўнік у кароткі час павінен быў быць разбіты ў памежнай паласе, а затым баявыя дзеянні пераносяцца на тэрыторыю супраціўніка. Савецкая ваенная дактрына катэгарычна не дапускала становішча, пры якім баявыя дзеянні могуць працяглы час весціся на савецкай тэрыторыі, тым больш у яе глыбіні.

Да заходніх межаў СССР перад вайной была высунутая не толькі авіяцыя. Планамерна да мяжы падцягваліся і сухапутныя войскі. Пры гэтым падцягваліся да мяжы не толькі войскі Заходняй асобай вайсковай акругі, але і вайсковыя часткі з глыбіні Расіі. Так, 103-ці стралковы полк 85-й стралковай дывізіі 20 траўня 1941 года з Навасібірска прыбыў у Гародню (Солы, на беразе р. Нёман).

85-я стралковая дывізія пераведзеная з Койданава (Менская вобл.) у Гародню 7 траўня 1941 года. 20 траўня 137-мы асобны гарматны дывізіён перабраўся з Менска ў Гародню. У непасрэднай блізкасці ад мяжы размясціліся часткі 27-й стралковай дывізіі і асобныя падраздзяленні 56-й стралковай дывізіі. Так, 184-ты стралковы полк гэтай дывізіі, які стаяў у Лідзе ў Паўночным гарадку, 7 траўня 1941 года выведзены на мяжу ў летні лагер у в. Гожа, а тры батальёны - у вёску Рынкаўцы Сапоцкінскага раёна. Штаб 56-й стралковай дывізіі, які знаходзіўся ў Лідзе, за тыдзень да вайны перамясціўся бліжэй да частак, у Гародню, а за 2 дні да нямецкага ўварвання - у мястэчка Свяцк.

20 чэрвеня 1941 года часткі 37-й Чырвонасцяжнай стралковай дывізіі, пакінуўшы Віцебск, зрушыліся да заходняй мяжы. 22 чэрвеня на чыгуначную станцыю Ліда прыбылі два стралковыя і адзін артылерыйскі полк гэтай дывізіі. 247-мы стралковы полк, размешчаны ў Лепелі, 16 чэрвеня 1941 года падняты па трывозе, і ўвечар 21 чэрвеня дасягнуў наваколляў Гародні.

Гэта далёка не поўны пералік высунутых да заходняй мяжы вайсковых злучэнняў. Для чаго савецкае камандаванне падцягвала войскі да мяжы і пры гэтым спрабавала не спудзіць Гітлера, не даць яму нагоды для пачатку вайны? "Сучасныя вайсковыя гісторыкі адзначаюць, што перадваенная групоўка Войскаў ЗАВА больш падыходзіла для наступу, чым для абароны, хоць аператыўныя дакументы Наркамата абароны, Генеральнага штаба і штаба ЗАВА наступальных задач перад ёй не ставілі. План прыкрыцця мяжы прадугледжваў адбіццё першага выту супраціўніка і пераход войскаў акругі ў наступ з пераносам баявых дзеянняў на яго тэрыторыю. Варыянты магчымага адступлення войскаў не прадугледжваліся". *(И.А.Басюк. Начальный период Великой Отечественной войны на территории Белоруссии. Гродно, 2003, стр.112).*

Пры перамяшчэнні частак да новага месца дыслакацыі былі свае цяжкасці. З-за нізкай кваліфікацыі шафёраў здараліся аварыі, траўмы асабовага складу, падзёж коней. Меліся недахопы ў арганізацыі харча-

вання, назіраліся выпадкі страты сакрэтных дакументаў. Адзначаліся выпадкі скрыўлення дысцыплінарнага статута, былі антысавецкія выказванні і тэрарыстычныя пагрозы ў адрас каманднага складу. І канешне кідалася ў вочы матэрыяльнае становішча насельніцтва Заходняй Беларусі. Так лейтэнант 75 сд Глазкоў у прысутнасці лейтэнанта Прыліпкі гаварыў: *“Тут сяляне жывуць добра, у кожнага ёсць ровар, мяккая мэбля, з гэтага бачна, што пры польскай уладзе ім жылося лепш, чым зараз, у калгас яны ніколі не пойдуць”*. Камандзір звяза Кучма 11 траўня 1941 года сярод начскладу заявіў: *“Тут людзі жывуць лепш, чым на нашай тэрыторыі. У нас усе босыя абарваныя”. (РДВА. Ф.9. Воп.39. Спр. 97. Арк. 397-402).*

У перадваенныя гады вышэйшае кіраўніцтва Наркамата абароны СССР і Генеральнага штаба прытрымлівалася погляду, што ва ўмовах пагрозы вайны неабходна і матэрыяльна-тэхнічныя сродкі падцягнуць бліжэй да войскаў. Паколькі меркавалася, што вайна будзе весціся на тэрыторыі супраціўніка, склады, якія знаходзіліся на тэрыторыі ўнутраных вайсковых акругаў, таксама перадыслакаваны бліжэй да мяжы. І ў першыя гадзіны вайны магутнымі паветранымі вытамі ворага склады і базы ў большасці былі знішчаныя. Войскі засталіся без боепрыпасаў і паліва, папоўніць іх не было магчымасці. Ні адно войска, гатовае абараніць сваю краіну, не высуне свае галоўныя сілы да межаў.

Высунуўшы войскі да мяжы, неабходна было іх разасяродзіць і замаскіраваць, схаваць ад выведкі ворага. 19 чэрвеня, за тры дні да вайны, у заходнія акругі паступіў загад наркама абароны № 0042. Наркам запатрабаваў тэрмінова засеяць усе аэрадромы травой пад колер мясцовасці. Узлётныя палосы і аэрадромныя будынкі падмаляваць пад навакольны фон. Бензасховішчы заглыбіць у зямлю. На лагерных аэрадромах самалёты размяшчаць раззасяроджана пад натуральнымі і штучнымі схованкамі. *(«О маскировке аэродромов и важнейших военных объектов». Приказ народного комиссара обороны СССР. 19 июня 1941 г. «Военно-исторический журнал», 1989, № 5, с.43).* Але гэта быў запознены загад, патрабаванні яго так і засталіся на паперы.


**Дз.Р. Паўлаў**

Камандаваў Заходняй асобай вайсковай акругай З.Р. Паўлаў.

*З.Р. Паўлаў пачаў свой імклівы службовы ўзлёт пасля вяртання з Іспаніі, дзе ён у шэрагах рэспубліканскага войска прымаў удзел у барацьбе іспан-*



***Схема базавання частак ВПС Заходняга фронту да пачатку баявых дзеянняў 22.06.1941.***

*скага народа супраць фашызму. У Іспаніі ўзначальваў танкавую брыгаду. Пасля вяртання на Радзіму Герой Савецкага Саюза З.Р. Паўлаў на працягу трох гадоў знаходзіўся начале Аўтабранятанкавага кіравання Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у савецка-фінскай вайне 1939-1940 гадоў. За год да нападу Нямеччыны на СССР прызначаны камандуючым войскамі Заходняй асобай вайсковай акрузе. З усіх камандуючых прымежнымі вайсковымі акругамі да пачатку вайны Зміцер Рыгоравіч быў адзіным генералам арміі. Разам з тым, у Паўлава адсутнічаў досвед кіраўніцтва буйнымі аператыўнымі злучэннямі войскаў.*

Вайскова-паветранымі сіламі Заходняй асобай вайсковай акругі камандаваў генерал маёр-авіяцыі І.І. Копец.



**І.І. Копец.**

*Іван Іванавіч Копец, 34-гадовы генерал-маёр авіяцыі, быў выдатны і адважны лётчык. Аднак набыць неабходны досвед камандавання буйным авіяцыйным аб'яднаннем ён яшчэ не паспеў. Службу ў ВПС І. І. Копец пачынаў, як і многія іншыя. Скончыўшы курс навучання ў школе вайсковых лётчыкаў, на працягу сямі гадоў ён паспяхова лётаў у шыхтовых авіячастках. Як дабраахвотнік-інтэрнацыяналіст удзельнічаў у баях у Іспаніі, дзе камандаваў знішчальнай авіяцыйнай эскадрылляй. За асабістую адвагу і поспехі ў паветраных баях з нямецкімі і італьянскімі фашысцкімі лётчыкамі і франкісцкімі ракашанамі быў узнагароджаны званнем Героя Савецкага Саюза. Па вяртанні з Іспаніі ў 1938 годзе камандзір эскадрыллі І. І. Копец адразу ж быў прызначаны на пост намесніка камандуючага ВПС Ленінградскай вайсковай акругі, а неўзабаве - камандуючым ВПС Заходняй асобай вайсковай акругі, якая налічвала ў сваім складзе амаль 2000 самалётаў! Стаўшы камандуючым, І. І. Копец у штабе не заседжваўся, часта бываў на аэрадромах, даручаных яму частак, займаючыся пераважна кантролем перавучвання лётчыкаў на новыя самалёты. Прылятаў генерал І. І. Копец на некалькі гадзін адзін на знішчальніку "І-16" без афіцэраў штаба, адмыслоўцаў служб, якія ездзілі асобна па сваіх планах. Натуральна, у адзіночку забяспечыць паўнавартасны і дзейсны кантроль баявой падрыхтоўкі частак было проста немагчыма. Недагляды ў арганізацыі кіравання авіяцыяй далі пра сябе знаць у першыя ж хвіліны вайны.*

Аб падзеях, якія адбываліся ў 122 зап перад вайной і ў першы дзень вайны, у адкрытым друку звестак практычна няма. У нейкай меры пралівае святло на падзеі 22 чэрвеня кніга Н.С. Скрыпко *«По целям ближним и дальним», («Воениздат», М.1981)* (Н.С. Скрыпко - камандзір 3-га далёкабамбавальнага авіяцыйнага корпуса, які базаваўся ў раёне Смаленска). Аб гэтых падзеях стала вядома дзякуючы інтэрвію гарадзенскага краязнаўца Васіля Бардова з былым лётчыкам 122 зап малодшым лейтэнантам С.Ф. Даўгушыным. *(Магнітафонны запіс гутаркі В.Н. Бардова з С.Ф. Даўгушыным па тэл. 12.04.2002, інтэрвію ў сакавіку 2003 года (касета рыжскага завода грамкружэлак, бок 2 і белая аўдыёкасета МК-60-1, 137-1973-57 бок 1), а таксама інтэрвію ў снежні 2005 года (аўдыёкасета TDK "D" бок А і бок В).*



**Даўгушын Сяргей Фёдаравіч**

*www.airwar.ru "Даўгушын Сяргей Фёдаравіч нарадзіўся 25 верасня 1920 года. Скончыў Качынскую лётную школу (Крым) у 1940 годзе. Чуць больш за год праслужыў у 122 зап 11 зад і лічыўся дасведчаным пілотам. Герой Савецкага Саюза. Здзейсніў каля 500 баявых вылетаў, з іх 120 - на штурмоўку і 86 - на выведку. У паветраных баях збіў асабіста 17 і ў групе 11 самалётаў (па афіцыйных дадзеных - 4). Чатыры самалёты, збітыя ў першы дзень вайны, не былі залічаныя яму з-за канфлікту яго з камісарам палка Ў.І. Зіноўевым".*

10 траўня 1941 года 122 зап пакінуў базавы аэрадром у Лідзе. Паводле С. Даўгушына, 122 зап размясціўся ў Новым Двары на паляне 1х1 км. Раней гэтую паляну абшарнік маёнтка Бобра Велька пристасаваў пад узлётна-пасадачную пляцоўку. Асабісты склад жыў у намётах на краі аэрадрома па 6 чалавек. Аб паездках у Гародню не падумвалі, хоць Гародня знаходзіцца за 7-10 км ад аэрадрома. За перыяд знаходжання ў Новым Двары (з 10 траўня па 22 чэрвеня 1941 г.) С. Даўгушын у Гародні ні разу не быў. У Новым Дверы быў клуб, "…але за тыдзень так налётаешся, што думаеш, чорт з ім, з гэтым клубам. Узмоцнена трэніраваліся. Лёталі, навострывалі баявое майстэрства ледзь не кожны дзень. Трэніраваліся ў складаных умовах у зачыненай кабіне па прыборах. Вучыліся "працаваць" з гармат з падвяснымі бакамі па наземных цэлях на палігоне недалёка ад аэрадрома, а затым адпрацоўвалі страляніну "па конусе". (Стральба па конусе - адзін самалёт цягнуў конус, а чатыры іншыя гэты конус расстрэльвалі). Пытанні адпрацоўваліся ўсе ў комплексе, хоць начным палётам адмысловай увагі не надавалася. У выніку да пачатку вайны палова лётчыкаў палка ўначы ніколі не лётала, а садзіцца ўначы на аэрадроме ў Лідзе ім усё ж прыйшлося. Пры гэтым не паламалі ні аднаго самалёта. Такі быў узровень

падрыхтоўкі пілотаў 122-га знішчальнага авіяпалка" *(http://www.soldat.ru/forum/forum.html?page=1&id=3600&referer_query= page%3D1).*

122 зап не адзіны полк, які быў размешчаны так блізка да дзяржмяжы. У непасрэднай блізкасці ад мяжы размясціліся і палкі 9-й змешанай авіяцыйнай дывізіі (Беласток). Пры гэтым войскі акругі не былі абсталяваныя СПА і радыёфікацыяй. *"Радыёсродкамі значная частка войскаў прымежных акруг не была забяспечаная",* - піша Г.К. Жукаў у кнізе *«Воспоминания и размышления», (М., 1970, стр.237).*

Прывядзенне частак у баявую гатоўнасць пачалося задоўга да 22 чэрвеня. Наркам абароны С.К. Цімашэнка яшчэ ў снежні 1940 года выдаў загад № 0200, паводле якога камандны склад з выслугай меней за 4 гады пераведзены на казарменнае становішча. *"Маральную шкоду займелі жанатыя - некаторых сваіх жонак адправілі ў Саюз, да сваіх, а мы, халасцякі, як жылі ў сваіх пакоях у гасцініцы ў Лідзе, так жыць і засталіся, адмысловай няручнасці не адчувалі",* - успамінае С. Даўгушын. *(http://sdo.grsu.by/forum/index.php? PHPSESSID=4fabc8cdde078e36b3587f7ae55ee45e& action=profile;u= 1507;sa=showPosts).*

Паводле ўспамінаў С. Даўгушына, "ідыёцтва перад вайной нараджалася ў галоўным штабе ВПС, у кіраванні і ў Генеральным штабе як па замове: усю знішчальную авіяцыю пасадзілі на мяжу, проста на "нос" немцам - за 15 км ад мяжы, пад выты артылерыі, не забяспечыўшы яе запаснымі аэрадромамі. У нас не было ні аднаго запаснога аэрадрома. Да таго ж паменшаў лік матарыстаў і збройнікаў да аднаго на звяно. Перад пачаткам вайны палічылі, што артылерыст сваю гармату драіць, пяхота сваю вінтоўку чысціць, а чаму лётчыкам не заняцца тым жа? Прыбралі збройніка і матарыста. Гэтае наваўвядзенне дало пра сябе знаць у самым пачатку вайны. Прыйшлося з пачаткам вайны ўсё вярнуць на свае месцы" *(http://www.soldat.ru/forum/forum.html?page=1&id=3600&referer_query=page%3D1).*

Па словах Даўгушына, не лепшым было становішча і ў нашых суседзяў - у 9-й змешанай авіяцыйнай дывізіі ў Беластоку. Два знішчальныя палкі гэтай дывізіі лёталі на "І-16". Перад самой вайной у Беласток прыбылі на два палкі найноўшыя самалёты "Міг-3" у скрынях. Новыя самалёты трэба сабраць, падвезці да аэрадрома, аблятаць, перавучыць пілотаў. І гэта перад самай вайной! Тое ж "ідыёцтва" *(Там жа).*

Паводле афіцыйнай статыстыкі *(кн. «Авиация и космонавтика СССР, М.,«Воениздат», 1963, стр.84),* па колькасці самалётаў у ЗАВА ў нас была перавага над немцамі ў 1,1 раза. Але па колькасці боегатовых самалётаў і экіпажаў савецкая авіяцыя значна саступала супраціўніку: шэраг палкоў пераходзіў пераўзбраенне на новыя тыпы самалётаў. Прычым новая тэхніка пачала паступаць у палкі ў красавіку-траўні 1941 года і да пачатку вайны не была ў поўнай меры асвоеная. Мелася ў некаторых палках і няспраўная матэрыяльная частка. За кошт гэтага супраціўнік меў перавагу па баявых экіпажах і самалётах у 1,5 разы.

15 чэрвеня 1941 года ў нядзелю, у другой палове дня па даручэнні Сталіна, намеснік наркама абароны генерал К. Мерацкоў падняў па трывозе ВПС Заходняй асобай вайсковай акругі. "Вынік вельмі дрэнны: збор, апавяшчэнне, сувязь - ніжэй за ўсякую крытыку. Адсутнасць аэрадромаў разгрупавання, няспраўныя самалёты, узаемадзеянне, адсутнасць маскіроўкі і элементарных сродкаў СПА аэрадромаў… асабліва нездавальняльнай была ступень схаванасці вайсковых аэрадромаў. Мерацкоў не паспяваў фіксаваць недахопы. *"Што ў вас дзеецца? Калі пачнецца вайна і авіяцыя акругі не здолее выйсці з-пад выту, што будзеце рабіць?"* - з такімі словамі ён звярнуўся да камандуючага ВПС акругі Героя Савецкага Саюза генерала-маёра авіяцыі Івана Копеца. Той спакойна адказаў: *"Буду страляцца". (Мерецков К.А. На службе народу. Страницы воспоминаний. «Политиздат» М.,1969, с.204-205).* У першы дзень вайны з-за велізарных стратаў авіяцыі фронту генерал І.І. Копец пакончыў з сабой. *(Долготович Б.Д. Беларусь в годы Великой Отечественной войны в вопросах и ответах. Мн., «Полымя», 1994, с.121).*

Паводле Даўгушына, у Новы Двор у 122 зап 17 або 18 чэрвеня прыбыла маскоўская камісія на "Лі-2" на чале з К.А. Мерацковым і інспектарам Галоўнай інспекцыі ВПС падпалкоўнікам М.Н. Якушыным.



**Якушын Міхаіл Несцеравіч**

*http://airwar.ru/history/aces/ace2ww/pilots/yakushin.html. "Віртуальны авіяцыйны даведнік. Якушын Міхаіл Несцеравіч (1910-1999): у 1938 годзе быў прызначаны ў Галоўную Інспекцыю ВПС РСЧА. 22 чэрвеня 1941 года Міхаіл Якушын, быўшы ў складзе інспекцыйнай групы Генеральнага штаба, прыляцеў на адзін з аэрадромаў 11-й змешанай авіяцыйнай дывізіі ў раёне Новага Двара. Там размяшчаўся знішчальны авіяполк пад камандаваннем Мікалаева".*

Па словах С. Даўгушына, адначасова з Менска прыляцеў намеснік Копеца - *"…балван-пехацінец у форме генерал-маёра авіяцыі, правяраў, як мы поўзаем. Для пачатку ён паказаў нам (сам у цёмна-сінім шынялі, з папругамі), як трэба поўзаць на жываце. А перад гэтым прайшоў дождж. Ён падняўся - увесь у брудзе! Прымушае нас рабіць тое ж. Балван, разумееце! Мы ўсё весела заржалі. Ён плюнуў і адышоў, зразумеў, што мы не палезем на локцях рухацца, ніхто з нас пешы палёт здзяйсняць не будзе" (http://sdo.grsu.by/forum/index.php?PHPSESSID=4fabc8cdde078e36b3587f7ae55ee45e&action=profile;u=1507;sa=showPosts).*

У апошнюю передваенную суботу ў 122 зап, па

словах С. Даўгушына, для азнаямлення лётчыкаў прыгналі з 16 хбап новы самалёт - пікіруючы бамбардзіроўшчык "Пе-2", які паступіў на ўзбраенне Чырвонай Арміі. *"Прыляцеў камандзір эскадрыллі, і мы знаёміліся з гэтым самалётам: "Пе-2" можна было пераблытаць з "Ме-110". І перапблытвалі. А розніца ў тым, што ў "Ме-110" стабілізатар прамы, а ў "Пе-2" "чайкай". (http://www.soldat.ru/forum/forum.html?page=1&id=3600&referer_query=page%3D1)*.

Нямецкія выведнікі бяскарна лёталі над нашай тэрыторыяй і збіралі звесткі аб становішчы на савецкіх вайсковых аб'ектах. З красавіка 1940 года войскам прыкрыцця дзяржаўнай мяжы забаранялася абстрэльваць парушальнікаў мяжы - германскія самалёты. Пры сустрэчы з нямецкімі самалётамі нашы знішчальнікі павінны былі прапанаваць ім прызямліцца на адзін з нашых аэрадромаў. Аднак, такія прапановы немцы, вядома, "не разумелі" і спакойна сыходзілі на сваю тэрыторыю. З студзеня 1941 года да пачатку вайны нямецкія самалёты 152 разы парушалі савецкую мяжу.

Нахабная выведка германскіх ВПС перастала задавольвацца фатаграфаваннем аэрадромаў з вялікіх вышынь і пачала засылаць да нас "заблудныя" экіпажы. Так, 18 чэрвеня 1941 года Мікалай Данілавіч Белагуб, пілот Заходняй асобай вайсковай акругі, прымусіў да пасадкі лятаўшы над нашым аэрадромам фашысцкі самалёт. *"На вачах усяго аэрадрома немец пачаў было прызямляцца, але ў канцы паласы развярнуўся, даў газ і на прыземным палёце пачаў сыходзіць да мяжы. Дагнаў яго М. Белагуб не адразу, але калі дагнаў, ва ўпор зваліў першай ж кароткай чаргой. Зваліўся самалёт літаральна за сотню метраў ад мяжы, ды так, што бачны ён быў з усіх бакоў. Арыштавалі Мікалая Белогуба тут жа, на аэрадроме. Вайсковы трыбунал засядаў 20 чэрвеня. Прысуд - растрэл за правакацыю да вайны. 48 гадзін - на просьбу аб памілаванні. Але Мікалай Белагуб прашэнне падаваць адмовіўся. Раніцай, у суботу 21 чэрвеня, у камеру ўвайшло высокае начальства, а з ім - цывільны чалавек у капялюшы. "Камандаваў парадам" чалавек у цывільным. "… Аб вашых вычынах прыйдзецца дакласці таварышу Сталіну… А зараз ідзіце дадому, прывядзіце сябе ў парадак, а ў панядзелак мы падумаем, расстрэльваць вас або не…". Але ў панядзелак пад бомбавымі вытамі згарэлі і трыбунал, і турма, дзе ён сядзеў, загінулі шматлікія яго камандзіры і таварышы. Жывыя аб прысудзе не ўспаміналі. Адваяваў Мікалай Белагуб усю вайну ў якасці лётчыка, затым танкіста. Памёр невядомым. І невядома, ці адменены злапомны прысуд аб растрэле". (І.А. Подольный. Девятнадцатый герой. «Военно-исторический журнал», 2002, № 5. стр.36-37).*

Аляксандр Салаўёў: *"Паліторганы тут жа прынялі адпаведныя меры для давядзення гэтага абуральнага факту да ўсяго каманднага складу ВПС. Добра, хоць не паспелі да пачатку вайны давесці інфармацыю аб прысудзе трыбунала да лётнага складу. Інакш 22 чэрвеня раніцай адбіваць напад наўрад ці хто рызыкнуў бы". (http://www.soldat.ru/forum/frame.html?page=1&id=21406&referer_ query=page%3D1).*

С. Даўгушын успамінае: *"10 траўня мы прыляцелі ў Новы Двор. У той жа дзень пасля абеду на вышыні каля 100 м адразу ж пранёсся Ме-110 праз аэрадром. Пераканаўся, што мы селі на аэрадром. І так разы 2-3 у дзень. Камандаванне палка ўвяло дзяжурства. Пачалі дзяжурыць звёнамі: два лётчыкі ў першай гатоўнасці ў кабінах і адзін - у 2-й. І тэхсклад, і пускачы тут жа, каб запусціць маторы. На мяжы былі расстаўлены слухачы - пасты ВНАС. Яны мелі прамую тэлефонную сувязь з намі і дакладвалі: "Падыходзіць да мяжы!". Мы запускалі маторы. "Ме-110" праносіцца над аэрадромам, і мы ўзлятаем, прышыхтуемся і вядзём. Ён сыходзіць за мяжу, і мы адвальваем. Прычым, падыходзілі ўшчыльную. Але калі нам не дазволена адкрываць агонь, відавочна, і ён разумеў, што не трэба страляць. Калі стрэльне, то і мы стрэльнем. Падышоў я адзін раз блізка. Лётчык усміхнуўся, памахаў рукой і сыйшоў. Вось так вось было кожны дзень. "Ме-110" даходзілі да Гародні, Скідаля і вярталіся. А "Юнкерс-88" сыходзіў у тыл. Усё гэта было з аэрадрома Сувалкі. Калі мы падляталі да г. Аўгустова, з 1500 м у яснае надвор'е гэты аэрадром быў добра бачны. Ён круглы, кіламетраў два ў дыяметры. Там сядзела група "Ме-100" - 32 самалёты. Перад вайной з кожным днём самалётаў станавілася ўсё больш і больш. І вось тады камандзір палка загадаў два разы ў дзень лётаць туды і глядзець. Мы праходзілі па краі мяжы да Аўгустова. Даручалі гэта мне і Сярожку Макараву. Спачатку я праходзіў, а Сярожка мяне ахоўваў. Потым заходзілі на другі заход - Сярожка назіраў, а я ахоўваў. І вярталіся. Назіранне было візуальным, без фатаграфавання - не было фотаапаратаў. Але нам выдалі біноклі, магутныя, добрыя біноклі. Мы разглядалі ў біноклі, што там дзеялася, і дакладвалі. Рабілі планшэт-накаленнік. Глядзіш і робіш пазнакі. Я зрабіў пазнакі ў свой заход. Потым - у другі заход Макараў робіць. Пасля, калі сядаліся, параўноўвалі. Потым канчаткова рыхтавалі лісты і абодва распісваліся".* (*http://sdo.grsu.by/forum/index.php?PHPSESSID= 4fabc8cdde078e36b3587f7ae55ee\45e&action=profile; u=1507; sa=showPosts).*

10 чэрвеня па загадзе Копца І.І. камандзір 43 зад Захараў Г.Н. (г. Барысаў) разам са штурманам дывізіі выляцелі на "По-2" да мяжы. Задача - праляцець з поўдня на поўнач уздоўж мяжы і паглядзець, што робіцца ў немцаў. Убачанае патрэсла. Немцы ўжо на зыходных пазіцыях: вось-вось пачнецца. Аб выніках палёту Захараў Г.Н. даклаў Паўлаву З.Р. у прысутнасці Копца І.І.. Камандуючы акругай падзякаваў яму за выкананне задання, але гэтым і абмежаваўся.

Засяроджванне велізарнай групоўкі вермахту ля заходняй мяжы СССР было выяўлена савецкай выведкай. У аператыўным дакуменце штаба ЗАВА ад 21 чэрвеня 1941 года - "Схеме аператыўнага разгортвання войскаў ЗАВА па плане прыкрыцця дзяржаўнай мяжы"

*вылетаў. Бензін ёсць, але ён у цыстэрнах пад зямлёй. Дастаць - няма чым, нават альвеераў няма. А каністрамі і вёдрамі паспрабуй у самалёт 300 кг заліць. І ні аднаго запраўшчыка - усё засталося на аэрадроме ў Новым Двары і ў Чарлёне. Наземны персанал абодвух палкоў адстаў, і запраўляць няма чым - ні леек, нічога. Вось і паспрабуй: з-пад зямлі дастань, прынясі да самалёта, тым больш, што лётны склад выматаны так, што ні рукі, ні ногі не дзейнічаюць. У 127-ым была такая ж з'ява. Ад 16 хбап нічога не засталося. Пачалі на аэрадроме ў склепе сваёй жа гасцініцы, дзе мы да гэтага жылі. (http://www.soldat.ru/forum/forum.html?page=1&id=3600&referer_query=page %3D1).*

Па Даўгушыну, 122 зап 22 чэрвеня страціў 5-6 самалётаў (не ўдакладніў дзе: на зямлі або ў паветры). 127 зап у гэты ж дзень страціў максімум 8 самалётаў у паветры, на зямлі іх амаль не білі. Гэта значыць, да 23 гадзінаў 22 чэрвеня ў абодвух палках налічалася больш за 120 знішчальнікаў.

*"Авіяцыя супраціўніка на працягу ночы на 23 чэрвеня 1941 года неаднаразова бамбардзіравала ст. Гаўя, Ліда, Баранавічы… Асабліва ўзмоцненай бамбардзіроўцы падвергнулася Ліда". (Сборник боевых документов Великой Отечественной войны. Выпуск 35. М., 1953, стр. 29).*

*"Рана раніцай, 23 чэрвеня, калі было цёмна, нас паднялі па трывозе. Прыбеглі на аэрадром, а самалёты то пустыя, без боекамплекту. У чарговы раз былі паўтораны старыя памылкі: самалёты не былі правільна замаскаваныя і разасяроджаныя, не было супрацьпаветранай абароны. Ёсць паліва, але няма запраўшчыкаў, боепрыпасы ёсць, але яны ўсе ў тавоце - кансервацыйнай змазцы, якую можна зняць бензінам або лепш кіпятком. І два палкі былі разгромленыя! Пры штурмоўцы раніцай 23 чэрвеня немцы знішчылі палову таго, што засталося да канца першага дня вайны. Застаўшымся пілотам загадалі сесці ў аўтамашыны і праз Менск - на Маскву" (http://www.soldat.ru/forum/forum.html?page=1&id=3600&referer_query=page%3D1).*

В. Бардаў са слоў Даўгушына: *"Чацвёра лётчыкаў ... вырашылі выратаваць 4 самалёты і распачалі спробу перагнаць іх у тыл. Узляцелі. Адзін заблудзіўся на "І-153" і здзейсніў змушаную пасадку, а Сяргей Макараў, Мікалай Баравых і яшчэ адзін лётчык селі ў Барысаве, на аэрадроме якога сядзела дывізія таго самага Захарава, які лётаў перад самой вайной на выведку ўздоўж мяжы. Там трое лётчыкаў заправіліся і пераляцелі ў Оршу, дзе і сустрэлі Краўчанку - будучага камандзіра дывізіі" (http://forum.sukhoi.ru/showthread.php?t=44943).*

Нажаль, мала выяўлена звестак аб налёце варожай авіяцыі на Лідскі аэрадром раніцай 23 чэрвеня. Захавалася скупая фраза былога камандзіра 2-га гарматнага разліку 229 азад 7-й брыгады СПА Якушына Якава Сямёнавіча: *"... асабліва памятны мне бой з больш за 50 фашысцкімі самалётамі, наляцеўшымі на горад і аэрадром 23 чэрвеня. Тады мы збілі некалькіх варожых сцярвятнікаў" (ЛГММ "Якушын Я.С.").*

Красільнікава Л.І.: *"22 чэрвеня аэрадром немцы не бамбілі. Увесь горад і аэрадром бамбілі ў панядзелак" (ЛГММ "Красільнікава Л.І").*

Нямецкія самалёты штурмавалі Лідскі аэрадром досвіткам 23 чэрвеня. Акрамя таго, што нямецкае камандаванне да 22 чэрвеня мела ўсе звесткі аб Лідскім аэрадроме, дапоўніць іх мог і нямецкі дэсант, які высадзіўся днём 22 чэрвеня. Як выцякае з "Баявога данясення штаба Заходняга фронту М 007/оп да 18 гадзін 22 чэрвеня 1941 года "Аб ходзе баявых дзеянняў войскаў фронту. Серыя Г":

*- "Нача. Меркавана з 10 гадзін 52 хвілін з 20 самалётаў спусцілася да 400-500 парашутыстаў;*

*- 17 гадзін 45 хвілін. Радунь. З 17-ці самалётаў спусцілася 300-500 парашутыстаў.*

*Вайскова-паветраныя сілы супраціўніка ў перыяд 4 гадзіны - 6 гадзін 30 хвілін групамі бамбілі Гародню, Ліду, Беласток, Цеханавец, Ваўкавыск, Бельск-Подляскі…На працягу дня 22 чэрвеня 1941 года Гародня, Ліда падвяргаліся метадычнай апрацоўцы праз кожныя 5-10 хвілін, галоўным чынам аэрадромы" (Сборник боевых документов Великой Отечественной войны. Выпуск 35. М., 1953, стр. 17).*

*"Асабліва ўзмоцненай бамбардзіроўцы падвергнулася Ліда." (Там жа, стар.29).*

Лыскоў П.І. - начальнік аддзялення Лідскага гараддзела НКУС: *"Два дні мы ліквідавалі дэсантныя групы, якія выкідваліся фашыстамі на тэрыторыю*




Уничтоженные нем. авиацией И-16 и УТИ-4 122-го ИАП на аэродроме в Лиде

*Ліды і сумежных раёнаў" (ЛГММ "Лыскоў П.І.").*

Але шлях да Менска пілотам 122 і 127 палкоў аказаўся таксама цяжкім. Па словах С. Даўгушына, рана раніцай лётчыкі двух палкоў, якія засталіся ў жывых выехалі з Ліды на Менск. Верагодна, даехаўшы да бліжэйшага лесу, спыніліся і пачалі чакаць ночы. Па шашы ехаць было небяспечна: нямецкія самалёты перыядычна лёталі над шашэйнымі дарогамі і ўвесь транспарт, які рухаўся па іх, абстрэльвалі.

У фондзе 24.1 Лідскага гістарычна-мастацкага музея маюцца ўспаміны начальніка штаба 24-й Самара-Ульянаўскай дывізіі С.Д. Падарванава: *"Дзесьці за поўнач з 23 на 24 чэрвеня поруч з нашай стаянкай (24 сд рухалася з Валожына на Юрацішкі, не маючы ніякай сувязі са штабам фронту) спыніліся 2 або 3 грузавыя аўтамашыны. Машыны былі гружаныя рознай маёмасцю, наколькі гэта можна было разгледзець у цемры. Акрамя вайскоўцаў, на машынах сядзелі жанчыны з дзецьмі. Аказалася, што гэта едуць з Ліды ў Менск рэшткі штаба змешанай авіяцыйнай дывізіі. Той самой авіядывізіі, з якой мы ў траўні праводзілі сумесныя заняткі, і якая так ліха пікіравала сваімі новымі "Пе-2" на нашы палкі. Узначальваў гэтую групу ... Гардзіенка. І вось, што ён мне распавёў у тую цёмную чэрвеньскую ноч: "Заўчора, у нядзелю, досвіткам нечакана для нас наляцела нямецкая авіяцыя на ўсе аэрадромы амаль аднвачасова і пачалі бамбіць і з гарызантальнага палёту, і з пікіравання. Усё было паднята па трывозе. Загінула шмат людзей: камандзір дывізіі, яго нам. па палітчастцы і начальнік штаба... Гардзіенка сказаў: "Хачу, пакуль цёмна, праскочыць да Маладзечна".*

С. Даўгушын: *"Камандзір палка Мікалаеў разам з намі знаходзіўся. Разам ехалі ў Маскву, з Масквы - у Разань. І толькі ў Моніна разышліся. Ён з палком з дзвюма эскадрыллямі пайшоў пад Белы, а мы асобнай эскадрылляй на чале з Сямёнавым пайшлі ў Царова Займішча (на захад ад Гжацка). І я ўпэўнены, што там (у Лідзе) 50 адсоткаў самалётаў, а то і больш, "жывых" засталося. Вось так і спынілася існаванне абодвух палкоў! Да 23 чэрвеня мы ваявалі і маглі ваяваць. І толькі 23-га мы апынуліся з пустымі бакамі... Усю дарогу не пакідала думку: "Нас здрадзілі!" Калі б 23-га полк "не страціў" усю матэрыяльную частку, мы біліся б на гэтых машынах... Першы гвардзейскі знішчальны полк, які пад Масквой атрымаў гэтае ганаровае званне, "біўся" на "І-15", "І-153" і на "І-16". І збівалі, і штурмавалі. Тым больш пад Масквой паднялі антыкварыят: "І-5", "І-6", на якіх стаялі 22-я маторы, што працуюць на рыцыне (касторцы). Пры належным падыходзе кіраўніцтва краіны да абароны мы маглі ваяваць на тых самых машынах, якія былі кінутыя ў Лідзе. Калі 23-га адыходзілі (з г. Ліды), на краі авіягарадка, таксама, як і ў Новым Двары, была крама, і з гарышча гэтай крамы "білі" дыверсанты па нашых жонках, дзецях і па тых, хто там быў - страчылі з кулямёта. Мы ўсе з'ехалі на машынах, вайскоўцаў то не заставалася, толькі жонкі і дзеці. Частку іх потым эвакуявалі. Я не ведаю падрабязнасці, але ведаю, што павезлі. Чыгунка падыходзіла да самога гарадка. У намесніка камандзіра эскадрыллі Гужына 20 чэрвеня жонка нарадзіла ў Лідзе, ведаю, што яе паспелі эвакуяваць. (http://www.soldat. ru/forum/forum.html?page=1&id=3600 &referer_query =page%3D1).*



**Знішчальнік І-16, захоплены нямецкімі войскамі ў чэрвені 1941 г.**

*"Да канца 22 чэрвеня, нягледзячы на прадпрынятыя энергічныя меры, Генштаб так і не змог атрымаць ад штабоў франтоў, войскаў і ВПС дакладных дадзеных аб нашых войсках і супраціўніку"*, - прызнае начальнік Генеральнага штаба Г.К. Жукаў *(«Воспоминания и размышления, М.,1970, стр.240).*

## 127 зап:

Як разгортваліся падзеі ў 127 зап, які ўваходзіў у склад 11-й змешанай авіяцыйнай дывізіі?

Камандзір палка Гардзіенка Андрэй Васільевіч, прызначаны на пасаду загадам НКА № 098 ад 9.01.1941 *(ЦАМА, ф. 20054-а, воп. 2, спр. 1, арк. 35).*

Па словах намесніка камандзіра па палітчастцы Праскурына А.П., *(maito:almer/tut.by)*, базавы аэрадром палка - горад Скідаль. На ўзбраенні "І-153". У палку было 4 эскадрыллі. У чэрвені частка была выведзена на палявы аэрадром Лесішча (на ўсход ад Скідаля). 22.06.1941 аператыўны дзяжурны па тэлефоне далажыў, што атрымана паведамленне аб бамбардзіроўцы нямецкімі самалётамі г. Гародні. Дзяжурнае звяно (І.Я. Камароў, А.Н. Данілін, К.М. Трэшчаў) выляцела ў раён Гародні на выведку. *(ЦАМА РФ, ф.127 зап, воп. 299453, спр. 1, 1.3).*

*"Ці не правакацыя гэта"*,- *падумаў камандзір палка Гардзіенка. Нават калі дзяжурнае звяно вярнулася і пацвердзіла дадзеныя аб баявых дзеяннях на мяжы, падпалкоўнік Гардзіенка ўсё яшчэ сумняваўся, што пачалася вайна.*

*Атрымаўшы заданне на баявы вылет для прыкрыцця горада ад варожых налётаў, адзін з лётчыкаў*



***"І-153"***

*1-й эскадрыллі спытаў Гардзіенку: "Збіваць або не збіваць нямецкія самалёты?" Камандзір палка даў нявызначаны адказ: "Думаць на месцы трэба".*

*Начальнік штаба палка маёр І.С. Клемят, які стаяў побач, вымавіў: "Там будзе позна думаць. Іх трэба збіваць да падыходу да Гародні". І, звярнуўшыся да лекара, дадаў: "Доктар, дзейнічайце па плану, хутка могуць быць параненыя!".*

*З-за неапраўданай сакрэтнасці многія камандзіры палкоў не ведалі ў поўным аб'ёме задач дывізіі па плане прыкрыцця мяжы. Такі падыход спараджаў пасіўнасць, неапраўданыя чаканні ў баявым становішчы загадаў "зверху", у той час, калі патрабаваліся актыўныя і рашучыя дзеянні. Словы Гардзіенкі: "Думаць на месцы трэба" як раз пра гэта і гавораць. Да таго ж, Гардзіенка напэўна ведаў пра ўчынак Мікалая Белагуба. У гэтых адносінах больш пашанцавала камандзіру 122 зап, за яго загад аб перабазаванні часткі самалётаў на запасны аэрадром аддаў інспектар ВПС Якушын М.Н."*

Праскурын успамінае далей: *"Першы паветраны бой правяла пяцёрка знішчальнікаў, узначаленая палітруком А.С. Данілавым. На поўнач ад Гародні лётчыкі заўважылі тры варожыя бамбардзіроўшчыкі, і пайшлі ў лабавую атаку. Два гітлераўцы, не вытрымаўшы націску, са зніжэннем пачалі сыходзіць, але вядучы "Юнкерс" працягваў палёт. З трэцяй атакі яго знішчыў А.С. Данілаў, а С.С. Дзяругін, І.Ф. Дружкоў, С.А. Гарын і К.М. Трэшчаў знішчылі ўцякаўшыя самалёты.*

*Babакін Р.І., Жукоўскі С.Я., Арцёмаў А.А. таксама далажылі аб новых перамогах, хоць Babакін Р.І атрымаў цяжкае раненне, але здолеў прызямліцца на сваім аэрадроме." (ЦАМА РФ. Ф.11 зад, воп.17880, спр.3. аркарк. 2-3).*

Узначаленая А.С. Данілавым васьмёрка знішчальнікаў рассеяла групу варожых самалётаў над Гародняй, на захад ад Гародні Данілаў збіў другі самалёт за раніцу на ўскраіне в. Крапіўна.

Вяртаючыся ў зону патрулявання, лётчыкі ўбачылі, што каля 40 фашысцкіх самалётаў рыхтуюцца штурмаваць аэрадром Чарлёна, на якім базаваўся 16 хбап. Але з усходу да Чарлёны накіроўваліся дзве эскадрыллі 127 зап. Паднятыя па трывозе ў 10.10 гадзін, яны з ходу ўрэзаліся ў варожую групу. Сутычка працягвалася звыш 30 хвілін. З абодвух бакоў удзельнічала да 70 самалётаў. Савецкія авіятары збілі 4 самалёты, але і самі страцілі 5 знішчальнікаў. (3 лётчыкі ў розны час дабраліся да сваіх, у т.л. Данілаў А.С., які здзейсніў таран і пазней за ўсіх вярнуўся да сваіх, а двое - лейтэнанты П.А. Кузьмін і М.М. Міхайлаў - загінулі *(ЦАМА РФ, ф.127 зап, воп. 673501, спр.2, арк. 63).*

У другой палове дня вызначылася група лётчыкаў, узначаленая лейтэнантам С.Я. Жукоўскім, выляцеўшая ў раён Скідаля і Гародні для прыкрыцця наземных войскаў. У хуткаплынным баі С.Я. Жукоўскі і мал. лейтэнант Б.А. Фокін збілі па аднаму самалёту кожны, а трэці самалёт супраціўніка стаў ахвярай усёй групы. У фюзеляжы і плоскасцях машыны Фокіна налічана 20 прабоін.

Камандзір эскадрыллі І.М. Драздоў здзейсніў пяць баявых вылетаў і збіў 2 самалёты. Дзевяць раз падымаўся ў паветра А.А. Арцёмаў, і знішчыў 3 варожыя машыны.

На вачах у асабовага складу палка, які назіраў бой з зямлі, здзейсніў вычын камандзір звяна лейтэнант М. П. Ярошын. Ён проста з узлёту пайшоў у лабавую атаку. Нямецкі лётчык на МЕ-109 меў яўную перавагу ў хуткасці і манеўранасці, мог без цяжкасці збіць узлятаўшы самалёт. Аднак Ярошын не завагаўся і не звярнуў з курсу. Пры збліжэнні адначасова прагучалі дзве доўгія кулямётныя чэргі. Коштам свайго жыцця савецкі лётчык збіў фашысцкага сцярвятніка. Таварышы пахавалі лейтэнанта М. П. Ярошына побач з аэрадромам *(maito:almer/tut.by)...*

Камандаванне палка надало вялікае значэнне маскіроўцы. Рана раніцай пасля трывогі тэхнікі і механікі разасяродзілі матэрыяльную частку і абсталявалі стаянкі самалётаў на ўскрайку вялікага лесу. Гэтымі работамі кіраваў камуніст інжынер-капітан У. С. Кубараў. Лётчыкі атрымалі загад скарыстоўваць тактычныя прыёмы маскіроўкі аэрадрома. Вяртаючыся з заданняў, яны падыходзілі да базы на прыземным палёце. Пасля пасадкі самалёты адразу ж хаваліся. Пры ўзлёце патрэбная вышыня набіралася не адразу, а пасля выхаду на малой вышыні з раёна аэрадрома. Толькі пасля 19 гадзін супраціўнік выявіў аэрадром, і неўзабаве каля 30 бамбардзіроўшчыкаў Ю-87 у суправаджэнні знішчальнікаў МЕ-109 прыляцелі на яго штурмоўку. Завязаўся паветраны бой. У гэтай сутычцы страты былі з двух бакоў.

Паводле Праскурына А.П, пасля адбіцця налёту маёр П. А. Багданаў, які ўступіў у камандаванне палком (падпалкоўніка Л. У. Гардзіенку прызначылі камандзірам 11-й змешанай авіяцыйнай дывізіі замест загінулага ў першай палове дня палкоўніка Ганічава) загадаў эскадрыллям перабазавацца на аэрадромы Шчучын, Жалудок і Навагрудак. Пералёт ажыццяўляўся позна ўвечар, амаль у цемры, але ўсе лётчыкі шчасліва прызямліліся на новыя пункты базавання.

А тут вось і пачынаецца, па-мойму, хітрасць намесніка камандзіра па палітчастцы Праскурына А.П., які гаворыць, што камандзір палка маёр Багданаў П.А., які заступіў на пасаду, загадаў эскадрыллям перабаза-

ваца на аэрадромы Шчучын, Жалудок і Наваградак, не ўдакладняючы, хто, у якой колькасці і дзе сеў. С. Даўгушын успамінае: *"... Надыходзіла ноч. Зацемна самалёты, якія знаходзіліся на аэрадроме Чарлёна, пазасталыя ад двух палкоў, селі на аэрадроме ў Лідзе. Наш полк сеў і 127 зап сеў, пры гэтым ні адной машыны не паламалі..."*

Як жа было ў рэчаіснасці? Калі аб падзеях першага дня вайны ў 122 зап С. Даўгушын распавядае, успамінаючы і станоўчае, і негатыў, то ўспаміны асабовага складу 127 зап заканчваюцца падзеямі вечара 22 чэрвеня. У лепшым выпадку пішуць, што разляцеліся па розных аэрадромах, або наогул нічога не пішуць. Успаміны К. Трэшчава: *"На наш полк легла асноўная нагрузка па адбіцці налётаў варожай авіяцыі на Гарадзенскім кірунку. Вылеты ішлі адзін за адным. Лётчыкі не пакідалі кабіны самалётаў нават падчас запраўкі самалётаў палівам. Нас нават кармілі ў кабінах"*. Нажаль, аўтар не згадвае тых, хто забяспечваў баявыя вылеты - работнікаў наземных службаў. Аўтар заканчае: *"Мы паспяхова выканалі сваю задачу. Мост праз р. Нёман фашысты не знішчылі. На сваіх састарэлых мадэлях самалётаў мы наносілі ворагу даволі значныя выты. Да канца дня мы выглядалі вельмі стомленымі і пастарэлымі". (Памяць. Гарадзенскі раён. Мн., 1993, стар.132-133).*

Паміж тым, немцы і не збіраліся знішчаць масты цераз раку Нёман, шырыня якой каля 100 м, бо яны меліся скарыстацца мастамі, каб перабрацца са сваёй цяжкай тэхнікай і артылерыяй на ўсходні бераг Нёмана.

І усё! Куды яны дзеліся (127зап), пасля таго, як *"паспяхова выканалі сваю задачу"*, дзе і колькі самалётаў засталося ў палку - маўчок!

Калі ўлічыць, што прыкладна ў 19.00 гадзін супраціўнік выявіў стаянку 127-га зап, пасля чаго завязаўся бой са стратамі з абодвух бакоў, дзе ж знаходзіўся полк з 20 да 23 гадзін? Па Праскурыну, пералёт палка ажыццяўляўся позна ўвечар 22 чэрвеня (калі самы доўгі дзень у годзе), амаль у цемры на аэрадромы Шчучын, Жалудок, Наваградак. Улічваючы, што камандаваў 11 зад падпалкоўнік Гардзіенка А.У. замест загінулага ў Лідзе Ганічава, наўрад ці ён мог дапусціць, каб яго стварэнне - 127 зап, мог паляцець у Шчучын, Жалудок, Наваградак (дзе вялося будаўніцтва аэрадромаў). Хутчэй за ўсё, трэба пагадзіцца з С. Даўгушыным, што 122-гі і 127-мы знішчальныя палкі ўвечар 22 чэрвеня селі ўсё-такі ў Лідзе. Даўгушын сцвярджае, што ўвечар у Лідзе села больш за сто самалётаў. Чаму нампаліт Праскурын А.П. і генерал Трэшчаў К.М. са 127 зап замоўчваюць начлег у Лідзе ў ноч з 22 на 23 чэрвеня? Нават праз 60 гадоў пасля тых трагічных падзей, цяжка прызнацца, што раніцай 23 чэрвеня быў "драп-марш" з Ліды ў Менск, а адтуль - у Маскву. Па Даўгушыну, *"пасля штурмоўкі аэрадрома ў Лідзе рана раніцай 23 чэрвеня застаўшымся пілотам загадалі сесці ў аўтамашыны..."*. Ці была паніка сярод лётчыкаў, хто загадаў адбыць з Ліды ў Менск, ці быў гэта арганізаваны адыход на перафармаванне, або гэта быў "драп-марш"? Адказу пакуль няма.

Па С. Даўгушыну, раніцай 23 чэрвеня немцы ў Лідзе знішчылі палову самалётаў, што засталіся да канца першага дня вайны. Калі ўвечар 22 чэрвеня было больш за 100 самалётаў, то 50 самалётаў засталіся "жывыя" пасля ранішняй штурмоўкі 23 чэрвеня. Вось таму, відавочна, і не жадаюць ветэраны 127 зап прызнаць, што яны ў Лідзе кінулі разам з 122 зап каля 50 "жывых" самалётаў. Ды і ў Маскве, трэба лічыць, не самы лепшы прыём чакаў лётчыкаў 122 і 127 знішчальных палкоў. Вось таму і маўчаць ветэраны 127 зап.

Трэшчаў К.М. ва ўспамінах піша: *"У маім архіве захоўваецца жоўклы ад часу нумар газеты "Красная звезда" ад 9 ліпеня 1941 года. На першай старонцы апублікавала Ўказ аб узнагароджанні авіятараў, якія праславіліся ў першы дзень вайны ў баях за Радзіму. Сярод іх 9 лётчыкаў нашага палка: Андрэй Данілаў, Сяргей Дзяругін, Іван Драздоў - узнагароджаныя вышэйшымі ўзнагародамі Радзімы - ордэнамі Леніна; Сяргей Жукоўскі, Р. Варакін, Аляксей Арцёменка, Мікалай Ярошын - ордэнамі Чырвонага Сцяга; Ілья Шустаў і Алег Сянчугаў - ордэнамі Чырвонай Зоркі. У смяротнай сутычцы з выклятым ворагам у першы дзень вайны мы страцілі такіх выдатных лётчыкаў, як Пётр Кузьмін, Міхаіл Разумцаў, Мікалай Ярошын, Міхаіл Філіпаў, Аляксей Міхайлаў, Мікалай Сушкін, Аляксандр Пачын, Іван Маркаў, Аляксей Пяцькун і Анатоль Грыбакін..." (Памяць. Гарадзенскі раён. Мн., 1993, стар.132-133).*

Вядома, што 7 лётчыкаў: Р. Варакін, А. Грыбакін, І. Маркаў, Н. Міхайлаў, М. Разумцаў, М. Сушкін, М. Філіпаў загінулі на зямлі без самалётаў падчас бамбардзіроўкі аэрадрома Лесішча, але пры якіх акалічнасцях, К.Трэшчаў ва ўспамінах не паказвае, называючы іх толькі "выдатнымі лётчыкамі".

## 16-ты хуткасны бамбардзіровачны полк

Пра 16-ты хуткасны бамбардзіровачны полк (хбап) захаваліся вельмі скупыя звесткі. Полк удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне 1939-1940 гг. Дыслакаваўся ў Ржэве. У жніўні 1940 года полк увайшоў у склад 11 зад і базаваўся ў Жалудку.

Галоўным кіраваннем ВПС на 16 хбап ускладаліся вялікія надзеі. Паводле першапачатковых планаў пераўзбраенне на першыя пікіруючыя бамбардзіроўшчыкі павінна было адбыцца ў 16 хбап у 1940 годзе. У сапраўднасці атрымалася так, што першыя серыйныя самалёты атрымалі 95 хбап (Маскоўская вайсковая акруга) і 48 ббап (Кіеўская вайсковая акруга). Трэцім палком у ВПС, які атрымаў новыя пікіруючыя бамбардзіроўшчыкі, быў 16 хбап, што базаваўся ў Жалудку.

2-3 траўня 1941 года полк перадыслакаваўся з аэрадрома Жалудок на палявы аэрадром у Чарлёну, дзе завяршаў пераравучванне на "Пе-2". Да 22.06.41 г. полк меў на ўзбраенні 24 хуткасныя бамбардзіроўшчыкі "СБ", у тым ліку адзін няспраўны, і 37 найноўшых "Пе-




***Пікіруючы бамбардзіроўшчык "Пе-2"***

2".

Ацэнка новага самалёта лётна-тэхнічным складам шыхтовых частак ВПС спачатку была вельмі насцярожанай. *"Машына занадта складаная ў тэхніцы пілатавання, асабліва на ўзлёце і пасадцы,* - адзначаў камандзір 95 хбап палкоўнік А.З. Мялаў, - *эксплуатацыя самалётаў патрабуе лётчыкаў вышэй сярэдняй кваліфікацыі, шараговы лётчык авалодвае машынай з цяжкасцю"*. Тым не менш, "Пе-2" з'яўляўся перадавым самалётам. Ён уяўляў сабой яркі прыклад новага пакалення бамбардзіроўшчыкаў 40-х гадоў. "Пе-2" пераўзыходзіў па хуткасці на ўсіх вышынях "СБ" любой мадыфікацыі, прынамсі, на 60 км/ч *(http://pe2.petlyakov-bomber.by.ru/texts/04.html).*

16 хбап - адзін з палкоў ВПС Заходняга фронту, самалёты якога, нажаль, у першую раніцу вайны былі знішчаныя на зямлі. Па ідэалагічных меркаваннях аб гэтай трагедыі ў адкрытым друку звестак няма. Як гэта адбылося, каму трэба, той ведаў. Ва ўсёй адкрытай гістарычнай літаратуры падзеі ў 16 хбап апісваюцца так: камандзір эскадрыллі 16-га хуткаснага бамбардзіровачнага авіяцыйнага палка Пратасаў Анатоль Сяргеевіч 22 чэрвеня 1941 года ў 9.50 па загадзе камандзіра Скварцова А.А. выляцеў з аэрадрома Чарлёна (45 км на паўднёвы захад ад г.Ліды) у складзе звяна СБ на выведку. Ледзь нашыя самалёты зрабілі круг над аэрадромам, як паказалася 6 дзявятак цяжкіх знішчальнікаў "Ме-110", якія ішлі на вышыні 300 м на штурмоўку аэрадрома. Пратасаў накіраваў свой бамбардзіроўшчык на вядучага першай дзявяткі і сам загінуў пры таране. Разам з ім загінулі члены экіпажа: штурман лейтэнант Ярулін А.К. і стралок-радыст сяржант Бесарабаў.

Як выцякае з дакументаў ЦАМА, старэйшы лейтэнант Сіналобаў на найноўшым "Пе-2" падняўся ў паветра і загінуў у баі са знішчальнікамі ворага. *(ЦАМА. Архіўная праца А. Валяева-Зайцава).*

Па афіцыйнай версіі, у першы дзень вайны ў выніку налёту нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў на аэрадром Чарлёна на зямлі былі знішчаныя 12 "Пе-2" і 14 "СБ". А куды дзеліся 25 "Пе-2" і 10 СБ?

У нейкі меры растлумачвае падзеі ўспамін Асі Барысаўны Фёдаравай, якая працавала ў ваенгандлі ў 16 хбап: *"Улетку 1940 на аэрадром у Жалудку селі першыя самалёты, верагодна СБ. Камісарам палка быў Дзвінскі. У канцы красавіка 1941 года на аэрадром прыгналі каля 200 "зэкаў" з Калугі. 2-3 траўня 1941 г. полк пераляцеў на аэрадром у Чарлёну. У гэты час на аэрадроме пачалося будаўніцтва паласы. Першы налёт здзейснены прыкладна ў 4 гадзіны, другі - у 8 раніцы. Пасля другога налёту самалётаў, прыдатных да палётаў, не засталося. З аэрадрома ўдалося падняцца аднаму самалёту (не ясна, "СБ" або "Пе-2") пад кіраваннем Самарына, якому ўдалося сесці пад Менскам. У выніку налётаў засталіся толькі 2 "Пе-2" (не ясна, ці прыдатныя да палёту). Акрамя таго, магчыма, спрабавалі падняцца яшчэ 5-6 самалётаў. Загінулых, акрамя экіпажа Пратасава, тараніўшага СМ, не было. Параненыя і кантужаныя былі. Забітых, ва ўсякім разе, лётчыкаў - не. Тлумачыцца тым, што першы налёт быў здзейснены на стаянкі самалётаў, а потым - на намётавы гарадок, які да гэтага часу паспелі пакінуць і схавацца ў ляску. 23 або 24 чэрвеня, эвакуюючыся на паўтаратонцы, за Наваградкам убачылі групу нямецкіх самалётаў, адзін з якіх дыміў. З яго выскачыла 2 лётчыкі. Іх паланілі і здалі ў камендатуру. Затрыманне праводзілі лейтэнант і 4 чырвонаармейцы, якія ехалі ў машыне". (http://edu.grsu.by/rubon/forum/viewtopic.*



***Хуткасны бамбардзіроўшчык - "СБ"***

*php?t=14).*

Паводле вышэйпаказанага палітданясення 11 зад з Ліды ў Менск 22 чэрвеня, адпраўленага ў 14.50, у небе над Чарлёнай з 3.30 да 12.00 адбываўся бой, але гэта быў бой, у асноўным, пілотаў 122-га і 127-га палкоў з нямецкай авіяцыяй: *"...у 9.50 гадзін 37 самалётаў супраціўніка зрабілі налёт на аэрадром Чарлёна. Хуткасныя бамбардзіроўшчыкі палка гарацъ. Падрабязнасці і страты невядомыя. Пілоты 127 зап з 3.30 да 12.00 зрабілі 8 баявых вылетаў у раён Чарлёна-Гародня. Страты - адзін палітрук. У 10.45 гадзін бой у раёне Чарлёна-Гародня з 27-30 самалётамі супраціўніка. Збітых няма".(http://www.soldat.ru/forum/forum.html?page=1&id=3600& referer_query=page%3D1).*

Вядома, што ў ноч з 21 на 22 чэрвеня 1941 года тры лётчыкі 16 хбап: старэйшыя лейтэнанты Варанчыхін М.Я., Фадзееў І.І. і лейтэнант Паўлаў Ф.А. з сяржантамі Барысавым П.Д. і Сакаловым У.А. селі ў цягнік Беласток-Ленінград, верагодна, на чыг. станцыі Масты і накіраваліся на ўсход. Куды, у камандзіроўку, адпачынак? Пакуль не вядома. Вядома толькі тое, што даехалі яны толькі да г. Ліды, дзе загінулі рана раніцай 22 чэрвеня пры бамбардзіроўцы цягніка *(ЦАМА, архіўная праца А. Валяева-Зайцава).*

Адгукнуўся нашчадак лётчыка 16 хбап - Сальнікаў Георгі Георгіевіч (Канада) - сын Сальнікава Георгія Іванавіча, стралка-радыста 16 хбап. *"Мой бацька знаходзіўся на лагерным аэрадроме Чарлёна ў момант штурмоўкі немцамі 22 чэрвеня 1941 года. Дзесьці ў 1952-1953 г.г. бацька распавёў мне, хлапчуку, трагічную гісторыю пачатку вайны. Распавёў, як за суткі да пачатку вайны з бамбардзіроўшчыкаў было знята кулямётна-гарматнае ўзбраенне. На яго вачах камандзір эскадрыллі Пратасаў узляцеў і пайшоў на таран... Дзесьці ў 10-11 раніцы знайшлі кінутую паўтаратонку, бацька выцер мокры трамблёр і завёў яе. На ёй чалавек 20-25 з 16-га палка дабраліся да Ліды. Пры іх быў сцяг палка і штабныя дакументы... Іх усіх арыштавалі, але неўзабаве выпусцілі...". (http://gspo.ru/index.php?s=76a0f1b4898c3188a1ff0533a036643d&showtopic=635&st=120).*

С. Даўгушын лічыць, што 16 хбап поўнасцю *"накрылі ў Чарлёне", і ў Лідзе іх 22-га і раніцай 23-га чэрвеня не было" (http://www.soldat.ru/forum/forum.html? page=1&id=3600&referer_query=page%3D1).* Паводле ўспамінаў А.Д. Фёдаравай выходзіць, што лётны склад 16 хбап ехаў на ўсход праз Навагрудак на 2-гі або 3-ці дзень вайны, а не праз Ліду.

Асноўная сіла выту гітлераўскай авіяцыі прыйшлася на дывізіі першага эшалона вайсковай авіяцыі. Нават па заканчэнні 60 гадоў сапраўдныя прычыны трагедыі пакрытыя цемрай.

Афіцыйная статыстыка стратаў ВПС Заходняга фронту ў першы дзень вайны: 528 самалётаў загінулі на аэрадромах, 133 былі збітыя варожымі знішчальнікамі, 18 - зеніткамі, 53 - не вярнуліся з баявога задання па нявысветленых прычынах. Акрамя таго, у катастрофе разбіўся 1 самалёт, 2 пацярпелі аварыі і 3 здзейснілі змушаныя пасадкі. Разам страты склалі 738 самалётаў, або амаль палову колькасці ВПС фронту *(ЦАМА. ф.35, воп. 3802, спр. 19, арк. 70).*

11, 9, і 10 зад Заходняга фронту 22.06.1942 былі поўнасцю разгромленыя. Тры дывізіі страцілі 654 самалёты, што складала 80 адсоткаў ад першапачатковага ліку самалётаў у гэтых дывізіях. Вялікую частку сваіх самалётаў гэтыя тры дывізіі страцілі на зямлі. Абсалютна дакладных лічбаў страт мы не даведаемся, верагодна, ніколі.

Такі быў першы дзень вайны. За скупымі словамі франтавікоў хаваецца вялікі боль і шкадаванне аб той найвялікшай трагедыі, якая назаўжды застанецца ў памяці - дзень 22 чэрвеня 1941 года.

На другі дзень вайны 11-я змешаная дывізія Заходняга фронту, якая знаходзілася ў першым эшалоне, аказалася небаяздольнай і была выведзена на пераფармаванне. Па афіцыйнай статыстыцы, у кіраванні дывізіі былі 4 самалёты, у 122 зап - 71, з іх 11 няспраўныя (паводле С. Даўгушына ў палку былі72 самалёты, усе-усе спраўныя і 72 пілоты), у 127 зап - 72, з якіх 7 няспраўных, у 16 хбап 24 СБ, з якіх адзін няспраўны і 37 "Пе-2. Разам у дывізіі было 208 самалётаў, з якіх на 22 чэрвеня было 19 няспраўных *(http://www.rkka.ru/22/vvs/zapovo.htm).* Паводле С. Даўгушына, да вечара 22 чэрвеня на Лідскім аэрадроме было каля 100 самалётаў. Рана раніцай 23 чэрвеня была яшчэ штурмоўка аэрадрома. *"І я ўпэўнены, што 50 адсоткаў самалётаў, а то і больш "жывых" засталося". (http://www.soldat.ru/forum/forum.html?page= 1&id=3600&referer_query=page%3D1).* Колькі засталося "жывых самалётаў?

Старэйшы сяржант 229-га асобнага зенітнага артылерыйскага дывізіёна Смірноў Б.Н. успамінае: *"З прычыны перапыненай тэлефоннай сувязі мяне паслалі ў выведку на аэрадром. Вельмі здзівіла карціна, якая адкрылася: практычна цэлыя ўзлётныя палосы і вышыхтаваныя ў рад цэленькія нашы самалёты. Толькі падыйшоўшы ўшчыльную, я ўбачыў, што яны зрашочаны кулямётнымі чэргамі. З людзей нікога не выявіў. Бомбавых вырваў было шмат, асабліва сярод развалін і абгарэлых рэшткаў пабудоў. Відаць было, што фашысты бамбілі люта, але з разлікам, па магчымасці, захаваць месца для пасадкі і ўзлёту сваіх самалётаў". (ЛГММ "Смірноў Б.Н.").*

Цікава, у ліпені 1941 года за пройгрыш памежнай бітвы былі расстраляныя камандуючы войскамі акругі З. Паўлаў, начальнік штаба акругі Клімоўскіх, а член Вайсковай рады карпусны камісар А. Фаміных не атрымаў нават вымовы *(http://armor.kiev.ua/army/hist/stratplan-zapovo.shtml).*

Як былі сустрэты нашы сокалы, праявіўшыя велізарную мужнасць і гераічнасць, у Маскве? Пра гэта звестак пакуль няма. Паводле ўспамінаў М.Я. Карабкова, ужо "20 ліпеня 1941 года лётчыкі 11 зад атрымалі "МіГі" і выляцелі на фронт дзвюмя эскадрыллямі па дзесяць самалётаў у кожнай, гэта значыць у тры разы

менш, чым было 21 чэрвеня…” *(Штотыднёвая газета “Надежда” № 19 (213) ад 10.05.2007).*

**Спіс асабовага складу частак 11-й змешанай авіяцыйнай дывізіі, прадстаўленых да ўзнагароджання ордэнамі СССР за вызначэнне ў баях з нямецкімі фашыстамі**.
*(ЦАМО, ф.11 зад, воп.2, спр.5, арк.3).*

**122-гі знішчальны авіяцыйны полк**

1. Намеснік камандзіра 122 зап капітан Уханеў Васіль Мітрафанавіч. 22.6.41г. над аэрадромам Чарлёна ўступіў у бой з 6 самалётамі супраціўніка. Збіў адзін самалёт супраціўніка “Ме-110”. Расстраляўшы ўсе патроны, хітрым манеўрам выйшаў з-пад выту, і шчасліва сеў на сваім аэрадроме.

2. Камандзір эскадрыллі капітан Арлоў Канстанцін Фёдаравіч. 22.6.41 г. у Чарлёне ўступіў у бой са звяном супраціўніка. Збіў адзін самалёт супраціўніка “Ме-110” і сеў на свой аэрадром. Біўся з выключным майстэрствам.

**127-мы знішчальны авіяцыйны полк**

1. Нам. камандзіра аэ па палітчастцы старшы палітрук Арцёмаў Аляксандр Аляксеевіч. 22.6.41 года меў 9 баявых вылетаў. Збіў у паветраным баі 3 самалёты супраціўніка.

2. Камандзір звяна малодшы лейтэнант Шустраў Ілья Ільіч. Неаднаразова вадзіў звяно ў бой, і асабіста сам збіў адзін самалёт супраціўніка 22.6.41 года.

3. Камандзір эскадрыллі старшы лейтэнант Драздоў Іван Мікалаевіч. 22.6.41 года, удзельнічаючы ў баях у паветры з варожымі самалётамі, зрабіў 5 баявых вылетаў і збіў два нямецкія самалёты.

4. Памочнік камандзіра эскадрыллі лейтэнант Варакін Разум Іванавіч. 22.6.41г. мае тры баявыя вылеты. Збіў адзін самалёт супраціўніка. Быў паранены і пасадку зрабіў на сваім аэрадроме.

5. Камандзір звяна малодшы лейтэнант Дзяругін Сяргей Сяргеевіч. За 22.6.41г. меў 9 баявых вылетаў. Збіў 4 нямецкія самалёты.

6. Камандзір звяна лейтэнант Сенчукоў Алег Іванавіч. За 22.6.41г. меў 5 баявых вылетаў. Збіў 1 нямецкі самалёт.

7. ЧВА камандзіра эскадрыллі лейтэнант Жукоўскі Сяргей Якаўлевіч. За 22.6.41г. зрабіў 9 баявых вылетаў. Збіў 4 нямецкія самалёты.

8. Нам. камандзіра эскадрыллі па палітчастцы старшы палітрук Данілаў Андрэй Сцяпанавіч. 22.6.41 г. над аэрадромам Чарлёна ўступіў у бой з 9 самалётамі супраціўніка. Збіў 2 самалёты Ме-110, расстраляў усе патроны. Бачачы бязвыхаднае становішча, накіраваў свой самалёт прама на варожы самалёт. Тараніць самалёт не ўдалося, бо іншым самалётам супраціўніка быў збіты. Т. Данілаў загінуў смерцю храбрых за Сацыялістычную Радзіму.

*(А.С. Данілаў, здзейсніўшы таран, быў паранены, пасля папраўкі вярнуўся ў полк.)*

**16-ты хуткасны бамбардзіровачны авіяцыйны полк**

1. Камандзір эскадрыллі капітан Пратасаў Анатоль Сяргеевіч. 22.6.41г. пры налёце супраціўніка на аэрадром пад абстрэлам падняўся на вышыню 300 метраў уступіў у бой, у выніку якога збіў 1 самалёт супраціўніка, расстраляўшы ўсе патроны, прата-раніўшы другі самалёт праціўніка, загінуў смерцю героя.

Камандзір 11-й зад,
Двойчы Герай Савецкага Саюза,
генерал-лейтэнант авіяцыі Краўчанка.

Нач. штаба 11-й зад палкоўнік Вараб’ёў.

*(http: //bb.ct.kz/index.php?showtopic=194868st =520).*

Прааналізаваў гэты спіс, Васіль Бардаў - гарадзенскі краязнавец, заўважыў дзіўную карціну: па дакументах атрымліваецца, што лётчыкі 127-га палка ўзнагароджаныя былі практычна ўсё, хто ўдзельнічаў у паветраных баях. Па 122 зап капітана Арлова ўзнагародзілі цалкам заслужана. Дзіўна, што ў спісе няма іншых лётчыкаў 122 зап, таго ж С. Даўгушына. Хоць вядома, што лётчыкамі 122-га і 127-га палкоў збіта 22 чэрвеня, адпаведна, 15 і 20 самалётаў супраціўніка. З узнагароджаннем намесніка камандзіра палка - начальніка штаба Уханева Ў.М. сітуацыя заблытаная. Па С. Даўгушыну: Уханева ў 16 хбап (Чарлёна) у гэты час не было, і быць не магло. У Новым Двары самалёт Уханева атрымаў пашкоджанне - быў падбіты матор. Пасля таго, як Уханев з падбітым маторам прызямліўся на аэрадроме Новы Двор, ён сеў у аўтамабіль, і з Новага Двара з’ехаў у Ліду, у штаб дывізіі (http://sdo.grsu.by/forum/index.php?PHPSESSID=4fabc8cdde078e36b3587f7ae55ee45e&action=profile;u=1507;sa=showPosts).Т.ч. атрымліваецца, што толькі Арлову палкавое начальства залічыла збітыя ім самалёты. А Уханеву залічылі яшчэ і тыя самалёты, якія ён наогул збіць не мог.

**ПЕРШЫЯ БАЯВЫЯ СТРАТЫ 11 ЗАД**

На сённяшні дзень маюцца звесткі аб стратах першага дня вайны па трох палках 11 зад *(ЦАМА, архіўная праца А.Валяева-Зайцава).*

У 122 зап у Новым Двары 22 чэрвеня загінулі на зямлі два лётчыкі:

- мал. лейтэнант Быкаў Уладзімір Аляксандравіч 1916 г. н.;
- мал. лейтэнант Панасенка Ўладзімір Якаўлевіч 1914 г. н.

На аэрадроме Ліда загінулі таксама на зямлі 2 лётчыкі:

- малодшы лейтэнант камандзір звяна Аганін Барыс Васільевіч 1914 г. н.;
- камандзір звяна Аганькоў Пётр (у кабіне самалёта пры налёце варожай авіяцыі);

- Мельніаў Мікалай Фёдаравіч 1921 г. н., выхадзец з г. Ленiграда “наўмысна застаўся ў г. Лідзе”. Пасля штурмоўкі Лідскага аэрадрома 22 чэрвеня апоўдні, частка лётчыкаў пайшла да сем’яў. З гэтай нагоды С. Даўгушын успамінае: *“...адкрыта скажу: “жанацікі” (у якіх жонкі былі ў Лідзе), пайшлі да жонак, а мы, халасцякі, паляцелі, не памятаю, колькі нас было.” (http://www. soldat.ru/forum/forum.html?page=1&id=3600& referer_query=page%3D1).*

У ліку лётчыкаў, якія пайшлі да сем’яў, быў і лейтэнант Мельнікаў Мікалай Фёдаравіч. Пасля штурмоўкі апоўдні аэрадрома ў Лідзе ён не паляцеў у Чарлёну, а застаўся ў Лідзе, загасцяваўся ў былой жонкі Лёлькі Пятроўскай. Верагодна, застаўся наўмысна, бо па сведчанні сучаснікаў, Лёлька Пятроўская здымала кватэру недалёка ад аэрадрома. А на аэрадроме адбываліся такія падзеі, што нават глухі мог іх пачуць. Аб тым, што на трэці дзень вайны гэты лётчык быў у жонкі, гавораць і ўспаміны падпольшчыка і партызана Пятроўскага Ўладзіміра Іванавіча - брата Лёлькі. У. Пятроўскі піша: “На трэці дзень вайны ў в. Мікулічы сабралася ўся наша сям’я. Там быў муж сястры Лёлькі, маці, бацька…”. *(ЛГММ “Пятроўскі Ў.І.”)*. Далейшы лёс Мікалая Мельнікава невядомы.

У 127 зап загінулі на зямлі 22 чэрвеня пры бамбардзіроўцы аэрадрома Лесішча 7 лётчыкаў:

-лейтэнант Белічэнка Канстанцін Якаўлевіч, 1916 г. н.;

-лейтэнант, нам. камандзіра эскадрыллі Варакін Разум Іванавіч, 1917 г. н.;

-лейтэнант Грыбакін Апанас Васільевіч, 1915 г. н.;

-мал. лейтэнант Маркаў Іван Рыгоравіч, 1917 г. н., выхадзец з Н. Ноўгарада;

-лейтэнант Міхайлаў Мікалай Мікалаевіч, 1914 г. н.;

-мал. лейтэнант Разумцаў Міхаіл Данілавіч, 1920 г. н.;

-лейтэнант Філіпаў Міхаіл Сямёнавіч, 1916 г. н.

5 лётчыкаў 127-га зап загінулі ў баі:

-лейтэнант, камандзір звяна Ярошын Мікалай Паўлавіч, 1913 г. н., выхадзец з Ніжагародскай вобласці. Па адной з версій загінуў пры бамбардзіроўцы аэрадрома Лесішча, па ўспамінах аднапалчан - пайшоў на таран;

-ст. лейтэнант, нам. камандзіра эскадрыллі Кузьмін Пётр Аляксандравіч 1908 г. н. выхадзец з Сімбірска. 22 чэрвеня здзейсніў 5 баявых вылетаў, збіў адзін самалёт супраціўніка. У 13.00 гадзін выляцеў у шосты раз і ў баі над в. Каменка Гарадзенскай вобласці, быўшы параненым, тараніў “М-109” *(хутчэй за ўсё, камандзіра “JG27” маёра Ў. Шэльмана)* і сам загінуў;

-лейтэнант Пачын Аляксандр Іванавіч, 1918 г. н., выхадзец з Н. Наўгародскай вобл. Каля 11 гадзін ля Гародні тараніў “Ju-87” і сам загінуў;

-мал. лейтэнант Пяцькун Аляксей Д., загінуў пад г. Гародняй;

-мал. лейтэнант Рыбкін Аляксандр Андрэевіч 1919 г. н., не вярнуўся з баявога задання.

У 16 хбап:

-капітан, камандзір эскадрыллі Пратасаў Анатоль Сяргеевіч, 1909 г. н., выхадзец з Саратаўскай вобласці, ст. лейтэнант, штурман Ярулін А.К. і сяржант, стралок Бесарабаў над аэрадромам Чарлёна на СБ *“пры налёце супраціўніка на аэрадром пад абстрэлам падняліся на вышыню 300 м, уступілі ў бой, у выніку якога збіты адзін самалёт супраціўніка. Расстраляўшы ўсе патроны, пратаранілі другі самалёт, загінулі смерцю герояў”;*

-ст. лейтэнант Сіналобаў загінуў у паветраным баі са знішчальнікамі;

-лётчыкі ст. лейтэнант, камандзір звяна Варанчыхін Міхаіл Якаўлевіч, 1913 г. р., лейтэнант Паўлаў Фёдар Аляксеевіч, 1915 г. н., ст. лейтэнант, камандзір звяна Фадзееў Іван Іванавіч, 1905 г. н., сяржанты Барысаў Павел Дзмітрыевіч, 1913 г. н. і Сакалоў Васіль Аляксеевіч, 1910 г. н. пацярпелі ад бамбардзіроўкі цягніка Беласток-Ленінград раніцай 22 чэрвеня ў г. Лідзе. Пры гэтым трупы Варанчыхіна М.Я. і Сакалова Ў.А. згарэлі ў цягніку, а параненых Паўлава Ф.А., Фадзеева І.І. і Барысава П.Д. адвезлі ў шпіталь. 23 чэрвеня была бамбардзіроўка шпіталя, пасля якой яны зніклі без вестак.

- Хутарноў Зміцер Рыгоравіч 1912 г. н., інжынерна-тэхнічны склад, знік у чэрвені 1941 без весткі.

Кіраванне 11 зад:

- палкоўнік, камандзір дывізіі Ганічаў Пётр Іванавіч 1904 г. н., выхадзец з Санкт-Пецярбурга “памёр ад ран пры налёце нямецкай авіяцыі на аэрадром г. Ліда”.

- сяржант Безрукаўнікаў Іван Аляксандравіч паранены на аэрадроме Ліда, адпраўлены ў шпіталь;

- шараговец, чарцёжнік кіравання 11 зад Сапко Васіль Фёдаравіч, 1920 г. н., выхадзец г. Мікалаева, *“адпраўлены ў школу (камандзіроўку)”*, загінуў пры бамбардзіроўцы цягніка Беласток-Ленінград ;

- шарагоўцы: пісар Кавальчук Паліеўкт Фаміч 1920 г. н., выхадзец з Камянец-Падольскай вобласці, чарцёжнік Шульман Рафаіл Зэльманавіч, 1922 г. н., выхадзец са Сталінскай вобласці, яфрэйтар, экспедытар Шчарбакоў Герман Васільевіч, 1918 г. н., выхадзец з Растоўскай вобласці і сяржант Маёраў Аркадзь Віктаравіч, 1920 г. н. адыходзілі на ўсход. Трое першых дайшлі да Менска, дзе зніклі без весткі пры бамбардзіроўцы горада 24 чэрвеня, а сяржант Маёраў знік пры бамбардзіроўцы Менска 25 чэрвеня.

Пры штабе дывізіі была асобная рота сувязі. Маюцца звесткі аб страце 6 чалавек з гэтай роты. 22 чэрвеня толькі сеўшы ў цягнік Беласток-Ленінград на чыг. станцыі Ліда і ад’ехаўшы ад станцыі на 150-200 м, загінулі ад трапіўшай у пасажырскі цягнік авіяцыйнай бомбы:

- шараговец Клакун Глеб Аляксандравіч, 1921 г. н., выхадзец з Днепрапятроўска;

- шараговец, лінейны наглядчык Канавалаў Аляксандр Іванавіч, 1920 г. н., выхадзец з Кіраўскай вобласці;

- шараговец Восіпаў Аляксандр Восіпавіч, 1918 г. н., выхадзец з Цвярской вобласці;

- ваенфельчар Васільева Любоў Андрэеўна, 1918 г. н., ураджэнка Ленінградскай вобласці, 23 чэрвеня *“збітая машынай пры эвакуацыі падчас бамбардзіроўкі, адпраўленая ў шпіталь г. Ліды, дзе памерла, не прыходзячы ў прытомнасць”*;

- сяржант Бургасаў Кіян Бурганавіч, 1917 г. н., выхадзец з Татарыі, 25 чэрвеня пры адходзе на ўсход забіты ў м. Іўе танкеткай супраціўніка, труп пакінуты на месцы;

- сяржант Голеў Анатоль Мікалаевіч, выхадзец з Архангельскай вобласці дабраўся да Барысава і 28 чэрвеня знік без весткі пры бамбёжцы горада.

**Дзе пахаваны загінулыя на аэрадроме ў першыя дні вайны?**

У в. Навіцкія-2, па меркаванні мясцовага насельніцтва, маюцца пахаванні цывільнага насельніцтва, а магчыма, і вайскоўцаў, загінулых 22 і 23 чэрвеня на аэрадроме. Ім у 1967 г. пастаўлены помнік. Не ўсе прозвішчы іх, нажаль, вядомыя.

Вядома, што былі пахаванні загінулых і на аэрадроме, целы якіх перапахавалі ў 1956 годзе на могілкі па вул. Савецкай. І зноў магілы безымяныя.

Паводле дадзеных Лідскага вайсковага камісарыяту камандзір 11 зад палкоўнік Ганічаў Пётр Іванавіч пахаваны ў Лідзе на могілках па вул. Савецкай. Нажаль і да сораму жыхароў горада - магіла яго невядомая.

Няма звестак аб лёсе інжынерна-тэхнічнага складу, пакінутага на аэрадромах. Яны бязладна адыходзілі на ўсход, толькі як далёка яны маглі зайсці пры імклівым наступе гітлераўцаў? Гэта імі, верагодна, папоўніўся Наваградскі кацёл і нямецкія канцлагеры.

У фондах ЛГММ маюцца звесткі аб байцах 17-го асобнага інжынернага аэрадромнага батальёна 17-го дарожна-эксплутацыоннага палка, якія адыходзілі на ўсход. У 1940 годзе полк прыбыў у Заходнюю Беларусь. Кіраванне палка дыслакавалася ў Лідзе. Полк быў задзейнічаны на будаўніцтве аэрадромаў, дзе па ўспамінах камандзіра аддзялення Басціцкага Г.Н. *“працавалі дзённа і ночна, прычым адначасова на некалькіх аэрадромах у розных раёнах”*. Штаб аднаго з батальёнаў палка знаходзіўся ў Скрыбаўцах, а байцы - на будаўнічых аб’ектах па пунктах - у Скрыбаўцах, у Табале, у Дзятлаве. Батальёну з пачаткам вайны ўстанавіць сувязь са сваім вышэйстаячым камандаваннем і з 11 зад не ўдалося. Камандзір батальёна маёр Піліпенка прыняў рашэнне аб адступленні са Скрыбаўцаў на ўсход праз Беліцу, Дзятлава. Рухаліся на маларухомай і груваcткай будаўнічай тэхніцы (трактары, грэйдары і інш.). Падышлі да в. Беліца. А ў гэты час з боку Дзятлава ў Ліду ішла нямецкая мотапяхота. За ваколіцай ля в. Беліца перад мастом цераз р. Нёман на перакрыжаванні дарог завязалася бітва ўзброенай нямецкай мотапяхоты з байцамі 17-га батальёна. Многія байцы ў гэтым баі загінулі. Рэшткі батальёна па камандзе камбата адышлі праз Наваградак да Менска і, нажаль, патрапілі ў палон. Акрамя вышэйзгаданых былі: ст.л-т Гаўрыленка, лейтэнант Ушакоў, сяржант Казначэеў. *(ЛГММ “Басціцкі Г.Н”).*

Аб гэтай бітве і аб гэтых ахвярах пачатку вайны ўспамінае Бельскі М.У.: *“Нямецкія войскі ўвайшлі ў Ліду 27 чэрвеня, а чырвонаармейцы будбата пакінулі свой пост ля в. Табала толькі пад самы вечар у суботу 28 чэрвеня. Тэхніку яны кінулі ва ўрочышчы Нёмана Ройста, дзе збіралі камяні на будаўніцтва аэрадрома, і накіраваліся ў бок Беліцы. У гэты час з боку Дзятлава ехалі тры нямецкія матацыклісты. Завязалася перастрэлка, у выніку якой загінулі 3 немцы і, як памятаецца дзесяцігадоваму хлапчуку, 98 чырвонаармейцаў будбата. За забітых 3-х немцаў у той жа вечар была спаленая в. Беліца*” *(ЛГММ “Бельскі М.У.”).*

Аб гэтай сутычцы з гітлераўцамі ўспамінае і лідскі краязнавец А. Кулеш. Паводле Куляша ў гэтым баі загінула 20 чырвонаармейцаў. *“Усе яны сёння пахаваны ў брацкай магіле тут жа, на месцы таго бою, на разгалінаванні дарог Ліда-Слонім-Жалудок. Ды гэтай пары ад таго бою бачны шнары на хаце Байкач, што стаіць побач. Знайшлі сваю магілу ў гэтым баі і некалькі нямецкіх салдатаў. На іх магілах усю вайну стаялі бярозавыя крыжы… У 1944 годзе парэшткі іх былі забраныя і адпраўленыя на радзіму ў Германію” (”Лідскі летапісец”, № 3(15), стар. 13).*

25 чэрвеня ў Лідзе быў падарваны склад боезабеспячэння. Магчыма, у гэты ж дзень былі знішчаныя і самалёты на аэрадроме. Акалічнасці знішчэння на зямлі маглі быць рознымі. Напрыклад, на аэрадром з кінутымі самалётамі, прыязджаюць тылавікі, пералічваюць пакінутыя самалёты, а магчыма, складаюць поўны рэестр з дакладным указаннем пашкоджанняў, атрыманых падчас налёту варожай авіяцыі. Затым зліваюць з бакаў на зямлю пакінутае паліва і чыркаюць запалкай. Часу “прывесці прысуд у выкананне” заставалася досыць - 4 сутак: нямецкія войскі ўвайшлі ў горад 27 чэрвеня. Але такі рэестр пакуль не апублікаваны.

Такая ж доля спасцігла і нашых суседзяў - 9-ю і 10-ю змяшаныя авіяцыйныя дывізіі, якія знаходзіліся ў першым эшалоне. Асноўная прычына паразы нашай авіяцыі ў першы дзень вайны - тактычнае і статэгічнае няўменне камандзіраў узроўню дывізіі, корпуса і вышэй эфектыўна выкарыстаць наяўныя сілы. Распыленне авіяцыі паміж войскамі, распыленне частак уздоўж мяжы пазбавіла яе здольнасці да манеўру, а камандаванне - да канцэнтрацыі сіл. Але гэтыя глабальныя прамашкі не маглі перакрыць майстэрства дасведчаных пілотаў і масавае геройства тэхнічнага складу. Савецкія авіятары, як і ўся Чырвоная Армія, прайгралі ПЕРШЫ бой. Але гэтая параза стала пралогам Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

# Лідскія сцежкі-дарожкі Алеся Змагара

## (паводле ўспамінаў Алеся Змагара “Сцежкі-дарожкі”)

*Аляксандар Яцэвіч (Алесь Змагар) нарадзіўся 1 кастрычніка 1903 г. у вёсцы Цароўцы Слуцкага павету. Вучыўся ў Слуцкай класічнай гімназіі. У І920 браў удзел у Слуцкім збройным чыне, быў арыштаваны, збег з турмы, удзельнічаў у зялёнай партызанцы. У 1925 г. паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. У 1930-1941 гг. з-за справядлівай боязі рэпрэсій часта змяняў месца жыхарства і працы (Тбілісі, Батумі, Кубань, Данбас, Кіеў, Менск. Асіповічы). Падчас нямецкай акупацыі, займаючы пасаду інспектара беларускіх школ, актыўна праводзіў беларусізацыю навучальных установаў. Быў удзельнікам ІІ Усвбеларускага кангрэсу (чэрвень 1944). З ліпеня 1944 г. на эміграцыі (Польшча, Нямеччына, Аўстрыя). У 1949 г. параехаў у Францыю, дзе далучыўся да эмігранцкага палітычнага жыцця (увайшоў у склад Рады БНР). З 1956 г. жыве ў ЗША. З’яўляўся актыўным удзельнікам Беларускай Народнай Літаратурнай Сустані „Баявая Ўскалось”.*



***Алесь Змагар.***
*Здымак 1950-х гадоў.*

*Асноўная тэма літаратурнай дзейнасці - падзеі на Случчыне. Асобна была выдадзеная ягоная кніга „Случчакі” (1947), кніга прозы „Вызвольныя шляхі” (1965), „Лесавікі” (1973). Галоўным творам з’яўляецца раман „Случчына ў агні” (1986|. У дадзены момант Алесь Яцэвіч-Змагар жыве ў Фларыдзе.*

*У мемуарах Алеся Змагара, суб’ектыўна выкладзеныя ўспаміны пра вострыя сацыяльныя, нацыянальныя і палітычныя канфлікты першай паловы XX стагоддзя, перамяжаюцца з мастацкай фантазіяй, карціны савецкага бязладдзя - з узгадкамі пра нямецкую акупацыю. Спрэчнасць і алагічнасць некаторых аўтарскіх прыдумак (асабліва вялікая блытаніна ў аўтара з датаваннем і паслядоўнасцю розных падзеяў, блытае ён і пасады людзей) дадае „мемуарам” асаблівы шарм „уяўленай гісторыі”. Пры гэтым „мемуары” адлюстроўваюць погляды на жыццё актыўнага беларускага нацыяналіста (слуцкія падзеі, “зялёныя партызаны”, удзел у беларускім нацыянальным руху падчас нямецкай акупацыі). Наколькі шырокія былі гэткія погляды, чытач можа даведацца з публікацыі сам.*

*Успаміны Алеся Змагара перададзены Лявонам Юрэвічам.*

Надышла Сусветная вайна. Беларусы спатыкалі немцаў, радыя ўжо таму, што пазбавіліся маскоўскай крывавай дэспатыі. Калгаснікі зараз жа пачалі дзяліць калгаснае дабро ды выдзельваць свае былыя вузкія палоскі. Іхнія жаданні перайсці на хутарызацыю мусілі адкласціся да канца ваенных падзеяў. На вялікую радасць случчакоў Астроўскі быў прызначаны намеснікам Менскай акругі. Будучы ўмелым дыпламатам, ён спрытна выкарыстоўваў свае сувязі з немцамі і шмат дапамагаў у бядзе сялянам.

Я таксама з’явіўся да Астроўскага, якога ведаў яшчэ ад 4 верасня 1917 г., калі ягоным стараннем была адчынена ў Слуцку першая беларуская гімназія. Яго я ледзь пазнаў, бо калісь ён меў вусы, а цяпер быў чыста голены. Пасля некаторай гутаркі ён прапанаваў мне вельмі матэр’яльна выгадную працу, а менавіта быць кіраўніком аддзелу па забеспячэнні прадуктамі горада Менска. Але я адмовіўся, грунтуючыся на тым, што не маю такое кваліфікацыі, адмовіўся я быць, і старшынём раённай управы. Нарэшце Астроўскі згадзіўся накі-

раваць мяне на працу школьнага інспектара, але перад гэтым я мусіў паехаць у Смалявічы да старшыні раённай управы, беларуса з Варшавы Пятровіча, якому трэба дапамагчы арганізаваць раённую ўправу. Еду ў Смалявічы.



***Радаслаў Астроўскі***



***Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі***

Падчас абмяркоўнання справы арганізацыі раённай управы да Пятровіча з'явіўся ўцякач з салавецкай высылкі Палягошка з просьбаю матэрыяльнай дапамогі. Пятровіч звярнуўся да мяне па параду. Перагаварыўшы з Палягошкам і даведаўшыся, што ён знаёмы з адміністрацыйнаю працаю, я зараз жа вызначаю яго на заступніка старшыні раённай управы, а заадно і ў якасці кіраўніка зямельмага аддзелу, Беразоўскага вызначаю кіраўніком тэхнічнага аддзелу, куды ўваходзілі млыны і рыбная прамысловасць. Раённая ўправа пачала нармальна працаваць, а я заняўся школьнай працай, выклікаў настаўнікаў, прызначыў на школы, выдзеліў аднаго з іх інспектарам ды выехаў назад у Менск да Астроўскага.

Быць акруговым школьным інспектарам я адмаўляюся, і Астроўскі накіроўвае мяне з 1 верасня 1941 г. як школьнага інспектара народных школ у Радашкаўскі раён, дзе хутка адчыняю 50 народных школ, 4 гімназіі, у Радашковічах, Ракаве, Дуброве і Алехнавічах, а таксама завочныя педагагічныя курсы, куды падабраў моцны педагагічны склад, запрасіўшы найлепшых настаўнікаў, як з Заходняй Беларусі, так і з Менска. Накіроўваюся з паведамленнем пра выпікі працы ў Галоўны школьны інснектарыят. Ні ў адным раёне розных акруг яшчэ столькі школ не працавала, і я быў вельмі цёпла спатканы іспектарамі Пратасевічам, Чайкам і Дзятлавым. Яны былі вельмі здзіўленыя шырока разгорнутай працаю, але адначасна сказалі, што немцы не дазваляюць у раёне адчыняць гімназій, а можна ў акрузе і то толькі адну. Але паколькі Радашковічы належалі да Менскай акругі, а там гімназіі яшчэ не было, то Радашкаўскую можна лічыць як гімназію Менскай акругі з месцазнаходжаннем у Радашковічах. Я зараз жа перарабіў рапарт, назваў гімназіі Беларускімі адукацыйнымі курсамі з гімназічнаю праграмаю, па заканчэнні якіх курсанты маглі экстэрнам здаць экзамены за курс гімназіі і атрымаць пасведкі.

- Дыпламат, — сказаў Пратасевіч і накіраваў да Гадлеўскага.

Нягледзячы на вялікія крыўды, якія пасля рэвалюцыі панеслі беларусы ад яўрэяў, прыхільнікаў крывавага маскоўскага камунізму, пралезшых у камісары ды ў розныя палітычныя кіраўнічыя ўстановы, мне давялося пры немцах, рызыкуючы сваім жыццём, уратаваць некалькі яўрэяў ад смерці. На выхадзе з Галоўнага школьнага інспектарыяту я спаткаў яўрэячку 10-га класа Серабранскай школы, у памяшканні якой калісьці мною была арганізаваная вячэрняя 10-годка. Яна падбегла да мяне і пачала прасіць, каб узяў да сябе па работу і заплакала. Я яе забраў. Маючы пропуск, праехаў цераз яўрэйскае гета, выпісаў ёй дакументы, назваўшы Зінаю Яблонскай, трохі падвучыў друкаваць на машынцы ды пакінуў пры Радашкаўскім школьным інспектарыяце ў якасці сакратаркі.

Праз тыдзень да мяне з'явіўся з фальшывымі дакументамі на імя Радкевіча яўрэй з патрабаваннем настаўніцкае працы ў Радашковічах. Убачыўшы яго, Зіна хутка адвярнулася, схілілася над сталом ды, прыкрываючы рукою твар, штурханула мяне нагой, даючы засцярогу. Паколькі школы ў Радашковічах былі цалкам укамплектаваныя, я запрапапаваў яму прыйсці заўтра, магчыма, знойдзецца што-небудзь на перыферыі. Ён выйшаў.

— Не прыймайце яго, гэта тэрарыст і прыйшоў Вас знішчыць. Яго я ведаю яшчэ са школы, калі ён, будучы працаўнікам райкаму камсамолу, прыходзіў у нашую школу. Цяпер жа ён пазасталы НКУС у Менску дзеля дыверсійнай працы. Маючы адпаведныя дакументы ды гамонячы па-нямецку, пэўна, выдае сябе за фольксдойча і арганізоўвае яўрэйскі тэрарызм. Вы мяне выратавалі ад смерці, і я Вам жадаю дабра.

І гэтае ж ночы ён прывёў у Радашковічы чырвоных партызанаў. Забілі немца, забралі прадукты ды зніклі ў лесе. Зіну, па яе просьбе, я накіраваў у школу дальняй вёскі. А праз пару дзён з'явіліся да мяне нямецкія СС, шукаючы яўрэйку, што працуе пры раённым школьным інспектарыяце. Паколькі такое прозвішча ў раённай управе ніхто не ведаў, а ў маёй картатэцы не было, то эсэсаўцы, перапрасіўшы мяне, ад'ехалі. Я адразу здагадаўся, што гэтыя тэрарысты, пры дапамозе сваіх людзей пры акруговым камісары, рабілі правакацыйныя даносы, каб нямецкімі рукамі знішчаць беларусаў. Не мінула і тыдня, як да мяне з'явіўся малады яўрэйчык Борка (Барыс). Паколькі працы ў Радашковічах дастаць было нельга, то ён зараз жа накіраваўся ў м. Ракаў, дзе ў вельмі хуткім часе арганізаваў страўню, куды лепшую, чым наша раённая. Ён меў усялякага гатунку мясныя стравы, розныя прысмакі і дарагія віны, чаго і немцы не мелі. Падчас майго наведвання ракаўскае школы. Барыс запрасіў мяне ў сваю страўню, частаваў тым, чаго я ў сваім жыцці не бачыў, ды папрасіў, каб я, ад імя Беларускай раённай самапомачы, прыняў гэтую страўню, яго прызначыў дырэктарам страўні, а кухара і разносчыцу — працаўнікамі кухні. Ягоную просьбу я выканаў.

Назаўтра падчас абеду ён папрасіў мяне прыняць у памочнікі кухара яшчэ аднаго добрага хлопца.

Паколькі завочна я нікога на работу не прымаў, то загадаў, каб той хлопец з'явіўся да мяне з дакументамі: пашпартам, прафсаюзным і ваенным білетам. Выкліканы хлопец хутка з'явіўся з дакументамі. Яшчэ, калі ён, будучы знадворку, праходзіў каля вакон страўні ды кінуў кароткі позірк у акно, я адразу пазнаў, што гэта былы савецкі лейтэнант, а цяпер савецкі партызан. Пераглядаючы ягоныя дакументы, я заўважыў, што ў пашпарце запісана дата ягонага перабывання ў адным раёне, а ў прафсаюзным білеце пад гэтай жа датай зазначана месца ягонае працы ў другім раёне — добры доказ для „алібі", калі патрапіцца ў рукі паліцыі.

Не падаючы выгляду, што ён расшыфраваны, я паказваю яму і гэтыя даты, і месцы ды пытаю, як мог ён быць у той самы дзень у 2-х розных месцах далёкай адлегласці. Ён разгубіўся. Я аддаю назад дакументы і кажу:

- Другі раз прынясі адпаведныя дакументы, і я цябе прыму на працу ў кухню.

Але больш я яго не бачыў.

Ды не дараваў мне гэтага Барыс. Цікавячыся настаўніцкім складам Ракаўскае школы ён даведаўся, што там працуе ў якасці настаўніцы яўрэйка, якая, яшчэ з дзяцінства асірацеўшы, была перахрышчана ў каталічку, вывучылася на настаўніцу і мною была зацверджана ў якасці настаўніцы малодшых класаў у Ракаўскай школе.

Зноў заяўка на мяме, што перахоўваю яўрэяў. Будучы своечасова папярэджаны ракаўскімі беларусамі-паліцыянтамі, якія мяне вельмі паважалі, я звальняю гэтую настаўніцу задняю датаю, згодна з ейнаю просьбаю з прычыны пераходу на іншую нрацу, паведамляю дырэктару школы Багданкевічу, які таксама звальняе яе згодна з маім загадам задняю датаю ды, забяспечыўшы яе прадуктамі і вопраткай, дае магчымасць схавацца ў лесе.

Эсэсаўцы, праверыўшы дакладнасць загадаў і не знайшоўшы гэтае настаўніцы ў памяшканні Ракаўскага школьнага будынка, выехалі, не закрануўшы мяне.

Ратаваў яўрэяў і школьны інспектар Заслаўскага раёна, але не маючы ніякіх апраўдальных дакументаў, быў арыштаваны і нямецкімі эсдоўцамі павешаны.

Надышоў I942-43 навучальны год. Галоўны інспектар ксёндз Гадлеўскі накіроўвае мяне на пасаду акруговага школьнага інспектара ў Вялейку, ад чаго я адмаўляюся і атрымліваю ад яго вымову. Пасля гэтага ён накіроўвае мяне ў Ліду таксама на пасаду акруговага школьнага інспектара. Я зноў адмаўляюся і атрымліваю накіраванне ў Васілішкаўскі раён, гняздо польскіх партызан - тэрарыстаў па месца забітага імі раённага школнага інспектара. На гэтае накіраванне я згадзіўся.

У Ліду па пасаду акруговага школьнага інспектара быў накіраваны Нікандар Мядзейка, які доўга ў Лідзе не пабыў, а, ратуючы ад польскіх тэрарыстаў сваё жыццё, вярнуўся назад у Менск, а на ягонае месца быў прысланы палкоўнік Мікола Дзямідаў, шчыры беларускі патрыёт.

Едучы ў Васілішкі, я даведаўся, што мне, як беларускаму школьнаму інспектару ўжо быў вынесены польскімі тэрарыстамі смяротны прысуд, але вярнуцца назад я не захацеў.

Назаўтра ў школьны інспектарат прыйшла сакратарка, якую польскія тэрарысты не забілі таму, што яна перапісалася з беларускі на польку. Будучы шчырай беларускай, яна пад вялікім сакрэтам, рызыкуючы сваім жыццём, расказала пра небяспеку заставацца мне ў Васілішках.

Сабраныя мною на нараду былыя польскія настаўніцы адразу адчулі маю вышэйшую адукацыю ды, здзіўленыя маімі далікатнымі да іх паводзінамі, былі так захапіліся мною, што гэта, як я потым даведаўся, выратавала і маё жыццё, і маіх настаўнікаў.

Заставацца на колькі дзён у Васілішках, зразумеўшы вялікую для мяне небяспеку, я не захацеў і назаўтра раніцою выехаў у Менск. І Паведаміўшы ў Галоўным школьным інспектарацe пра небяспеку працы ў Васілішках, я сказаў, што варочаюся ў Васілішкі, але забраўшы з сабою некалькі адчайных беларускіх патрыётаў-настаўнікаў.



***Мікола Дзямідаў.***
*Здымак 1920-х гадоў.*

*Дзямідаў Мікола Якубаў (1888—1967), з роду Каліноўскіх, беларускі нацыянальны дзяяч, вайсковец. Адзін з камандзіраў 1-га Беларускага палка ў Гародні. 1 чэрвеня 1919 г. арыштоўваўся палякамі, інтэрнаваны ў лагер каля Беластоку. Увесну 1920 г. вызвалены, паступае ў распараджэнне Беларускай вайсковай школы падхарунжых у Варшаве. Улетку 1920 г. далучаецца да аддзелаў ген. Ст. Булак-Балаховіча, удзельнічае ў палескім паходзе. З 1921 г. у Вільні. Напачатку 1923 г. высланы палякамі ў Дзвінск (Латвія). У міжваенны час актыўны ўдзельнік беларускага руху ў Латвіі. Падчас вайны быў школьным інспектарам Лідскай акругі. Пасля Другой сусветнае вайны ў эміграцыі (Нямеччына, ЗША).*

Настаўнікаў я мог узяць толькі надзейных, ведамых мне, а таму я вырашыў ехаць у Ракаў.

Паколькі трэба будзе павесці не толькі настаўніцкую, але і шырокую культурную працу я мусіў мець і спевакоў, і дэкламатараў, а таму і выбраў Жэню Коўшыкаву, салістку, якая сваімі спевамі захоплівала аўдыторыю, дысканта Туранка і Ч. - добрага баяніста. Усе яны былі моцныя надсавецкія настаўнікі, якім прызначаліся галоўныя прадметы. На другарадныя прадметы ўзялі былых курсантаў, арганізаванай мною завочнай педвучэльні: братоў Рагойшаў, Хведара Мачуру і Ўладзіміра ... Я папярэдзіў усіх, едзем магчыма на смерць, каб працаваць на нацыянальнай беларускай глебе. На мой здзіў усе з энтузіязмам згадзіліся. Заўтра мусім выехаць дзвюма фурманкамі на Менскую чыгунку.

У гэты час Барыс (Бэрка), даведаўшыся, што я знаходжуся ў Ракаве, спяшаецца з даносам на мяне да акруговага камісара ў Вялейку, які высылае ў Ракаў начальніка жандармерыі і загад Ракаўскай паліцыі арыштаваць мяне. Беларускія паліцаі за маю актыўную нацыянальную працу вельмі паважалі мяне, і заступнік начальніка Ракаўскай паліцыі, як толькі атрымаў гэты загад, зараз жа, часова захаваўшы яго „пад сукно”, пабег паведаміць мне пра нейкую небяспеку, прапануючы, каб я сягоння выехаў назад у Радашковічы, бо заўтра адбудзецца аблава на мяне.

Я, маючы наступнай раніцы ледзь золак ехаць з настаўнікамі да менскай чыгункі, адмовіўся ад ягонай прапановы. Тады заст. нач. Ракаўскай паліцыі запрапанаваў мне, паколькі Ракаў будзе акружаны паліцаямі і жандарамі, каб я ішоў не дарогаю, а сцежкаю да кустоў правей дарогі. Там ён будзе правяраць усіх, хто ідзе, і мяне прапусціць. І гэтак і зрабіў, а потым мы ўсе злучыліся каля нашых фурманак і даехалі да Менска, адкуль цягніком да Ліды, а потым фурманкамі да Васілішак.

Прывезеных настаўнікаў прызлачыў у адчыненую школу ў Васілішках. У школу ў Бярозаўцы прызначыў мясцовага настаўніка беларуса Леւановіча. Адначасна ў Васілішках арганізаваў хор, драматычны гурток і скокі „Лявоніхі” і гурток дэкламацыі. Польскія тарарысты нас не чапалі таму, як я даведаўся ад аднаго ўрадоўца з раёну, які таксама належаў да тэрарыстаў, што мае былыя настаўніцы-полькі былі захопленыя маім абыходжаннем з імі настолькі, што сваім мужам, начальнікам тэрарыстаў, “горла перагрызлі б”, калі які-небудзь тэрарыст зачаліў бы каго з нас.

Прысланыя з Менска ў Васілішкі Саковіч і Маракоў доўга не пажылі. Польскія тэрарысты сачылі за кожным іхнім крокам. Аднойчы мы вырашылі наведаць лекарку Новік, якая жыла за некалькі кіламетраў ад Васілішак, і якую я ведаў яшчэ са Случчыны. Тэрарысты, ведаючы, куды мае ехаць Саковіч, уладзілі пры дарозе ў кустах засадку. Паколькі дарога рабіла вялікую дугу, Саковіч з Мараковым злезлі з воза і пайшлі напрасцякі полем, а фурман паехаў дарогаю. Засадка тэрарыстаў засталася на кіламетр збоку. Я прыехаў, трохі спазніўшыся. Пачастунак пачаўся. Сеў каля Саковіча.

- Нас сюды з Менска накіравалі на высылку, — прамовіў Саковіч. - Я прадчуваю блізкую смерць.

Сваю фурманку я таксама адпусціў, і мы пайшлі дадому пешкі. Нас чакалі аж дзве засадкі. Але, бачна, не надышоў яшчэ час смерці. Пачаў крапіць дождж ды ў хуткім часе перайшоў у лівень. Назад варочацца далекавата. Направа за паўкіламетра хутар. Пабеглі да яго, каб захавацца пад дах. У хату не пайшлі, сталі каля сцяны. Дождж пачаў за паўгадзіны сунімацца. Запыталі ў гаспадара, як бліжэй дабрацца да Васілішак.

— Назад ісці - гэта далёка, — кажа ён. — Ідзеце за прыгуменне і там сцежкаю дойдзеце да другой дарогі, якой хутка трапіце ў Васілішкі.

Яго мы паслухалі і нечакана абмінулі аж дзве засадкі. У Васілішках мая кватэра была бліжэйшая, і я пабег пераапрануцца ў сухое, каб потым пайсці да іх на шклянку гарбаты. Не паспеў я пераадзецца, як данесліся два стрэлы, а потым яшчэ два. Я выскачыў з хаты.

- Там... там, — крычыць з балкона свае кватэры Хведар Мазура, паказваючы рукою кірунак.

Бягу ў тым напрамку. Пасярод вуліцы ляжаць забітыя Саковіч і Маракоў. Так бясчасна загінулі ад рук польскіх тэрарыстаў два адважныя, шчырыя беларускія патрыёты.

У хуткім часе польскія тэрарысты забілі едучага дарогаю старшыню Жалудоцкай раённай управы сп. Тогця, а потым цэлым батальёнам пайшлі на бункер беларускіх паліцаяў, перабілі паліцаяў і нямецкіх жандараў, заскочылі ў раённы школьны інспектарат, застрэлілі інспектара і сакратара ды адышлі ў лес.

Я атрымліваю ад акруговага школьнага інспектара М. Дзямідава прапалову прыняць Жалудоцкі школьны інспектарат, што я і раблю. Пераязджаю ў Скрыбава, адкуль пачаў кіраваць двума інспектаратамі. Даведваюся, што тут дзейнічаюць польскія тэрарысты іншага партызанскага батальёна. Чакаю іхніх адведзінаў.

Добра ведаў іхні метад торору: едуць удвох на самакатах, заходзяць да інспектара ці іншага ўрадоўца, першы працягвае ліст, інспектар працягвае руку, каб узяць гэты ліст, тады задні тэрарыст страляе, інспектар падае, другі сгрэл у галаву — і тэрарысты ўмомант уцякаюць.

Мой іспектарат знаходзіўся на другім паверсе Скрыбаўскай школы, і ў вакно відаць былі ўсе дарогі, таму я бачыў, калі ехалі да мяне тэрарысты. Будучы



Юльян Саковіч

***САКОВІЧ** Юльян (24.8.1906, фальв. Баўдыры Ашмянскага пав. Віленскай губ. — 13.6. 1943), дзеяч нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі; у Вял. Айч. вайну супрацоўнічаў з ням. акупантамі. Скончыў Віленскую бел. гімназію, вучыўся ў Віленскім ун-це, з якога выключаны за рэв. дзейнасць. Быў чл. Бел. студэнцкага саюза, КПЗБ, Т-ва бел. школы (ТБШ). У 1929 разам з Г. Вялецкім выдаваў у Вільні час. «Вольная думка» — орган Бел. паступовага (перадавога) студэнцтва. У лют. 1933 на працэсе над кіраўніцтвам ТБШ прыгавораны да 3 гадоў турмы. Напярэдадні 2-й сусв. вайны арыштаваны і зняволены ў Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер. У вер. 1939 вызвалены, вярнуўся на Віленшчыну, дзе арыштаваны органамі НКУС. З чэрв. 1941 у Менску. У перыяд акупацыі Беларусі займаў пасады нач. адм. аддзела Беларускай народнай самапомачы (БНС), з чэрв. 1943 акр. старшыні БНСу Лідзе. Адзін з кіраўнікоў Беларускай незалежніцкай партыі. Забіты польскімі падпольшчыкамі ў в. Васілішкі (Шчучынскі р-н).*



**18 чэрвеня 2005 года ў Лідзе ўстаноўлены помнік на магіле заснавальнікаў падпольнай "Беларускай незалежніцкай партыі" Юліяна Саковіча і Леаніда Маракова. На помніку надпіс:*"Юліян Саковіч24. VIII.1906 - 13. VI.1943, Леанід Маракоў 1914 - 13. VI.1943. Загінулі за Бацькаўшчыну".***

падрыхтаваным, я ліст ніколі не браў, казаў пакласці на стол ды, трымаючы зброю напагатове, сачыў за кожным іхнім рухам. У пачакальні яны не заставаліся, уцякалі.

Неўзабаве забілі Шчучынскага раёнага школьнага інспектара Станкевіча і дзвюх маладых менскіх настаўніц, якія нават не паспелі і пераначаваць у Шчучыне. Польскія тэрарысты вывелі іх з Шчучына, згвалцілі раздзетых у канаве, выразалі грудзі ды застрэлілі.

Ад акруговага інспектара М. Дзямідава маю новую прапанону прыняць Шчучынскі раённы інспектарат.

Але перад гэтым мушу дадаць некалькі слоў пра беларусізацыю, праведзеную мною ў Васілішках. Пасля забойства Саковіча і Маракова на месца старшымі раённай управы ў Васілішкі быў прысланы з Вільні Лабецкі. Знаёмячы яго з урадоўцамі Управы, я запатрабаваў зараз жа замяніць польскія вывескі на беларускія ды ўсю перапіску праводзіць толькі па-беларуску. Паколькі з урадоўцаў Управы ніхто не ўмеў пісаць па-беларуску, мусілі прыняць на працу ў раённую ўправу некалькі беларусаў, а менавіта: С . Р. , М. Г. і аднаго з вёскі Бярозаўка (імя не памятаю), а для астатніх арганізаваў курс беларускай мовы, які вяла Коўшыкава пасля працы. Аднаму ўрадоўцу за адмову навучацца па-беларуску я запрапанаваў звольніцца з раённай управы. Кіраўніком Беларускай самапомачы прызначыў маладога актыўнага беларуса Жука, дадаўшы яму ў дапамогу ў якасці сакратаркі Валю Уліту, а яе сяброўку Лену ... узяў у школьны інспектарат у якасці сакратаркі.

Добра разумеючы, што найбольшай небяспекай для мяне з'яўляецца васілішкаўская паліцыя, а я ўжо дакладна ведаў, што і начальнік, і паліцаі былі заядлымі польскімі тэрарыстамі, мне трэба было мець і сярод іх „свае вочы і вушы"'. Начальнік паліцыі, атрымаўшы загад весці перапіску па-беларуску, зараз жа звярнуўся да мяне з пытаннем, што рабіць. Я параіў яму прыняць двух хлапцоў, якія ведаюць беларускую мову, на што ён згадзіўся. На другі дзень я падаслаў яму двух шчырых беларусаў, з якімі дамовіўся, каб на выпадак небяспекі для мяне ў гутарцы ўжыць спецыяльнае слова, нібы ў войску, „пароль".

Паміж ішным, у міжчасе, адзін з урадоўцаў. бухгалтар Грушэўскі паведаміў старшыні ўправы Лабецкаму, што ён не паляк, а беларус. Лабецкі зараз жа прызначыў яго сваім заступнікам. Але нядоўга давялося яму папрацаваць у якасці заступніка старшыні. Уначы польскія тэрарысты ўламаліся ў ягоную хату і на вачах жонкі і дочкі застрэлілі, а жанок, запісаных

полькамі, не зачапілі, толькі сувора наказалі „маўчаць”. Толькі пасля ад сваіх хлапцоў-паліцаяў я даведаўся, што ў забойстве прымаў удзел сам начальнік паліцыі. Беларусаў жа ў гэтую акцыю начальіік паліцыі не браў. Гэтае ж начы тыя самыя тэрарысты спрабавалі выламаць дзверы ў старшымі Лабецкага, але не ўдалося, і Лабецкі застаўся жывы. Другое начы начальнік паліцыі са сваімі галаварэзамі ўзяў наліцаяў-беларусаў, якім загадаў сказаць мне, каб я адчыніў дзверы. У гутарцы, каб я адчыніў дзверы, хлонцы ўжылі ўказаны „пароль”, і я дзвярэй не адчыніў. Дзверы былі моцныя дубовыя і выламаць іх было нельга, а ў вокны лезці небяспечна.

Назаўтра на просьбу старшыні раённай управы Лабецкага ў Васілішкі спачатку прыслалі звяз літоўскіх ваякаў, а потым роту ўкраінскіх ваякаў, якія, арыштаваўшы некалькі польскіх тэрарыстаў, польскі тэрарызм прыпынілі.

Аднойчы, калі я быў на базары, да мяне падышоў паліцай-беларус і ціха паведаміў, што жандар загадаў яму прывесці мяне ў жандармерыю. Не жадаючы, каб хто з палякаў ці іхніх замаскаваных тэрарыстаў бачыў мяне арыштаваным, паліцай параіў мне ісці ходнікам да жандармерыі, а ён, адстаўшы, будзе ісці дарогаю, а каля дзвярэй жандармерыі я мусіў пачакаць яго, каб зайсці разам. Такім выклікам я быў вельмі здзіўлены, тым больш, што з гэтым жандарам я быў у добрых адносінах. Жандар зачытаў мне прычыну майго затрымання. Аказалася, што па даносе Барыса я абвінавачваўся ў перахоўванні яўрэяў, і па загадзе Вялейскага акруговага камісара нямецкія жандары ўсюды шукалі мяне і, знайшоўшы ў Васілішках, мусілі выслаць да Вялейскай жандармерыі. Калі я расказаў жандару, што гэта не Барыс, а Бэрка, звязаны з савецкімі партызанамі, жандар уважліва ўсё запісаў ды, дадаўшы пра мяне найлепшую характарыстыку, ад сябе дапісаў пра патрэбу арышту не мяне, а Барыса (Бэркі), пры мне запячатаў і выслаў пакетам да Вялейскай жандармерыі, а мне сказаў, што я вольны, і больш да мяне жандармерыя чапляцца ня будзе.

У жніўні 1943 г. я быў выкліканы акруговым школьным інспектарам у Ліду, дзе атрымаў прапанову быць кіраўніком летніх акруговых настаўніцкіх курсаў. Калі я зайшоў у хату Дзямідава, дзе меўся пераначаваць, дык ён падвёў мяне да стаячага вешака, на якім вісеў растапыраны ягоны шынель, а над ім шапка. Паказаўшы прастрэлены казырок, дадаў, што на яго праз незавешанае акно з вуліцы быў зроблены замах. Я здзівіўся, бо з вуліцы, каб трапіць у ягоную шапку, трэба стаяць на хадулях, а таму я падышоў да шапкі ды праз кулявую дзірку ў акне праверыў траекторыю кулі і заўважыў, што той, хто страляў, мусіў быць за комінам двухпавярховага дома на другой вуліцы. Мы зараз жа накіраваліся да таго дома. Дом нежылы. Залезлі на дах. Каля коміна свежыя сляды і пустыя гільзы. Праз незавешанае акно Дзямідава растапыраны шынель і шапка надавалі выгляд стаячага чалавека. Дзямідаву кажу: „Снайпер добры, але твой лёс яшчэ не ўміраць...”

# *Напісана ў Скрыбаўцах*

***Да ўгодкаў Слуцкага паўстаньня (27 лістапада 1920 г.)***

***Алесь ЗМАГАР***

# ПАСЛУХАЙ, ШТО КАЖА КУРГАН

**Зь кнігі “Да згоды”**

**Выдавецтва Літаратурнай Сустані ”Баявая Ускалось”**

**Кліўлянд (ЗША), 1962**

Аднойчы улетку па Слуцкай зямлі
Ледзь бачнаю сьцежкай паволі мы йшлі;
Вакол нас сінеўся лес цёмны густы,
Аб нечым таемна шапталі кусты,
Курган уздымаўся, як сьведка забавы,
Як сьведка былой Беларускае славы.

На ім дуб-асілак ўвесь мохам парос;
Ён шмат наглядзеўся на мора ад сьлёз;
Зялёны мох вылез з глыбокіх маршчын,
Шырокі цень кідалі шапкі галін,
Дуб нас заклікаў, даючы адпачынак,
Пад свой густалісты зялёны абдымак.

Бадзёра падходзім пад цень, нібы ў дом;
Шапочуць аб нечым лісточкі кругом;
Мы селі (нас хутка агортвае сон)
І чуем, — здалёк набліжаецца звон.
Курган застагнаў, дуб над ім нахіліўся,
А зь лісьцяў зялёных сьпеў дзіўны паліўся.

Сьпеў дзіўны асілкаў Славян-Крывічоў,
Зь ім раптам злучыўся напеў Дрыгвічоў,
Азваўся ён рэхам сярод Севяран,
Радзімічаў, Вяцічаў, сьмелых Драўлян,
Высока ў блакітную далеч узьвіўся,
Магутнаю славай над Краем расплыўся.

Сьпявалі, як князь Рагвалод ваяваў,
З чужацкай апекі народ вызваляў,

Як княжна Рагнеда любіла народ,
Як князь Чарадзей сабіраўся ў паход,
Як воўкам вяртаўся сярод цёмнай ночы —
Гарэлі агністыя князевы вочы.

Як княжна Прадслава на перапіс кніг
Найлепшых гадоў не шкадуе сваіх,
Як Клімант Смаляціч, Смаленскі Аўрам,
Кірыла із Турава роднага нам,
Інкогніта "Словам аб Полку Ігора"
Культуру народу ўздымалі угору.

Сядзім, не варушымся; як скрозь туман,
Шмат войска выходзіць зь лясістых палян;
Вакол вецер стогне, галосіць, сквіліць —
То Міндаўг выходзіць свой Край бараніць,
(Адзін із славутых князёў Навагрaдку
Ўстаўляў Беларускага Права парадкі).

Мы слых навастрылі; звон гучна званіў;
І чуем: Вялікім палітыкам быў
Князь дзейны й разумны ваяк Гэдымін;
Пасьля Гэдыміна Альгэрд, яго сын,
Краіну сваю бараніўшы з Усходу,
Вялікую славу здабыў для народу.

На Захад і Поўнач харобры Кейстут
Дружыну вадзіў, бараніў родны кут.
Гучней у званы б'е Сафійскі званар;
Гудзе звон, як Вітаўт — Вялікі Ўладар
Народ бараніў ад Усходняй пакуты
Й далёка за межы быў знаны, славуты.

А князь Жыгімонт, што ліць звон загадаў,
Аб славе Радзімы званіў і сьпяваў;
Сапега Леў — спрытны ў палітыцы хват,
Ваяка ў вайне, ў мірны час — дыплямат;
Набаба Антон — атаман беларусаў —
Паўстаньне узьняў супроць панскіх прымусаў;

Францішк Скарына — беларускі друкар —
Ён вынес наш друк на шырокі абшар;
Зьвініць, што мы маем "Літоўскі Статут",
Ў ім "Права" на землю, на ўласны свой кут,
А Земскія Ўрады ўсе абавязкова
Павінны ўжываць беларускую мову;

Зьвініць, што Цяпінскі пісаў і жадаў,
Каб родны народ сваю мову ўжываў;
Князі Радзівілы, Сапегі й хто мог
Спрыялі друкарству ўва ўласных дварох;
Мамонічы-ж родам із-пад Магілёва
Друкарствам праславілі роднае слова;

Зізаніна "Лексіс" выходзіць у сьвет,
Граматыку выдаў Смятрыцкі Малет,
Сымона-ж Будного сам цар запрасіў,
Каб ён люд Маскоўскі культуры навучыў,
І радасным зьзяньнем ўзыходзіла сонца
У наш "Залаты Век" на роднай старонцы.

Гучней і гучней разьліваецца звон,
Пяе аб жыцьці беларускіх старон;
І песьня нясецца далёка ў прастор,
Ў блакітнае неба, да сонца, да зор,
Зьвініць пералівамі музыка жвава,
Разносіцца ў сьвет Беларуская слава;

Пяюць Ян Баршчэўскі, Рыпінскі, Чачот,
Што ў Краю жыве Беларускі народ;
Дунін-Марцінкевіч — пісьменьнік буйны
У творах адбіў быт свае стараны,
Францішк Багушэвіч — паэт Адраджэньня
І "Дудкай" і "Смыкам" натхняў пакаленьне;

Кастусь Каліноўскі, што сьмела паўстаў,
Жыцьцё за народную волю аддаў;
Зьвініць: Няслухоўскі "Вязанку" зьвязаў,
Ядвігін Ша зь Цёткай у "Ніве" сьпяваў,
Карусь Каганец напісаў "Шляхцюк Модны",
Паўловіч Альбэрт — гумарысты народны

— Усе праслаўлялі любімы свой Край,
І славай зьвінелі палеткі і гай;
Гарун — беларускі паэта-змагар
У скарбніцу нашу ўлажыў "Матчын Дар",
Канстанцыя Буйла "Курганнаю Кветкай"
Праславіла гай, сенажаці, палеткі;

Максім Багдановіч — мастацтва паэт —
Пэнтамэтр — пяць дактыляў, стройны санэт,
Тэрцыны, актавы, рандо, трыялет
Каваў, гартаваў і званіў у сусьвет;
А зь Нівы зьвініць, разьліваецца голас —
Купала, Гарэцкі, Бядуля, Ўласт, Колас,

Гурло, Галубок, Аляхновіч, Чарот,
Зязюля й шмат іншых ідуць у паход;
І Лёсік Язэп — Адраджэньня салдат,
Сьвядомы змагар, беларус дэмакрат,
Грамыка, Сваяк, Цішка Гартны ды Леўчык
Народ вызвалялі ад цемры адвечнай.

Грыміць навальніца, палае вайна,
Крывавіцца восень, зіма і вясна,
Ў крыві захлынаецца трэйці ўжо год,
Але Пярун лясnуў, і ўзьняўся народ,
Ідзе закладаць свой дзяржаўны падмурак,
Свой Край адраджаць скрозь завеі і буры.

Прышоў Васемнаццаты радасны год,
Сваю незалежнасьць сьвяткуе народ;
Іскрыць Дваццаць Пяты ў Краю Сакавік,
Стырно ухапіў наш араты мужык;
Успомніў народ сваіх прашчураў славу,
Будуе сваю Незалежну Дзяржаву.

Ідэя яе знайшла плённы свой грунт:
Варонка, Аўсянік, Крэчэўскі, Скірмунт,
Карач, Аляксюк, Бадунова, Козіч,

Ваяк гэнэрал Кандратовіч — крывіч,
Ластоўскі, Мамонька, Душэўскі, Цьвікевіч,
Уласаў, Лянкоўскі ды Смоліч, Луцкевіч,

Ладноў, Серада, Іваноўскі і Грыб,
Бялевіч, Захарка, Заяц, Езавіт,
Макрэяў, Вяршынін ды шмат змагароў
Даў Полацак, Віцебск, Смаленск, Магілёў,
Менск, Горадня, Вільня, Палесься нізіны,
Каб Край адрадзіць з-пад адвечных руінаў.

І ў Случчыне створаны свой Камітэт;
Сьмяецца і плача ад радасьці дзед.
Ды чорнаю хмарай прышоў бальшавік
І зьнішчыў нам волю, што даў Сакавік,
Жаўрыд з Камітэту заарыштаваны,
Ў чужую Краіну на зьдзекі сасланы.

Але Незалежнасьць зрабіла свой крок,
І ў Краю разьвеяўся жудасны змрок,
Нядоля, як дым, адыйшла ў забыцьцё,
Ізноў Беларусы кіруюць жыцьцём;
Зьезд Случчыны вызначыў Слуцкую Раду,
Каб Край бараніць ад чужынцаў нападу.

Пануе у Слуцку ізноў свой Урад;
Зьвіняць за ваколіцай песьні дзяўчат;
І ў кожным сяле з-пад саломяных стрэх
Званочкамі льлецца вясёлы іх сьмех;
Як толькі-ж Масква небясьпекай навісла,
Ўся Случчына дружна са зброяю вышла;

Ідуць батальлёны, праходзяць палкі,
Грудзьмі за Радзіму стаяць Случчакі,
Адважна і сьмела імчацца у бой,
За волю, за чын ахвяруюць сабой,
Вішчаць, разрываюць паветра шрапнэлі,
Шапочуць стрывожана сосны і елі.

Ізноў завіруха мяцеліць, сьняжыць,
Пакутнай няволяй над Краем імжыць,
Ды толькі Пагоні ня зьнішчаны Сьцяг,
Наш Бел-Чырвон-Белы ў надзейных руках —
Крэчэўскі з Захаркаю моцна трымаюць,
Ў палон не здаюцца, галоў ня схіляюць.

Расьце наш народ, і расьце яго дар:
Дубоўка, Зарэцкі, Дарожны, Дудар,
Хадыка, Бандарына, Вольны, Багун,
Грышкевіч, Вішнеўская, Танк, Салагуб,
Язэп Падабед, Маракоў, Шашалевіч,
Кляшторны, Лужанін, Бартуль, Ільляшэвіч,

Мікуліч, Цьвікевіч, Знаёмы, Скрыган,
Калюга, Радзевіч, Грыневіч, Пфляўбаўм,
Арсеньнева, Геніюш, Чорны, Машара,
Жылка, Салавей, Бабарэка і Хмара,
Баркоўскі, Талерка, Сакол, Нікановіч,
Казлоўскі Пятрусь, Іванова, Міровіч,



***Алесь Змагар. Здымак 1960-х гадоў.***

Пятро Глебка, Моркаўка, Трус, Галавач,
Язэп Пушча, Івэрс, Ванаг, Крапіва,
Крушына, Случчанін, Вольны, Хведаровіч,
Зосім, Лебяда, Звонак, Аляксандровіч,
Клішэвіч, Кавыль, Золак, Віцьбіч, Сяднёў —
Сыны сенажацяў, вазёр і гаёў.

А годы мінаюць, мінаюць угрунь,
Ў Краю каласуе паўстаньчая рунь,
Вайною зь няволі ірвецца народ,
Ідзе на Вялікі Народны свой Сход,
Падтрымвае дружна загад Прэзыдэнта,
Каб лютага ворага зьнішчыць дашчэнту.

Над поплавам белы расплыўся туман,
Стагнаў старажытны асілак курган,
Наўкол залаціліся жытні палі,
Валошкі у жыце сінелі, цьвілі,
Зязюля ў гаю, “колькі жыць”, кукавала,
Глыбока у сэрцы туга замірала,

Трымцелі над намі галінак лісты,
Іх шэпт таямніча ў паветры застыў,
Ў вушах звон цудоўны аб славе гудзеў,
Зьвінеў пераможны ваяцкі напеў;
Ён зваў да змаганьня адважных і сьмелых
За Волю, за Край пад сьцяг Бел-Чырвон-Белы.

**Скрыбава. Красавік - ліпень, 1944 год.**

***Гэты верш напісаны А. Змагаром падчас працы Жалудокскім школьным інспектарам.***

***Унесены нязначныя рэдакцыйныя праўкі.***

***Правапіс захаваны.***

***Валеры Сліўкін***

# ЛІДСКАЕ ПІВА

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

18 студзеня 1991 г. Лідскі піўзавод перайшоў у падначаленне Гарадзенскага абласнога добраахвотнага дзяржаўна-кааператыўнага аб'яднання садавіна-гароднiннай гаспадаркі "Гроднагароднінахарчпрам". Адмысловых змяненняў на заводзе гэтая падзея не выклікала. Працягвалася тэхнічнае пераўзбраенне прадпрыемства. Да гэтага часу былі зманціраваныя дзевяць цыліндрычна-канічных танкаў (ЦКТ), у якіх сумешчаныя працэсы браджэння і даброджвання, і тэхналагічны цыкл скарочаны амаль у 2 разы. У цэху безалкагольных напояў былі ўстаноўлены дзве новыя лініі разліву прадукцыйнасцю 12 тысяч бутэлек у гадзіну. Мантаж ЦКТ і новых ліній разліву падвысіў магутнасць завода на мільён дэкалітраў піва ў год. Былі атрыманыя паветраны кампрэсар, халадзільная ўстаноўка ў кампрэсарную, зварачны трансфарматар, настольны свідравальны станок і адразны станок - у мехмайстэрню. Для надання напоям мякчэйшага смаку, падвышэння калоіднай устойлівасці і паніжэння выдатку цытрынавай кіслаты пачалі скарыстоўваць водападрыхтоўку.

Нечакана для ўсіх распаўся Савецкі Саюз. БССР ператварылася ў незалежную дзяржаву. Разам з незалежнасцю адчыніліся межы, і прышлі, тады яшчэ нікому незразумелыя, рынкавыя адносіны.





***Разлівачныя машыны***





***ЦКТ***



***Кампрэсарная***

# Піўзавод пераўтвараецца ў прыватнае прадпрыемства,

27 чэрвеня 1992 г. Лідскі піўзавод склаў з "Гроднагароднінахарчпрамам" дамову на арэнду. Арэнднаму прадпрыемству былі перададзеныя тэрмінам на 5 гадоў асноўныя фонды завода з правам наступнага выкупу.

Не прыцягваючы пабочных укладанняў, за лік уласнага прыбытку, прадпрыемства выкупляла асноўныя фонды і працягвала нарошчваць магутнасці. За два гады арэнды было набыта асноўных фондаў на 923 млн. рублёў і павялічана магутнасць завода да 800 мільёнаў бутэлек у год.

Умовы эканамічнага развіцця патрабавалі далейшага змянення формы ўласнасці. 7 снежня 1994 г. адбыўся ўстаноўчы збор арандатараў, на якім было прынята рашэнне аб пераўтварэнні арэнднага прадпрыемства ў акцыянернае таварыства закрытага тыпу АТЗТ "Лідскі піўзавод". Да жніўня 1995 г. была выкупленая палова завода. Акцыянеры вырашылі завяршыць прыватызацыю, як мага хутчэй, вартасць асноўных фондаў ва ўмовах інфляцыі бесперапынна ўзрастала і пераваліла за 2 млрд. Кожны з працоўных завода павінен быў унесці 520 чэкаў "Маёмасць".

**Кудзіна Я.Ф.:** *"У 1995 г. сталі ЗАТ. Рабочыя ў асноўным, грошы не ўкладвалі, ІТР укладвалі, рабочыя мала ўнікалі, а потым, калі пачалі атрымліваць дывідэнды, шкадавалі. Я занесла 300 даляраў і 760 чэкаў. Адразу таварыства было закрытае. Дырэктар настойваў на адкрытым. У акцыянаванне я не ўмешвалася. Нас сабралі, растлумачылі, усе разважалі, боязна было адразу адважыцца. Да таго часу не мы першыя акцыянаваліся. Прыязджалі з Менска, нам тлумачылі: "Ваш завод можа сам па сабе забяспечыць усіх працай. І ў маім цэху працоўныя былі супраць. Сумняваліся. Дырэктар пераконваў. Вылучылі кіраванне, напісалі статут".*

7 сакавіка 1995 года калектыў атрымаў правы ўласніка, завод стаў называцца ***Акцыянернае таварыства закрытага тыпу "Лідскі ордэна Знак Пашаны піваварны завод"***. Працаўнікі завода сталі суўладальнікамі прадпрыемства. Былі вызначаныя правы і абавязкі, парадак узаемадзеяння ўласнікаў, прынцыпы фармавання паявога фонду і яго выкарыстання. Кіраванне прадпрыемствам перайшло да выбарнага органа - кіравання. Памер укладу кожнага працаўніка быў вызначаны прапарцыйна яго працоўнаму ўдзелу ў павелічэнні маёмасці. На рахунак кожнага акцыянера быў налічаны пачатковы ўнёсак: чэкі "Маёмасць", уласныя грошы і налічаная сума прыбытку на выкуп. Дывіденты пачалі выплачвацца штоквартальна па адзіным для ўсіх адсотку. Была зменена сістэма аплаты працы. Налічэнні праводзіліся па выніках працы за змену. Пры выкананай месячнай норме выпрацоўкі выплачвалася прэмія.

У пачатку 1998 г. здарыўся сур'ёзны канфлікт - двое звольніўшыхся з завода прынеслі свае акцыі ў кіраванне і сказалі: "Выкупляйце", а выкупляць па статуце было абавязкова і па балансавым кошце. Гэтыя двое атрымалі адразу дзесяткі мільёнаў рублёў. Кіраванне АТ было ў той жа дзень завалена заявамі з патрабаваннем заплаціць за акцыі гатоўкай. Пачаліся ўзаемныя прэтэнзіі, падазрэнні, судовыя цяжбы. Выявіліся памылкі ў пачатковым размеркаванні акцый: аказаліся пакрыўджанымі ветэраны і маці. Замаячыў фінансавы крах. Прыйшлося запрашаць кампетэнтных юрыстаў, эканамістаў. У чэрвені былі прынятыя папраўкі да Статута і падоўжаны на 5 гадоў кантракт з дырэктарам У.Я. Юфой. Паведамленне аб падаўжэнні кантракту было сустрэта кветкамі і апладысментамі.

*"Уладзімір Якаўлевіч на сваіх плячах вынес нашу прыватызацыю і наш дабрабыт. Наш завод моцна стаіць на нагах, таму што моцна працуе наша "галава". Пры Юфе наш завод не пастарэў, а стаў яшчэ маладзей!".* На хвалу і віншаванні Ўладзімір Якаўлевіч адказаў коратка: *"Лёгкага жыцця нікому не абяцаю. Будзем працаваць і зарабляць, вучыцца самі і вучыць іншых. Каб было выгадна і людзям і дзяржаве"*



***У.Я. Юфа***

У 1999 г. АТЗТ "Лідскі піўзавод" было перазнавана ў Закрытае акцыянернае таварыства "Лідскае піва", а ў жніўні 2000 г. пераўтворана ў Адкрытае акцыянернае таварыства "Лідскае піва".

# ... адладжвае дылерскую сетку,

Была адладжаная дылерская сетка на тэрыторыі Беларусі і ў Расіі. У Маскве - ТАА "ДТД", у Менску - АААПТ "Лідскае піва", у Лідзе - ВКФ "Сакавік". У Менску пазней было зарэгістравана прадстаўніцтва, арандаваны склад, знята памяшканне пад офіс, набыта неабходная аргтэхніка, наняты штат з 17 чалавек. Да 2003 г. былі ўладкованыя рэгіянальныя склады ў Менску, Гародні, Віцебску, Берасці, Магілёве, Мазыры. У 2004 створаныя рэгіянальныя прадстаўніцтвы ў Гомелі і Магілёве.

У 2006 годзе функцыянавалі рэгіянальныя аддзелы продажаў у Менску, Гародні, Віцебску, Берасці, Баранавічах, Гомелі.

Сёння ў Менску працуюць 35 менеджараў. Магчыма, а хутчэй усяго менавіта таму, нягледзячы на цяжкасці, фінансавыя абвалы і інфляцыю, прадукцыя Лідскага піўзавода мае і попыт, і збыт, а прадпрыемства - прыбытак і магчымасць развівацца.

**Панчанка Ю.Н.:** *"Рэгіянальныя склады пачалі ствараць у 1999 г. Зараз у нас шэсць рэгіянальных аддзелаў продажаў. У Менску, Гародні, Віцебску, Бярэсці, Гомелі, Лідзе і будзе хутка ў Магілёве. У маім падначаленні працуе каля 110 чалавек. Напрыклад, рэгіянальны аддзел продажаў у Віцебску. Там працуюць 3 эканамісты, 2 гандлёвыя агенты, 2 каморнікі (кладаўшчыкі), бухгалтар, 5 грузчыкаў, 3 аўтамашыны. Усе яны ў штаце, усе на здзельна-прэміяльнай аплаце. Яны не робяць фінансавых разлікаў. Яны са свайго склада адгружаюць прадукцыю і прымаюць новыя партыі на склад. Сувязь мадэмная, маюць усю неабходную інфармацыю. Даводзяцца планы па рэалізацыі і маркетынгу. Рэгіянальныя дырэктары штомесяц робяць справаздачы і ў выпадку невыканання плану пішуць тлумачэнні. Калі тлумачэнні становяцца сістэматычнымі, кантракт з рэгіянальным дырэктарам касуецца. За сваіх людзей мы змагаемся. Лічым, што лепш узяць выканаўчага чалавека і навучыць яго добра працаваць. Людзі падбіраліся па аб'явах з выпрабавальным тэрмінам у 3 месяца. Пасля трох месяцаў, калі чалавек не падыходзіў нам па тых або іншых якасцях, мы перапрошвалі і гаварылі: "Вы нам не падыходзіце".*

## …разлівае віно, гарэлку, нарзан і гарбату,

У 1993 г. рэнтабельнасць ледзь перавышала самаакупнасць. Толькі адзін менскі Ўніверсам Фрунзенскага раёна браў лідскае піва, Расія набывала лідскае піва невялікімі партыямі, аддаючы перавагу "Нашай марцы". Падзенне попыту на піва і б/алкагольныя напоі прымусіла асвойваць новыя віды прадукцыі. Быў наладжаны выпуск віна трох відаў - "Загадка", "Агеньчык", "Восеньскі".

Неўзабаве была атрымана ліцэнзія на вытворчасць гарэлкі. У красавіку 1994 г. пачаўся разліў гарэлкі "Руская", "Белыя Росы" і вытворчасць гарэлкі "Таямнічая". Для іх разліву была пераабсталяваная лінія ў цэху безалкагольных напояў. Гарэлку пастаўляў Парэчанскі спіртзавод, на піўзаводзе яе фільтравалі, налівалі ў бутэлькі і закаркоўвалі. Першыя партыі парэчанскай гарэлкі былі "з грашком", утрыманне сівушных алеяў часамі было вышэй за норму. Настойку "Таямнічую" рыхтавалі на заводзе з спірту, экстракту жэньшэню, выцяжкі ядлоўцу і палыну. У 1998 г. разліў моцых садавінных напояў дасягнуў 21 780 тыс. гл.

У жніўні 1996 г. на заводзе наладзілі разліў





***Цэх разліву***

лячэбных мінеральных водаў - нарзану і баржомі. Лячэбныя воды пастаўляліся з прыродных крыніц у чыгуначных цыстэрнах.

У 2003 г. упершыню ў Беларусі піўзавод адправіў у крамы пілотную партыю напою "Ice tea" - гарбата з дадаткамі мёду, цытрыны, мяты.

## ...выкупляе ва ўласнасць крамы і кавярні,

Улетку 1992 г. пры заводзе быў адчынены невялікі фірмовы піўны бар у нацыянальным стылі. У красавіку 1994 г. адчыніў дзверы фірмовы піўны бар "Лідскае піва" першай катэгорыі на 20 сядзячых месцаў.

У будынку, дзе раней размяшчалася лінія разлівачнага цэха, усё ад піўнога краніка да стойкі бармэна і вешалак у гардэробе было зроблена рабочымі завода. Піўбар быў задуманы як прыстойная піўная ўстанова -уваход каштаваў 10 тысяч рублёў. Абслугоўвалі маладыя афіцыянты ў белых кашулях і чорных портках. Чысціня посуду гарантавалася механічнай мыйкай.

У чэрвені 1994 г. на аўкцыёне былі выкуплены ва ўласнасць крама "Кулінарыя" у пас. Індустрыяльны за 217 млн. рублёў і кавярня "Вербачка" на вул. Міцкевіча. Крамы прывялі ў парадак, рэканструявалі і ў студзені 1995 г. адчынілі. У адным аддзеле прадаецца прадукцыя завода, у двух іншых - харчовыя тавары і

віна-гарэлачныя вырабы, маецца невялікая кавярнячка.

Увосень 1994 г. у розных месцах горада - на Набярэжнай, на Труханава былі адчыненыя фірмовыя крамы, дзе піва прадавалася без гандлёвай нацэнкі.

Неўзабаве ў былой кавярні на Міцкевіча пачаў функцыянаваць рэстаран "Стары замак".

У 2006 годзе заводу належалі тры фірмовыя крамы, піўны бар і свой рэстаран.

## ...прыцягвае аўстрыйскія інвестыцыі,

Адной з галоўных праблем лідскага піва доўгія гады быў кароткі тэрмін яго захоўвання. Традыцыйныя гатункі, якія выпускаў піўзавод, захоўваліся ў звычайных умовах не больш за 15 дзён. У 1994 г. немцы прапанoўвалі заводу тэхналогіі з фільтраваннем, пасля якога піва захоўваецца 30 сутак. Увосень 1996 г. для перамоваў аб сумеснай дзейнасці прыбыла дэлегацыя з Аўстрыі. 4 верасня было складзена дамова паміж аўстрыйскай фірмай "Эгенберг Інтэрнацыянал" і акцыянерным прадпрыемствам. Фірма, якая валодае сеткай заводаў па ўсёй Еўропе, давала неабходныя інвестыцыі для тэхнічнага пераўзбраення вытворчасці піва. У сваю чаргу, завод узяў на сябе абавязальніцтвы па будаўніцтву новага цэха і мантажу тэхналагічнай лініі разліву піва "Нагема". Па падліках адмыслоўцаў укладзеныя сродкі павінны былі акупіцца за паўтара года.

Аўстрыйская піваварная фірма паставіла тэхналагічнае абсталяванне на суму ў 1.280.000 даляраў. Мантаж правялі польскія інжынеры. Адмыслоўцы для працы на новым абсталяванні прайшлі навучанне за мяжой. Гэты кантракт дазволіў заводу пабудаваць новы цэх і выпускаць піва з працяглым тэрмінам захоўвання.

**Скрыпко Д.Б.:** *"Завод аўстрыйскі прыватны, па аб'ёмах такі ж, як у нас - на 2 млн дал. Гаспадар - доктар Штор. Калі я прыехала ў Аўстрыю, то ўбачыла дакладны распарадак працы. Абед хвіліна ў хвіліну. У нас планы такія, што за месяц не выканаеш. У іх разумны падыход, акуратнасць, тэхналагічны рэжым. Два тыдні вучылася, больш па лабараторыі, глядзела ўсе аналізы. У іх менш кантролю і аналізаў. Яны больш увагі надаюць санітарыі. Адмысловая ўвага сцёкавым водам - сірэна на выхадзе. Уваходнага кантролю значна менш, солад, хмель - усё паводле дакументаў вытворцы. Абумоўленыя ўмовы пастаўкі і якасць тавару, яны ўпэўненыя - пастаўшчыкі не падвядуць. Не дай бог, калі адмаўляюцца ад вытворцы.*

*Мы многаму навучыліся. Нашых рабочых навучалі працы: як фільтраваць на фільтр-прэсах, як працаваць па санітарыі, па мыйных, па дрожджах. Іхняя раса дражджэй дагэтуль выкарыстана. На якую б расу не пераходзілі лепшая для нас -нямецкая № 34.*

*Аўстрыйцы зрабілі ўкладанні ў наш завод на суму 500 тысяч даляраў. Пісьменныя тэхнолагі, пісьменна падышлі, істотна палепшылі якасць. Ні ў*



***Скрыпко Д.Б.***

*Расіі, ні ў Беларусі такога піва тады не рабілі. "Хепрын Кеніх". Піва на парадак вышэй стала".*

**Тыртых Г.І.:** *"У аўстрыйцах мы ўбачылі прыстойных людзей. Мы там месяц былі, адна група, потым другая. І мы зразумелі, што калі зрабіць так, як у іх, патрэбныя грошы. Яны - адны з лепшых у Еўропе, яны пераўзброіліся. Блізкія нам па духу.*

*У Аўстрыі мы ўбачылі шмат важнага. Па - першае, стаўленне пастаўшчыкоў соладу, яго якасць. Заходні пастаўшчык пастаўляе якасны солад. Тэхнолаг - галоўны чалавек у заходнім піваварстве, што сказаў тэхнолаг - закон для адміністрацыі. Важны канчатковы вынік. Для нас гэта было дзіўна. Невялікая колькасць тых, якія працуюць. Добрае тэхнічнае абсталяванне, выдатныя лабараторыі. Сталы, паўсюдны кантроль. Усё камп'ютарызавана.*

*Дамову склалі. Аўстрыйцы многае зрабілі: камунікацыі новыя з нержавейкі, аўтаматычная сістэма мыцця, уладкавалі танкі, завастрылі нашу ўвагу на рэжымах браджэння. У вытворчасці піва важныя дробязі. Раней на сценках трубаправодаў нарастаў піўны камень. Уплывае нават якасць зваркі: труба павінна быць люстраной, мікроб учапіўся за нешта, размножыўся, на суславым асяроддзі, ён маментальна размнажваецца. Раней мы мылі трубаправоды звычайным запаўненнем. Запоўнілі - злілі. А зараз пад ціскам з цыркуляцыяй. Потым мы зрабілі станцыю чыстай культуры дражджэй. Самі пачалі выгадоўваць чыстую культуру дражджэй. Дрожджы мяняюць смак піва. У нас не было ўмоў.*

*"Кароль хмелю" добра пайшоў, таму што новы цэх і новыя тэхналогіі. Гэта быў рывок наперад".*

Тым не менш, першыя кантакты з заходнім светам аказаліся зусім не простымі.

**Скрыпко Д.Б.:** *"Мы з імі склалі кабальную дамову, юрысты, эканамісты глядзелі. Сэнс дамовы складаўся ў тым, што за 500 тыс даляраў мы на працягу 10 гадоў павінны выплачваць ім па 500 тысяч. Яны давалі сваю марку. Яны далі ліцэнзійнае піва. Але не пашанцавала, тады ў Расіі здарыўся абвал. Яны пачалі нахабнічаць, пачалі гаспадарыць і камандаваць на заводзе. На заводзе ўтварылася кааліцыя на чале з Томасам супраць дырэктара. Томас думаў, што*

*дырэктар наш прасцей, і яму ўдасца прадаць завод і атрымаць яшчэ прыбытак. Томас нават прывозіў на завод пакупніка з крымінальнай знешнасцю. Дырэктар усё гэта ўбачыў, набраўся сілаў, і мы не зрабілі выплаты. Мы не заплацілі ні капейкі. Юфа ездзіў у Аўстрыю на судовы працэс. Яны нам паставілі ёмістасці БУ-шныя і прайгралі працэс.*

*Томас аказаўся не зусім прыстойным чалавекам. Аўстрыйцы паступалі брыдка, вялі закулісныя перамовы, планы мелі на продаж".*

**Пер'ева Е.З.:** *"Аўстрыякі маладыя, гадоў да 40, хітрыя, хацелі нас абдурыць. Мы ім гроша вінны былі. Маглі нас усіх скараціць. Суд вырашаў аўстрыйскі. Завод суд выйграў".*



***Аўтамат этыкеціравання***

# … удасканальвае этыкетку, пераходзіць на кегі і пластмасавыя бутэлькі,

Рынак хутка і бесперапынна мяняўся. Дашлі заходнія тавары, у прыгожых упакоўках, з бліскучымі этыкеткамі. Трэба было паляпшаць не толькі якасць піва, але і знешні выгляд бутэлькі і этыкеткі, першым чынам этыкеткі, якая павінна была стаць візітнай карткай лідскага піва.

Выдатную ролю сыграла менская фірма ТАА "Фоліё-Арт" і яе мастак Валянцін Іванавіч Латушкін, якія здолелі стварыць выбітныя выгляды этыкетак лідскага піва. Лепшым прызнаннем якасці працы дызайнераў лідскага піва стаў той факт, што ў краіне з'явіліся дзесяткі калекцыянераў лідскіх піўных этыкетак, лепшыя з іх у сваіх калекцыях налічаюць да 500 разнавіднасцяў.

Тым не менш, праблема этыкеткі не знікла. Пры мыцці шкляной бутэлькі мыйнымі сродкамі, каўстычная сода раз'ядала этыкеткі да валокнаў, якія затрымоўваліся на сценках вымытай бутэлькі і потым траплялі ў гатовую прадукцыю. Забіваліся мыйныя машыны, іх трэба мыць, хлараваць. Гэтую праблему ўдалося ўхіліць дзякуючы новым дэзінфіцыявальным рэчывам і выкарыстанню казеінавага клею.

У 1997 г. спатрэбілася новая піўная бутэлька для "Караля хмелю", прыйшлося купляць яе па кошце 2300 пры закладной вартасці 1500 р. Да 1999 г сітуацыя з бутэлькай рэзка абвастрылася. Разліў піва павінен рабіцца ў бутэльку цёмнага колеру - карычневую або цёмна-зялёную. Бутэлька паступова расла ў кошце і ў 1999 г. дасягнула 11 тыс. руб., пры закладным кошце ў 6 тыс. руб. Набыццё новай шкляной тары вяло да павелічэння сабекошту піва. Зваротная тара ад гандлю паступала ў асноўным светлых таноў. Бутэлькі цёмных таноў вывозіліся ў Расію, дзе на цёмную бутэльку быў ўстаноўлены больш высокі кошт. На 1999 г. патрэбнасць прадпрыемства ў новай бутэльцы складала 21 млн. штук. Цёмную бутэльку выпускаў Гарадзенскі шклозавод, магутнасць яго 15 млн. штук у год.

1 жніўня 1998 г. была запушчаная лінія па разліве піва ў кегі (бочачкі з нержавейнай сталі ёмістасцю 50 літраў). Тэхналогія разліву ў кегі дазволіла істотна зэканоміць на тары і скараціць выдаткі пры разліве з паляпшэннем якасці. Піва ў кегах карыстаецца вялікім попытам у рэстаранах, кавярнях і барах. А праблему шкляной бутэлькі вырашыла пластмасавая бутэлька. Выпуск піва ў пластмасавых 1,5 літровых бутэльках прадпрыемства асвоіла ў 2002 г. Увосень наступнага года была зманціраваная новая лінія па вырабе пластыкавых бутэлек ёмістасцю 0,7 л. Увесну 2006 г. асвоены разліў піва ў бутэлькі ёмістасцю 0,5 л.

# … бесперапынна рэканструюецца,

Завод на працягу ўсіх гэтых гадоў бесперапынна рэканструяваўся. У ліпені 1992 г. быў уведзены ў дзеянне цэх безалкагольных напояў з дзвюма лініямі разліву на 12 тысяч бутэлек у гадзіну. У 1994 г. устаноўлены: сігналізатар уцечкі аміяку, зварачны трансфарматар ТС - 200, апарат аргоннай зваркі, устаноўка сціснутага паветра. Для бухгалтэрыі набыты дзевяць кампутараў і чатыры персанальныя кампутары, факс.

У 1995 г. была закуплена і ў 1997 г запушчана нямецкая лінія "Нагема", прадукцыйнасцю 24 тыс. бутэлек у гадзіну, у 2 разы больш, чым папярэдняя. На гэтай лініі ў змену працуюць 9 чалавек, на папярэдняй працавалі 18 чалавек.

**Багровец У.П.:** *"Лінія ўсходнегерманская "Нагема" стаяла з 1994 г. Аўстрыякі працу зрабілі за сем месяцаў, з лістапада 96 па чэрвень 97. Устанавілі абсталяванне, транспарцёр, разлівачную. Палякі (дырэктар фірмы Злахоўскі) зрабілі мантаж і*

*абвязку ЦКТ пад кіраўніцтвам аўстрыйцаў. 1 чэрвеня 1997 г. запусцілі лінію. Мы радаваліся, задаволеныя былі".*

У траўні 1997 г. асвоена пастэрызацыя піва, якая дазваляе захоўваць яго 6 месяцаў. У 1998 г. палова піва (167 тыс. гл.) выраблялася па новай тэхналогіі.

**Знімяроўская Б.Д.:** *"Мы першымі ў Беларусі пачалі разліў пастэрызаванага піва. Піва награваецца ў закаркаваных бутэльках да 68 градусаў паступова, пасекцыйна, а затым марудна астуджаецца. Бою спачатку было нямерана, патрэбна была тэрмаўстойлівая да награвання бутэлька. Гэта зараз добра, усе заводы выпускаюць у шкле толькі пастэрызаванае піва. У пастэрызаванага піва вельмі высокая рэнтабельнасць. Першыя партыі пастэрызаванага піва ішлі ў Расію на "ўра".*

У 1998 г. у мэтах аператыўнага кіравання вытворчым працэсам, выпрацоўкі новых тэхналагічных рашэнняў, удасканалення вытворчасці была створана тэхнічная рада ў колькасці 22 чалавек пад старшынствам галоўнага інжынера. У той жа год пачаў працаваць цэх па разліву піва ў кегі, у 2002 запушчаная першая лінія па разліву ў пластмасавыя бутэлькі.

У верасні 2000 г. адчынены саладовенны ўчастак. Гэта было звязана з вытворчай неабходнасцю, а таксама з павелічэннем кошту соладу, які атрымоўваўся са спецыялізаванага прадпрыемства "Белсолад" у горадзе Іванава.

Увосень 2003 г. на прадпрыемстве пачалася маштабная рэканструкцыя. Без прыпынку вытворчасці ўзвялі новы варачны цэх з поўнасцю кампутарызаванай варачнай і новае брадзільнае аддзяленне, якое складаецца з 8 велізарных серабрыстых ЦКТ ёмістасцю 18 тыс. дэкалітраў кожны. У мадэрнізацыю варачнага і брадзільнага цэхаў было інвеставана 12 млн. даляраў. Абсталяванне і тэхналогію завод закупіў у Чэхіі. Да мантажу былі прыцягнутыя чэшскія тэхнолагі і будаўнікі. Мадэрнізацыю вяла чэшская фірма "Preiss s.r.o.". У кастрычніку 2004 г. рэканструкцыя была скончана. Магутнасці завода павялічыліся з 3,5 да 5,5 млн. дал. піва ў год. На рэканструкцыю пайшло 25 млрд. руб., 15 уласных і 10 пазыковых пад працэнты на пяць гадоў.

У жніўні 2003 г. на тэрыторыі завода прасвідравана свідравіна глыбінёй 280 м, якая з кастрычніка 2004 г. праз сістэму спецфільтраў стала даваць чыстую выдатную ваду. Варэнне піва пачало праводзіцца ў 4-посудным шасцітонным агрэгаце з нержавейнай сталі. Цыкл замкнёны, кіруецца адным чалавекам з дапамогай кампутара, які сам задае рэцэптуру. Новае абсталяванне і выдатная нязменная па солевым складзе вада дазволілі выйсці на стабільную якасць піва.

У 2004 г. усе віды піва прайшлі сертыфікацыю прадукцыі на адпаведнасць міжнародным стандартам якасці. Лідскі піўзавод першым з піўзаводаў Беларусі атрымаў сертыфікат адпаведнасці патрабаванням сістэмы якасці міжнароднага стандарту ICA 9001:2000.



***Багровец У.П. з каляжанкамі***



***Кампутарная***



*Тэрматунэль*

## ...павялічвае асартымент,

У 1994 г. былі распрацаваны і выпушчаны новыя віды прадукцыі: у студзені віно "Гранат", у траўні -піва "Лідскае юбілейнае", у чэрвені - піва "Чорны прынц", у жніўні -"Лідскае нетрадыцыйнае" з дабаўкай женьшэневай настойкі. А таксама напоі - "Экзотык", "Памяранцавы", "Трускалкавы". Асновай напою "Экзотык", які мае 2-х месячны тэрмін рэалізацыі, сталі памяранец, ківі, агрэст.

У чэрвені 1996 г. на прылаўках з'явілася піва "Чорны прынц" і "Юбілейнае".

У траўні 1997 г. на заводзе пачалі вырабляць піва "Кароль хмелю", якое адпавядала сусветным стандартам па якасці і тэрмінах захоўвання. Гэты гатунак разліваўся ў еўрабутэльку, упрыгожаную трымя этыкеткамі, і рыхтаваўся на нямецкім хмелі і французскім соладзе. У той год на заводзе варылі 9 фірмовых марак піва: "Лідскае", "Лідскае юбілейнае", "Стары замак", "Прынёманскае", "Чорны прынц", "Лідскае нетрадыцыйнае", "Лідскае класічнае", "Наша марка" і "Кароль хмелю".

У 1998 г. аматары піва дэгуставалі новую марку піва "Прыярытэтнае", якое варылася з дадаткам гібрыду пшаніцы і жыта (трыцікале). Разліваліся моцыя напоі "Гранат Гюльнар", "Золата скіфаў", "Фрыстайл", "Праметэй". Шэсць гатункаў піва ў 1998-99 гг. выпускаліся з алімпійскай сімволікай.

У 1999 г. на заводзе варылі 19 гатункаў піва: "Наша марка", "Чорны прынц", "Стары замак", "Спартак-чэмпіён", "Прынёманскае", "Прыярытэтнае", "Кароль хмелю", "Лідскае", "Лідскае хмельнае", "Лідскае бурштынавае", "Лідскае аксамітнае", "Лідскае юбілейнае", "Лідскае аматарскае", "Лідскае класічнае", "Лідскае нетрадыцыйнае", "Лідскае асвяжальнае", "Лідскае алімпійскае" і дзве навінкі: "Баварскае" і "Зеніт-чэмпіён", апошняе па замове з Санкт-Пецярбурга. Выраблялі і разлівалі больш дзесятка безалкагольных і моцных садавінавых напояў.

У канцы 2000 года завод выпускаў 23 гатункі піва, былі асвоеныя навінкі "Міхась" і "Портар лідскі". Піва выпускалі рознае: светлае і цёмнае, адрознае па шчыльнасці, моцы і каларыйнасці, з іх 16 гатункаў у кегах з тэрмінам рэалізацыі 30 сутак. Акрамя таго, рыхтавалі і разлівалі 5 відаў безалкагольных напояў і 5 відаў вінных напояў.

Пачатак 2001 года - года Змяі півавары адзначылі выпускам цёмнага піва "Залаты змей". У той год выпускалася ўжо 20 гатункаў піва бутэлькавага, 16 гатункаў піва ў кегах, па некалькі найменняў безалкагольных і моцных вінных напояў, а таксама 4 віды квасу: "Кменавы", "Маскоўскі", "Рускі" і "Беларускі". Кожны месяц 15 гатункаў піва пастулала ў гандлёвую сетку. Для падрыхтоўкі некаторых марак піва больш актыўна пачалі выкарыстоўваць трыцікале.

У 2002 г. у гонар 60-годдзя генеральнага дырэктара Ўладзіміра Якаўлевіча Юфы была распрацавана марка "Піўны магнат".

У 2003 г. выпускалі 30 найменняў піва і 4 віды квасу з тэрмінам рэалізацыі 2 месяцы. Улетку на прылаўках з'явілася двухградуснае піва "Лёгкае" шчыльнасцю 8 % з высакаякаснага імпартнага соладу і хмелю з дабаўкай грэчкі. У жніўні 2003 г. тэхнолагі прапанавалі серыю слабаалкагольных напояў "Экстра": водары яблыка, цытрыны, грэйпфрута, ананаса, вінаграду, ром-колы, вінаў-фрэш і серыю сокаўтрымальных газаваных напояў "АВС вітамін". Канцэнтраваны сок і розныя смакавыя дадаткі надалі напоям гэтай серыі памяранцавы, ананасавы, яблычны і яблычна-вішнёвы смакі.



*Купаж цэха безалкагольных напояў*

Натуральная сыравіна для гэтай серыі закуплялася ў Малдове і Краснадарскім краі. Да восені было выпушчана безалкагольнае піва "Нулёвачка", у якім аб'ёмная частка спірту меншая, чым у кефіры - 0,5 %.

У 2004 г. з'явілася піва "Прэміюм", шэраг слабаалкагольных кактэйляў, безалкагольныя напоі на фруктозе. Перад Алімпіядай пачалі выпускаць пітную ваду "Чэмпіёнская". Навінку вытворчасці рэкламаваў чэмпіён свету ў штурханні ядра Андрэй Міхневіч.

У канцы 2004 г. ААТ "Лідскае піва" вывела на рынак новую гандлёвую марку піва "Тры каралі", якая адразу ж зрабіла фурор на айчынным рынку піўных напояў. Новае піва адрознівалася ўсім: арыгінальнай бутэлькай, прыгожым афармленнем і бездакорным смакам. Па сутнасці, гэта было знакамітае чэшскае піва, зваранае ў Лідзе.

**Багровец У.П.:** *"Спіс марак, якія выпускаюцца, будзем скарачаць. Пакінем 6-7 найменняў, але не адразу, вельмі вялікія запасы этыкетак. У 2006 годзе 4-5 марак адыдуць. Застануцца: "Тры каралі", "Лідскае класічнае", "Лідскае", "Жыгулёўскае", "Аксамітнае", "Стары замак" і "Нулёвачка". У "Лідскае" і "Стары замак" дадаём рыс, "Аксамітнае" - з карамельнага соладу, усе астатнія з цукрам. Чэхі ніякіх дадаткаў не скарыстоўваюць".*

## ...выжывае,

У 1992 г. пачалася гонка з інфляцыяй. Раслі кошты на ячмень, хмель, энерганосьбіты, калі ў пачатку года за тону ячменю плацілі 2 тыс. рублёў, то праз паўгода - 10 тыс. рублёў. Завод змушаны быў падымаць кошты на сваю прадукцыю. У пачатку 1994 г. зменшыўся попыт на прадукцыю. Кіраўніцтва змушанае было пайсці на некаторае скарачэнне колькасці працоўных. Для асобных цэхаў быў ўведзены чатырохдзённы працоўны тыдзень. Брыгаду разліву піва ў лютым 1994 г. у сувязі з абмежаваннямі магутнасці ў энергасістэме перавялі на працу з 16 да 24 гадзін.

Асобай праблемай стаў ячмень. Калгасам была даведзена дзяржзамова на вырошчванне ячменю. Тыя апрацоўвалі яго "абы як". З беларускага ячменю якаснае піва зварыць немагчыма. Гэта, па сутнасці, фуражнае збожжа. Да таго ж закупныя кошты былі вышэй за сусветныя на 20 даляраў за тону, неўзабаве кошт беларускага ячменю аказаўся вышэй за сусветны ў два разы. Піўвары, падпарадкоўваючыся загаду зверху, змушаныя былі скупляць нізкагатунковае збожжа і рабіць з яго другагатунковае піва.

На піва быў устаноўлены 40% акцызны збор, завод выплачваў яшчэ 25 іншых відаў падаткаў, гэта яшчэ 40 %, плюс гандлёвая нацэнка да 40 %. Кошт піва на прылаўках дасягнуў 320 % да завадскога кошту. Гэта прывяло да таго, што аказаўся разбураным разумны баланс коштаў, звычайнае "чарніла" па кошце наблізілася да кошту піва.

Хмель наогул у Беларусі не вырошчваецца. Піўное тэхналагічнае абсталяванне не выпрабляецца. І тое і другое трэба закупляць за мяжой за валюту. Прадпрыемству пастаянна бракавала валюты. Дэфіцыт валюты дасягаў 1830 тысяч даляраў, у тым ліку 569 тысяч даляраў - крэдыты банка, 414 тысяч даляраў - доўг пастаўшчыкам сыравіны і абсталявання, 647 тысяч даляраў - доўг па інвестыцыях аўстрыйскім фірмам "Эгенберг Інтэрнацыянал" і "ОВА". У 1999 г. сітуацыя абвастрылася да крайнасці з-за розніцы нацыянальнага і міжбанкавага курсу даляра. Сабекошт прадукцыі разлічваўся па курсе нацыянальнага банка, а сыравіна паступала па міжбанкавым курсе, які ў асобныя дні дасягаў двухразовай розніцы.

Спроба прабіцца на захад, на польскі або літоўскі рынак стрымлівалася ўвазной мытай і курсавой розніцай. Заставалася прабівацца на ўсход. Дырэкцыя прадпрыемства пачала актыўна шукаць новыя магчымасці для збыту сваёй прадукцыі ў Расіі. Невялікімі партыямі піва "Наша марка" адпраўляецца ў Маскву і Санкт- Пецярбург, але ў яго кароткі тэрмін захоўвання - толькі дзесяць дзён. Уласная мытня ўвяла свае перашкоды: на кожную таварна-транспартную накладную неабходна складаць пашпарт пагаднення і мытную дэкларацыю, кожная з якіх платная. За сертыфікат паходжання тавару на кожную партыю таксама трэба плаціць.

Пераадольваючы цяжкасці, патрошку аб'ёмы паставак на расійскі рынак павялічваліся і ў лепшыя месяцы 1995-1997 гг. дасягалі 50 % ад выпусканага аб'ёму. Гэтыя пастаўкі дазвалялі атрымліваць валюту на развіццё і закупку ўсіх кампанентаў у трэціх краінах. У 1998 г. завод паставіў на экспарт прадукцыі на суму ў 2,13 млн. даляраў.

Пры ўсіх складанасцях грашова-крэдытнай палітыкі, недахопу фінансавых рэсурсаў, сезоннасці збыту прадукцыі прадпрыемства заставалася канкурэнтназдольным на нацыянальным і расійскім рынках. Гэтага, як гаварыў у той час У.Я. Юфа, завод дабіўся дзякуючы ўмеранаму кошту, высокім спажывецкім якасцям, доўгім тэрмінам устойлівасці, разнастайнасці ўпакоўкі і паляпшэнню знешняга выгляду.

Але тут адбыўся жнівеньскі абвал расійскага рубля. Да канца 1998 г. экспарт піва ў Расію значна зменшыўся. Калі ў студзені 1998 г. завод рэалізаваў 72,4 тыс. далітраў піва пры сярэднім кошце адной бутэлькі 25-30 цэнтаў, то ў снежні - толькі 31,4 тыс. далітраў пры сярэднім кошце 5-9 цэнтаў за бутэльку. У выніку збыт піва на расійскі рынак пачаў даваць страту ў 8-9 тысяч рублёў на бутэльцы. Лідскі завод змушаны быў пакінуць расійскі рынак і зменшыць аб'ёмы вытворчасці. Давялося адправіць частку людзей у змушаны адпачынак, і вяртацца на беларускі рынак.

**Багровец У.П.**: *"Дэфолт прывёў да таго, што мы сыйшлі з Расіі. Раней каля піўзавода чэргі стаялі, вогнішчы палілі".*

На радзіме лідскія піўвары сутыкнуліся з іншай праблемай - у многіх гарадах адмаўляліся ад лідскага піва таму, што былі абавязаныя прадаваць прадукцыю мясцовай вытворчасці.

Увесь 2000 г. завод працаваў ва ўмовах цвёрдага

рэгулявання коштаў, высокіх падаткаў і адміністрацыйнага прэсінгу. Кошты на энерганосьбіты, якія пастаянна раслі, і паквартальнае абмежаванне кошту на прадукцыю прывялі да таго, што рэнтабельнасць знізілася да 10 адсоткаў.

У гэты ж час знізілася плацежаздольнасць гандлёвых арганізацый, рэзка ўзрасла пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць за адгружаную прадукцыю. Па стане на 1 кастрычніка 2000 г. яна склала 293 млн. руб. Прадпрыемства адцягвала грашовыя сродкі на выплату ў бюджэт акцызнага падатку ў суме 52 млн. рублёў. Сетка кліентаў па Беларусі была скарочаная. Аб'ёмы рэалізацыі на тэрыторыі РБ (асабліва ў Гарадзенскай вобласці) прыкметна зваліліся. Калі за дзевяць месяцаў 1999 г. было рэалізавана 1827 тыс. далітраў (Гарадзенская вобласць - 1366 тыс. далітраў), то за дзевяць месяцаў 2000 года - 1688 тыс. далітраў (Гарадзенская вобласць - 909 тыс. далітраў).

У гэты час на беларускі рынак увайшлі расійскія кампаніі, якія атрымалі буйныя інвестыцыі і палёгкі. Магутнасці расійскіх піўных заводаў былі падвоеныя, і да 2004 г. дасягнулі 1 млрд. дал. У 2000 г. Беларусь ужо імпартавала каля 4 млн. дэкалітраў расійскага піва. У беларускія крамы пачало паступаць да 12 найменняў піва расійскага піўнога канцэрна "Балтыка". У 2001 г. на беларускі рынак пацяклі ўжо "балтыйскія" піўныя рэкі. Айчынныя піўвары пачалі губляць пакупніка - выпуск піва знізіўся на 13 %. Спынілі выпуск піва Пінскі, Крычаўскі і Навагрудскі заводы. У 2001 г. на расійскі рынак завод адпраўляў усяго 20% прадукцыі. Прыбытак кожны месяц зніжаўся.

У галіны адсутнічаў парытэт коштаў на сыравіну, электраэнергію, дапаможныя матэрыялы і гатовую прадукцыю. Піўзаводы па сутнасці крэдытавалі с/г прадпрыемствы, банкі і дзяржаву, паколькі выплата падаткаў апярэджвала тэмпы пагашэння гандлем запазычанасці за атрыманую прадукцыю. У галіне стварылася тупіковая сітуацыя.

Асацыяцыя "Белпіва" у асобах прэзідэнта П.Д. Чыгірына і віца- прэзідэнта і генеральнага дырэктара ААТ "Лідскае піва" У.Я. Юфы звярнулася ў Палату прадстаўнікоў і правяла ў Лідзе 13 лістапада 2001 г. брыфінг для журналістаў вядучых друкаваных выданняў рэспублікі. На брыфінгу гаварылася пра тое, што піваварная галіна працуе ў сціснутых умовах і замірае. Экспарт зніжаецца, губляюцца рынкі збыту. Праграма тэхнічнага пераўзбраення не выконваецца. Дзяржава губляе валютныя сродкі. Расійскія піваварныя кампаніі спачатку выцеснілі беларусаў са свайго рынку, а зараз спрабуюць выцесніць і з беларускага. Гандаль не зацікаўлены ў пастаўках піва, паколькі падаткі ад рэалізаванага піва паступаюць у бюджэт раёна, дзе знаходзіцца завод.

Коштам велізарных высілкаў лідзяне захоўвалі свае пазіцыі на ўнутраным рынку.

У 2003 г., калі палова піва ў рэспубліцы мела расійскае паходжанне, на ўрадавым узроўні было вырашанае падтрымаць піваварную галіну, не звяртаючыся да замежнай падтрымкі, бо замежныя фундатары патрабавалі саступкі кантрольных пакетаў акцый.





***Гасцёўня***

У 2004-05 гг. сітуацыя стабілізавалася. Аднак, месніцтва квітнела, напрыклад, у Гародні таемна забаранялі прадаваць лідскае піва, праштурхоўваючы прадукцыю мясцовага піўзавода.

У студзені 2006 г. айчынныя піwвары сабраліся ў Доме прэсы на паседжанне круглага стала. Былі паднятыя асноўныя праблемы, што хвалявалі піваўараў.

**Праблема соладу.** Усе сусветныя піваварныя кампаніі выкарыстаюць пры вытворчасці піва толькі піваварны высакаякасны ячмень адмысловых гатункаў з азначанымі характарыстыкамі. Такі ячмень вырошчваецца ў асобных беларускіх гаспадарках у невялікіх аб'ёмах. Каб атрымаць высакаякасны ячмень трэба правесці поўны комплекс агратэхнічных мерапрыемстваў, накіраваных на захаванне ўсяго тэхналагічнага працэсу вырошчвання збожжа. Канцэрну "Белдзяржхарчпрам" было прапанавана аддаваць прыярытэт у фінансаванні тым сельскагаспадарчым прадпрыемствам, якія ўмеюць вырошчваць піваварны ячмень, а не дзяліць грошы паміж усімі гаспадаркамі.

**Праблема рацыянальнага выкарыстання бюджэтных асігнаванняў.** Нядаўна пачала выдаваць сваю прадукцыю буйная піваварная кампанія ў Бабруйску. Тым не менш у 2006 г. урад планаваў выдаткаваць 15 млн. даляраў на будаўніцтва двух новых піўных заводаў у Іванава і Гародні. Піўвары выказалі сумнеў у правільнасці падобнага рашэння і прапанавалі пусціць грошы на мадэрнізацыю адзінага ў краіне завода па вытворчасці соладу.

**Праблема разлікаў.** Сёння мала вырабіць піва - яго трэба яшчэ і прадаць. Гандаль прывык затрымлівáць плацяжы піўным заводам на тэрмін у некалькі месяцаў, часам да паўгода.

2006 г. прынёс некаторыя надзеі. Паволі лідскае піва вярталася на расійскі рынак. Яго пачалі браць у Смаленску, Разані, Бранску і Варонежы …

**Зубко Святлана Ўладзіміраўна:** *"Цяпер я дырэктар па вытворчасці. Першая асоба пасля генеральнага дырэктара. У маёй кампетэнцыі: кіраванне вытворчасцю, удасканаленне тэхналогіі, распрацоўка новых відаў прадукцыі, рэканструкцыя, планы і мерапрыемствы на перспектыву, планаванне і выкананне планаў, карэкціроўкі, статэгічныя і тактычныя пытанні, праца ўсяго вытворчага комплексу.*

*Генеральны дырэктар вядзе нас. Маштабныя пытанні абмяркоўваюцца на тэхнічнай радзе. Бізнэс-планы, далейшая рэканструкцыя. Я заслухала начальнікаў цэхаў майстроў, тэхнолагаў, акумулявала і падрыхтавала матэрыял па ўсіх цяпер існых праблемах. Як іх вырашыць, што для гэтага трэба? Трэба нарошчваць магутнасці. Мы не зусім спраўляемся з планамі. У якім кірунку пойдзем? Распрацаваныя мерапрыемствы на 2006 -2010 гады. Што трэба зрабіць па гадах? Як зрабіць?"*

## …атрымлівае медалі на міжнародных выставах,

Спачатку на міжнародных выставах маркі лідскага піва ўзнагароджвалі бронзавымі і срэбнымі медалямі.

На першай міжнароднай выставе - кірмашы "Сочы - 94" маркі "Лідскае" і "Стары замак" атрымалі бронзавыя медалі. У Менску ў той жа год піва "Лідскае" узнагароджана срэбным медалём.

На другім міжнародным конкурсе-дэгустацыі "BEER" у Менску ў 1995 г. піва "Лідскае" узнагароджана бронзавым медалём, а "Стары замак" - срэбным.

На Другой міжнароднай выставе- кірмашы "Піва -96" у Сочы маркі "Стары замак", "Лідскае юбілейнае" і "Лідскае" узнагароджаныя срэбнымі медалямі, а "Чорны прынц" - бронзавым.

На міжнароднай выставе "Піва - 96" у Менску піва "Прынёманскае" атрымала бронзу.

Прарыў да залатых медалёў адбыўся ў 1997 годзе. У жніўні на міжнароднай выставе - кірмашы "Піва - 97" у Маскве завод выставіў 6 марак піва. Усе лідскія маркі - "Лідскае", "Лідскае класічнае", "Лідскае нетрадыцыйнае", "Стары замак", "Прынёманскае" і "Кароль хмелю"- адзначаныя дэгустацыйнай камісіяй як лепшыя і атрымалі залатыя медалі. Гэта быў узрушальны поспех. Завод таксама атрымаў дыплом за выдатнае афармленне прадукцыі.

У 1998 г. прадпрыемства ўдзельнічала ў трох міжнародных кірмашах - у Санкт-Пецярбурзе, Менску і Сочы. На Санкт- Петербугскім піўным аўкцыёне піва "Кароль хмелю" і "Стары замак" былі ўзнагароджаныя срэбнымі медалямі, а "Лідскае асвяжальнае" - залатым медалём. На міжнароднай выставе - кірмашы ў Сочы пяць марак "Лідскае асвяжальнае", "Лідскае класічнае", "Лідскае аматарскае", "Лідскае бурштынавае" і "Лідскае хмельнае" атрымалі залатыя медалі. У Менску на пятай міжнароднай выставе "Піва -98" усе прадстаўленыя гатункі атрымалі ўзнагароды: "Лідскае асвяжальнае", "Лідскае бурштынавае", "Лідскае аматарскае", "Лідскае хмельнае" - залатыя, а "Лідскае класічнае" - срэбную.

У 1999 г. на VI-ай міжнароднай спецыялізаванай выставе "Санкт-Пецярбургскі піўны аўкцыён -99", дзе больш за сто піўных заводаў выстаўлялі сваю прадукцыю, "Лідскае класічнае" і "Спартак-чэмпіён" адзначаныя бронзавымі медалямі, у Менску на міжнароднай выставе "Піва -99" тры маркі лідскага піва - "Стары замак", "Лідскае новае" і "Зеніт-чэмпіён" атрымалі залатыя медалі, "Лідскае класічнае - 2" адзначана срэбным медалём.

На выставе-дэгустацыі ў Менску ў 2000 г. маркі піва "Лідскае асвяжальнае", "Залаты змей", "Чорны прынц", "Лідскае класічнае - 2" (кег), "Чорны прынц" (кег) атрымалі залатыя медалі. Марка "Стары замак - 3" атрымала Гран-пры.

З запрашэння на шостую міжнародную выставу -кірмаш "Піваіндустрыя - 2000": *"Мы заўсёды з вялікай цеплынёй успамінаем удзел лідскіх півавараў у нашай выставе. Якасць вашай прадукцыі заўсёды высока ацэньваецца адмыслоўцамі і наведвальнікамі выставы. Па колькасці атрыманых прызоў вы ў свой час пабілі ўсе рэкорды. Адмыслоўцы дагэтуль успамінаюць высокі прафесіяналізм вашага півавара Галіны Ўладзіміраўны Тыртых. Нажаль, апошнія гады ваша прадпрыемства не ўдзельнічала ў нашых выставах, і мы пастаянна чуем дакор ад наведвальнікаў: "Дзе ж лідскае піва? Паважаны Ўладзімір Якаўлевіч, запрашаем ваша прадпрыемства прыняць удзел у выставе…"*

На выставе- кірмашы ў Маскве "Піваіндустрыя-2000" прынялі ўдзел 80 піўных заводаў. Лідскія маркі "Залаты змей", "Спартак-чэмпіён" і "Стары замак - 3" атрымалі вышэйшыя адзнакі і залатыя крыжы, а заводу прысудзілі "Залаты ордэн".

У красавіку 2001 г. у Менску на восьмай спецыялізаванай выставе-дэгустацыі "Бістро. Піва. Віны і напоі", у якой удзельнічалі 17 піваварных заводаў маркі "Лідскае класічнае", "Чорны прынц", "Стары замак", "Лідскае еўрапейскае", "Чорны прынц" (кег), "Еўрапейскае" (кег) - атрымалі залатыя медалі, а "Лідскаму арыгінальнаму" прысуджаная вышэйшая ўзнагарода "Гран -пры". Ашаламляльны поспех - увесь асартымент атрымаў залатыя ўзнагароды. Увосень, для абмену досведам і заключэння кантрактаў завод наведалі дэлегацыі з Нямеччыны ў колькасці 10 чалавек, з асацыяцыі піваграў Літвы і Польшчы ў колькасці 12 чалавек.

У 2002 г. піва "Соладавае" стала фіналістам

абласнога конкурсу "100 лепшых тавараў Рэспублікі Беларусь". На менскім кірмашы 2002 г. выстаўляліся 4 маркі, залатымі медалямі былі адзначаныя "Лідскае класічнае", "Князь Гедзімін" і "Лідскае аксамітнае" (кег), срэбны медаль атрымала піва "Студэнцкае".

У красавіку 2003 г. у Менску на 12-ай міжнароднай выставе "Бістро. Піва. Віны і напоі" былі прадстаўленыя 30 узораў піва з Нямеччыны, Літвы, Украіны, Расіі і Беларусі. Усе шэсць гатункаў лідскага піва атрымалі медалі. Залатымі медалямі журы адзначыла "Лідскае асвяжальнае", "Лідскае класічнае", "Славянскае" і "Чорны прынц", срэбнымі "BEER LIGHT" і "Славянскае" (кег)

У 2003 г. галоўны піпавар Галіна Ўладзіміраўна Тыртых была чальцом міжнароднага журы ў Сочы і Маскве. ***"Лідскае" прызнана самым вядомым брэндам сярод спажыўцоў піва на нацыянальным конкурсе "Брэнд года 2003".***

**Тыртых Г.У.:** *"Я была чальцом міжнароднай дэгустацыйнай камісіі ў 1994-99 гадах. Як правіла, гэта піваварры з веданнем смакавых якасцяў. Звычайна на кірмашах ацэньваюць 8-12 чалавек. Кабінка ізаляваная, мы суседзяў-дэгустатараў не бачым. Пасля 6 гатункаў - перапынак. Звычайна прыходзілася ацэньваць 30-40 гатункаў, даходзіла да 90. Тады я выйшла з кабінкі ніякая. За кожным гатункам стаяць заводы, людзі, іх высілкі. З іншага боку ўласны прэстыж, важна не пайсці ў разрэз з меркаваннем большасці. Напружана. Даюць 50-80 мл піва. Вызначаеш адпаведнасць заяўленаму па колеры, якасці, густу, гарчынцы, ахмеленасць, водар, гаркату. Перад кірмашом-дэгустацыяй агаворваюцца ўмовы: у пэтах, шкле, кегах. Піва павінна быць правільнае ў адносінах да свайго гатунку. Напрыклад, 11% светлае з рэзкай хмелевай гаркатой. Кожны з дэгустатараў павінен вызначыць адпаведнасць. Калі светлае, гэта значыць ДАСТ, як яно адпавядае па гусце, па паху.*



***Тыртых Г.І.***

*Дапушчальны чысты солад, але высокую адзнаку не магу паставіць, ён выйшаў за рамкі каляровасці.*

*Дэгустуючы пастаянна, пачынаеш пазнаваць - гэтае піва такога вось завода. У 1994 г. лідскае піва было ў ліку лепшых, былі гатункі, якія трэба было здымаць з дэгустацыі. У 1996 г. ужо былі правільныя смачныя гатункі піва. Запомніліся "Карона" навасібірскага піўзавода, з Пярмі было вельмі добрае піва, Клінскае. За два гады сітуацыя на піўным расійскім рынку кардынальна змянілася.*

*У Санкт-Пецярбурзе выставы адрозніваліся шматлюддзем. Пецябруржцы любяць піва, там цэлымі сем'ямі ходзяць з дзецьмі, сапраўднае піўное гулянне, усе з бутэлькамі, п'юць. Першыя кірмашы былі сапраўднымі грамадскімі кірмашамі, пазней пачалі старацца ўсім даць медалі, каб займець на выставы больш заводаў. Зараз медалі даюць за балы ад 100 да 96, могуць даць 10 залатых медалёў. Узровень упаў, аб'ектыўнасць знізілася.*

*Склад журы не быў сталым. Прыязджалі з Прыбалтыкі двое, мужчына і жанчына, чэх або немец, з Расіі з піваварнага інстытута, некалі ўсесаюзнага.*

*Я сама люблю "Стары замак" і "Лідскае класічнае", з напояў "Ліманад і "Крэм-соду".*

У Менску ў 2004 г. нараўне з півам завод выставіў сокаўтрымальныя напоі. Марка "Прэміюм" узнагароджана залатым медалём, безалкагольнае "Нулёвачка" - срэбным. "Рускі" квас і сокаўтрымальны напой "яблык+памяранец" атрымалі срэбныя медалі, а напой "яблык+персік" - бронзавы.

У Менску ў красавіку 2005 г. на XII міжнародным конкурсе-дэгустацыі маркі піва "Тры каралі" атрымалі тры залатыя медалі. У траўні ў Сочы на XIV міжнароднай выставе- кірмашы "Піва" "Тры каралі" таксама атрымалі тры залатыя медалі і чацвёрты за мастацкае афармленне. Квас "Рускі" атрымаў срэбную ўзнагароду.

У снежні 2005 г. Лідскі піўзавод за вытворчасць высакаякаснай прадукцыі быў адзначаны прэміяй ураду "За дасягненні ў вобласці якасці". Яе ва ўрачыстых абставінах ўручыў прэм'ер-міністр краіны Сяргей Сідорскі.

У красавіку 2006 г. на чарговы міжнароднай выставе-дэгустацыі ў Менску "Бістро, піва і напоі" журы конкурсу, у складзе якога былі дэгустатары з Чэхіі, Нямеччыны, Расіі, Украіны і Літвы, лідскую газаваную ваду "Чэмпіёнская", піва "Тры каралі- 1" "Тры каралі - 2", сокаўтрымальны напой "яблык+грэйпфрут" узнагародзілі залатымі медалямі, "Квас манастырскі" і негазаванную ваду "Чэмпіёнская" - срэбнымі, а сокаўтрымальны напой "Яблык-памяранец-морква" і піва "Тры каралі- 3" вышэйшымі ўзнагародамі "Гран-пры".

У траўні 2006 г на 15 - ай юбілейнай выставе "Піва -2006" у канкурэнцыі з 44 вытворцамі піва з Чэхіі, Расіі, Украіны і Прыбалтыкі лідскія піваварры атрымалі чатыры залатыя медалі за серыю "Тры каралі" і "Лідскае класічнае". А дырэктар прадпрыемства Ў.Я. Юфа быў

узнагароджаны медалём за заслугі ў вобласці піваварства.

**Скрыпко Д.Б.:** *“ Я чалец рэспубліканскай дэгустацыйнай камісіі. Не радзей аднаго разу ў квартал збіраемся ў Менску. Праводзіцца дэгустацыя новых узораў. Прадпрыемствы абавязаны праводзіць дэгустацыю. Кожны з чальцоў рэспубліканскай дэгустацыйнай камісіі павінен выказацца.*

*На апошнім кірмашы ў Менску былі чэх, немец, літовец, рускі, украінец і беларус. Дэгустатары вельмі высокай кваліфікацыі. Ад чэхаў быў дырэктар інстытута, доктар Клаўс. Ад Украіны галоўны тэхнолаг Укрпіва. З Масквы адмыслоўцы з НДІ. Дэгустацыя ў Менску падабаецца сваёй правільнасцю і сумленнасцю. Мы бачым усіх арбітраў. Адразу аб’яўляюць балы. “Балтыка” у дэгустацыях не ўдзельнічае”.*

Усяго лідскі піўзавод за 13 гадоў удзелу ў выставах атрымаў 78 узнагарод: залатых медалёў - 49, срэбных - 15, бронзавых - 7, залатых крыжоў - 3, Гран-Пры - 4.

## …арганізуе піўныя святы.

30 верасня 2001 г. на Кургане адбылося першае Свята піва. Яно пачалося ў 11 гадзін. Атракцыёны, спартовыя змаганні змянялі адзін аднаго. У парку граў гарадскі эстрадны аркестр. У 13 гадзін адбылося афіцыйнае адкрыццё. Затым канцэрт артыстаў беларускай эстрады з удзелам Аляксандра Саладухі і Алега Цівунова. Выступалі Ліда -мюзікл, Рытмы мяжы, тэатры “Какос” і “Чорная метка”, рок-група “Столе”, шоў-балет “Эклектык”. А пасля 17 гадзін пачалася дыскатэка, якая працягвалася да 2 ночы.

У жніўні 2002 г. Свята піва праводзілася другі раз. У 10 раніцы гараджане з дзецьмі пацягнуліся ў парк на кургане. Дзесяткі гандлёвых кропак, гульнявыя пляцоўкі, атракцыёны, вялікая сцэна з гербамі Ліды і піўзавода. У першай палове дня прайшло прадстаўленне квасу для дзяцей. Да бочак вышыхтаваліся чэргі. На сцэне выступалі блазны, комік -група “Доктар Гумар”, казачныя героі. Пасля абеду дзіцячае свята плаўна перайшло ў свята для дарослы. Піўных бочак і шашлычных мангалаў прыбыло, а на схілах парку замігацелі коўдры, на якіх размясціліся гараджане. Папаўдні пачаўся канцэрт, у якім выступалі “Сябры”, Ал. Саладуха, “Аблічча” і расійскія “Манга-Манга”. Пад гімн у выкананні Алега Елісеенкава, які праслаўляў горад Ліду і лідскае піва, свята было абвешчана адкрытым. Вядоўцаў Сяргея Кухто і Ларысу Грыбалёву змяніў чэмпіён свету па гіравому спорту Вячаслаў Харанэка, які лёгка падняў піўную бочку на грудзі. Ансамбль “Сябры” з “Лягу-прылягу”, Аляксандр Саладуха са сваімі “чужымі-мілымі”, “Аблічча” ў суправаджэнні раскошнага балета, Ларыса Грыбалёва “Я вялікая”, “Пявучыя гітары” з “Сінім шалем”. Закончвалі “Манга-манга”. Скончылася свята феерверкам і моладзевай дыскатэкай.

Трэцяе піўное свята 2003 года было прымеркавана да Дня незалежнасці і праходзіла пры яшчэ большым зборы лідзян. Піваварам у чарговы раз ўдалося зладзіць відовішчнае свята. Проста да канцэртнай пляцоўкі чорны “Мерсэдэс” даставіў Гарыка Сукачова. Сукачоў выканаў усе хіты “Недатыкальных”, затым надзеў фірмовую ярка-жоўтую кепку з надпісам “Лідскае піва” і пасля першых слоў шлягера “А я милого узнаю ...” натоўп падхапіў: “по кепчонке!”. Правядзенне свята абыйшлося ў 75 мільёнаў рублёў, 60 з якіх прышліся на долю піўзавода. Пасля ўзрушальнага феерверка лідзяне, праходзячы міма піўзавода, скандзіравалі: “Дзякуй!! Лідскае піва - ура!”.

1 ліпеня 2006 г адбылося чацвёртае Свята піва. Ужо традыцыйна ў парку на Кургане сабраліся дзесяткі тысяч гараджан і прыезджых гасцей. Яблыку ўпасці не было дзе.

У 2006 годзе праведзена рэкламная гульня “Тры каралі”. Галоўны прыз першага тура - вандроўка на траіх у Еўропу выйграла Ірэна Тадэвушаўна Агароднік. Разыгрываліся таксама кампутар і 10 мабільных тэлефонаў.

## Маша Коэн з дзецьмі і ўнукамі наведвае прадпрыемства, заснаванае прадзедам

У ліпені 2005 года праўнучка заснавальніка завода Носеля Пупко Маша Коэн, якая валодае ў Мексіцы буйным хімічным прадпрыемствам, і яе муж, уладальнік тэкстыльнай фірмы, разам са сваімі дзецьмі і ўнукамі наведалі завод. Дружная сям’я ў колькасці 15 чалавек з велізарнай цікавасцю агледзела завадскія цэхі, паспрабавала піва і напоі, унукі пазіравалі лідскім фотакарэспандэнтам і сваім бацькам. Маша прывезла фотаздымак 30-х гадоў, на якім захаваны яе дзед Мейлах Пупко, яе бацька Міца Пупко і яе дзядзька Сямён Пупко сярод працаўнікоў піўзавода.

На заводзе гасцей сустрэлі з адкрытай душой, правялі экскурсію па сучасных цэхах, запрасілі ў дэгустацыйную залу. Тут за кубкам самага смачнага, па ацэнцы гасцей, у свеце піва Маша распавяла аб тым, як у 1943 г. сямейства Пупко фашысты адправілі ў Майданак, і як яны ўцяклі, выскачыўшы з цягніка на хаду.

Назаўтра сямейства Коэн наведала Наваградскі музей, дзе пачула падрабязны аповяд пра габрэйскі партызанскі атрад Бельскага, у якім ратаваліся Маша і яе бацькі. Пасля абеду паспрабавалі дабрацца да месца, дзе стаяў атрад, але гэтую спробу адбілі беларускія камары, якія з азвярэннем накінуліся на маленькіх Коэн, легкадумна апранутых для лесу.

# Рэканструкцыя асвятлення Нясвіжскай ратушы Лідскім ЗАТ “Каскад”

Пачынаючы з XVI стагоддзя, у Нясвіжы размяшчалася рэзідэнцыя князёў Радзівілаў. Быўшы людзьмі адукаванымі, магнаты прыклалі нямала высілкаў для таго, каб ператварыць Нясвіж у сапраўдны еўрапейскі горад і цэнтр культуры. Як пісалі з некаторай доляй іроніі сучаснікі, князь Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка задумаў стварыць “у цэнтры Сарматыі сапраўдную Італію”. Для будаўніцтва горада і замка ў Нясвіж быў запрошаны італьянскі архітэктар, манах ордэна езуітаў Джавані Марыя Бернардоні. У адносна кароткі гістарычны тэрмін былое невялікае мястэчка з цалкам драулянымі забудовамі ператварылася ў сапрауды еўрапейскі горад з усімі належнымі архітэктурнымі атрыбутамі - палацава-замкавым комплексам, адбудаваным па ўсіх правілах інжынерна-фартыфікацыйнага будаўніцтва, гарадской ратушай з гандлёвымі радамі, з’явіліся гарадскія вежы і вартавыя праязныя брамы, а таксама адзін з першых у Еўропе твораў архітэктуры барока - касцёл Божага Цела ордэна езуітаў. Пры князі Сіротцы горад атрымаў магдэбургскае права на самакіраванне і свой герб. Трэба сказаць, што ў Нясвижы захоўваўся амаль увесь архіў Вялікага Княства Літоўскага, напісаны на беларускай мове, была сабрана вялікая бібліятэка, якая налічвала больш за 20000 тамоў, у друкарні друкаваліся кнігі вядомага беларускага асветніка С. Буднага.



***Нясвіжская ратуша***

Першы ва Ўсходняй Еўропе “Эрмітаж” з’явіўся пад Нясвіжам, у Альбе. Ён быў пабудаваны з дрэва ў 1604 годзе, за 100 гадоў да заснавання Санкт-Пецярбурга, дзе знаходзіцца сённяшні славуты рускі Эрмітаж. Нясвіжскі Эрмітаж размяшчаўся на ўскраіне Альбы, недалёка ад возера Свіцязь, якое Радзівіл загадаў выкапаць у Альбе. У перакладзе з французскай слова “эрмітаж” абазначае “абасобленае месца, загарадны дом”.” Гэты палац служыў для князя Радзівіла Сіроткі месцам схованкі ад свету з мэтай духоўнага самаўдасканалення, як прытулак самотніка.

Дадамо да гэтага, што аснову першага ў Расіі тэатра графа Шарамецева, пасля вядомых гістарычных падзей з паздзелам Рэчы Паспалітай, склала трупа акцёраў прыдворнага тэатра Радзівілаў, якую граф “ничтоже сумняшеся” вывез з Нясвіжа ў якасці, так бы мовіць, ваеннага трафею. Адным словам, магнаты Радзівілы пакінулі вельмі знакавы культуралагічны след.

Нясвіж, як і іншы горад таго часу, які паважаў сябе, нельга ўявіць без будынка ратушы - гэтай сапраўды архітэктурнай дамінанты.

***Ратуша*** - ад ням. *Rathaus* - дом рады, запазычанае праз польск. *ratusz*.

Як і належыць старажытнаму збудаванню, нясвіжская ратуша

перажыла часы пажараў, разбурэння і рэканструкцыі. Але на сёняшні дзень яна з’яўляецца амаль адзінай рэнесанснай ратушай на тэрыторыі Беларусі. У канцы 20-га стагоддзя будынак ратушы быў канчаткова аднаўлены ў адпаведнасці з праектным планам канца 16-га стагоддзя і захаваўшайся тагачаснай гравюрай Тамаша Макоўскага, прыдворнага мастака Радзівілаў і першага картографа Вялікага Княства Літоўскага.



***Уваходная група ратушы. Свяцільня “Рагнеда-3”***

Адной з складовых частак работ па рэстаўрацыі ўнутранага інтэр’еру ратушы сталі работы па ўзнаўленні свяцілень, размешчаных у розных частках будынка. Гэты праект выконваўся работнікамі Закрытага акцыянернага таварыства “Каскад” горада Ліды (дырэктар І.І. Ус) пры ўдзеле навуковага кіраўніка С.А. Друшчыца (УП “Мінскрэстаўрацыя”). Нажаль, аўтэнтычных малюнкаў свяцілень, якімі карысталіся даўней у залах і памяшканнях ратушы, не захавалася. Таму для ўзнаўлення стылю свяцілень той эпохі прыйшлося вывучыць існыя ў еўрапейскім архітэктурным Рэнесансе аналагі. На аснове падборкі музейных фатаграфій, гравюр і малюнкаў былі распрацаваны праектныя рашэн-



***Трох’ярусная свяцільня “Рагнеда” у зале магістрата***



***Музейная зала ратушы***



***Музейная зала ратушы***



***Бра “Рагнеда”***

ні серыі свяцілень, якія атрымалі назву **“Рагнеда”.** У выніку для будынка ратушы было выраблена больш за 50 розных свяцілень, якія выконваюць акрамя свайго прамога ўтылітарнага прызначэння - асвятляць абшар - яшчэ і ролю дэкаратыўную. Стылізаваныя пад эпоху ранняга барока яны стварылі дадатковы эстэтычны эфект візуальнага ўспрымання інтэр’еру ратушы. Вядома, размова не ідзе аб поўнай стылізацыі. Яе немагчыма дасягнуць нават па прычыне таго, што замест традыцыйных свечак у якасці крыніцы святла сёння прыходзіцца выкарыстоўваць лямпы накальвання. Аднак асноўныя канструкцыйныя элементы, уключаючы і ўвагнутыя паліраваныя латуневыя люстэркі, усталяваныя ў верхняй частцы жырандоляў і прызначаныя для ўзмацнення светлавога струменю ад свечак былі выкананыя.

Усе свяцільні маюць адзіную тыпалогію і адрозніваюцца толькі сваімі габарытамі.

З пункту гледжання геаметрыі свяцільні “Рагнеда” выглядаюць досыць строга, а ў параўнанні з крыштальнымі жырандолямі эпохі ракако, нават аскетычна.

Цэнтральная частка свяцілень пабудаваная на латуневых сферах і цыліндрах featured рознага дыяметру, складзеных па вертыкалі. Ад цэнтра люстры адыходзяць ражковыя латуневыя элементы, на канцах якіх усталяваны крыніцы асвятлення. Усе латуневыя часткі свяцілень прайшлі адмысловую апрацоўку, каб дасягнуць візуальнага эфекту “старога металу”.

***Сяргей Герасімовіч.***

# *Зерне адборнае слоў*

## (да 70-годдзя Уладзіміра Васько)

Як кожны заядлы аматар і чытач паэзіі, я чакаю ад падборкі вершаў у перыёдыцы ці ад новай кніжкі аўтара – у першую чаргу – арыгінальнай свежай думкі, яркіх запамінальных вобразаў, навізны тэматыкі, непаўторнага светаўспрымання і мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, тэхнічнай дасканаласці рытмічных радкоў з багатай рыфмай. А калі аўтар нясе агульшчыну, сумныя паўторы даўно ўсім вядомага, ды яшчэ спрошчана, заштампавана ў неахайных, разбэрсаных, скрыпучых, як нязмазаныя колы калымагі, радках без рытму і рыфмы – тады без аніякага шкадавання адкідваю ўбок пісаніну слупком, каб узяць у рукі штось з класічнай паэзіі ці вершы сапраўднага паэта-сучасніка.



Чытаючы новыя вершы Уладзіміра Васько ці перачытваючы яго дзве выдадзеныя кнігі паэзіі з аўтографамі і шчырымі зычаннямі-пажаданнямі мне, як сябру (Прасветленасць: вершы. – Мінск, Маст. Л-ра, 1981, 46 стар.; На схілах берагоў: вершы. – Ліда, 1997, 110 стар.), я зноў і зноў атрымліваю задавальненне і асалоду ад дасканалых задушэўных радкоў. І нават здагадваюся, што, якая асоба альбо падзея далі яму штуршок для стварэння таго ці іншага верша, бо мы працавалі побач на журналісцкай ніве ў рэдакцыі "Лідскай газеты" без малога тры дзесяцігоддзі запар, на колах рэдакцыйнага УАЗіка скалясілі тысячы камандзіровачных кіламетраў на Лідчыне, гойсаючы па калгасна-саўгасных фермах, майстэрнях, лугах і палетках. І ўжо амаль дзесяцігоддзе як пенсіянеры завіхаемся поруч на зямельцы нашых летнікаў, бадай штодзённа спатыкаемся, абменьваемся навінамі, думкамі, у тым ліку аб свежанапісаным і прачытаным намі ды калегамі. Таму вельмі шмат у нас агульнага і ў адносінах да слова і творцаў паэзіі. Мяне прыемна радуе, што Васько таксама за вярсту не прымае слоўныя выкрунтасы і эквілібрыстычныя выбрыкі былых і сучасных шрайбоўцаў размаітых версэтаў, квентэмаў, вершаказаў, зномаў і да таго падобных рэбусаў пад выглядам верша. Цярпець не можа гэтак нікому не патрэбную мудрагелістасць. Прастата і яснаць, яснасць і прастата – яго творчае крэда, якога непахісна прытрымліваецца з юначых крокаў у паэзію да сённяшняга дня. Ён нязменна трымае раўненне на любімых класікаў: Купалу, Коласа, Багдановіча. Панчанку; на сучаснікаў Гілевіча, Бураўкіна, Васіля Макарэвіча. А з рускамоўных паэтаў моліцца на Пушкіна, Ясеніна, простыя, даходлівы, задушэўны радок кожнага з якіх адразу гаюча кладзецца на сэрца і душу.

Давайце пройдземся разам па зборніку лірыкі нашага земляка з маляўнічай вёскі Ліпічанка Шчучынскага раёна, лёс якога напаўнялі і ўзбагачалі вясковыя клопаты і назіранні, тэрміновая служба ў Карэліі, вучоба ў Гарадзенскім педінстытуце, дырэктарства ў сярэдняй школе на Дзятлаўшчыне, журналісцкая праца ў рэдакцыі "Лідскай газеты" і кіраўніцтва літаратурным аб'яднаннем пры ёй, дэпутацтва гарадскога савета, творчае супрацоўніцтва з кампазітарамі, асабліва плённае з Яўгенам Петрашкевічам, дзякуючы якому нарадзілася цудоўная песня пра наш горад "Добры дзень, горад Ліда", нарэшце прыдатныя для роздуму і творчасці часы вартаўніцтва школы, музычнай установы, медаб'яднання.

Нарадзіўшыся на ганку вайны, ён шмат вершаў прысвяціў яе героям і ахвярам. Хлопчык з партызанскай Ліпічанскай пушчы пісаў: "Разрывалі патроны кішэні маіх пінжакоў, выглядаючы кулямі з дзірак, бы з гнёзд птушаняты". А як запамінальна і душэўна гучаць радкі з верша "Партызаны": "у іх барадах заляглі туманы дачаснай партызанскай сівізны"!

Хораша таксама пачынаецца верш "Ад'езд":

*Дождж ачысціў ад бруду асфальт.*
*Каляровыя плямы мазуту расплыліся, бы хусткі.*
*І град беларускую польку выстукваў.*

Гімнам роднай прыродзе і зямлі гучыць верш "Я тут нарадзіўся і вырас", з якога прыводжу дзве

красамоўныя цытаты.

*“Сарока ад хвоі да хвоі*
*праносіць мянташку хваста”.*

А вось трапная самахарактарыстыка:

*“І твару майго ціхі выраз*
*падобны на гэты куток”.*

Ніколі не сатрэцца з памяці наша сумесная паездка ў вёску Ліпічанку і святы воблік яго старэнькай-старэнькай маці, якая бясконца застаўляла шчодры стол ласункамі-прысмакамі. З якім замілаваннем глядзела яна на сына. Здаецца, выкладвала ўсю душу на гэтым спатканні з крывінкай. Я не магу без шчымлівых слёз удзячнасці гэтай жанчыне, якая дала жыццё аўтару Уладзіміру Гаўрылавічу і нагоду чытаць ды перачытваць сюжэтны верш “Маме”. Ён заўжды нагадвае мне і вяртае з таго свету і маю родную матулю:

*Прыкукуйце, зязюлі, маладосць маёй маме...*
*Хай крыху хоць пабудзе вясёлай дзяўчынкай...*
*Скача ўпрысядкі дождж між старымі дубамі,*
*Ад яго не закрыцца квяцістай хусцінкай.*
*Па грыбы яна йшла, напявала пра долю,*
*Ды спаткала ў дарозе якраз навальніца.*
*Дзякуй, дзякуй табе, легкакрылае голле.*
*Пад табой мая мама змагла прыпыніцца.*
*Лес шумеў і стагнаў пад мланкай і громам,*
*Быццам ён заклікаў ці палохаў кагосьці.*
*Мама вельмі любіла навальнічны той гоман*
*У гады залатыя сваё маладосці.*
*Потым хмары прайшлі, пахлі хвоі смалою,*
*І да неба цягнуліся росныя кветкі.*
*А вясёлка над возерам звісла дугою,*
*Быццам з неба прыйшла на зямлю у адведкі.*
*Прыкукуйце, зязюлі маладосць маёй маме,*
*Хай крыху хоць пабудзе вясёлай дзяўчынкай...*
*Вецер ціха размову заводзіць з дубамі.*
*Мама сонцу махае квяцістай хусцінкай.*

Яшчэ болей творчых пярлінаў рассыпана ў другой кніжцы “На схілах берагоў”. І тут у цэнтры ўвагі – роднае Прынямонне, яго непаўторная прырода і працавітыя людзі, апетыя з такой душэўнай цеплынёй, усхваляванасцю і неспакоем. Вось простыя, някідкія радкі верша “Дома”: *“Любуецца увішнасцю маёй старэнькая бядовая матуля. Ужо амаль што 80 ёй, але вядзе з аселіцы Красулю”*. А закранаюць і хвалюць глыбока.

Прырода, Жанчына, Каханне – усё з вялікае літары – адвечныя аб’екты і спадарожнікі Васькоўскай лірыкі. Нездарма ўсю вокладку яго апошняй кнігі ўпрыгожвае чароўная прыгажуня з шчасліва-радаснай усмешкай на лагодным твары ў вадаспадзе распушчаных валасоў. На старонках зборніка лаўровы вянок жаночаму цуду – раздзел “Дай мне рукі сагрэць на тваім кастры” з 25 вершаў. Упэўнены, кожны чытач – асабліва чытачкі – знойдуць у цыкле сугучныя сэрцу і душы радкі. Асабіста мне імпануюць вершы “Ты пахнеш мёдам і чаборам”, “Купальшчыца”, “Нахлыне святло выпускніц і чаромхі”, “У Пышках”, “Ад Беліцы да Бандароў”. “Музыка”...

Тэма творчасці – усё часцейшая з гадамі спадарожніца Васько.

У эцюдзе “Світанак” эфектная вясёлая канцоўка: *“Яшчэ вятры у Ліпічанскай пушчы на махавых падушках ціха спяць, ды хмарка кучаравая, як Пушкін, распачала натхненне спрамяняць”*. Узорнае двухрадкоўе з верша “Астравок”: *“Цягне ўсё на астравок, туды дзе жыве няведамае слова”*. *“Самаробны мой кошык сябруе з грыбамі, а з птушынымі песнямі – песня мая”*. Калі на пачатку творчага шляху прыкідваў з надзеяй, што *“магчыма і мая струна эфір сусветны патрывожыць”*, то цяпер вера ў неўміручасць радка значна ўзмацнілася: сейбіт адчувае, што пачаў сеяць *“зерне адборых слоў”*. І ўжо даецца парада маладзейшым наступоўцам на Парнас: “Спявай пра тое. што цябе хвалюе”. Ён слушна сцвярджае, што “Паэзія – не забаўка, не хобі, а патаемны ўздых ўсяго нутра. Яна святую справу сціпла робіць, і прыйдзе яе зорная пара”.

Ільвіная доля пражытых гадоў Васько выпала на бязлітасны час камуністычна-кадэбісцкага дыктатарства. Калі ідэалагічныя кіроўныя лейцы асабліва жорстка нацягвалі цуглі на тварах творчых асоб. Тады трэба было мець мужнасць і грамадзянскую смеласць, каб у вершы “Поўдзень праўды” толькі заявіць: “Выказваюся так заўжды, як думаю”. Да гонару паэта, ён мужна выціскае з сябе рабскі страх і баязлівасць, з гадамі ўсё больш і часцей хвошча радкамі лакейства і халуйства, наменклатурнае невуцтва і чынавенскае хамства, рвачоў-хапуг пры пасадах, ліслівых прыстасаванцаў да ўладу маючых. Чытаем “Няўжо?”:

*Запудрылі мазгі недасягальным раем -*
*і голад абцугі да горла пристаўляе.*
*Народ ты мой, народ,*
*хоць дбайны ты араты,*
*збяднеў твой умалот,*
*збяднелі нашы хаты.*
*Няўжо мы для сябе*
*не створым лёс дастойны?*
*Няўжо нас задзяўбе*
*каршун часоў прыгонных?*

Папрокам яве не ў брыво, а ў вока, гучыць верш “Крыўдзіцелям”:

*Разбурыць час катэдж, машыну праглыне.*
*Ад вас нічога ў ім не застанецца.*
*А мой радок? Ён душы ўскалыхне*
*і адгукнецца ў бескарысных сэрцах.*
*Ён пойдзе у вякі павадыром,*
*я адчуваю крок яго бадзёры.*
*Я нараджаў радок, вы будавалі дом,*
*народа і дзяржавы рэкцёры.*
*Я і ў “хрушчоўцы” вас пераважыву,*
*бо кражамі душу не запаганіў.*
*Я крыўды ўсе, як конь, пераважую*
*і больш натхнёным і ўзнёслым стану.*

Толькі вялікае спагадлівае сэрца паэта з такім спапяляльным узрушэннем і болем магло нарадзіць верш “На звалцы”: “Падумаць толькі, звалка ўжо і тая падзелена на зоны беднатой”. Для іх яна. Як жыла залатая з лахмоццем розным ну і ... з чым? – з ядой.

Капаюцца у смецці, бедалагі, панура. Як бяссонныя жукі. Магчыма, з-за нажывы? Не. З-за прагі ? ім проста голад склейвае кішкі. Капаюцца з відна да цёмнай ночы: ну, дзе ты тут, несапсаваны цуд? І выгляд іх спакойны, а не воўчы, бы чалавецтву усяму прысуд".

Сацыяльныя матывы. Бы тыя мячы з "Пагоні" Багдановіча. Зашкальваюць і ў Васькоўскай карацельцы "Такіх нямала":

*Ні перад кім раскланьвацца не стану.*
*Іду упарта па свёй зямлі.*
*Чыноўнікі, што выйшлі з конскай стайні,*
*Мяне зламаць хацелі. Не змаглі.*
*Жыццё круціла, як вятрыска голле.*
*Ды грудзі распрамляў я зноў і зноў,*
*Каб Беларусь мая не стала голай,*
*Не патанула ў цемрашальстве слоў.*
*Я ведаю: такіх, як я, нямала,*
*І з намі людзі, з намі праўда. Бог.*
*Якая б сіла так нас аб'яднала,*
*Каб раз'яднаць ужо ніхто не змог.*

Высокую ацэнку творчасці Васько яшчэ чвэрць стагоддзя таму дала наша слынная зямлячка сябра Саюзу пісьменнікаў з 1964 года лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы – Данута Бічэль на старонках рэспубліканскай газеты творчай інтэлігенцыі "ЛіМ" у вялікім артыкуле-рэцэнзіі "Выказваюся, як думаю". Сябры Саюза пісьменнікаў з 1971 года паэт Юрка Голуб і пісьменнік і вучоны кандыдат філалагічных навук Алесь Пяткевіч даўно запрыкмецілі талент Васько і яшчэ 10 гадоў таму далі яму рэкамендацыі, як і Уладзімір Паўлаў, для ўступлення ў творчы пісьменніцкі Саюз. Але тыя дакументы чамусьці дзесьці згубіліся... для падтрымкі духу нагадаю сябру-паэту, што яго любімыя Пушкін, Ясенін, як і Леў Талстой, не мелі білет членства ў пісьменніцкіх саюзах. Хай не сумуе і не перажывае юбіляр.

Я глыбока ўпэўнены: яго "зерне адборнае слоў" годна ацэняць і прызнаюць нашчадкі.

***Пятро МАКАРЭВІЧ.***

# ВЫКАЗВАЮСЯ, ЯК ДУМАЮ

Колькі вякоў поіць Нёман сваёй чыстай плынню паэзію. І колькі яшчэ будзе паіць! Вось ізноў ачышчальна цячэ ён праз увесь зборнік вершаў Уладзіміра Васько «Прасветленасць». У Васько за плячамі служба ў Савецкай Арміі, вучоба ў Гродзенскім педагагічным інстытуце імя Янкі Купалы, настаўніцкая праца. Цяпер працуе ў рэдакцыі лідскай аб'яднанай газеты «Уперад». І праца ў газеце і вершы патрабуюць шмат сіл. Уладзімір з натур упартых, цярплівых. Узяўшы ў рукі яго першую кніжку, я шукала тых вершаў, якія ўжо ведала па перыядычным друку. Іх у зборнічку не аказалася. Відаць, ад аўтара першай кніжкі патрабавалі жорсткага адбору.

Пругкім рытмам працоўнага Прынямоння заведзены знешне стрыманы радок паэта-журналіста. Нават калі Васько звяртаецца да рамантыкі цаліны ці да армейскай службы, яго лірычны герой, «натхнёны і ўзнёслы», імкнецца да родных дубоў. Адметнасць паэта ў знітаванасці з карэннем радзімы, не ў вонкавай знітаванасці праз частае напамінанне аб Нёмане і роднай вёсцы сярод пушчы, а ў глыбінным прарастанні «з рабрын прынямонскіх вярбін». Пачуццё сыноўняй адданасці радзіме падаецца праз сялянска-жартоўны, сакавіты вобраз, своеасаблівы стылявы паварот ужо вядомай у мове фразы: *«Іду праз час, як праз дрымучы бор... і не заўжды дарозе ў ногі слацца...»*. Паэт нарадзіўся ў пушчы. Пушча навучыла яго пасвіць карову Акулярку, удыхнула ў яго зялёную, разнасцежаную, пявучую душу. Навучыла быць дужым і спрытным. Водгалас вайны б'ецца ў нетрах пушчы і ў сэрцы хлопчыка: *«Разрывалі патроны кішэні маіх пінжакоў, выглядаючы кулямі з дзірак, бы з гнёзд птушаняты»*. Боль народа, які перажыў вялікую вайну, чалавечныя прынцыпы быцця продкаў і гаючы ўплыў шчодрай прыроды фарміравалі ідэйна-эстэтычныя шуканні Уладзіміра Васько.

*Пракукуйце, зязюлі,*
*маладосць маёй маме...*
*Хай крыху хоць пабудзе*
*вясёлай дзяўчынкай.*

Паэт пасылае маму ў квяцістай хусцінцы ў лес яе дзявочых мрой, у маладосць, дзе пад старымі дубамі скача ўпрысядкі дождж. Мама любіць дождж, гром, навальнічны бор, аслеплены маланкай, мама любіць прастору і неспакой.

Верш «Маме» сюжэтны і лірычны. Усё тут праўдзіва і ўсё прасветлена паэтычным пачуццём, пазначана шматфарбнасцю, філасафічнасцю, усё канкрэтызавана да абагульнення. Навальніца ўспрымаецца як вялікая прыгода жыцця, хмары—як вышрабаванне, неба і вясёлка—як далягляды пачуццяў і думак паэтавай маці.

*Потым хмары прайшлі.*
*Пахлі хвоі смалою,*
*І да неба цягнуліся росныя кветкі,*
*А вясёлка над возерам звісла дугою,*
*Быццам з неба прыйшла на зямлю у адведкі.*

Вядома, цытатай нічога не дакажаш. Пры чытанні ўсяго твора з'яўляецца настрой шматзначнасці і глыбокага пачуцця. Ад перачытвання вершаў Уладзіміра Васько радкі свецяцца новымі гранямі, вершы робяцца больш важкія, мастацкіх знаходак прарастае больш і больш. Вось яны: *«Сарока ад хвоі да хвоі праносіць мянташку хваста», «а лодка, бы пілотка, угору дном ляжыць», «я скіну, як лось сукаватыя рогі, рудыя ад пылу гады», «касцёр, нібы на спіне краб, варушыцца», «прапаўзаць між кустоў навучыў мяне ўвечары вожык», «вецер вішню спалохаў»* і шмат яшчэ...

Тэма працы з'яўляецца вядучай у зборніку.

Вершы «Будаўнікі», «Прасветленасць», «Над асушаным балотам», «Спякота спала...» далі магчымасць паэту прадэманстраваць сваё публіцыстычнае ўменне, грамадзянскую страснасць.

Верш «Грузчык» моцна злеплены стрыманымі рыўкамі-сказамі без празмернай эмацыянальнасці:

*Далоні ў мазалях — як брук.*
*Прайшло па іх нямала грузаў.*
*Ён разгрузіў чарговы кузаў,*
*Прысеў, каб стому скінуць з рук.*

Шырокім мазком — партрэт, і далей:

*Работы лёгкай не шукаў,*
*З юнацтва ў грузчыкі падаўся,*
*За двух, за трох парой стараўся,*
*Пашаны не даваў рукам.*
*І зараз, хоць не малады,*
*Свайго занятку не кідае.*
*Хоць сіла ў мускулах не тая,*
*Працуе ўвішна, як тады.*

У 16 радках — аповесць рабочага жыцця; з большай павагай аб неабходнай і не заўсёды ўдзячнай працы не скажаш.

Вершы аб каханні—парыванне натуры, закаханай у цэлы свет і ў жаночую прыгажосць як ачышчальную навальніцу ад будзённых пачуццяў напаўсілы, ад спакою, у прыгажосць, якая «аж намагнічвае прастору» і прымушае Нёман спыніцца на імгненне:

*Спыніўся Нёман на імгненне*
*Каля яе прыгожых ног.*

Гэты эстэцкі вобраз мае такое праўдзівае паходжанне: ногі ступілі ў раку і прыпынілі імкненне хваль.

Трапіліся ў зборнік вершы, якія можна трактаваць як удалыя самапароды:

*І кажа мне наш Нёман-бацька:*
*- Не бойся, хлопча, знойдзем выйсце.*
*Няхай з цябе не выйдзе, Васка,*
*Васько затое можа выйсці.*

Не ўсё яшчэ страчана, можа выйсці з Уладзіміра Васько цікавы паэт, трэба толькі пазбягаць літаратурных штампаў, шукаць, у пушчы слоў свае запаветныя нерушы.

***Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.***
*(Літаратура і мастацтва. 26.ІІІ.1982.)*

---

**Уладзімір Васько**

# *Прамільгнула!.. А ў сэрца запала*

## Я тут нарадзіўся і вырас...

Шыбуе аўтобус ля бору,
Бялее смала на ствалах,
Па дрэве вавёрку ўгору
Пагнаў перабольшаны страх.
Сарока ад хвоі да хвоі
Праносіць мянташку хваста.
Я бачу, як заяц падвоіў
Свой слых і прысеў ля куста.
Бязгучна ірдзяцца прамені
У вочы затоеных соў,
А цені дубоў, як сумненні,
Упалі ў агонь верасоў.
І вось паказалася вёска
У засені сціплых прысад.
Гамоніць антэна з бярозкай,
Вада падступае да хат.
І сёння расказваюць людзі
Пра дзеда майго — рыбака,
Як ён для сям'і на палудзень
У печы злавіў шчупака.
Звісаюць над Нёманам вербы,
Да берагу гусі плывуць.
Я гэтым малюнкам паверыў
І з імі нідзе не парву.
Я тут нарадзіўся і вырас,
Да маці зрабіў першы крок,
1 твару майго просты выраз
Падобны на гэты куток.

## Над Гаўяй

*Дануце Бічэль-Загнетавай*

Я на бераг Дануты прыйшоў —
Гаўя чыстая, як паэзія,
Як празрысты імкнецца шоўк.
Мы з шафёрам прыезджыя.

Я не бегаў, не рос тут, не жыў,
Тут прыволле Дануты Іванаўны,
Але плоткі яе і сліжы
Ў Лебяду заплываюць прынадліва.

Хвалі жоўтых пясчынак на дне,
Хвалі ўпругія зверху,
Гэта, пэўна, па вашай віне
Я ў сілу паэзіі веру.

Ну, а там за някідкім баркам
Домік ціхі Дануты стаіўся.
Пахне ён мурагом, малаком,
Дух яго з краем Нёмана зліўся.

Прабягуся ўздоўж вёрткай ракі,
Ля лазовых кустоў і алешын:
Ах вы, браткі мае, ах, браткі,
Краю Нёман мой — сэрцу найлепшы.

* * *

А Нёман казаў,
Што каханне не скончыцца,
Пакуль будзе сонца
На хвалях-свавольніцах.

А бераг угору
Імкнуў ад вады,
Дзе сойкі збівалі
З дубоў жалуды.

І ты падкідала
Каменьчыкі ў жмені,
Нібыта планеты
Загадкавы геній.

І восень стаяла
Крыштальна-празрыстай,
І ў сэрцах было
Па-нябеснаму чыста.

## Збляны

Наднёманскія збляncкія ўзгоркі,
Пясок сыпучы, ракушнік, лазняк,
Падбелу сподкі і палын наш горкі
Мне падаюць найлепшы ў свеце знак.

Гусямі перапоўнены затокі,
Ідуць дзяўчаты ўброд цераз раку,
А хвалі каля іх у скокі-бокі,
Цалуюць ногі проста на скаку.

І хаты на прыгожым узвышэнні,
І купалы блакітныя царквы
Для радасці людской, а не мішэні
Для бранябойнай цёмнай галавы

* * *

Ад Беліцы да Бандароў
Мы пешшу ішлі ўздоўж берага
Праз лазнякі, гушчар бароў,
Разліў падбелу белага.

У росных кветак і травы,
І ў тваіх усмешак бэзавых
Я выкупляў свае правы
На шчасце і паэзію.

Я станавіўся на руках.
Глядзеў, як хвалі бліскалі,
А побач пеніла рака,
Гуляла з вёрткай пліскаю.

* * *

Стаіліся стройныя ліпы
Пад ласкаю промняў пяшчотных
І золата воблачных ліній
Наперадзе хмарнай пяхоты.

Па што ты мядовай алеяй
З карзінкай ружовай лазовай,
Бы воблачкаў лёгкіх алені,
Па што ты?

Палонных не будзе ці будуць?
Лавіць іх не трэба, не трэба.
Куды ты — у Ліду ці Гуды?
Адкуль ты? Мо’ з неба?

* * *

Коні мае разбрыліся
Ў сцішаным полі.
Чайкі мае разляцеліся
Ў мроіве летняга дня.
Носіць мне зоркі
Рахманая ноч у прыполе.
Вецер не стукае ў дзверы,
Каб крыху трывогу суняць.

Памяць высвечвае сцежкі,
Дарогі, сустрэчы.
Колькі было іх
Над нашай блакітнай вадой!
Восенню песні пасею
Ў сваім наднямонскім прырэччы,
Дзесьці між Гаўяй і Шчарай,
Маўчадкай, Дзітвой, Лебядой.

Мабыць узыйдуць,
Мабыць, усе не загінуць.
Час усясільны,
Ды песні мацней за яго.
Раніцай золкай
За плечы сявенку закіну,
Ну і пайду сеяць зерне
Адборнае слоў.

* * *

Стары разбіты мост...
Аб ім мой успамін.
Як быццам я прырос
Да тых сівых вярбін.

Рачулка метры два
Ўсяго у шырыню,
І вострая трава
Бадай у рост каню.

Адлюстраваны шпак
І жоўценькі пясок,
І між галін шчупак,
Бы кінуты брусок.

Наўкол шашкі ў карчах,
Дрыжыць балотны грунт.
Адсюль я жыць пачаў,
І прыстань будзе тут.

# Новыя вершы

## На дачы

***Пятру Макарэвічу***

Бярозы. Снег.
Крупінкі лёду
на прыдарожным голлі дрэў.
А дзесьці ў Менску Гніламёдаў
да творцаў з Ліды падабрэў.
Сумуе дача у чаканні,
калі цяпло я прынясу.
А дзесьці ў Гродні на світанні
паэты пішуць пра вясну.
Прыедзе сябра маржаваты,
катам ласункі прывязе.
І ўбачым: снег стаў наздраваты.
Адчуе: сок жыве ў лазе.

## Бацыла

Прамыя раўчукі – равы,
а ў непрамых –
прыроды тайна.
Воўк згаладнелы
выць прывык
да прымітыву аднастайна.
І вецер, часам, не прамы,
і ён так хвалі завіхурыць,
што тоўстаскурыя самы
дух дыялектыкі адчуюць.
Па роўнай, гладзенькай шашы
паездкі, часам, вочы зводзяць.
І мурашы, і талашы
не па прамых
сцяжынах ходзяць.
І раптам думка асяніць,
што трэба жыць нетрадыцыйна,
каб аднастайнасці бацыла
не смела дух мой паразіць.

## Роздум пра час

Праходзяць стагоддзі –
ідуць у нябыт.
Ды штосьці ад іх застаецца:
ці творы мастацтва,
ці плітаў граніт,
ці ў вершах паэтава сэрца.
У космасе змены,
і змены у нас.
Ды што тут людскія апломбы?
Паўсюдна ўладарыць
магутны цар-час,
мы перад ім, як мікробы.
Мы носімся ў нашым
маленькім “чаўне”
вакол прамяністага сонца.
Ды хто нас убачыць,
Як век праміне?
А хочацца ўсім
жыць бясконца.
І ўсё –ткі насуперак
бегу гадзін
майструй і ствaрай,
што ўдаецца.
І годна па гэтай
планеце хадзі –
тады – штосьь
вякам застанецца.

## У Сяльцы

Маладая ты, як дзяўчо.
Вадаспад валасоў залатых
здатна лашчыць тваё плячо
і плыве да грудзей крутых.
Захмялела задужа ты
ад настою сялецкіх траў.
Зашушукаліся дубы,
салавей у лірыку упаў.
Вёрткі дзяцел сасну дзяўбе,
надвячорак пачаў чабарэць.
Абхітрыў я час – пакахаў цябе,
чабаром буду й я гарэць.

## Прага гармоніі

На дадзенай Богам Зямлі
парадку яшчэ малавата...
Калі б мы яго навялі,
было б і утульна і здатна.
З далёкіх, далёкіх часоў
на ёй то забойствы, то войны.
Заглушваюць спеў каласоў
ўзрыўчаткі раз’юшанай тоны.
Крамсае яе па жывым
снарадаў і бомбаў начынка.
Характар у нас нажавы?
Ці іншая ў гэтым прычына?
Чым быць, лепей Бога маліць,
каб ён нас пазбавіў ад зброі.
Хачу на імгненне ўявіць
зямлю ў цішыні і спакоі.
Ці ружа ў садку расцвіце,
ці ў ласцы прыхіліцца лета,
узрушаным ранкам і ўдзень
гармоніі прагну сусветнай.

## Праходжая

Прамільгнула!.. А ў сэрца запала
больш, чым тыя, што побач былі.
Непатухшаю іскрай напалму
растварылася у крыві.
І дагнаць было нетактоўна,
і ўпусціць, нібы страціць што.
Як казала пра ўсё красамоўна
аблягаючае паліто!
Можа гэта праходзіў так важна
мой акрылены будучы лёс?
Можа песня сумесная наша
ўзнялася б аж да нябёс?
Так заўжды застаемся з носам.
(Непрактычны быў я кавалер).
Толькі пішам пра вуcны і косы,
а губляем, што Бог нам пашле.

## Мой скарб

За дзень уражанняў багата
ўкладзецца скарбам у душу,
бо для вачэй усё прынада:
мурашка, ластаўка, каршун,
і дзядзька просты, самабытны,
і непасрэднае дзяўчо,
што б’е адно ля ганку лынды, -
канат касы цераз плячо.
І ў форме рыбкі аблачынка,
і дзяцел-блазен на суку,
то рупнай пчолкі залацінка
мяне парадуе ў садку.
І гэтым я надкрай багаты,
і скарб мой не, не на замку.
Я аддаю яго без блату
сябрам, знаёмым і радку.

## Музыка

Музыка-дзявочы смех,
Музыка дзявочых кос,
Музыка – дзявочы грэх,
Музыка дзявочых слёз,
Музыка дзявочых рук,
Музыка дзявочых ног,
Музыка – дзявочы рух,
Музыка –дзявочы Бог.

## Выбар

Спадабаўся мне горад,
ды што я зраблю,
што вабяць сцяжынкі,
дарогі лясныя.
У горадзе шмат
прапаноў “па рублю”,
а там слых лагодзіць
натхнёна асіна.
Спадабалася вёска,
ды горад люблю,
дзе ходзяць дзяўчаты
прыгожа і ўвішна.
Жыву, бы душу сваю
шчодара дзялю
на горад і вёску,
на шум і зацішнасць.

*Падборка Пятра Макарэвіча.*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**У Вільні, выйшаў альбом “Napoleonas Orda”, укладальнікі: Вітаўтас Левандаўскас і Рэната Вайчэконітэ-Капежынскене.**




**ААТ “Чырвоная зорка”, г. Менск, выйшаў камплект паштовак (34 шт.) “ Напалеон Орда. З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі”
Наклад 3000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Время”, г. Масква, выйшла кніга Пятра Краўчанкі “Беларусь на распутье или Правда о Беловежском соглашении”, 456 ст.
Наклад 3000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “GAWIA”, г. Познань, выйшла кніга Казіміра Нехвядовіча “Zemloslaw. Жэмласлаў”, 120 ст.**



**У выдавецтве “Беларуская навука”, г. Менск, выйшаў 27 том “Беларускага гістарычнага слоўніка”
512 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У Менску выйшла кніга “Яго чакала Беларусі чатыры стагоддзі. Мікола Ермаловіч”, укладальнікі А. Белы, А. Валахановіч, Н. Сармант.
360 ст. Наклад 125 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Радыё Свабода” выйшла кніга Вінцэся Мудрова “Альбом сямейны”, 232 ст.**





**Жырандоля вытворчасці
Лідскага ЗАТ “Каскад”
пад галоўным купалам
Грамадска-гандлёвага цэнтра
“Сталіца” ў Менску**
**(адкрыты 31.12.2006 г.)**